


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**8** (1006)

***ЖНІВЕНЬ***

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2013**

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



## Міхась ПАЗНЯКОЎ

### БЫХАВУ

У Дняпра на магутным плячы
Ты аднойчы паўстаў, нібы волат.
Тут маланкай іскрылі мячы,
Калі ты здабываў сваю волю.

У наш дзень з той суровай пары
Крапасныя валы пазіраюць.
Колькі мужнасці тояць муры!
Колькі велічных тайнаў хаваюць!

Годна жыў і тварыў ты заўжды,
Не згінаўся ніколі прад ліхам.
І сягоння стаіш малады,
Расквітнелы і сонечны Быхаў!

Да цябе я ўсім сэрцам прынік,
Ціхай славай тваёй ганаруся,
Горад-воін мой і працаўнік,
Мілы кут дарагой Беларусі.

---

***Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч** нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла...» (2008), «Усміхаюцца зоры над хатаю» (2011), «Доверием небо измерю» (2012) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» ў двух тамах (2012), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010) і кнігі крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў «Залаты ключык духоўнасці» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009), прэміі міністра абароны Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры і мастацтва (2013).*

## БЫХАЎЧАНАМ

Добры дзень! Добры дзень, быхаўчане,
Дарагія мае землякі!
Дзякуй шчырае вам за спатканне,
Дзякуй, што я прасветлы такі,

Што мяне сустракае як сына,
Увабраны ў духмяністы май,
Расквітнелы прыгожа і слынна
Прыдняпроўскі наш велічны край.

Веюць радасцю шчодрыя нівы,
Ахінае красой гарадок.
Я наведаць бясконца шчаслівы
Свой чароўны бацькоўскі куток.

Рады сонечна вам, быхаўчане,
Дарагія мае землякі,
Што руплівасць у вас у пашане,
Што святлістай душой — сваякі.

Нашых сэрцаў жывое адзінства
Адчуваю кранальна між вас.
Я нібыта вярнуўся ў дзяцінства,
У святы, найдзівосны мой час.

Шчасця звонкага вам, быхаўчане.
Мой прыміце паклон, землякі.
Дзякуй вам за любоў, за спатканне,
Што расчулены сёння такі.

* * *

Між палёў раздольных і лугоў,
Дзе на свет аднойчы я прыйшоў,
Між бароў пявучых і дуброў —
Радасць мая, песня і любоў.

Дзе Лахва струменіць і Дняпро,
Дзе маленства Грэзаю сплыло.
Там, дзе ліп, і клёнаў, і бяроз
Хараство расчульвае да слёз.

Светлая, дзівосная зямля!
Адусюль: і зблізку, і здаля
Птахам да цябе крыляю я,
Быхаўшчына родная мая —

Пакланіцца шчырым землякам,
Вечным тваім сонечным жытам,
Соладка надыхацца тваёй
Ціхаю пяшчотаю жывой.

Ты красуй і велічна квітней,
З кожным годам працай багацей,
Беларусь-матулю праслаўляй,
Непаўторны, звонкі, любы край.

Светлая, дзівосная зямля!
Адусюль: і зблізку, і здаля
Птахам да цябе крыляю я,
Быхаўшчына родная мая.

## У БАРКАЛАБАВЕ

Пад шум старасвецкіх дубоў
(Мне голас гісторыі — скарб)
З даўнейшых, ссівелых гадоў
Прымроіўся пан Баркулаб.

Ён храм тут і замак узвёў,
Відушчай душы чалавек.
І летапіс — сведку часоў
Далёкіх — пакінуў навек.

Сматрыцкі дзяцей тут вучыў,
«Граматыку» ўдумна складаў…
Зізаній тут годна тварыў,
Каб край наш з нябыту паўстаў…

Іду па зямлі дарагой
І шлю ім удзячны паклон,
У промнях любові святой
Дзівосных і велічных дзён.

* * *

Лёсатворная кніга Скарыны —
Дзіўных літараў моц і святло,
Вее духам магутна-былінным,
Без якога б жыцця не было.

Бачу: кліча народ ён да волі.
Бачу: Слова на бітву вядзе,
Разгінаецца прашчур паволі,
Не здаецца жахлівай бядзе.

О, якое ты роднае, Слова —
У маёй прарастаеш крыві.
І душы, і Радзімы аснова,
Ты мацуйся, натхняй і жыві.

* * *

Квітнее ліпень. На ўвесь свет
Зямля, здаецца, заспявала…
А мне чытаецца Купала,
Для нас не проста ён паэт.

Яго прымаю да драбніц.
Інакшы час, а Слова — тое:
Кране — глыбокае, святое —
Да самых горкіх таямніц.

Праменна ўспыхваюць радкі,
На ўсе шляхі жыцця кладуцца…
Іх бы пачуць і страпянуцца
Усім нам сёння, землякі.

* * *

Пакуль яшчэ лугі, палі тут не пакошаны,
Спяшаюся сюды, нібыта ў рай,
У мой бярозава-рамонкава-валошкавы,
У непаўторны, любы, родны край.

Усё вакол тут вока радуе раскошаю,
Заўжды маёй душы прывольна тут.
Жыве бярозава-рамонкава-валошкавы
Адзіны мой, бацькоўскі, мілы кут.

Забуду я праблемы тут усе сталічныя,
Да казкі дзіўнай трапіўшы ў палон.
Падорыць лес усе паляны мне сунічныя,
І ў сініх хвалях закалыша лён.

Не кліч мяне, сталіца, плошчамі шырокімі,
У вір свой мітуслівы не чакай,
Бярозамі, рамонкамі, валошкамі
Прарос у сэрцы мой радзімы край.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, РАДЗІМА!

Выйду ранкам з хаты
І пакрочу ў гай,
Дзе з-за ціхіх шатаў
Ззяе небакрай.

Расхіну ў лагчыне
Туманоў кудзель
І адчую сініх
Незабудак хмель.

Чуйны, летуценны,
Між бяроз густых
Новы дзень сустрэну —
Звонкі, залаты.

З сонцам за плячыма
Павярну назад.
Добры дзень, радзіма!
Як табе я рад!

Зрошаны па грудзі,
Звонкі ўвесь ад рос
Клікну светла: людзі,
Сонца вам прынёс!

* * *

Стаю ля сажалкі ўначы
На белапенным лузе.
Мяне аклікваюць драчы,
Блукаючы па крузе.

А месяц у вадзе прарос
Чароўнаю лілеяй.
Гляджу і ад начных дзівос,
Бы ўпершыню, хмялею.

* * *

Хаджу і да болю
Рад звонкаму полю,
Якое наліта
Азораным жытам.

Ад шчасця цалую
Траву палявую —
На сцежцы, дзе мама
Хадзіла таксама.

На рэчцы і ў лесе
Мелодый і песняў
Прыгожых багата —
Іх ведаў мой тата.

Гляджу на бярозы,
На клёны і лозы —
Усё тут спявае,
І смутак сплывае.

Гляджу і ўбіраю
Я колеры краю,
І гукі, і тоны,
Навек улюбёны...

У горад вярнуся
Не ў суме, не ў скрусе, —
Багаты бясконца
Радзімаю, сонцам.

* * *

Ціхая, родная хата...
Мроіцца ўночы яшчэ:
Косіць за градамі тата,
Дранікі мама пячэ.

Свішча каса пад расою
Ў татавых дужых руках.
Бульбы мяне маладое
Будзіць спакуслівы пах.

Мама за сценкай, жывая,
Сон усалоджвае мой:
Светла, ціхутка спявае,
Згортвае жар чапялой.

Ведаю, гэтак здаецца...
Змружваю вочы мацней,
Тахкае ўзрушана сэрца, —
Свята хай доўжыцца ў сне:

Мама шчыруе ля печы,
Скошвае тата траву...
Вечныя страты ў сінечы
Хай хоць на міг ажывуць.

## РАЗВІТАННЕ З РОДНАЙ ВЁСКАЙ

Да сустрэчы, маё Заброддзе,
Край любові і светлых падзей,
Дзе калісьці ў высокай лагодзе
Развіналіся крылы надзей.

Ты даруй мне, маё Заброддзе,
І пустэчу пакінутых хат,
І садоў адзічэлых самоцце,
І мой вырай, якому быў рад.

Я сумую, маё Заброддзе,
Па той песні — тваёй чысціні, —
Што жаўрук між нябёсаў заводзіць,
Што за рэчкаю гай белы сніць...

Я шчаслівы, маё Заброддзе!
Ты — крыніца жывога святла,

Што ў душы маёй сонцам усходзіць,
Каб чуллівай штодзённа была.

Як я ўдзячны табе, Заброддзе,
За пяшчоту, спагаду, любоў,
Што я ў сэрца ўбіраў на прыродзе —
Між радзімых палёў і лугоў!

Я прыеду, маё Заброддзе,
Край дзяцінства, адзіны мой рай,
Каб з сабою самім быць у згодзе,
І як сына мяне ты чакай.

* * *

Вінаваты ўсе мы, вінаваты,
Што ў паднебным велічным шатры
Чуюцца смяротныя раскаты,
Завываюць дзікія вятры.

Ці забылі, ці не зразумелі:
Госпадам узведзен ён для ўсіх,
Каб чысцелі мы і разумнелі,
Па дарогах крочучы зямных.

* * *

Спявае жыта... Чуйны вецер струны
Перабірае — майстар-адмыслоў.
І сонца грай, калосся пошум думны
У песні мілай чуецца ізноў.

Прыслухайся: у роўным спеве жытным
Пранізлівая дзіўная туга...
Кранае сэрца голас старажытны,
Вякоў мінулых тайная смуга.

Спявае жыта... Сэрцам прыхініся
І ты адчуеш трапяткой душой
Кліч жаўрука ў блакіце звонкіх высяў,
І водар хаты матчынай жывой.

У песні гэтай стройна-несціханай
Гучыць адвечны заклік малады.
Спявае жыта прагай апантанай,
Святлом нас напаўняючы заўжды.

Спявае жыта... Большай асалоды
У родным полі і не можа быць.
Не страшныя ніякія нягоды,
Пакуль нам песня гэтая гучыць.



Алесь МАКОЎСКІ

# РАЗВІТАЛЬНАЕ РЭХА*

*Раман*

## Гісторыя другая: крымінальная

Сустрэўшы на ўчастку Міхася, Шыбека неяк адразу павесялеў, з твару яго знікла заклапочанасць. З цікавасцю спытаў:

— Як там у цябе ў інтэрнаце? Хлопцы ў пакоі нішто?

— Усё як мае быць. Андрэй Ляшкевіч, ну-у-у, журналіст з шматтыражкі, вам прывітанне перадае… Мы цяпер жывём разам: дзелім папалам хлеб і соль. Гэта ён дамовіўся з камендантам, каб мяне пасялілі ў іх пакой…

— А ты адкуль яго ведаеш?! — здзівіўся Шыбека.

— А мы яшчэ да майго залёту былі добра знаёмыя — жылі ў суседніх пакоях. Дарэчы, Усцінавіч, ён казаў, што рыхтуецца надта нейкае важнае пасяджэнне парткама па інтэрнатах. Казаў, што хоча з вамі сустрэцца, каб перагаварыць. Можа, што яму перадаць?

— Перадай прывітанне і скажы, што я яму сам пазваню ў рэдакцыю… Распісаў ён мяне ў газеце, хоць героя давай, — засмяяўся Шыбека і з непрыхаваным задавальненнем адзначыў: — А на ўчастку, бачу, ты ўжо свой чалавек?!

— Дык жа, Усцінавіч, амаль усе знаёмыя! Навічкоў мала, не забыліся, аказваецца. — Міхась задаволена ўсміхнуўся і заспяшаўся. — Пайду. Работа чакае. З энергацэха заказ…

Кураш зрабіў некалькі крокаў, як раптам нешта прыгадаў, крута павярнуўся і зноў падаўся да Шыбекі. З сур'ёзным выразам на твары, даверліва і ціха пачаў:

— А на ўчастку, Усцінавіч, непрыемнасць. Міліцыя паперы прыслала на завод. Злавілі хлопца, ну-у, гэтага, што ў армію ідзе, Ігара Першына. Прадаваў каля ўнівермага кулоны і яшчэ нейкую дробязь. У аддзеле прыціснулі, дык прызнаўся. Аказваецца, Валькавіч у другую змену ўсё рабіў, а гэты хлопец збываў цішком. Па тры рублі за кулон бралі.

«Вось чаму Карповіч сёння сярдзіты ходзіць! Дзіўна, мне нічога не сказаў? Звычайна ж ледзь што — раіцца…»

— Валькавіч, кажаш? Па тры сотні, а то і больш зарабляе… Няўжо мала?! — здзівіўся Шыбека. — Судзіць будуць?

* Працяг. Пачатак у № 7, 2013 г.

— Не-е-е, хлопца пашкадавалі. Не захацелі біяграфію псаваць. У армію ж ідзе…

— Правільна. А з гэтым што? З Вальковічам? Пасадзяць?

— Я ж кажу: пераслалі паперы на завод. Карповіч, мы, калектыў, будзем вырашаць, — важна скончыў Міхась.

Шыбека нейкі момант стаяў, нібы ашаломлены пачутым. Яго апанавалі супярэчлівыя пачуцці. Непрыязнасць да Вальковіча (перад вачамі праміль-гнулі паліцы з лустамі хлеба), задаволенасць уласнай праніклівасцю (яшчэ раней здолеў разгледзець натуру гэтага чалавека) змяніліся шкадаваннем да маладога хлопца, які не з таго пачынае жыццё.

— Дык я, Усцінавіч, пайду, — пераступаючы з нагі на нагу, сказаў Кураш. Ён адчуваў сябе няёмка ад таго, што прынесеная ім навіна відочна ўзрушыла Шыбеку, а, мажліва, нават у чымсьці была і непрыемная для таго.

— Дык я пайшоў, — няўпэўнена паўтарыў Міхась.

— А ты адкуль усё гэта ведаеш? Можа, плёткі? — спахапіўся Шыбека.

— Не, Пятро Усцінавіч. Хлопцы хлусіць не будуць. Ім сам Першын расказаў. У яго позва на руках. Ходзіць ледзь не героем.

Гадаючы, што магло так узрушыць Шыбеку, і ці не лепш было б, каб нехта іншы яму ўсё расказаў, Кураш пайшоў на сваё рабочае месца.

Праз якую гадзіну на ўчастку аб здарэнні ведалі ўсе. На першы погляд, рабочыя працавалі як заўжды, кожны займаўся сваёй справай. Аднак сёння яны часцей падыходзілі адзін да аднаго, і па іх энергічных рухах, узрушаных тварах няцяжка было здагадацца, аб чым паміж імі ішла гаворка.

Пасля абеду стала вядома, што ў канцы змены адбудзецца сход працоўнага калектыву, — аб гэтым сведчыла і спешна напісаная, прыколатая адной кнопкай да дошкі аб’ява. Праўда, аб чым будзе гаворка, у аб’яве нічога не паведамлялася. А неўзабаве да Шыбекі падышоў майстар змены Раманоўскі. Чалавек паважны, памяркоўны, ён не меў тэхнічнай адукацыі і апошні год дарабляў да пенсіі. Але добры практык, ад прыроды кемлівы, Раманоўскі мог стаць за любы станок, за што б ні браўся — усё ў яго ішло на лад. Майстар лёгка знаходзіў агульную мову з рабочымі, але больш займаўся пытаннямі другараднымі, у той час, як начальнік участка і старшы майстар вырашалі складаныя праблемы жыцця і работы калектыву.

— Выступіць табе, Усцінавіч, сёння трэба на сходзе, — крыху сумеўшыся, пачаў ён і, каб папярэдзіць магчымыя пярэчанні, дадаў: — Карповіч просіць…

— Я магу пару слоў сказаць, — не адразу адказаў Шыбека. — Але каб толькі не атрымалася, што будуць выступаць штатныя прамоўцы. Выпадак жа — асаблівы.

— Падтрымаюць! От паглядзіш — падтрымаюць! — устрапянуўся Раманоўскі. — Я і сам думаю, як ты кажаш, пару слоў сказаць. Вальковічу ўсыплю. Я ўжо сваю думку выказаў начальніку ўчастка: не хацеў мець трыста, хай ідзе слесарам-рамонтнікам — напалавіну менш.

— А ці не занадта слаба?! — раззлаваўся Шыбека. — Сёння людзі яшчэ за сто дваццаць рублёў да сёмага поту робяць. А навошта хлопца ў балота ўцягнуў?!

— Не ведаю, не ведаю, Усцінавіч, — збянтэжыўся майстар. — Можа, ты і маеш рацыю? Можа, яго гнаць трэба з завода? Як рабочыя скажуць. Дык ты ўжо выступі.

У час перазменкі сабраліся на сход. З кабінета начальніка ўчастка вынеслі стол, дзевяць крэслаў — усе, якія былі. Таму рабочыя сядзелі хто на варшта-

тах, хто на якіх скрынях, а большасць стаяла. Абралі прэзідыум з трох чалавек. Для інфармацыі слова далі Карповічу. Той дастаў з папкі нейкія паперы, але нават не заглядваючы ў іх, пачаў:

— Што здарылася і з якой прычыны мы сабраліся, вы ведаеце. Трэба тэрмінова разгледзець справу маладога рабочага Ігара Першына…

Карповіч толькі на адно імгненне спыніўся, каб перавесці дух, як адразу пачуліся галасы:

— Чаму толькі Першына? А Вальковіча?

— Што, сухім з вады выйдзе?

— У адносінах да Вальковіча будзе вырашаць таварыскі суд, — пачаў тлумачыць начальнік участка. Аднак яго зноў перапынілі.

— Суд — судом, а калектыў — калектывам.

— Мы будзем вырашаць…

— Таварышы! — расхваляваўся Карповіч, ажно ў яго руках затрэсліся паперы. — Першын ідзе служыць. Ён заўтра апошні дзень на ўчастку. Нас абавязалі з ім спачатку разабрацца.

— Характарыстыку яму даць другую. Першую забраць з ваенкамата, а даць другую, якую заслугоўвае, — прапанаваў хтосьці з рабочых.

— Во, гэта іншая справа! — як бы абрадаваўся Карповіч і працягваў: — Мы ж ужо, таварышы, як гэта ў нас робіцца, перад провадамі ў армію купілі Першыну падарунак. Хацелі…

— Ён нам на развітанне падарунак зрабіў — застанёмся без прэміяльных, — даволі весела выгукнуў хтосьці.

— Што зрабіў нам падарунак, то зрабіў, — пагадзіўся Карповіч. — Будуць цяпер скланяць участак цэлы год на ўсіх нарадах. Дык хто хоча выступіць?

— Няхай спачатку яны, Вальковіч і Першын выступяць. Няхай раскажуць, як бізнесам займаліся…

— Ці многа нагандлявалі? Няхай выступяць!..

— У мяне ёсць прапанова, — падняўся Шыбека. У Вальковіча адразу ж спалохана забегалі вочы. — Няхай абодва сядуць за стол. Тварам да людзей…

— Правільна! Даць ім крэслы.

— Крэслаў не даваць, няхай стаяць!

Крэслы усё ж паставілі, першым сеў Вальковіч і адразу ж унурыў у падлогу вочы. З няпэўнай ухмылкай на твары ўпарціўся ісці Першын, але яго падштурхоўвалі, падганялі вокрыкамі. Урэшце сеў і ён. Паволі ўсталявалася цішыня.

Першын выступаць катэгарычна адмовіўся, спаслаўся на тое, што ўжо ўсё расказаў у міліцыі. Больш вопытны і хітры Вальковіч паспрабаваў прыкінуцца гэтакім прасцячком.

— Я ж усяго тры кулоны і зрабіў, — апраўдваўся ён. — Хацеў паглядзець, ці будуць карыстацца попытам…

— А калі б не злавілі Першына? Тысячу зрабіў бы ці больш? — спытаў слесар Аўтуховіч, і не дачакаўшыся адказу, сам жа растлумачыў: — Няма, хлопцы, мяжы людской прагнасці, калі самога сябе не трымаць у руках.

— Я ў вайну ў блакадным Ленінградзе жыў. Як там было — усе ведаюць. Але ж людзі заставаліся людзьмі, — басам азваўся майстар Раманоўскі. А ты што? Можа, галодны хадзіў? Разуты? На хлеб у цябе не хапала? Э-э-эх! — грэбліва махнуў ён рукою.

Вальковіч сеў. Пачалі выступаць рабочыя, і разгарэлася спрэчка: пісаць на Першына новую характарыстыку ці не? Адны былі за тое, каб напісаць, другія — супраць. Пятро Усцінавіч адшукаў вачамі Міхася. Пачаў сачыць за ім. Па твары хлопца, па яго рэакцыі на кожнае выступленне здагадаўся, што Кураш супраць новай характарыстыкі. Шыбеку падалося, і ён не памыляўся, што Міхась ледзьве стрымліваецца, каб не выступіць самому. «Рана табе яшчэ, пасядзі», — падумаў Пятро Усцінавіч і падняў руку, папрасіў слова. Адразу ж дзясяткі позіркаў скіраваліся на яго. Неяк спуджана падняў галаву і Вальковіч. Без асаблівай цяжкасці ў яго вачах Шыбека прачытаў: «Не кажы пра хлеб. Прашу, не кажы!» — «Не буду. Я табе ўсё сказаў, з вока на вока», — усміхнуўся ў душы Пятро Усцінавіч і адразу ж звярнуўся да Першына.

— Ігар! Ты пасля арміі думаеш вярнуцца на ўчастак?

— А як жа! — ужо не хітра ўхмыляючыся, а з чырвоным, як спелы памідор, тварам падхапіўся з крэсла хлопец. І чулася ў яго голасе боязь, разгубленасць і надзея.

— Сядзі, сядзі, — махнуў рукою Шыбека. — Работнікі міліцыі, каб не псаваць табе біяграфію, не сталі заводзіць крымінальную справу. Хоць маглі б! Значыць, спадзяюцца, што навука пойдзе табе на карысць. Я думаю, таварышы, што і нам не варта надта сурова караць Ігара. Вядома, ты можаш нас падвесці, але ж гэтым ты ў першую чаргу ашукаеш сябе. Бо ад сябе самога, ад свайго сумлення нікуды не схаваешся. Ды і тэрмін службы не такі ўжо і вялікі. А там мы пабачым — знойдзецца табе месца ў калектыве ці не!

Пятро Усцінавіч змоўк, перавёў позірк на Вальковіча. Той нутром адчуў гэта, бо яшчэ больш утуліў у плечукі галаву і аж таргануўся ўсім целам на крэсле.

— А што тычыцца Вальковіча, — працягваў Шыбека, — то тут скідкі ніякай быць не можа. Незалежна ад таго, якое прыме рашэнне таварысцкі суд, я катэгарычна супраць, каб ён заставаўся на ўчастку…

— Мятлу яму ў рукі і няхай стружку ідзе падмятаць! — рашуча зрабіў два крокі да стала фрэзероўшчык Васіль Лашкоўскі. — За яго мне чаргу на кватэру перакінулі, я трынаццатай пазбавіўся. Помніце ж, як было?

— Помнім! Закусваць трэба!

— Свая галава на плячах павінна быць!

— Малако пі, а не гарэлку!

Пачуўся дружны смех, рабочыя весела загаманілі, заварушыліся. Шыбека таксама добра памятаў той выпадак. Паступіла тэрміновае заданне. Начальнік участка звярнуўся да вопытных рабочых з просьбай выйсці ў выхадны дзень на працу. Вальковіч адразу ж паставіў умову: плаціць наяўнымі. Атрымаўшы грошы, ён, ужо ідучы з работы, прапанаваў Лашкоўскаму выпіць піва. Як яно там было, але скончылася ўсё — горш не прыдумаеш: Лашкоўскі трапіў у выцвярэзнік. Вальковіч жа ўцёк, да таго ж, паводле слоў Васіля, пілі толькі за яго грошы. Быццам пацярпеў чалавек, а спагады не было.

Сціхла гамонка, і Карповіч прапанаваў:

— Давай, Усцінавіч, працягвай.

— Я ўжо ўсё сказаў, — Шыбека перадумаў далей гаварыць.

Ужо закрываючы сход, начальнік участка выцягнуў са стала шуфляду, дастаў электрабрытву:

— Уручым Першыну падарунак? — спытаў лагодна.

— Уручым!

— Няхай помніць нас!

— Не сачкуй! Служы добра!

— Во, чуеш, Ігар? — выйшаў з-за стала Карповіч. — Служы добра і нас не падвядзі. То як? Можна спадзявацца?

— Не падвяду! — паабяцаў урэшт збянтэжаны хлопец.

Начальнік участка моцна пацiснуў Ігару руку, уручыў падарунак і вярнуўся да стала…

Шыбеку хацелася пабыць у адзіноце. Ён не стаў нікога чакаць і адразу ж пасля сходу накіраваўся дадому. На дварэ крыху выпагадзілася, хмары ўжо плылі не суцэльнай лавінай, а ішлі з захаду рваныя. На небе там-сям утварыліся блакітныя вокны, скрозь іх лілося на зямлю цудадзейнае і жыватворнае святло. Горад вуркатаў, але Пятро Усцінавіч не зважаў ні на гул машын, ні на людскую гаману. Адно — даўно ўжо прызвычаіўся да гарадскога тлуму, а другое — быў заняты сваімі думкамі.

Думкі гэтыя ж, не сказаць, каб былі ўсцешныя. Пракручваючы яшчэ раз у галаве сваё кароткае выступленне на сходзе, пашкадаваў, што не нагадаў аб адказнасці старэйшых, і, у прыватнасці, таго ж Вальковіча, за лёс такіх, як Ігар Першын. Не, ён не апраўдваў самога хлопца. У васямнаццаць гадоў трэба ўжо ўсведамляць, што такое добра і што такое блага. «Але ж які прыклад паказваем!»

І тут як бы міжволі правёў паралель паміж Ігарам і сваім сынам Лёнем, які вучыцца ў трэцім класе. Зноў прыгадаў прыкрую размову з класнай і з гаркатой папракнуў сябе: «Чужых выхоўваць лягчэй, чым сваіх». Не сказаць, каб Пятро Усцінавіч не зусім быў згодны з настаўніцай. Лёня — хлопчык вельмі рухавы, нават празмерна. Таму і на ўроках круціцца. Але ж у сына — і Пятро Усцінавіч ведаў гэта лепш, чым хто, — добрая душа. Цацкі ў свой час раздаваў, хто не папросіць. А леташняй зімой ці адзін раз прыходзіў без рукавічак — камусьці было холадна, аддаваў — і з канцамі.

Дабрату Пятро Усцінавіч цэніць у людзях перш-наперш. Дабрата сёння патрэбна людзям як хлеб, як паветра. Праўда, ёсць і такія бацькі, што ледзь не з пялёнак вымуштроўваюць дзіця, не раўнуючы, як паляўнічы маладога ганчака, каб меў добры нюх. І робіцца ўсё гэта быццам бы дзеля таго, каб дзіця ўмела пастаяць за сябе.

Шыбека на днях сустрэў свайго суседа. Разгаварыліся. З гонарам той пачаў пахваляцца, што дачка запісалася і ахвотна наведвае секцыю дзюдо.

— А навошто гэта ёй?! — здзівіўся Пятро Усцінавіч. — Лепш няхай бы на курсы маладой гаспадыні хадзіла. Карысць была б…

— Э-э-э! Час цяпер такі, што дзяўчына пры выпадку павінна ўмець даць здачы, — весела зарагатаў сусед.

— А калі тваёй дачцэ ды ў жаніхі трапіць таксама дзюдаіст? То яны што, адзін другому рукі будуць выкручваць? А калі той акажацца класам майстэрства вышэй?! Ці яна ў цябе збіраецца за звычайнага хлопца, каб верхаводзіць?

Сусед збянтэжыўся і хуценька развітаўся. А праз колькі дзён Пятро Усцінавіч убачыў будучаю зорку дзюдо ў кампаніі гэтакіх жа падлеткаў. Яна стаяла ў задзірлівай позе, засунуўшы рукі ў кішэні балоневай курткі, і зусім пахлапчукоўску цыркала слінай скрозь зубы пад ногі прахожым. «Не, суседзе, жорсткасць і нараджае жорсткасць, — ужо на парозе сваёй кватэры падумаў Пятро Усцінавіч. — Заўсёды адшукаецца хто-небудзь дужэйшы за тваю дачку і хітрэйшы, чым ты сам. Хочаш дабра — рабі дабро. Толькі дабрыня нараджае дабрыню».

—А ты, Бім, што думаеш наконт людской дабрыні? Скажам, калі я табе зараз кавалачак крывянай кілбасы дам? Ага, затанцаваў… Значыцца, цэніш

яе. І правільна робіш! Бо ўсё мае сваё вымярэнне, вагу і кошт: толькі людская дабрыня — бязмерная, бязважкая і бясцэнная. Дарэчы, ты зразумеў, адкуль я «чэрпаў» свае гісторыі? Таксама маеш рацыю: з гушчы жыцця рабочага люду…

## Гісторыя трэцяя: сапсаваная «абедня»

…Пасяджэнне доўжылася ўжо хвілін дваццаць. Члены парткама, а іх было чалавек трыццаць, сядзелі, знешне засяроджаныя, за доўгім сталом; запрошаныя на адказны форум начальнікі аддзелаў, службаў, цэхаў завода прымасціліся на крэслах уздоўж сцен прасторнага кабінета сакратара парткама. Спачатку слухалі справаздачу сакратара камітэта камсамола прадпрыемства Валянціна Курмановіча аб рабоце камітэта з рабочай моладдзю.

Валянцін бадзёра рапартаваў аб тым, колькі на заводзе створана камсамольска-маладзёжных калектываў, колькі і дзе вучыцца юнакоў і дзяўчат, якія былі арганізаваныя турыстычныя паездкі і куды, якія праведзены вечарыны, сустрэчы, прачытаны лекцыі…

Першым не вытрымаў дырэктар завода Шпілеўскі. Улучыў момант, на паўзе спытаў:

— Скажы, Валянцін, ты сам калі ў апошні раз і ў якім рабочым інтэрнаце быў?

Хлопец ураз збянтэжыўся, пачырванеў, але хутка знайшоўся:

— Па маім заданні на гэтым тыдні быў праведзены рэйд «камсамольскага пражэктара» сумесна з міліцыяй…

— Ага! — ажывіўся дырэктар. — Як пачуў пра пасяджэнне парткама, то адразу і заварушыўся. Ну, а вынік які хоць з гэтага рэйду?

— Ды нічога, Станіслаў Антонавіч, асабліва не выявілі, хлопцы аднекуль даведаліся пра рэйд, пазачыняліся ў сваіх пакоях…

Прысутныя ажылі, засоўгалі крэсламі, пачуўся прыглушаны смех. Толькі сам Шпілеўскі сядзеў нерухома, чакаў пакуль усталюецца цішыня, і тады ўжо звярнуўся да ўсіх:

— Скажыце, таварышы, хто з нас апошнім часам сустракаўся з рабочымі ў іхніх інтэрнатах?

У адказ цяжкае, глухое маўчанне.

— Вось так і працуем. З паперамі…

Шыбека падхапіўся нечакана, бо выступаць яшчэ не збіраўся, меркаваў зрабіць гэта крыху пазней. Ды і сакратар камітэта камсамола Курмановіч усё яшчэ стаяў, разгублена муляўся. У дрыготкіх руках трымаў паперы і не ведаў: ці то працягваць выступленне, ці то садзіцца?

— Я, таварышы, упэўнены, — разважліва пачаў Пятро Усцінавіч, — каб не выступленні рэспубліканскага друку аб непарадках у нашых інтэрнатах, то наўрад ці мы сёння сядзелі б тут…

Пры гэтых словах Шыбекі насупіўся сакратар парткама Касцян. Раздабрэлы, шыракатвары, ён пазіраў на рабочага з-пад ілба, насцярожана, як бы чакаючы яшчэ якой непрыемнасці. Пятро Усцінавіч заўважыў непрыязнасць сакратара і вытлумачыў яе зусім правільна. Той хацеў зрабіць усё так, быццам абмеркаванне на парткаме такога важнага пытання — ідэя выключна яго — Касцяна. А ў канцы пасяджэння, як бы між іншым, сакратар паведаміў бы: вось, былі ў друку крытычныя выступленні, вы з імі знаёмы, а хто не знаё-

мы — няхай пачытае. Адказ жа газетам дадзім, зыходзячы з нашай сённяшняй гаворкі…

Але нечакана ўсё сапсаваў Шыбека.

— Мы доўгі час рабілі выгляд, — ужо больш узрушана працягваў Пятро Усцінавіч, — што ў нас няма праблем з інтэрнатамі. З кожнай нагоды любілі паўтараць, быццам інтэрнат — родны дом для маладога рабочага. Маўляў, жывецца там яму няблага і скардзіцца няма на што. А ці так гэта? Родны дом у чалавека адзін: там, дзе ён нарадзіўся, рос і гадаваўся. Мы, вядома, можам на ўсе лады паўтараць хлопцу ці дзяўчыне, што інтэрнат — твой родны дом, але дух казёншчыны ў гэтым доме застанецца.

Вось вы, Станіслаў Антонавіч, пытаеце: хто з нас апошнім часам быў у інтэрнаце? Я быў. І неаднойчы. А літаральна два дні таму да мяне звярнулася група дзяўчат з трэцяга інтэрната. Там, у семдзесят пятым пакоі, існаваў сапраўдны прытон. Дзве маладзіцы, якіх у свой час вытурылі з завода за прагулы і амаральныя паводзіны, жылі прыпяваючы, вадзілі хлопцаў, наладжвалі п’янкі… І што самае ганебнае — камендант пасяліла да іх маладое чыстае дзяўчо, выпускніцу сярэдняй школы. Хочаце ведаць, чым усё скончылася? П’яныя, раз’юшаныя кныры вырашылі згвалціць дзеўчынёху, а калі тая стала супраціўляцца, збілі яе на горкі яблык.

Шыбека перавёў дух, акінуў позіркам прысутных. Стаяла напятая цішыня. Толькі ў самым кутку, схаваўшы вочы за акулярамі, кляваў носам пажылы начальнік першага ліцейнага цэха Амосаў. Гэты без ніякага аўтатрэнінгу ўмудраўся высыпацца на ўсіх нарадах і пасяджэннях.

З цікавасцю слухаў жывое выступленне рабочага і я, Андрэй Ляшкевіч. Бо быў запрошаны на пасяджэнне парткама як аўтар крытычных артыкулаў у рэспубліканскіх газетах і як супрацоўнік шматтыражкі. Да таго ж, напярэдадні мы сустракаліся з Пятром Усцінавічам і ў даверлівай гаворцы я мусіў распавесці яму шмат новых фактаў з халасцяцкага жыцця насельнікаў інтэрнатаў. У прыватнасці, расказаў пра «творчую» працу аднаго з выхавацеляў, які, па праўдзе сказаць, і мне самому апрыкр86 сваімі фокусамі. А вычвараў ён зусім ужо непрыстойнае. Усю сваю работу з моладдзю звёў да падглядвання ў замочныя шчыліны. Бывала, запросіць юнак дзяўчыну ў пакой, Парфён Піліпавіч Сомаў — следам. Ды так прыліпне да замочнай шчыліны, што нават у тры пагібелі сагнецца, каб штосьці там разгледзець. Але вось бяда: губляў у такіх выпадках пільнасць. Хлопцы, якія даўно вастрылі зуб на гора-выхаваценя, спаўна выкарысталі яго слабасць. Падпільнавалі Парфёна Піліпавіча за непрыстойным заняткам ды знарок так піхнулі на яго здаравеннага Ігната Рачкоўскага з трыццатага пакоя, што Сомаў расквасіў сабе нос і акрываваўіў уласны лоб. Мне цікава, раскажа Шыбека гэту гісторыю ці ў яго больш грунтоўныя намеры?

— Вы не можаце не ведаць, — працягваў рабочы, — што ў нашых інтэрнатах жывуць людзі, якім да пенсіі засталося па тры—пяць гадоў. Дык вось, — голас Шыбекі загучаў цвёрда, нават уладарна: — Я гавару тут не толькі як член парткама. Я гавару як дэпутат, член Камісіі па рабоце з моладдзю Вярхоўнага Савета рэспублікі. І перадаю наказ маіх выбаршчыкаў. А ён такі: пабудаваць дом для маласямейных…

— Прабач, Усцінавіч! — падняўся дырэктар завода Шпілеўскі. — Кропаў, ты дзе? — пашукаў вачамі свайго намесніка па кадрах і быце. — У нас з табой была гаворка на гэтую тэму?

Кропаў падхапіўся як на спружынах, заматляў сюды-туды галавой, таропка пачаў апраўдвацца:

— Праектна-каштарысную дакументацыю няма дзе размясціць. Падрадчыка цяжка знайсці на будаўніцтва…

— Сорамна слухаць, таварыш Кропаў, — абарваў намесніка Шпілеўскі. — У нас аграмадныя прыбыткі, наш завод — гэта цэлы горад… Дык што, хіба мы не ў стане дабіцца станоўчага вырашэння пытання? Тут віна ўсіх нас: і дырэкцыі, і парткама, і прафсаюзнага камітэта.

Шыбека яшчэ сказаў не ўсё, таму, як толькі дырэктар скончыў і сеў, працягваў:

— Вось у мяне ў руках «Палажэнне аб аддзелах, службах і цэхах завода». Больш як пяцьсот старонак, амаль «Вайна і мір». Тут усё распісана: хто каму падпарадкоўваецца, задачы і функцыі, правы і абавязкі… І я адшукаў толькі тры старонкі агульнага тэксту аб рабоце з людзьмі. Выпадковасць? Не-е-е… План, працэнты, станкі, машыны, тэхналогія засланілі сабой людзей… Як бы нам гэта бокам не вылезла…

…Вечарэла, калі мы разам з Пятром Усцінавічам выйшлі з душнага памяшкання і апынуліся ў прызаводскім скверыку. Сярод меднаствольных хвояў, у засені густых ліп, клёнаў і каштанаў на нас дыхнула бадзёрай свежасцю, здаровай прахалодай. На захадзе, у вогненна-чырвонай афарбоўцы, паволі садзілася на спачын стомленае сонца. Мы крыху памаўчалі, не дамаўляючыся дасталі з кішэняў цыгарэты, прыпыніліся і закурылі. Пачалася і няспешная гаворка. Вядома ж, тычылася яна пераважна карысці пасяджэння парткама, якое толькі што адбылося.

Шыбека пры ўсёй сваёй уражлівасці заставаўся чалавекам цвярозага розуму, больш давяраў канкрэтным справам, чым словам. Таму мяне не здзівіла прачулена сказанае ім:

— Ведаеш, Андрэй, а справы зрушацца да лепшага! Пакуль што, на першым часе, зробім у інтэрнатах капітальны рамонт. Заменім мэблю… А галоўнае — прынята прапанова пабудаваць дом для маласямейных!

Высокі, хударлявы, з густымі льнянымі валасамі, у якіх дзе-нідзе прабівалася сівізна, Шыбека, нягледзячы на ўсе нягоды, якія перажыў, у маленстве (дзіцем прайшоў канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц, застаўся сіратой — бацькоў фашысты закатавалі), выглядаў маладзей за свае гады. Размахваючы жылістымі рукамі, ён крочыў нетаропка, упэўнена. На яго разумным твары нястомнай цікаўнасцю свяціліся карыя вочы. У іх можна было заўважыць вялікую ўнутраную работу душы нават і тады, калі ён размаўляў з субяседнікам.

— Калі маеш крыху часу і жадання паслухаць мяне, — з усмешкай загаварыў ён зноў, — дык я табе яшчэ сёе-тое раскажу.

Мне не надта рупіла вяртацца ў пракураны пакой інтэрната, і я згодна хітнуў галавой.

— Начаплялі, Андрэй, на мяне столькі ўсялякіх абавязкаў, што і самому прыкра і жонка сварыцца — рэдка калі дома стыкаюся. Сын ад рук адбіваецца. Ведаеш, якую хітрую тактыку распрацаваў? Ха-ха… Самому смешна. Дамовіліся з жонкай, што яго вучобу і гульбу будзе кантраляваць яна. Яна ж працуе ў інструментальнай кладовай, а там ёсць гарадскі тэлефон. Вось і вырашылі, што яна будзе час ад часу пазвоньваць, правяраць, ці дома ён, чым займаецца… Зрабіў урокі — ідзі гуляй. Нядаўна, заскокваю дамоў, каб пераапрануцца — даручылі выступіць перад маладымі рацыяналізатарамі. Ціхенька зазірнуў у пакой, бачу, тэлевізар працуе, але гук выключаны. А мой Лёня адной рукой прыціснуў да вуха тэлефонную трубку, а ў другой трымае кніжку і з імпэтам здае «экзамен» маці: шпарыць верш Якуба Коласа. Ну, ці не артыст?! Але гэта я табе расказаў так, між іншым. А цяпер наконт правіла: хто цягне — на таго і грузяць.

Акрамя свайго дэпутацтва, работы ў парткаме, на мае плечы ўзвалілі і грамадскае бюро кадраў завода. Логіка задумы простая: самі кадравікі не надта ўнікаюць, хто і па якой прычыне звальняецца. Падпісана заява начальнікам цэха ці ўчастка — ідзі на ўсе чатыры бакі. А мы завялі такі парадак: каб аддзел кадраў ніводнага хлопца ці дзяўчыну не звальняў, пакуль наша грамадскае бюро не разбярэцца што і як. Разумееш, калі сталы чалавек звальняецца, то ён ужо ўсё абмазгаваў. А маладыя — гарачыя. Ледзь што — заяву на стол.

Літаральна на днях сутыкнуўся з гісторыяй, якая проста мяне абурыла. Дык вось, прыйшла адразу пасля школы ў інструментальны цэх дзяўчынка. Аняй яе клічуць. Узялі вучаніцай токара на цыліндрычны ўчастак. Правучылася тры месяцы, трэба было ўжо на разрад здаваць, а яе р-р-аз — і пераводзяць на іншы ўчастак вучаніцай заточніцы. Зноў дзяўчына вучыцца тры месяцы. І што ты думаеш? Прыйшла да начальніка цэха па характарыстыку — трэба ж, каб здаць на разрад. А той, не доўга думаючы, і заяўляе: «А ты нам у цэху ўвогуле не патрэбна!»

Разабраліся мы, і я пайшоў да начальніка аддзела кадраў завода, Міранoвіча, ты яго ведаеш. У мяне з ім адносіны складаныя: калі мірымся, а калі і сварымся. Так і так, кажу, Андрэй Сцяпанавіч, трэба ўсё зрабіць па законе. Дзяўчына павінна здаць на разрад, начальнік цэха — забяспечыць яе рабочым месцам, а самога яго за галавацяпства трэба пакараць. Пакрыўдзіўся шаноўны Андрэй Сцяпанавіч. Ты мяне, кажа, не вучы. Знайшоў з-за каго вэрхал падымаць, нейкай дзеўчыняці. Мне, кажа, клопатаў хапае больш важных.

— А якія гэта, цікава, у яго турботы больш пільныя? — не ўстрымаўся я.

— Вось і я яму адрэзаў. Вы, кажу Андрэй Сцяпанавіч, несяце персанальную адказнасць за кадравую палітыку. За падрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі кадраў. У тым ліку і за гэту дзяўчынку.

— А каб на месцы гэтай Ані ды была яго дачка? Што б ён тады заспяваў? — зноў не стрываў.

— Я свайго дабіўся. І ведаеш, што цікава? Стрэліся мы неўзабаве, а ён мне і кажа: «Я палітработнікам быў у арміі. Выступаючы перад афіцэрамі і салдатамі, неаднойчы адзначаў, што рабочы клас — гэта магутная сіла, авангард нашай краіны. Ды, скажу шчыра, вось толькі цяпер, калі сутыкнуўся з самімі рабочымі, з іх жыццём, зразумеў, што такое рабочы клас. Гэта сапраўды сіла!»

Папрасіў у мяне прабачэння. Я, праўда, не змоўчаў. Вы, кажу, Андрэй Сцяпанавіч, усё правільна зразумелі. Але каб вы папрацавалі ў калгасе, сутыкнуліся з вясковым жыццём, вы б, напэўна, сказалі, што і калгаснае сялянства — авангард. Або, кажу, каб інжынерам на будоўлі пабегалі ці складаную навуковую праблему вырашалі, то і інтэлігенцыю не на апошняе месца паставілі б. Усе мы, кажу, у жыцці патрэбны адзін аднаму, адзін аднаго як бы дапаўняем. Згодны, пісьменнік?

Спытаў жартаўліва, але з падтэкстам. Маўляў, я хоць і рабочы чалавек, але таксама не лыкам шыты. Я не палічыў патрэбным штосьці ўдакладняць, бо за працяглы час нашага знаёмства навучыліся разумець адзін аднаго без лішніх слоў. Ды і засела ў мяне ў галаве і круцілася на языку пытанне, якое хацеў абавязкова высветліць, менавіта ў самога Пятра Усцінавіча. Пакуль падбіраў зручны момант, незаўважна, у гаворцы, параўняліся з будынкам, у якім месцілася рэдакцыя шматтыражкі. Памяшканне не ахоўвалася і ніякай сігналізацыі не было. Час тады быў усё ж спакайнейшы. Я, як і астатнія карэспандэнты, меў ключ і мог у любы час зайсці ў рэдакцыю, каб у цішы папрацаваць. Чым,

даволі часта, і карыстаўся. Вось і сёння вырашыў пасядзець гадзіну-другую, каб напісаць справаздачу з пасяджэння парткама.

Прыпыніўся насупраць рэдакцыі і … спытаў:

— Што гэта, Пятро Усцінавіч, ваш вучань, ну-у-у, Юрась Няверка, ходзіць сам не свой? Нашы ж пакоі — побач. Спытаў неяк у яго пра настрой, у адказ толькі махнуў рукой. Штосьці здарылася?

— Апраставалосіўся хлопец! У дурнях застаўся! — горача, з прыкрасцю адказаў Шыбека і ўзрушана працягваў: — Заваліў экзамены ў інстытут… Паехаў за блізкі свет паступаць… Бытта ў Мінску нельга вучыцца… А там, па-дурасці, пагарэў на матэматыцы… Сорамна каму гаварыць, але табе, Андрэй, раскажу…

— Любая, Бім, рамантычная гісторыя для мяне — дар Божы. Ну, не хапае мне ў рэальным празаічным жыцці рамантычных прыгод! Асабліва ж цаню падзеі, у якіх пазнаю сябе — летуценніка. Мабыць, усе, хто ідэалізуе рэчаіснасць, глядзіць на яе праз ружовыя акуляры — шмат у чым падобныя. Таму і лягла на душу мне гісторыя Юрася Няверкі. Дарэчы, з поўнай падставай яе можна назваць і гісторыяй Андрэя Ляшкевіча. Назваў жа я свой аповед:

## Рамантычны варыянт

*Каму толькі і чаго не выстуквалі колы цягніка! Імчыцца чалавек насустрач радасці — чуецца ў іхнім паспешлівым перастуку амаль што мажорная музыка. Бяда напаткала… «Так табе і трэба», «Так табе і трэба», «Так табе і трэба»,— у гулкім грукаце колаў чуецца Юрасю. Папрок. Справядлівы? Вядома. Аднак на душы нешта няладнае творыцца. Быццам бы не адзін ён, Юрась, а два іх. «Інакш і быць не магло!» — цвердзіць першы. «Не!» — упарціцца другі. Цяжка.*

*А за акном бушуе лета. Бурліць, пераліваецца, грае ўсімі фарбамі вясёлкі. «Вось цяпер ляжаць бы вунь на тым зялёным пагорку і глядзець у бясхмарнае, загадкавае неба». Памяць, як фотаэлемент, зафіксавала бліскучую, звілістую рачулку і рыбака пад вярбой, некалькі рабых кароў, што пасвіліся ля самага чыгуначнага палатна.*

*Жыве зямля кожнай былінкай і казюркай… Радуецца цяплу і сонцу. Дыхае на поўныя грудзі. Жыве зямля… Імчыцца па ёй цягнік, вязе людзей з іх думкамі і пачуццямі, клопатамі насустрач радасці, а, магчыма, і бядзе. Спяшаюцца ўсе. Паглядваюць у вокны. Спыняюць правадніка, пытаюць: «Ці хутка?» — «Хутка!» Уздыхаюць і зноў аб чымсьці думаюць… А як надакучыць моўчкі сядзець, апавядаюць адзін аднаму розныя гісторыі, можа, прыдуманыя на скорую руку, а можа, і не.*

*Іншым разам і ён, Юрась, не маўчаў бы, як зацяты, падтрымаў гаворку, але сёння, вось не хочацца. Яны сабе, а ён сабе. У яго кошкі на душы скрабуць, і ніхто ўжо не паможа. Позна. «Адхіліць ад далейшай здачы ўступных экзаменаў». І ўсё. Кропка. Ды хоць бы экзамен праваліў, а то…*

*Якія ж у яе былі вочы? Хлопцы сказалі б: «Прыгожыя». А вочы і сапраўды бралі ў палон. Не раз даводзілася бачыць лён у пару яго цвіцення. Памятае, стаіш, глядзіш, як калышацца пад лёгкім ветрыкам блакітнае мора, і раптам перастае для цябе існаваць увесь белы свет. Здаецца, кінуўся б у гэтыя чароўныя хвалі і паплыў далёка-далёка… Вось і вочы ў яе бытта ўвабралі блакіт таго поля. Але глядзелі яны неяк разгублена і бездапаможна. А можа, яму толькі так падалося?!*

*Ён заўсёды быў упэўнены, што здасць матэматыку. Нездарма ж задачы рашаў, нібы семкі лузгаў. Так яно і атрымалася. Рашыў задачу, пасля сядзеў, ганарыста паглядваў па баках. І раптам гэты жаласлівы позірк. «Дапамагчы!» — мільганула думка. Следам другая: «А калі заўважаць?» — «Ды не, — прэч адагнаў сумненні. — Усё абыдзецца. Будзь джэнтльменам».*

*Варыянт быў адзін і той жа, перапісаць на чысты ліст — шмат часу не спатрэбілася. Больш складана выбраць момант і... Спіна экзаменатара, быццам маятнік, раскачвалася наперадзе. «Самы раз. Чаму быць, таго не мінаваць». Хуткі ўзмах рукі... Але вочы выкладчыка ўжо сочаць за палётам папяровага камячка.*

*Нейкі момант сядзеў, як здранцвелы. Не, не спужаўся. Стала сорамна і шкада самога сябе, калі пачуў грозныя словы: «Вы свабодныя». На тытульным лісце кантрольнай стаяла тлустая «птушачка». Такую ж «птушачку» выкладчык паставіў і дзяўчыне.*

*З аўдыторыі яны выйшлі разам. Галя, так звалі дзяўчыну, страшэнна пачырванеўшы, саромеючыся, пачала каяцца, прасіць прабачэння, нагаворваць на сябе: маўляў, яна вінавата ва ўсім. Юрась, яшчэ добра не ўцяміўшы ўсяго, што адбылося, супакойваў яе, гаварыў, што не здасца, на наступны год зноў прыедзе сюды паступаць. Урэшце, тое ж самае прапанаваў зрабіць і дзяўчыне, Галя пагадзілася, павесялела, і калі ён папрасіў, адразу ж дала свой хатні тэлефон і адрас.*

*Зараз жа Юрася апанавалі розныя пачуцці. У думках ён то пісаў Галі сардэчнае, цёплае пісьмо, дзе прызнаваўся ў каханні, абяцаў, што ўсё яго астатняе жыццё будзе належаць ёй і толькі ёй, і што ён, Юрась, зробіць дзяўчыну шчаслівай, бо ў яго добрыя сэрца і душа. Вядома, яны пажэняцца, Юрась забярэ Галю ў свой горад. Яны будуць завочна вучыцца, дапамагаць ва ўсім адно аднаму. Аднак у наступны момант уся гэта гісторыя ўжо не здавалася такой рамантычнай, губляла сваю прывабнасць, і настрой у Юрася рэзка псаваўся. Да таго ж няёмка будзе перад Пятром Усцінавічам, які пабацькоўску даваў добрыя і слушныя парады на дарогу. А хлопцы ў інтэрнаце што скажуць? Ды і колькі сіл патраціў на падрыхтоўку: вечарамі ўсе ішлі гуляць, а ён карпеў над падручнікамі! Смяяцца, вядома, не будуць, але пачнуць спачуваць. Толькі ж ад гэтага не лягчэй.*

*— Малады чалавек! Чаю не жадаеце?*

*Голас у правадніцы вясёлы, а ўсмешка лагодная.*

*—Дзякуй, — сам таго не хочучы, буркнуў Юрась.*

*— Ну і дарэмна. Хутка спаць, а галоднаму сны жудасныя сняцца.*

*Правадніца як у ваду глядзела. Спалася яму сапраўды блага. Лежачы на верхняй паліцы, ён нервова прыслухоўваўся, як выводзіць рулады сусед па купэ. Гэты жвавы і балбатлівы, з чырвоным, хоць ты прыкурвай, каркам, адстаўнік, па праўдзе кажучы, яму яшчэ днём не спадабаўся. Усю дарогу расказваў, хто трапляў пад руку, пра свае былыя подзвігі. Юрась успомніў бацьку, які вярнуўся з вайны інвалідам. Дванаццаць асколачкаў ад разрыўной кулі сядзяць у яго левай руцэ і па сённяшні дзень. Раны адкрытыя, гніюць. Урачы кажуць, каб не атрымалася заражэння крыві. Таму не раз прапаноўвалі ампутаваць па пляччо руку, але бацька не згаджаецца. «Дзвюма рукамі і штаны ямчэй падтрымліваць», — нявесела жартуе ён. Бацька не любіць успамінаць і пра ваеннае ліхалецце. Хоць расказаць яму, відаць, ёсць што. Бо ў скрыначцы, разам з ніткамі, ляжаць два ордэны Чырвонай Зоркі. Медалі ж Юрась, як быў малы, недзе пагубляў, параздаваў суседскім хлапчукам.*

*Праўда, пад настрой, з гумарам, бацька часам расказвае, як у пачатку вайны ўрукапашную адбівалі ў немцаў кухні. «Ляжыш, бывала, у акопе, жывот падвядзе, а тут на цэлы кіламетр такі смачны пах, што сіл нестае трываць. Падымаемся і пайшлі на ворага са сваімі трохлінейкамі. Часам шанцавала, а часам крывёю сцякалі».*

*Сусед па купэ разышоўся не на жарт. Храпець пачынаў паціху, з нейкім дзіцячым усхліпам, пасля паветра ў роце і носе булькала і вырывалася магутным выбухам. «Ну і саліст трапіў, — злаваўся Юрась. — Хоць зараз прысвойвай званне заслужанага храпуна». Але пакідаўшыся з боку на бок яшчэ з паўгадзіны, Юрась канчаткова вырашыў, што з такім талентам суседу можна прэтэндаваць і на народнага. «І чаму гэта вучоныя не могуць знайсці рады для храпуноў? — разважаў хлопец. — Прыдумалі б, скажам, такі апарат, каб чалавек храпеў і сам слухаў сваю «музыку». А гэта ж вельмі проста: да рота мікрафон і навушнікі на вушы».*

*Толькі недзе пад раніцу Юрась забыўся кароткім, неспакойным сном. Але тут зайшла правадніца, ужо другая, тая, маладзенькая, відаць, здала змену. Патармасіла хлопца за плячо. Разбудзіла і адстаўніка. Той падняўся, пачухаў валасатыя грудзі, пацягнуўся з хрустам, пазяхнуў раз-другі і падміргнуў Юрасю.*

*— Вось мы і дома, хлопча. Як спалася?*

*— Як пшаніцу прадаўшы, — не гледзячы на суседа, адказаў Юрась.*

*Выпадковы спадарожнік памыліўся. Юрасю трэба было яшчэ рабіць перасадку і амаль дзве гадзіны ехаць электрычкай. Таму ён, выйшаўшы з вагона, адразу ж пашыбаваў да кас, купіў білет і пайшоў шукаць сваю платформу.*

*На электрычку народу было мала. Зайшоўшы, Юрась выбраў месца амаль пасярэдзіне вагона. Сеў. Дастаў і разгарнуў газету, што купіў у кіёску на пероне вакзала. Пачаў чытаць.*

*— Можна каля вас? — голас мяккі, з іскрынкамі весялосці.*

*Юрась падняў вочы. Перад ім стаяла... Галя. Ён нават сабраўся спытаць: адкуль? Аднак у наступны момант зразумеў, што памыліўся. У Галі вочы блакітныя, чыстыя і даверлівыя, А ў незнаёмкі — шэрыя, погляд востры і мітуслівы. «Як у рысі», — яшчэ адзначыў Юрась. Ды і старэйшая за Галю. Хоць у астатнім дзяўчаты вельмі і вельмі падобныя: у абодвух — шыкоўныя русыя валасы раскіданы па плячах, вузкія бровы, тонкі кірпаты носік, мяккія пухлыя губы...*

*— Сядайце, — са спазненнем і крыху збянтэжана адказаў Юрась. Атрымалася сухавата, і каб не выглядаць нявыхаваным, дадаў: «Сядайце, весялей будзе ехаць».*

*— Вось і я страшэнна не люблю і баюся адзіноцтва, а таму падабаюцца кампаніі і вясёлыя людзі...*

*Пазней, у транспартным аддзеле міліцыі, на пытанне, ці не насцярожыла Юрася тое, што амаль у пустым вагоне электрычкі дзяўчына падсела менавіта да яго, ён нічога пэўнага адказаць не мог. Праўда, мільганула думка: «Столькі свабодных месцаў, а яна просіць дазволу каля мяне прымасціцца. Дзіўна...» І ўсё. На якім прыпынку яна села, таксама не звярнуў увагі. Зачытаўся. Затое дзе выходзіла — добра памятае. Бо яшчэ і ручкай на развітанне ёй памахаў. А калі, яшчэ крыху пастаяўшы, вярнуўся ў вагон на сваё месца, чамадана і тых, хто яго ўкраў, ужо і след прастыў.*

*Яно і не дзіва. З добрай паўгадзіны яны з Мілай, так прадставілася незнаёмка, стаялі ў тамбуры, курылі. Міла аказалася дзяўчына гаваркая,*

*кампанейская. Зрабіла нават намёк, што Юрась ёй падабаецца і што можна сустрэцца. Дала свой рабочы тэлефон. Праўда, як казала, цяпер яна ехала да хворай цёткі. Аднак вечарам будзе ў горадзе і — як птушка вольная.*

*А было яно ўсё так. Калі ўжо добра разгаварыліся, Міла прапанавала яму выйсці ў тамбур пакурыць. «Адзіная мая слабасць» — растлумачыла яна даверліва Юрасю. Выкурылі па адной цыгарэце, Міла тут жа прапанавала па другой. Сказала, маўляў, цётка ў яе ўвогуле чалавек добры, але адсталы, не разумее сучасную моладзь, і перад ёй выхаваная Міла саромеецца дыміць, дык трэба загадзя накурыцца...*

*Лейтэнант міліцыі, які складаў пратакол, не праяўляў сваіх эмоцый. Яшчэ і не такое бачыў! І ўсё ж Юрась улавіў у вачах работніка міліцыі насмешку. Маўляў, патрэбен ты ёй, лапаць вясковы, як рыбе парасон.*

*Юрась толькі цяпер зразумеў, што стаў ахвярай вопытнай аферысткі. Пакуль яна ў тамбуры расказвала яму казкі, яе хаўруснікі спакойна ўзялі чамадан і выйшлі. Можа, нават на тым прыпынку, дзе і яна, «Міла».*

*Жулікі нічым каштоўным не пажывіліся. У чамадане, акрамя кніжак, ляжалі электрабрытва, шкарпэткі, ручнік, іншая дробязь. Юрась адразу і не думаў заяўляць у міліцыю. Няёмка ж, што як апошняга ёлупня, абвялі вакол пальца. Сам вінаваты. Але паступова ў душы нараджалася злосць: гэта што ж атрымліваецца? На экзамене праваліўся з-за нейкай, як ён цяпер лічыў, шалапуткі. А тут другая трапілася — аферыстка. Правільна гаворыць Руды: усе бабы адным мірам мазаны і давяраць ім нельга. Ні на кроплю. Усё роўна падмануць. Такая іхняя парода. А ў Рудога вопыт — будзь здароў! Быў жанаты, а цяпер жыве ў адным пакоі з Юрасём. Бо няма куды падацца. Аднапакаёвую кватэру пакінуў жонцы з дзіцём. Любімая тэма гаворкі саракагадовага халасцяка — вераломства жанчын. Паслухаць яго, то ўсе беды ў мужчын толькі цераз жанчын. І няма на свеце горшага за іх стварэння.*

*Раней Юрась не раз спрачаўся з Рудым, сапраўднае яго прозвішча Паўлючык, даказваў, што нельга ўсіх пад адзін грэбень стрыгчы. Цяпер жа і сам пераканаўся: так, Руды правільна гаварыў, усе жанчыны і дзяўчаты — прытворшчыцы і махляркі. І гэта былі яшчэ не самыя горшыя эпітэты, якімі хлопец узнагароджваў прыгожую палавіну чалавецтва...*

*З такімі думкамі і пачуццямі Юрась рвануў на сябе рыпучыя і абшарпаныя дзверы інтэрната.*

*— А-а-а! Юрась! — Добра хіснуўшыся на правую нагу, падняўся з-за стала вахцёр дзядзька Сцяпан і адразу ж пачаў абмацваць вачыма кішэні хлопца. — Нешта ж даўно цябе нябачна было? Ці не з водпуску?*

*Быў вахцёр, як звычайна, няголены, са збітымі ў пакулле сівымі валасамі. Нездарма хлопцы ў інтэрнаце часцей за ўсё клікалі яго Дзедам, хоць па ўзросце, і Юрась гэта ведаў, ён быў не старэйшы за яго бацьку.*

*Сёння, было бачна, старому хацелася пахмяліцца. Напэўна, учора вечарам хлопцы зноў шчыра пачаставалі яго. Аб гэтым сведчыў і густы перагар, якім добра-такі патыхала ад вахцёра. Так паўтаралася ў кожнае дзяжурства дзядзькі Сцяпана. З танцпляцоўкі, якая была непадалёку ад інтэрната, пасля танцаў хлопцы часцей за ўсё вярталіся з дзяўчатамі. І тут на іх шляху вырастала перашкода ў выглядзе «Дзеда». Суровы і няўмольны на ўсе просьбы прапусціць, вахцёр шматзначна паказваў на свой наручны старэнькі гадзіннік, пасля тыцкаў пальцам у Правілы, што віселі побач, на сцяне, у зашклёнай рамачцы.*

*— Не магу, хлопцы, парадак ёсць парадак. У кожнага свая работа. Не дай бог што, якая праверка — з мяне ж скуру спусцяць.*

*Каб зберагчы скуру старога і дабіцца свайго, сёй-той з хлопцаў бег у свой пакой, даставаў загадзя прыхаваную бутэльку таннага віна, выцягваў ніжнюю шуфляду ў стале вахцёра і наліваў у шчарбатую шклянку.*

*Пасля выпітага дзядзка Сцяпан чырванеў, рабіўся лагодным, па-змоўніцку падміргваў хлопцам і спрактыкаваным позіркам акідваў кожную дзяўчыну.*

*Звычайна ля стала вахцёра збіраўся цэлы кагал тых, хто любіў пазубаскаліць, каму проста не спалася ці хто таксама быў на падпітку. Прасілі дзядзьку Сцяпана расказаць, дзе і як ён параніў нагу і чаму кульгае. І амаль кожны раз чулі штосьці новае. Не сказаць, каб у старога была ўжо такая багатая фантазія, бо і штосьці «змарозіць» трэба мець талент. Аднак днём, калі інтэрнат пусцеў і наўкола рабілася ціха і сумна, дзядзька Сцяпан ішоў у чырвоны куток, браў з кніжнай паліцы якую-небудзь кніжку, пераважна пра разведчыкаў ці партызан. Прачытаўшы з дзясятак старонак, ён стамляўся і пачынаў думаць, як выкарыстаць прачытанае для сябе. У выніку нараджалася новая гісторыя з гераічнага жыцця дзядзькі Сцяпана.*

*Хлопцы, вядома, пакеплівалі са старога, і тады ён як галоўны аргумент называў прозвішча аднаго праслаўленага камандзіра партызанскага атрада.*

*— Дык вось, — пераконваў сваіх слухачоў вахцёр, мы з ім былі разам у акружэнні, сядзелі ў балоце, пілі ржавую ваду і жабам пстрычкі давалі, каб не лямантавалі і не перашкаджалі слухаць прыроду.*

*Хлопцы сустракалі новую выдумку старога хітруна дружным рогатам і спакваля разыходзіліся па сваіх пакоях. Паступова вахцёра разбіраў сон, і ён, паклаўшы галаву на рукі, спачатку штосьці яшчэ мармытаў, ці то з кімсьці спрачаўся, пасля моцна засынаў на сваім адказным пасту.*

*І вось зараз, трасучы Юрасёву руку, стары, відаць, меў надзею на пачастунак.*

*— Ды я, дзядзька, не з водпуску. У камандзіроўцы быў…*

*—Э-э-э, — ураз змізарнеў захавальнік парадку. — А я, адным словам, як ёсць хворы. Галава, што той цабэрак.*

*На момант усталявалася прыкрая цішыня, Нават чуваць было, як гула муха, што кружыла вакол абпэцканай, без плафона, лямпачкі.*

*— Слухай, — змірыўшыся з няўдачай, раптам зноў ажывіўся стары. — А ў нас тут такія дзялы, такія дзялы…*

*— Цікава. А што здарылася? — больш для прыліку спытаў Юрась.*

*— А ваш гэты баламут — Руды. Вось, браце, сумуе па кім турма! Рана яго выпусцілі адтуль. Няхай бы яшчэ папарыўся.*

*— Што гэта вы, дзядзька? Вы ж з ім вялікія сябры, можна сказаць, сваякі.*

*— Ага, сваякі. Адзін пень гарэў, другі задніцу грэў.*

*Дзядзька Сцяпан не на жарт разнерваваўся, ад чаго Юрась зрабіў выснову, што яго аднапакаёвец Руды, ахрышчаны так за вялікія жоўтыя, амаль рудыя зубы, нямала насаліў свайму сябру вахцёру.*

*— Дык што ж тут здарылася? — ужо зацікавіўшыся, перапытаў Юрась.*

*— І смех, і грэх, адным словам. Зноў канфуз з лектаркай выйшаў. Выступала на тым тыдні. Адкуль — не ведаю добра. Ды што дзіўна — хлопцаў шмат сабралася. Калі іх не даклічашся, а то набілася — не прадыхнуць.*

*Тут стары насцярожана азірнуўся, крыху збавіў голас, працягваў:*

*— Мне казалі па сакрэце, што гэта работа Рудога. Перахапіў па дарозе лектарку: яна шукала дзявочы інтэрнат, збіралася там чытаць сваю лекцыю, А ён як толькі выпытаў, што лекцыя пра гігіену жанчын, то заманіў яе*

*сюды. І сам хлопцаў сабраў. Тыя спачатку слухалі нішто сабе. А калі лектарка пачала талдычыць, як часта жанчыны павінны наведвацца ў лазню, то яны давай іржаць, як коні. А лектарка хоць бы што. Паправіць акуляры і шпарыць далей. Ёй, відаць, абы з рук, абы адбарабаніць.*

*Стары затросся ад смеху. Юрась таксама ўсміхаўся, прыкідваючы, якія гэта магло мець вынікі.*

*— Слухай! — раптам пасур'ёзнеў вахцёр. — Гэта ж яшчэ пры табе хлопцы правучылі Сомава?! То цяпер у нас новая выхавацелька: маладая і надта далікатная. Усіх на «вы» называе, з усімі ветлівая. Але нашы прайдзісветы і ёй напаскудзілі...*

*— Чым жа яна паспела правініцца? — шчыра здзівіўся Юрась.*

*— Яно-то нічога такога благога не зрабілі... Але настрой дзяўчыне, ці жанчыне, добра сапсавалі, — са шкадаваннем гаварыў дзядзька Сцяпан і працягваў: — Нехта з хлопцаў узяў ды намаляваў на паперы вылітага Сомава, які прыліп да дзвярэй. І падпісалі малюнак: «Як будзем працаваць? Па-сомаўску?» А сам малюнак падсунулі пад дзверы кабінета новай выхавацелькі. Яна як увайшла ў кабінецік свой, то і ўбачыла «падарунак». Надта ўжо перажывала... Ледзьве не плакала.*

*— Загаварыўся я з вамі, дзядзька. Трэба ж крыху з дарогі і адпачыць, — Юрась павярнуўся, каб ісці.*

*— Вой, Юрась, прабач! Я ж табе не сказаў, што маці твая да цябе прыехала.*

*— То што ж вы мне, дзядзька, адразу не сказалі, а столькі часу галаву тлумілі! Дзе яна?*

*— А ты не хвалюйся, не спяшайся. Яна ўчора прыехала, пасяліла яе камендант у пакойчык для гасцей. А ехаць назад яна думае сёння. Нядаўна пайшла ў магазін, сказала, што хоча купіць мінскай кілбасы ды здобы якой у вёску. Так што цяпер яе няма шака. Вот так.*

*Юрась падаўся ў свой пакой, узяў у хлопцаў у тумбачцы лязо, пагаліўся, пераапрануўся і выйшаў на ганак інтэрната, каб сустрэць маці. А вось і яна.*

*— Што гэта вы, мама, надумалі? Такая далеч. Што здарылася? — павітаўшыся, насцярожана спытаў Юрась.*

*— Хадзем жа, сынок, хадзем. Стамілася я. Гэта ж, божачкі, такі тлум. Як бедныя людцы жывуць у гэтым нясцерпным пекле?*

*Юрась павёў маці ў свой пакой.*

*— А нешта ж ты, дзетка, схуднеў, — аддыхваючыся, адразу заўважыла маці.*

*— Дык што, мама, зрабілася? Чаму прыехалі? — зноў спытаў Юрась.*

*— Сны, сынок, вельмі кепскія сніла пра цябе. А ты не прыязджаеш і пісьма няма шака. Перажываць стала. Тады папрасіла нашу суседку Марылю, каб дагледзела гаспадарку, а сама сабралася ды і паехала. Дык што тут у цябе, дзеткі?*

*— Ды нічога, мама, усё добра.*

*— Не можа быць. Надта паскудныя сны сніла. Сню аднаго разу, быццам ты жэнішся. А нявестка, нейкая незнаёмая дзяўчына, не, не наша, не вясковая. Так, нічога з твару. Але, — маці сцішыла голас, зірнула на дзверы, — п'яная, зусім п'яная. І ўсё ліпне да цябе, ліпне. А ты, сынок, такі сумны-сумны. Сядзіш, як за жалобным сталом.*

*Прачнулася. Думаю, што за трасца прывязалася, у галаву лезе. Паляжу. Толькі зноў прыплюшчы вочы, пачну драмаць — зноў сню цябе, і ўсё нейкага*

*панурага. Прачнуся — сэрца коле. Так, сынок, да самай ранічкі. А ад цябе ж ні вестачкі. Дзе ж гэта ты быў, сынок?*

*— У камандзіроўцы, мама. Паслалі. Казалі, што на два тыдні, а прабыў амаль месяц, — каб не хвалявацъ маці, схлусіў Юрась.*

*— Во, бачыш. А я думала-думала: што там можа быць? І так галавою раскіну, і гэтак раскіну… А тут яшчэ гэтыя сны, каб на іх ліха. То, кажаш, усё добра ў цябе? Ну, і дзякуй богу. А я ўжо сабралася дахаты. Твае хлопцы кажуць, ён паехаў на вучобу і будзе праз тыдзень. А я думаю, на якую вучобу, ты ж нічога не казаў?*

*— Гэта я думаў ехаць на курсы павышэння кваліфікацыі, ды нічога не атрымалася. Камандзіроўка вось, — выкручваўся Юрась і, каб перавесці гаворку на іншае, спытаў: — А дахаты, мама, калі думаеце ехаць?*

*— Я ж, сынок, дакляравала Марылі, што сёння буду. Трэба сёння і збірацца.*

*— Няхай бы пабылі яшчэ які дзень, — пачаў угаворваць маці Юрась. — Я ўзяў бы білеты, схадзілі б у цырк. Ніколі ж не былі. А там — цікава.*

*— Няма калі, сынок, гасцяваць. Дома работы — непачаты край. Хадзем толькі, я аддам табе што-кольвечы. Там жа прывезла таго-сяго вясковага, свайго… А цырку, сынок, — маці хітра ўсміхнулася, — я наглядзелася ўчора… У вас тут…*

*— Як гэта? — насцярожыўся Юрась.*

*— Ды вечарам ужо, але яшчэ віднавата было. Гляджу ў сваё акно, пакойчык жа мой на першым паверсе, нейкія дзве дзяўчыны топчуцца насупраць і з хлопцамі галёкаюць з другога паверха. А пасля, бачу, белыя звязаныя прасціны пачалі матляцца над маім акенцам. Раптам адна ўчапілася рукамі і нагамі за іх, і хлопцы пацягнулі яе наверх. А пасля і другую… Ну і вэрхалу было! Гэта што, ужо праз дзверы ў вас хадзіць нямодна?*

*«Дзядзька Сцяпан, казёл, заўпарціўся. Відаць, у горла мала перапала, а хлопцы не налілі — пашкадавалі ці не было чым частаваць. Э-х-х… Застанецца ў маці ўспамін», — з прыкрасцю падумаў Юрась і знарок беструрботна, з уяўнай весялосцю сказаў:*

*— Што праўда, мама, тое праўда: інтэрнат — гэта яшчэ той цырк!*

*…Сабралі няхітрыя матчыны пажыткі і ўжо кіравалі да выхаду, як Юрася запыніў дзядзька Сцяпан.*

*— Юрась! А табе тэлеграма…*

*— Ад каго?! — здзівіўся хлопец.*

*— На вось, сам паглядзі, — і вахцёр па-змоўніцку падміргнуў.*

*«Дарагі Юрась! — чытаў ён. — Прабач за ўсё. Вельмі перажываю. Напішы пісьмо. Абавязкова. Галя.»*

*— Што там, сынок? — пацікавілася маці.*

*— Нічога. Усё добра, мама. Добрая тэлеграма…*

*А ў галаве радасная думка: «Дарагі… Дарагі… Дарагі…»*

— Вось так, Бім, выстраіліся ў галаве, пераплавіліся ў сэрцы і выліліся на паперу назіранні і ўражанні падчас няпростага сумеснага жыцця ў інтэрнаце і працы з рабочымі хлопцамі…

…Неўзабаве адбылася сустрэча, якая перайначыла мой лёс, расквеціла яго і мяне прымусіла ўсур’ёз надоўга задумацца над сэнсам халасцяцкага існавання. І ўсё дзякуючы калегу па працы, адчайнаму летуценніку, яшчэ аднаму непапраўнаму рамантыку, Уладзіку Церыну. Паэт у душы (ён, дарэчы, пісаў вершы для сябе), абсалютна абыякавы да таго, што называецца «бытам», быў

старэйшы за мяне на два гады і таксама жыў у рабочым інтэрнаце, суседнім з маім. Хлопец валодаў незвычайнай здольнасцю знаёміцца з людзьмі, асабліва з дзяўчатамі. Падлабуньваўся да іх, уціраўся ў давер, на першы погляд, даволі проста. Падыходзіў на вуліцы, скажам, на прыпынку да дзяўчыны, якая кінулася ў вочы, папраўляў круглыя акуляры і пачынаў:

— Здрасце... Гэта нічога, што я з вамі павітаўся? Ну, вось і цудоўна! А то, ведаеце, часам з чалавекам павітаешся, а ён глядзіць на цябе як на ёлупня. Маўляў, адкуль ты на маю галаву зваліўся?! А што тут кепскага? Вось, скажыце... Не, вы скажыце... Ну, павіталіся мы з вамі... Дарэчы, мяне клічуць Уладзікам. Як вас — я не пытаю, усё роўна праўды не скажаце. Вось, смеяцеся...

І пайшло-паехала. Праз колькі хвілін Уладзік запісваў у пакамечаны, з якога ўжо сыпаліся лісткі, блакнот нумар тэлефона дзяўчыны ці дамаўляўся на сустрэчу. Седзячы ў аўтобусе, тралейбусе, раптам пачынаў абмацваць уласныя кішэні, залазіў то ў адну, то ў другую, то ў трэцюю... Пасля адшморгваў замок сваёй несамавітай чорнай сумкі (з ёю ён не разлучаўся ніколі, нават ідучы на спатканні) і пачынаў там шалясцець паперамі. Удосталь накорпаўшыся, паварочваўся да спадарожніка, найчасцей, спадарожніцы, глядзеў праз акуляры нявіннымі дзіцячымі вачамі і, як старому знаёмаму ці знаёмай, са шкадаванем казаў:

— Так і ёсць... Забыўся ручку ўзяць. А ў вас не бывае такога, каб штонебудзь забываліся?

Паколькі мы, грэшныя, заўжды спяшаемся, дык вечна штосьці забываем, а таму слова за слова і завязвалася гаворка. Самае цікавае, што Уладзік на самай справе заўжды што-небудзь забываў.

У прыгожай паловы чалавецтва Церын мог бы карыстацца яшчэ большым поспехам, каб не адна загана. Ён быў на дзіва абыякавы да свайго знешняга выгляду. Разумны, шчыры і бясхітрасны, прыгожы, высокі, шыракаплечы, з густымі русымі валасамі, Уладзік апранаўся безгустоўна. Складвалася ўражанне, што яго зусім не цікавіла, як ён выглядае і што пра яго скажуць. Мог купіць дыхтоўны касцюм, прахадзіць месяц і ні разу не адпрасаваць штаны...

У рэдакцыі мы працавалі ў сумежных кабінетах. Аднойчы адчыніліся дзверы і, не заходзячы, Уладзік кінуў сваё кароткае «здрасце» і звярнуўся да мяне:

— Андрэй, выйдзі, калі ласка, на адну хвілінку...

Абняў за плечы, адвеў далей ад дзвярэй, пошапкам, таропка, па-змоўніцку загаварыў:

— Андрэй! Ты не ўяўляеш, з якімі дзяўчатамі я пазнаёміўся! Гэта нейкі цуд! Адну клічуць Ларысай, а другую — Светай. Ларыса жыве ў Мінску, працуе завучам у школе-інтэрнаце, а Света, яе сяброўка, прыехала здаваць экзамены. Яна вучыцца завочна ў педінстытуце, здаецца, на чацвёртым курсе. Жыве дзесьці ў вёсцы, таксама працуе ў школе...

Мне было не ў навіну чуць падобнае ад Церына. Ён пастаянна кім-небудзь і чым-небудзь захапляўся. Мог пра мураша, убачанага ў заводскім скверы, добрых пяць хвілін гаварыць з вялікім жарам. Таму я слухаў і, мабыць, пасміхаўся.

— Ты не смейся, — пакрыўдзіўся Уладзік. — Дзяўчаты, якіх свет не бачыў! Асабліва твая Света.

Я не стрымаўся, зарагатаў голасна, на ўвесь калідор. Сказаць «твая Света» пра дзяўчыну, якой я не бачыў, мог толькі Церын.

— Дзівак ты, — зусім сур’ёзна працягваў Уладзік. — Я ж ведаю, што кажу. Света мне больш спадабалася. Але... Не, Ларыса таксама дзіўная дзяўчына... Вось

пабачыш... Дарэчы, гэта Ларыса мяне папрасіла пазнаёміць Свету з добрым хлопцам. Падумаў-падумаў... Света якраз табе падыходзіць, — паўтарыў ён.

У суботу, надвячоркам, чэрвеньскае зыркае сонца хілілася на спачын, я ехаў на спатканне з «дзіўнымі дзяўчатамі». Уладзік, як заўжды, фантазіраваў, гаварыў даволі гучна, не зважаў на пасажыраў. Ехаў з пэўнай доляй няверу і нават скепсісу. Школа-інтэрнат месцілася ў прыгарадзе, таму дарога заняла даволі часу. Выйшлі на канцавым прыпынку і апынуліся сярод маладога, яшчэ невысокага сасонніку. Пасля душнага горада тут, на прыволлі, і дыхалася лягчэй, і душа неяк устрапянулася. Паабапал нешырокай, як размінуцца дзвюм машынам дарогі, якая вяла да школы-інтэрната, расла, густая і высокая, яшчэ няскошаная трава. Дыхнула пахамі роднай вёскі, і я адчуў згрызоты сумлення. Больш як год не паказваўся на вочы бацькам! Ну і сынок! Вядома, былі прычыны, дык жа і пісаў рэдка. Правільна людзі кажуць: як абзавядзешся сваёй сям'ёй, ды пачнеш гадаваць уласных дзяцей, толькі тады спахопішся і зразумееш, як шчыміць і баліць сэрца маці і чаму хмурыцца і глуха пакашлівае бацька пры ўспаміне пра сваіх эгаістычных нашчадкаў. Мы ж, пераважна ўсе, думаем, што бацькі вечныя. А гадкі бягуць і сваё бяруць...

Мае невясёлыя думкі абарваў звонкі дзявочы смех. Побач са школай-інтэрнатам, на ўзгорку, парослым усё тым жа маладым сасоннікам, стаялі тры двухпавярховыя, на два пад'езды, цагляныя дамы для настаўнікаў. Адтуль насустрач нам, узяўшыся за рукі, ішлі дзве дзяўчыны. Убачылі нас, спыніліся.

— Знаёмцеся! — першым узнёсла загаварыў Уладзік. — Мой сябра — Андрэй. Цудоўны хлопец, вельмі таленавіты журналіст і пакуль што халасцяк.

— Я — Ларыса,— працягнула мне руку чарнявая і ў тон Царыну дадала: — А гэта Света. Цудоўная дзяўчына, таленавіты біёлаг і не замужам.

Не ведаю, як для каго, а для мяне першае ўражанне бывае не толькі самым моцным, але амаль беспамылковым. Усмешка падчас першага знаёмства — гэта своеасаблівая візітоўка. Калі яна цёплая і шчырая, ідзе знутры, ужо сама па сабе выклікае давер і жаданне глыбей пазнаць чалавека. А калі перад табой стварэнне дзівоснай прыгажосці і цнатлівасці, і гэта стварэнне геніяльнага скульптара, якім з'яўляецца маці-Прырода, дык што ўжо тут і казаць!

Я быў ашаломлены і настолькі ўражаны, што анямеў. Адно стаяў і на ўсе свае трыццаць два зубы, як дурань, смяяўся. Праўда, нягучна. Прымроілася, што сам анёлак спусціўся на зямлю. А яна, наскрозь сонечная, свяцілася чысцінёй і лагодай, і таксама пасміхалася. Была ў гэтай усмешцы гарэзлівасць, нават нейкая задзірыстасць. Падалося, што перада мной стаіць не дарослая дзяўчына, а няўрымслівы падлетак, здольны на самую нечаканую выхадку. Пазней ужо, калі сталі сустракацца і пазнаёміліся бліжэй, даведаўся ад яе самой, што ў дзяцінстве дзяўчына была душой вясковых падшыванцаў. Ледзь не завадатар набегаў на сады, разам з усімі хлапчукамі караскалася на яблыні і грушы, бегала з арэхавым вудзільнам на рэчку лавіць печкуроў, сліжоў і гаркушак.

Яе ясныя карыя вочы глядзелі на мяне без выкліку, але сур'ёзна, як бы пыталі: «Ну, што ты за тып? Думаеш, што журналіст, дык ужо і кавалер?! Не-е-е, даражэнькі... Нос высока не задзірай». А можа, яшчэ што думала? Скажам, такое: «З выгляду хлопец кідкі. У шэрым касцюме, гальштук з ільняной тканіны з вышытым беларускім арнаментам, на нагах светлыя, у тон касцюму туфлі на высокіх (модных тады) абцасах. Трошкі падобны на цыгана, валасы чорныя, густыя. Праўда, на высокім ілбе ёсць ужо залысіны, а на скронях — ранняя, ледзь прыкметная сівізна...»

На яе мілым, трошкі загарэлым, як і ва ўсіх вясковых людзей, твары не было і следу касметыкі. Усё сваё, натуральнае. І сакавітыя прыпухлыя ружовыя губы, цёмныя бровы, не шырокія і не вузкія, і — русая, тоўстая, доўгая, амаль да паясніцы, каса — мая слабасць.

Я стаяў нібы ўкопаны і ўсё дзівіўся: дзе ж вырасла такая красачка?! Знаёмства зацягнулася да няёмкасці, і гэта тонка адчула тактоўная Ларыса.

— Хадзем у кватэру, — прапанавала яна. — Вы ж з дарогі.

Пасярэдзіне аднапакаёўкі стаяў раскрыты, застаўлены прысмакамі, стол-кніга. А што яшчэ магло кінуцца ў вочы двум халасцякам?! (Абрыдлі інтэрнацкія буфеты з іх агорклай аднастайнасцю.)

— Андрэй са Светай сядуць на канапу, а мы з Церыным на крэслы. Каб мне зручней было бегаць на кухню, — скамандавала і патлумачыла маладая гаспадыня. Уладзіка яна, чамусьці, называла па прозвішчы.

Не паспелі прысесці, як Уладзік палез у кішэню пінжака, дастаў ручку, з вядомай ужо сумкі выцягнуў блакнот і пачаў штосьці хутка пісаць сваім, яшчэ мудрэйшым, чым у мяне, почыркам. Ён умомант забыўся пра наша існаванне. Асабіста мяне выхадка сябра не здзівіла, быў, так бы мовіць, маральна і фізічна гатовы да чарговага «заскоку» калегі. Так ён рабіў у рэдакцыі сотні разоў у самых нечаканых сітуацыях, нават падчас гульні ў карты. Праўда, рэдактар Быстрыцкі ў такіх выпадках не надта цырымоніўся, хутка і ўладна спыняў творчае натхненне падначаленага адным кароткім воклічам: «А ну!..» Рэакцыя Ларысы таксама была імгненная і прадказальная:

— Церын! Ты зноў за сваё? А ну!..

Не ўтрываў, засмяяўся ад добра знаёмага: «А ну!» А яны ўжо на «ты», — таксама паспеў адзначыць я сабе. Уладзік не стаў выпрабоўваць цярпенне Ларысы, хуценька схаваў ручку, сунуў у сумку нататнік і нявіннымі, блізарукімі вачамі абвёў з-пад акуляраў кожнага з нас. Нечакана (лепш бы прамаўчаў!) сказаў:

— Ларыска! Ты паглядзі, якая пара! Давай мы іх пажэнім!

У маладосці, акрамя ўсяго іншага, аб чым ужо згадваў, я пакутаваў яшчэ на адну брыдкую хваробу: у кампаніі баяўся паказацца смешным. Пачуўшы такое ад Церына, ажно сцепануўся і, як гэта бывала са мной не раз, зніякавеў. Адчуў толькі, як кроў хлынула да твару.

— Мы самі разбяромся! — скрозь шум у галаве пачуў я гарэзлівы Свецін голас.

— Вось іменна! — падхапіла Ларыса. — Знайшоўся сват. Не маленькія, самі дамовяцца. Ты, Церын, лепш пра сябе думай.

— Давай, Ларыска, з табой ажэнімся?! — ні то сур’ёзна, ні то жартаўліва прапанаваў мой настырны сябра.

Гэта ўжо было занадта. Я падняў вочы на Ларысу і заўважыў, што шчокі ў дзяўчыны запунсавелі.

— Давайце для пачатку вып’ем за знаёмства, — ачомаўся я і стаў разліваць у маленькія чарачкі гарэліцу.

— Ажаніцца — не ўпіцца, — уздыхнула і разважліва зазначыла Ларыса. — Праўда, Света?

— З пары яшчэ не сышло. У маладосці нагуляешся — у старасці як знойдзеш!— нечакана расхрабрылася і звонка засмяялася Ларысіна сяброўка.

Тое, што гэта ходкая фраза — не ўласнае вынаходніцтва маёй новай знаёмай, я не сумняваўся. Але ж нешта ўнутры, хутчэй самалюбства, было закранута. Я не стрымаўся, імкнучыся патрапіць у тон Святлане, заўважыў:

— Маладосць даецца чалавеку, каб жыць без праблем у старасці...

— Маладосці — сваё, старасці — сваё, — катэгарычна запярэчыў Уладзік.— Але да гэтай самай старасці яшчэ трэба дажыць.

— А цябе, Церын, хоць зрэдку, але наведваюць талковыя думкі,— скарыстала момант, каб пакпіць гаваркая Ларыса.

Вось так, у жартах, нязлосных кпінах непрыкметна праляцеў вечар. Уладзік ахвотна пагадзіўся дапамагчы гаспадыні прыбраць з апусцелага стала, і мы ўсім гамузам выйшлі на вуліцу.

Дыхнула бадзёрай прахалодай і свежасцю. Дзесьці непадалёку, каля прыватных дамоў, зацята забрахаў сабака. На зорным небе вісеў серпік маладзіка. Сабака раптам — мабыць, на ганак з хаты выйшаў гаспадар — суняўся, і наўкола стала ціха-ціха. Нечакана побач з сасоннікам, у хмызняку, зацёхкаў салавей. Мы ўсе, як па камандзе, сцішыліся. Салоўка, відаць, сабе ў ахвотку, то свістаў, то цёхкаў, то заліваўся пераборам і пошчакам. Амаль побач сваім звыклым тлумным жыццём жыў вялікі шумны горад. А тут панавала поўная гармонія чалавека і прыроды. Дзіўна ўсё гэта было адчуваць.

Я непрыкметна ўзяў Свету за цёплую руку і трошкі сціснуў яе пальцы. Яна адказала слабым поціскам маіх. Пры развітанні асмялеў, узяў дзяўчыну за плечы і прытуліў да сябе. Памкнуўся пацалаваць і пачуў пяшчотнае, але цвёрдае: «Не трэба, Андрэй». Ужо зрабіў два крокі да Церына, які клікаў, як зноў пачуў яе мяккі голас: «Андрэй, а мы яшчэ пабачымся?..»

«Божа! Я самы вялікі ёлупень на зямлі! Кавалер смаркаты... Рамантык недапечаны... Як жа так апраставалосіцца?!»—крыў сябе апошнімі словамі і дакараў, трасучыся ў аўтобусе. Нават не адразу ўнік, пра што пытае ў мяне Церын:

— Ну, што скажаш, Андрэй? Як табе дзяўчаты? Спадабалася Света? — узрушана дапытваўся Уладзік, відаць, загадзя прадчуваючы мой адказ.

— Гожая дзяўчына, — стрымліваючы хваляванне, адказаў я ўнікліва і каб зрабіць прыемнае таварышу, дадаў: — А Ларыса твая такая шчабятуха... І гаспадыня цудоўная. Дзяўчына на ўсе сто.

— Ведаеш, Андрэй, — усхвалявана перапыніў мяне Церын. — Я хачу на ёй, акрамя жартаў, ажаніцца. Ды-ы-ы...

Ён змоўк, пасур’ёзнеў, нават, падалося, глыбока ўздыхнуў. Не выпадала распытваць Уладзіка пра ўсе абставіны іхняга знаёмства і цяперашнія адносіны. Захоча чалавек падзяліцца патаемным, сам скажа, за язык цягнуць не варта. А я, каб згладзіць няёмкую паўзу, прымірэнча заўважыў:

— Не трэба, Уладзік, гнаць коней. Дзяўчаты больш разважлівыя, чым мы, хлопцы. Час, сам ведаеш, лепшы лекар. Ён паставіць усе кропкі над «і».

Гаварыў, а ў самога ў вушах гучаў непадробны і непаўторны, шчыры душэўны Свецін смех. «Напэўна, — разважаў я, — Света — натура мяккая і даверлівая. Душа ў яе яшчэ чыстая. Але ж яна, як і я, мусіць, рамантык. Вось гэта будзе пара з самавара!»

— Дамовіўся на сустрэчу? — даляцеў голас Церына.

— Забыўся,— шчыра прызнаўся. — Але...

— Ды, ты што?! — ажно ўстрапянуўся Уладзік. — Такая дзяўчына! Цяпер такіх мала. Гэта я табе кажу.

Спаткацца дамовіліся праз тыдзень, у нядзелю. Света спаслалася на сваю занятасць, неабходнасць грунтоўна падрыхтавацца да наступнага экзамена.

Усе дні я зацята прыдумваў праграму выхаднога дня. І... прыдумаў. Купіў білеты на футбольны матч «Дынама» Мінск — «Спартак» Масква. Сам даўні прыхільнік гэтай цудоўнай гульні, быў цвёрда перакананы, што і Святлана разам са мною стане гарланіць, крычаць і свістаць. Усе мы крыху эгаісты, але і цяпер, праз шмат гадоў, згадваючы той паход на стадыён, пачуваюся няёмка.

Мінскае «Дынама» тых часоў уяўляла каманду сапраўдных майстроў скуранога мяча. Бадай, ва ўсіх на слыху былі прозвішчы Малафеева, Зарэмбы, Савосцікава, Пракапенкі... Высокае майстэрства, віртуозная гульня і дружнае, без прынукі, шматтысячнае «Гол!» — вось што мяне захапляла. А яшчэ воля хлопцаў да перамогі. Гэта тое, чаго мне нетавала...

Стадыён сустрэў шматгалосым гулам і асаблівай, напружанай, энергетыкай, якая з першых хвілін цалкам, з галавою, уцягвае ў вір небывалых эмоцый, страсцей і пачуццяў. Гульня вось-вось павінна была пачацца, і пераважная большасць балельшчыкаў загадзя заняла свае месцы. Мы са Светай прабіраліся паміж радамі, і я не мог не заўважыць здзіўлення і, бог ведае яшчэ чаго, у позірках хлопцаў і мужчын. Адно, бясспрэчна, было ў гэтых кароткіх, дапытлівых паглядах, якія яны спынялі на Свеце — захапленне чароўнай знешнасцю маёй спадарожніцы. Але чытаў у вачах балельшчыкаў і іншае, скіраванае да мяне: «Во, дурыла! Зварыла галава прывесці такую кралю на стадыён».

Пачалася гульня, і я цалкам растварыўся ў ёй. Разам з усімі гарланіў, ёрзаў па лаўцы, штораз падскокваў. Святлана ажно заходзілася ад смеху. Тады мне падалося, што і мая сяброўка — заўзятая балельшчыца, толькі на ўсё рэагуе па-свойму. Значна пазней высветлілася, што футбол яе цікавіць не больш чым леташні снег і патрэбны ёй, як рыбе парасон. А смяялася дзяўчына, гледзячы на маё вар'яцтва.

Між тым час няўмольна бег, Света паспяхова здала залікі і экзамены і рыхтавалася ехаць у сваю вёску. Напярэдадні расстання мы сабраліся, як звычайна, у хлебасольнай Ларысы. Гасціннасць маладой гаспадыні, рэдкі талент ствараць прыязную атмасферу, апекаваць кожнага проста здзіўлялі і выклікалі павагу да яе. І ў гэты вечар яна далікатна і тактоўна вяла свой рэй. Крыху, бяскрыўдна, падцвельвала з Церына, мяне папрасіла трошкі расказаць пра паход на стадыён... Словам, усё ішло — лепш і не трэба. Аднак, калі Уладзік распачаў сваю звыклую, вясёлую, але далёкую ад рэальнага жыцця гаворку са Светай, Ларыса нечакана падміргнула мне і кіўнула галавой у бок кухні.

Мілая гаспадыня падалася першай, а я, для прыліку крыху счакаўшы, следам. Мяне стрэлі сумныя (куды падзелася весялосць!) і як бы ў чымсьці вінаватыя вочы.

— Што здарылася, Ларыса? — устрывожыўся я не на жарт.

— Нічога, нічога... Усё добра, — і яна змушана ўсміхнулася. — Просьба далікатная ёсць. Не ведаю, як і пачаць...

— Гаварыце ўсё, як мае быць. Я хварэю на хваробу, якая называецца — правалы ў памяці,— жартаўліва супакоіў дзяўчыну.

Ларыса яшчэ раз дапытліва паглядзела на мяне, уздыхнула і, відаць, рашылася пажаліцца. Менавіта, пажаліцца.

— Ведаеце, Андрэй. Мне падабаецца Уладзік. Ён жа такі добры і непасрэдны! — пачала яна. — Нядаўна прыхварэла, вам нічога не казала і Свету прасіла не гаварыць, то ён прынёс цэлы літр мёду, быў мне нянькай. Але ёсць у ім недахоп, з якім, як ні стараюся, не магу змірыцца. Надзея на вас...

Дзяўчына змоўкла і зноў запытальна паглядзела на мяне. Ёй карцела выгаварыцца, раскрыць душу, але баялася быць не зразуметай.

— Гаварыце, Ларыса, гаварыце... Сказанае застанецца паміж намі, — я пастараўся надаць смеласці гаспадыні кватэры, дзе, здаецца, напаткаў свой лёс.

— Уладзік разумны хлопец. Але нейкі ён непрыкаяны. Неўладкаваны ці, лепш сказаць, непрыстасаваны да жыцця. Маю на ўвазе не што-небудзь, а яго знешні выгляд, — дрыготкім голасам скончыла Ларыса.

«Вось што турбуе дзяўчыну! Якая яна ўсё ж далікатная і тонкая натура. Ёй, чысцюлі, ветлівай, ласкавай, паслужлівай, надзвычай цяжка пагадзіцца з тым, на што Церын даўно перастаў звяртаць увагу»,— я схамянуўся і сказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— Уладзік адчувае сябе досыць камфортна. Ён вітае ў аблоках і амаль не зважае на зямны быт. Церына абсалютна не турбуе яго знешні выгляд.

— Дык жа мяне турбуе! — усклікнула Ларыса, і я спужаўся, што нас могуць пачуць.

— Ціха, ціха, Ларыса. Я ўсё зразумеў і абяцаю, што вазьму над ім апеку.

— Андрэй! Я вам буду вельмі і вельмі ўдзячная. А то Уладзік такі крыўдлівы. Загараецца, нібы тая запалка. Паспрабавала аднойчы сказаць, то цалюткі вечар прамаўчаў, — вочы дзяўчыны свяціліся надзеяй.

— Эй! — падаў голас Церын.—Што ў вас там за сакрэты? Гайда да стала.

У панядзелак, каб праводзіць Свету, я збег з работы. З невялікім яе чамаданам, які трымаў у руках, мы стаялі на аўтастанцыі ў чаканні рэйсавага аўтобуса. Гаворка, як гэта бывае падчас развітання, не надта клеілася. Дамовіліся ліставацца і чакаць зімняй сесіі, калі яна зноўку прыедзе ў Мінск. Тут зашуршэў шынамі аўтобус, вадзіцель ліха падагнаў машыну на стаянку. Я дапамог адшукаць Свеце яе месца, прыладкаваў чамадан і, калі яна села, неяк таропка і нязграбна чмокнуў у абветраныя сухія губы. Выйшаў з аўтобуса і, не азіраючыся, падаўся на свой трамвайны прыпынак. У душы панаваў поўны разлад...

А праз тыдзень быў ужо ў Харкаве, куды прыляцеў самалётам, каб з роднаснага тутэйшага завода падрыхтаваць журналісцкі матэрыял для сваёй газеты. Гэта была першая камандзіроўка ў маім жыцці. Пазней іх будзе шмат, і я згублю ім лік. Уразіла сустрэча з жыццярадасным чалавекам, інжынерам, забеспячэнцам (на паўсядзённай мове — папіхачом), з якім выпала жыць у адным пакоі гасцініцы. Ён ведаў і помніў, мабыць, тысячу анекдотаў. Было яму гадоў сорак, і палову свайго жыцця, па яго словах, ён пракачаўся на гасцінічных ложках. У гэтым недарагім харкаўскім гатэлі мой новы знаёмы жыў другі месяц. Штосьці там прыехаў выбіваць, аднак справа не клеілася, кармілі аднымі абяцанкамі. З раніцы сусед па пакоі ішоў у буфет снедаць, пасля кудысьці званіў, спраўляўся, ці ёсць для яго добрыя навіны і цалюткімі днямі бадзяўся па горадзе або валяўся на ложку, глядзеў «тэлек». А надыходзіў вечар, падчапурваўся, спускаўся на паверх ніжэй да нейкай жанчыны, таксама камандзіровачнай і таксама забеспячэнца.

Заданне рэдактара я выканаў, сабраў і напісаў вялікі артыкул аб вопыце работы калектыву прадпрыемства, з якім наш завод спаборнічаў.

Не сказаць, каб праца ў шматтыражцы была намнога лягчэйшай, чым у раёнцы. Хапала ўсяго: і трапання нерваў, і ваўчком даводзілася круціцца, каб паспець здаць у нумар чарговы матэрыял. Аднак не забываўся і пра сваіх колішніх добразычліўцаў з рэспубліканскіх маладзёжных газет. Пастаянна дасылаў у рэдакцыі свае артыкулы, нарысы, гумарэскі. Хлопцы ахвотна друкавалі, прасілі пісаць як мага больш. Цягам часу наладзіліся прыязныя, цесныя адносіны з многімі таленавітымі журналістамі. Бываючы ў іх кампаніі, прагна ўслухоўваўся ў кожнае слова і міжволі лавіў сябе на думцы, што мне да іх трэба расці і расці.

Увогуле, цікавая гэта справа — журналістыка! І надзвычай адказная. Хоць бы таму, што зброя тут — слова. А слова, як вядома, не толькі лечыць, але і калечыць. Пераканаўся ў гэтым на сваім горкім вопыце. Мінула шмат часу, а і

сёння сёе-тое трывожыць сумленне, стрэмкай сядзіць у сэрцы. Часцей згадваецца тая недарэчная, няўклюдная, на цяперашні розум, гісторыя з гальванікам тэрмічнага цэха Каратковым.

Герой, скажам так, будучага нарыса мне спадабаўся. Моцны поціск рукі і на прадаўгаватым, гладка паголеным твары ні здзіўлення, ні радасці, ні разгубленасці. Спакойная годнасць, упэўненасць у сабе, позірк светлых вачэй прыязны, паважлівы, без мітуслівасці. Схіліўшы голаў, уважліва выслухаў і прапанаваў:

— Хадзем у бытоўку...

Сямнаццаць гадоў цяжкай працы ў гальванічным аддзяленні. Кожны дзень мае справу са шчолачамі, храміраваннем, аксідзіраваннем. Экзэму яшчэ не нажыў, але... Прорва грамадскіх абавязкаў. Настаўнік моладзі. І — аднапакаёўка ў бараку пасляваеннай пабудовы, дзе ён, жонка, сын і дачка жывуць на сямнаццаці метрах. Прапанавалі на суседнім заводзе пасаду майстра, цвёрда абяцаюць праз год трохпакаёвую кватэру. Думае...

Эх, Караткоў Іван Міхайлавіч! Лепш бы ты змоўчыў, не гаварыў карэспандэнту пра сваю жыллёвую бяду!

Нарыс надрукавалі. Быстрыцкі даў свой загаловак — «Сумленне». Патэлефанавалі з парткама, пахвалілі шэфа за дабротны матэрыял. А мне закарцела асабіста ўручыць Караткову нумар газеты з нарысам пра яго. Зрабіць чалавеку прыемнае — гэта заўсёды маленькае свята для ўласнай душы. Ды што гэта? Быццам той Караткоў, а быццам і не ён?! Глядзіць усё гэтак жа спакойна, цвёрда, ніводная рыса на твары не варухнецца, але глядзіць паверх галавы і бытта не бачыць мяне. Так і не адважыўся падысці да рабочага.

Але што ж тады зрабілася? Чым я не дагадзіў, а можа, нават пакрыўдзіў чалавека? Мінаюць гады, а вось жа і сёння пры адным успаміне душа курчыцца, нібы скурат на агні, просіць злітасцівіцца, болей не трывожыць. Ды памяць учэпіста трымае сэрца ў сваіх руках, не дае забыцца, пячэ агнём. Што ж такога ці не такога напісаў у сваім нарысе?

Мой герой пакутаваў на ўсіх васьмі старонках машынапіснага тэксту. Скончыў змену, выйшаў за прахадную, і пачаліся ў яго згрызоты сумлення: кідаць цяперашні завод, прыняць прапанову перайсці на новае месца работы ці не? Ахвяраваць калектывам, сябрамі-таварышамі і жыць з сям'ёй па-людску, ці душыцца ў аднапакаёўцы дзеля гонару і сумлення рабочага чалавека? Праўда, абяцаюць і на сваім заводзе жыллё, але ж абяцанага тры гады чакаюць, а там праз год... І такія разважанні праз увесь нарыс. А ў канцы яго — мой герой, Караткоў Іван Міхайлавіч, ужо ранічкаю, пасля бяссоннай ночы, стаіць ля адчыненай форткі сваёй аднапакаёўкі, твар яго свеціцца ціхай усмешкай. Ён прымае канчатковае рашэнне: не, з калектывам, як з роднымі таткай і мамкай...

Пэўна ж, тыя самыя «сябры-таварышы», дзеля якіх ён і застаецца на гальваніцы, сваімі з'едлівымі кпінамі і жартамі дасталі Караткова, высмеялі не раз і не два, а можа, нават і праходу не давалі. Гэтыя «сябры-таварышы», дай толькі зачэпку, з языка не спусцяць, будуць гыгытаць, пад'ялдыкваць на кожным кроку ці яхідна пасміхацца ў рукаво. А жонка і дзеці? Што сказаў Іван Міхайлавіч ім?

Хочацца, хоць з вялікім спазненнем, папрасіць прабачэння за сваё легкадумства ва ўсёй сям'і Каратковых. Сказаць так: даруйце, людзі добрыя, вінаваты сваім маладым максімалізмам. Няхай у вас усё будзе добра. А сумленне? Што ж... Яно павінна жыць у кожным чалавеку. Інакш — здзічэем. Трэба праўду сказаць: выкруты журналісцкія не завастраюць розум, а ўхітраюць яго крывадушнасцю.

— Як ты, Бім, думаеш?..

Церын хадзіў нібы ў ваду апушчаны. Нават страціў цікавасць да гульні ў карты. Выбраў момант, пацікавіўся ў таварыша, чаму такі самотны?

— Падобна на тое, што з Ларысай у нас нічога не атрымаецца, — зусім асуджана адказаў Уладзік і з дакорам дадаў: — Збіраецца ехаць на поўдзень адпачываць. А я супраць.

— Не ведаю, што табе параіць. Мае землякі-вяскоўцы ў такіх выпадках звычайна кажуць: баба з воза — конь смяецца. Хоча ехаць, няхай едзе. А там — паглядзіш.

Сказаў даволі нястрымана і адразу ж пашкадаваў. Было крыўдна за Уладзіка. Апошнім часам, не без маіх, калі тактоўных, а калі і не зусім мяккіх падказак, хлопец змяніўся. Стаў больш пільна сачыць за сваёй знешнасцю. Гэта, дарэчы, заўважылі ў рэдакцыі і нават жартавалі, што Уладзік не інакш як закахаўся. І ўсе ж не варта было рэзаць па жывым.

— Так-то яно так, — задуменна прамовіў Церын. — Ды, як кажуць, сэрцу не загадаеш.

Шкада было таварыша, аднак суцяшаць у такіх выпадках — толькі сыпаць соль на рану. Перапакутаваць чалавек усё павінен сам, у тым ліку і каханне без узаемнасці. Але чаго тады вартыя словы Ларысы, што Уладзік добры, чулы і ёй падабаецца? Відаць, для дзяўчат патрэбна штосьці яшчэ, акрамя чуллівасці. Урэшце, таямніца жаночай душы і сэрца — тэма вечная і без разгадкі гэтай загадкі. А хто разгадае таямніцу жанчыны, той стане лаўрэатам Нобелеўскай прэміі і скончыць жыццё… самагубствам. Мяне ўсё больш пачынаў турбаваць уласны лёс. Наша ліставанне са Святланай, цёплае і даверлівае, не давала ўпэўненасці ў непазбежнай заручонасці. Гэтага хацеў я і з радасцю між радкоў адшукваў яе жаданне. Мы нават абмяркоўвалі магчымы пераезд Светы на сталае жыццё ў Мінск. Божа! Як гэта было б цудоўна. Божухна! Колькі ж тут прыкрых перашкод і сапраўдных, часам непераадольных цяжкасцей, якія, магчыма, атруцяць ёй жыццё. За сябе я не перажываў. «… Дарагі Андрэй! Ты клічаш мяне ў сталіцу. Я нават не ўяўляю, што там буду рабіць. А жыць дзе?! Патрэбна ж мінская прапіска... Без гэтай праклятай паметкі ў пашпарце мне закрыты ўсе дарогі. Вой, баюся нават і думаць, што мяне там чакае! Не спяшайся, дарагі, усё добра ўзваж і абдумай. Навошта табе, сталічнаму кавалеру, дзяўчына з правінцыі? У Мінску столькі прыгожых дзяўчат, ажно вочы разбягаюцца. Не крыўдуй. Пішы. Буду, як заўжды, пільнаваць паштарку, чакаць твайго пісьма...»

Дзіўная рэч наша жыццё! Аднаму чалавеку ўсё даецца лёгка, нібы так лёсам угатавана. І колькі ж нерваў, здароўя мусіць траціць другі, каб хоць трошкі адчуць асалоду гэтага жыцця. Каб усяго толькі мець свой невялікі ўтульны куточак і прыстойную працу. Здаецца часам, што прапіску прыдумаў злосны чалавек, з мэтай ускладніць існаванне іншым людзям…

Я часцей стаў задумвацца над будучыняй, і часцей сталі адольваць сумненні. Сапраўды, ці не са сваіх эгаістычных меркаванняў гатовы ахвяраваць доляй слаўнай дзяўчыны? Зараз яна жыве ў гармоніі з прыродай і ўласнай душой. Настаўнічае, вучыць і выхоўвае дзетак, жыве пры бацьках, так бы мовіць, на ўсім гатовым. Ёсць у яе там, вядома, і кавалеры, ці, хоць бы адзін з тамтэйшай інтэлігенцыі. А як жа інакш! Такая прыгажуня каму хочаш закружыць галаву. Выйдзе замуж за агранома ці свайго калегу — настаўніка, мясцовыя ўлады дапамогуць з жыллём. Будуць жыць-пажываць, дзяцей і багацце нажываць. А хто я? Перспектывы цьмяныя і зусім невыразныя. Рабочы інтэрнат, у якім

жыву ўжо каторы год, — прыстанішча часовае. Набыткі мае цалкам месцяцца ў адным чамадане. Усяго толькі трэці курс факультэта журналістыкі ўніверсітэта... Не багата, каб рашыцца на лёсавызначальны крок, жаніцьбу. А з другога боку, трэба ж з нечага пачынаць! З чаго? Бадай, варта з’ёздзіць у вёску, параіцца з бацькамі. Тым больш, што з панядзелка чарговы водпуск.

...Варушыць сваю памяць — справа няўдзячная ці гэта вырак слабых істот? Напэўна, людзі, моцныя духам, не азіраюцца назад: што зроблена, тое зроблена, жыццё пражытае ўжо не перайначыш і няма сэнсу калупацца ў душы. З гэтымі думкамі пустэльнікам туляюся ў зацемках па хатцы і раптам асаджваю сябе: у цябе ж іншага выйсця няма! Дакляраваў напісаць свой жыццяпіс — рвіся з капытоў, а слоў на вецер не кідай. Ніхто цябе ў каршэнь не гоніць, але ж і расслабляцца не варта. Вось ужо дзень згасае, цемень уладна ахутвае наваколле, хаця на маім гадзінніку ўсяго толькі тры з паловай гадзіны па поўдні. Трэці дзень твайго пустэльніцтва, на якое сам сябе асудзіў. Што, кіславата на душы? А ты ж збіраўся яшчэ справіць памінкі па вёсцы?! Не рашаешся?

Не буду хаваць сваю вёску! Спадзяюся, што яшчэ ачуняе і акрыяе. Гэта — першае. Па-другое, не прывык, гарэлка калом у горле становіцца, піць аднаму. У кампаніі — іншая справа... Так... Чым жа заняцца? Ад думак пухне галава. Варта на нешта іншае пераключыцца. На што? Хоць бы хто завітаў (крый божа, Газменіха!) Ды вёска нібы вымерла. «Пачакай, пачакай, — кажу сам сабе, — у цябе ж ёсць надзейны, правераны часам, хаўруснік, твой гумар».

Часта маракую над тым, што ёсць гумар і чаму ён даспадобы добрым людцам? Магчыма, гэта своеасаблівы пратэст супраць шэрай будзёншчыны? Магчыма. Напэўна, добры сродак падняць настрой і такім чынам падоўжыць сабе жыццё? Напэўна. Відаць, гумар у прыродзе самога чалавека? Відаць. Адкуль жа ён і кім закладзены ў душу грэшнай істоты? Богам! Усемагутным, мудрым, бясконцым у часе і прасторы, вечна жывым і... вясёлым.

Не ўпэўнены, што Усявышні выглядае так, як яго малююць на іконах: у гадах і з барадою. Бог ніяк не можа быць пенсіянерам! Ён вечна малады, жвавы, жыццярадасны. А як жа інакш! Каб кіраваць такой гаспадаркай, усім Сусветам (адна планета Зямля чаго вартая!), патрэбны не толькі мудрасць, а любоў і сіла, цярпенне і суровасць... Быць усюдыісным не так проста. А таму наш Творца, бясспрэчна, малады і вясёлы. Аднак, Ён любіць, каб усё было ў разумную меру. На першым месцы для Яго — праца. А пасля, калі ласка, гуляйце, смейцеся, нават, рагачыце. Але зноў жа — не губляючы пачуцця гэтай самай меры.

— Скажу табе, Бім, як вернаму сябру: чалавеку на пару з гумарам лацвей жыць.

Вось млосна на сэрцы, няма каму цябе ўласкавіць, паспагадаць табе, паспрыяць. Не ручыць табе, не ідзе на лад задуманае, а ты сабе паблажкі не давай, не здавайся, вазьмі ды прыгадай якую дасціпную гісторыйку. Ці сам яе прыдумай. Дальбог, на душы лягчэй стане. Галоўнае, вушы не апускай, не жыві па прынцыпе: што ўбіў, тое ўехаў. А варушыся, варушыся. Грабі рукамі, малаці нагамі, бач, і да берага даплыў...

—А цяпер, сабачка, давай прыгадаем мой колішні прыезд і гасцяванне вось у гэтай бацькоўскай хатцы. Цябе тады яшчэ, мабыць, у паміне не было. Але такой бяды.

## У вёсцы

— Чарачка-каток, кацíся ў раток. Не кацíся ў галоўку, а кацíся ў жыватóк. Каб часцей сын прыязджаў! — і бацька нетаропка выпіў налітую ім чарку гарэлкі, узяўся за відэлец. Маці сваю толькі прыгубіла, твар яе пры гэтым перасмыкнуўся, і яна не ўтрывала:

— І як гэта добрыя людцы п'юць такую атруту? Толькі хоць ты, сынок, не налягай на пітво. Няхай гарэлка і ўсе немачы ідуць на сухі лес.

— Во, завяла пад руку сваю песню,— нязлосна папракнуў маці бацька. — Калі ў пару ды з толкам, то можна кроплю і ўзяць. Абы галава варыла. Закусвай, сынок, закусвай.

Я ніколі і нічога смачнейшага не еў, чым прыгатаванае нястомнымі рукамі маёй матулі. Умела яна, пальчыкі абліжаш, нашпігаваць на багатую куццю малочнае парася ці качку, засмажыць у печы, а пасля паставіць у кладоўку, каб застылі, і ўжо тады падаваць на стол. Не раз і не два, спакусіўшыся на звыклыя з маленства назвы «хатняя каўбаса», «хатні сальцісон», купляў у краме ці на рынку тое і другое і, у рэшце рэшт, мусіў дзяліцца «прысмакамі» са сваім сабакам Бімам. Калі маці рыхтавала мяса на каўбасы, вострым нажом дробна наразала яго на шырокім стале, пасыпала кмінам, каляндрай і соллю, у хаце стаяў незвычайны пах. Час ад часу, перамешваючы начынне, яна брала каліва ў пальцы і клала на язык, правярала, ці хапае солі. Старанна прамывала, паласкала кішкі, а пасля даставала прыхаванае, адбітае і адпаліраванае бацькам рыльца ад графіна і пачынала пальцамі піхаць гатовае начынне ў тонкія кішкі. Частка «гатовай прадукцыі» клалася ў кубелец, на штодзённы ўжытак, а другая вешалася над печчу на шасткі. Закручаныя марляй каўбасы і кумпякі віселі да вясны, а пасля яшчэ выносіліся і падвешваліся пад страхою хаты, каб абветрыцца і напоўніцца жыватворнай сонечнай энергіяй. І былі гэтыя, сапраўдныя прысмакі, пастаяннай і непераадольнай спакусай для нас, дзяцей.

Але вось надыходзіла пара касьбы, і, асабліва, копкі бульбы. Збіралася талака, пяць — шэсць жанчын. Маці нараўне з усімі, градка ў градку, капала, а за нейкай паўгадзіны да дакопак, бегла ў хату накрываць на стол. Даставала з печы вялікі чыгун з умлелай у тушанай бульбе гускай, наразала каўбасы, паляндвіцы, кумпяка, налівала ў талеркі залацістага мёду, ставіла дзве бутэлькі віна. Само сабой, на стале былі салёныя агуркі.

Жанчыны паважна, з чыннасцю, запрашаючы адна адну садзіцца, урэшце ўладкоўваліся і пачыналася гамана. Спачатку хвалілі віно, бо салодкае і надта смачнае. Пасля, на ўсе лады, кухарскія здольнасці гаспадыні. Заканчвалася, як заўжды, шчырым і непрытворным:

— Іосіфаўна! Васільевіч! Вы нам, дасць Бог дажывём, толькі акажыцеся. І выкапаем і знясём картоплю. Прыйдзем усе, як адна.

Любіла і ўмела маці прывеціць гасцей, блізка прымала да сэрца чуллівае слова і не шкадавала ўласнай сардэчнай цеплыні. Пагаманіць з ёю наведваліся не толькі суседкі. А мова яе каларытная, з безліччу прымавак і прыказак, і пасённяшні дзень застаецца для мяне ўзорам.

— Кажаш, дзіцятка, ажаніцца надумаў? — маці схілілася над сталом, падперла левай рукой, з вузлаватымі суставамі ў пальцах, дачасна пасівелую галаву, уздыхнула і ціха вымавіла:

— Некалі казалі так: калі любіш — ажаніся, а не любіш — адкасніся. Ты, сынок, ужо сталы, рашай сам. Табе з ёю жыць. Абы дзяўчына была не гультай, не лом які. І каб была клапатлівая маці сваім дзецям.

— Правільна, сын, маці кажа, — загаварыў, падвесялелы пасля выпітага, бацька. — Тут мы табе слабыя дарадцы. Каб толькі не было гэтага: жэняцца — скачуць, разводзяцца — плачуць. Ажэнішся — жыві. І рабі. Бо гультай горш за любога калеку. Вось мы з маці на зямлі, як краты, корпаемся. А ведаеш, які самы лепшы гной для зямлі? То, я табе скажу. Людскі пот. Зямлі трэба часцей кланяцца і падліваць яе потам, тады яна будзе радзіць. Ты галавою сваёю на хлеб зарабляеш. Сам абраў гэты хлеб. Думаеш, я не ведаю, што галавою працаваць цяжэй, чым рукамі? Ведаю. Але ўпрогся, то цягні свой воз.

— Ты, стары, выпіў, дык балбочаш, што сліна да губ і ўсё без толку, — перапыніла маці захмялелага бацьку. — Дай дзіцяці адпачыць з дарогі, і сам прыляж на хвілінку. Пагаворым пасля.

— Я? Прылегчы? Ты што, маці?! Пайду плот падпраўлю, каб чужыя куры не лазілі.

Ніколі не бачыў, каб бацька калі-небудзь сядзеў без справы ці, тым больш, пераліваў з пустога ў парожняе. Невысокі ростам, але жылісты, цягавіты, высільваўся на цяжкай працы, не даваў рукам спакою, можа, таму дачасна і надарваўся. А яшчэ любіў ва ўсім парадак і прывучаў нас, чацвярых дзяцей, да акуратнасці і дысцыпліны. У яго кожная рэч ведала (так, так, ведала!) сваё месца. Неяк пабаранаваў бульбянішча, распрог каня і наказаў мне занесці ў ток лейцы і павесіць на цвік. Павесіў іх, клятыя, ды не на той цвік. Адпаведна, зарабіў на арэхі і запомніў тое на ўсё жыццё.

Пасля тлумнага горада і бязладнага быцця ў ім вясковыя ціш і спакой падаліся нязвыклымі. Першыя дні ўсё рупіла кудысьці ісці, спяшацца штосьці рабіць, часам лавіў сябе на думцы, што апынуўся ў нейкім нерэальным свеце. Аднак жа і тут жыццё не было ціхай затокай, кіпелі паўсюдна страсці, ды яшчэ якія! Мне заўсёды цікава слухаць байкі пра памяркоўнасць і талерантнасць сваіх землякоў. У стварэнні гэтага міфа ёсць унёсак і журналістаў, і пісьменнікаў. Як на маю думку, дык хвалёная рахманасць трымаецца на трох словах-кітах: перамаўчы, перацярпі, перачакай. Гэта, сапраўды, у прыродзе нашага чалавека. Магчыма, таму навучыла цяжкае жыццё продкаў у няпростых умовах існавання (навокал балоты ды лясы). Магчыма, гэткая жыцейская хітрасць — пастаянна прыкідвацца прастакаватымі і прастадушнымі, каб лягчэй было абвесці вакол пальца чужака... Аднак, нельга бясконца прыкідвацца памяркоўным, калі ўнутры бушуе вулкан. Так можна і з глузду з’ехаць. Таму мае землякі вынайшлі простае выйсце сваім пачуццям — самаедства.

Колькі сябе помню, вяскоўцы, акрамя цяжкай працы, жылі плёткамі, нагаворамі, звадамі. Было гэта пры дымным і цьмяным святле лучыны, засталося і пры блакітным святле экрана тэлевізара.

Учора паслала маці ў краму па дробязныя пакупкі, іду сабе па знаёмай з дзяцінства да драбніц вуліцы, прыкмячаю і навацыі. Паціху дайшоў да перакрыжавання вуліцы і, прыемна ўражаны, спыніўся. Перада мной паўстаў новенькі, зроблены з дуба, праваслаўны крыж. Пакрыты лакам, з накінутым беласнежным кужэльным вышываным ручніком і вяночкам з жывых, яшчэ не завялых, чырвоных гваздзікоў, выглядаў надзвычай святочна і кранаў да глыбіні душы. Запыніўся, трошкі пастаяў у роздуме, перахрысціўся ўкрыжаванаму Збаўцу і падаўся па сваёй патрэбе.

Вярнуўся з крамы, першым чынам спытаў у маці: хто ж гэта здагадаўся адштукаваць і паставіць такі хвацкі крыж?

— А на тым перакрыжаванні, сынок, ты павінен помніць, крыж стаяў здаўна. Пасля струхлеў, абваліўся і следу не засталося, — ажывілася маці. — Цяперака, вось, Рушэвіч, ты яго ведаеш, Люсін муж, нядаўна пайшоў на пен-

сію і падахвоціўся, каб яму Бог даў здароўя, новы паставіць. Зрабіў усё сам, без памагатых. Забетанаваў, агароджай абнёс, каменьчыкаў нанасіў, дарожку імі выслаў. Зрабіў усё як мае быць. Нават бацюшку з раёна прывёз, каб той асвяціў. А колькі ж нацярпеўся чалавек з-за людскіх паскудных языкоў!

— Як гэта нацярпеўся? Добрую ж, прыемную Богу справу зрабіў, — шчыра здзівіўся я.

— Няхай цябе, сынок, Бог крые ад усялякіх плётак і нагавароў, — ужо сумна працягвала маці. — Сабака ўкусіць чалавека, калі гэты сабака не шалёны, то нічога, усё зажыве. Даў таму сабаку пакусаную руку ці нагу палізаць языком і рана загоіцца. А вось калі чалавек укусіць чалавека, то мoжа і ў магілу загнаць. Ці ведаеш ты Тэклю Газмен? Ведаеш. Дык вось... Яна першай пусціла пагалоску, што Рушэвіч хворы на гэту самую, не хочацца нават гаварыць, але, не тут кажучы, хваробу — рак. А таму, каб уратавацца і выпрасіць у Бога выздараўлення, і паставіў гэты крыж. Пайшла плётка па ўсёй вёсцы, і людзі ўжо казалі, што і сын, ён жыве ў Мінску, хворы... І маленькі ўнучак Рушэвічаў хворы на рак... Чаго ж толькі не наплялі на нявіннага чалавека! Каб ім дабра не было, — узрушана скончыла маці.

— І не баяцца людзі Бога, — уражаны пачутым, не стрымаўся я.

— Якое там баяцца! Тая ж Газменіха, ведаеш, што выкінула? То я табе раскажу. Пачакай, каб толькі з тропу не збіцца... Ага. Ляжала яна ў раённай бальніцы. Ну і прыйшлі баптысты, а можа, так хто. Тэкля казала, што баптысты. Прынеслі святыя кніжкі, маліліся за здароўе хворых. Ёй далі Новы Запавет. То ведаеш, што яна з ім зрабіла? Не давядзі Божа хадзіць з такім чалавекам па адных сцежках. Як вярнулася з лячэння, парвала на часткі і павесіла на цвік у туалеце...

— Мама! — не стрымаўся, усклікнуў я. — Выдумка гэта... Выдумка!

— Дальбог, сынок, было такое, — пакрыўдзілася маці. — Прыйшла да Газменіхі пачасаць языком Ганна Пурышкевічыха. Сядзела, сядзела і прыспічыла кабеце ў туалет. Пайшла, а там і вісіць на цвіку... Вой, грэх які... Не буду больш і казаць, што вісела. Ганна зняла з цвіка, схавала пад кофту, а пасля ўсёй вёсцы паказвала.

Праз два дні напаткаў на вуліцы, з доўгім арэхавым вудзільнам у адной руцэ і маленькай кансервавай бляшанкай з чарвякамі — у другой, Рушэвіча. Павіталіся. У чыстай, з расшпіленым каўняром і закасанымі да локцяў рукавамі, белай сарочцы, нават порткі адпрасаваныя і чорныя чаравікі начышчаныя гуталінам, хаця і прыцярушаныя шэрым пылам.

— Сёння вялікае свята, яблычны Спас, — патлумачыў ён. — Не хочацца грашыць, рабіць што-небудзь. Вось і надумаў схадзіць на азярцо. Пасяджу з вудай, можа, злаўлю якога карася. А не злаўлю, таксама, не вялікая бяда.

— Добры вы, дзядзька, крыж змайстравалі! — ад душы пахваліў чалавека.

Рушэвіч нетаропка паставіў таўсцейшым канцом вудзільна на зямлю, прыхіліў яго да свайго левага пляча, бляшанку з чарвякамі сунуў у кішэню і дастаў з нагруднай кішэні сарочкі пачак цыгарэт «Мінск». Шчоўкнуў пазногцем па раскрытай пачцы і тры цыгарэты выпаўзлі вонкі.

— Частуйся, — прапанаваў ён. — Калі курыш...

— Грашу, — шчыра прызнаўся я і ўзяў цыгарэту, хоць меў у запасе і свае.

Рушэвіч неяк загадкава ўсміхнуўся, шчоўкнуў запальнічкай, спачатку даў мне прысмаліць, а пасля прыкурыў сам. Рукі яго былі спрэс, да самых локцяў, у сініх наколках.

— Хадзем са мной, — раптам прапанаваў ён. — Пасядзім, пабалакаем.

Азярцо, куды мы кіравалі, насамрэч, было даволі вялікай сажалкай, гадоў з дзесяць таму выкапанай меліяратарамі, калі з тутэйшага балота вывозілі на калгасныя палі торф. Напачатку даволі глыбокая, метраў з пяць і метраў на трыццаць у шырыню і даўжыню, з цягам часу сажалка пачала зарастаць чаротам. Ды і берагі спакваля спаўзалі, рабіліся топкімі і гразкімі. Але, дзесьці там, пад мутнаватай вадой, біла халодная крыніца, якая і не давала гэтай, па сутнасці, канаве канчаткова заплыць глеем і торфам.

— Гэта я сюды малькоў запусціў, — не ўтрываў, пахваліўся Рушэвіч, калі адшукалі сярод крапівы і асоту прыдатнае месца і прымасціліся. — Каб шпана не выграбала таптухамі, была б рыба. А так...

Ён скінуў сарочку, і я быў нямала здзіўлены яго худзізной. Аднак, прыгледзеўшыся лепш, зразумеў, што памыляюся. Гэта была асаблівая сухарлявасць, без аніводнага лішняга грама тлушчу. Ён быў нібы спавіты жыламі, якія бугрыліся па ўсім яго мускулістым торсе, плячах і руках. «Не дзіва, што, ідучы сюды, ледзьве пасяпваў за ім, — падумаў я. — Нездарма кажуць, што роўных яму ў рабоце на вёсцы няма».

— Крыж, кажаш, добры? — з-за пляча махнуў вудзільнам, закінуў паплавок з гусінага пяра на самую сярэдзіну сажалкі, спытаў, бытта працягваў гаворку. — Доўга я ішоў да гэтага крыжа...

Наскокам, гады ў рады бываючы ў роднай вёсцы, я і пра жыццё-быццё аднавяскоўцаў мала што ведаў. А пра Рушэвіча тым больш, паколькі ён не тутэйшы чалавек. Ажаніўся на дзяўчыне з нашай вёскі і пераехаў сюды з райцэнтра. Працаваў трактарыстам, ладзіў людзям печы, цяслярыў... Словам, не цураўся ніякай работы.

—- Ты, кажуць, журналіст? — дапытлівы позірк з-пад густых і бялёсых броваў.

— Так, журналіст. У водпуск вось прыехаў.

— Я на зоне чытаў запоем. Каб не звар’яцець, — буднічна сказаў Рушэвіч. — А тут і пагаварыць няма з кім. У людзей адзін клопат: як пракруціцца. А яшчэ, каб украсці што. Цярпець не магу злодзеяў! На зоне нагледзеўся і наслухаўся. Малакасосы, пшыбздзікі, ім яшчэ парыцца ды парыцца, а яны збяруцца кучкамі і прыкідваюць, як па-новаму, больш хітра, будуць красці на волі. Здаецца, галовы паадкручваў бы…

— А як жа вы там апынуліся? — не ўтрываў, усё ж пацікавіўся я.

Рушэвіч уваткнуў вудзільна ў мяккі тарфяны бераг і палез у кішэню па цыгарэты. На гэты раз не стаў мяне частаваць. І правільна! Кожны курэц павінен мець сваё курава. Я таксама дастаў пачак «Космасу» і задыміў.

— З пятнаццаці гадоў стаў праўду шукаць, — з’едліва пачаў ён. — І ўсё больш з дапамогай кулакоў. Ледзь якое нахабства, хлусня, свінства, адразу ж у «пятак». Гарачы быў. У шаснаццаць гадоў апынуўся ў Туркменіі. Пасля Далёкі Усход... Сібір… Дзе толькі мяне не насіла! У руках трымаў, панятна, не пяро, а кувалду і лом. Але людзей пішучых паважаю... Толькі б праўду пісалі і гаварылі, а не гналі паражняк. А праўды, дарэчы, няма. Пра простага чалавека ніхто не думае. Наламаў дроў шмат. Дзве ходкі на зону... А пасля апамятаўся: калі на зямлі няма праўды, то дзесьці ж яна павінна быць? А дзе яшчэ, акрамя неба? Кінуў выпіваць і махаць кулакамі. Трынаццаць гадоў ужо — ні кроплі ў рот. Так, зрэдку, нешта наплыве, неспакойна стане на сэрцы і душы, завару, па старой памяці, чыхіру... А крыж? Гэта, калі пamру, каб людзі помнілі. Як ты думаеш? Успомняць добрым словам?

— Абавязкова! — горача адгукнуўся я. — Нават ведаю, як будуць казаць: Рушэвічаў крыж... Сустрэнемся каля Рушэвічавага крыжа...

— А можа, і не ўспомняць, — раптам спахмурнеў мой суразмоўца і ўжо са злосцю працягваў: — Я, пакуль стаўляў крыж, усе нервы парваў. Мала таго, што ніхто пальцам не паварушыў, каб дапамагчы, дык жа яшчэ сляпіцай у вочы лезлі. Аднаго недавярка давялося пасадзіць на задніцу. Ты яго наўрад ці ведаеш… Едзе на возе, заліўшы вочы, і абавязкова спыніцца: «Ты что, зек, делаеш?» Вось так адзін раз, другі, трэці... Зек і зек... Хаця і па-руску і па-беларуску кажуць — зэк. Ну, думаю, пачакай, спаўзеш жа ты калі-небудзь са сваёй драбінкі. Так яно і сталася. На добрым падпітку ехаў, запыніўся і, бачу, намацвае нагой аглоблю, каб сысці. Прысунуўся і свае пяць паскудных капеек: «Ты, что, зек, делаеш?» Якраз дожджык церусіў і наўкола ніводнай жывой душы не відно. Ну, не доўга думаючы, і заехаў я яму ў лыч. Сеў у лужыну на пятую кропку і каб слова. Ледзьве на драбінку ўскараскаўся. З таго дня мову адняло, мінае мяне і дубцом па кані, па кані, толькі б хутчэй з вачэй. Дастаў ён сваім «зекам».

Рушэвіч раптоўна змоўк, выцягнуў з берага вудзільна і шморгнуў з вады леску. Нетаропка падправіў чарвяка на кручку, трошкі падумаў, тры разы цьфукнуў на яго, а пасля размахнуўся і зноў закінуў паплавок на самую сярэдзіну сажалкі. Павярнуўся смуглым, скуластым тварам да мяне і зацікаўлена спытаў:

— Калі б Богу не была даспадобы мая задума, паставіў бы я крыж ці не? Як думаеш?

Я не чакаў такога пытання, а таму на нейкі момант нават разгубіўся, спахапіўся і пачаў таропка пераконваць Рушэвіча, што на ўсё сапраўды ёсць воля Божая.

— А я гэта і сам ведаю, — хітравата ўсміхнуўся ён. — Таму і за «зека» са спакойным сумленнем з’ездзіў у рыла. Не хочаш прыкласці рук, то і на душу не капай. Зек... Зек... Я, калі выпіваў, часам буяніў. Людзі з-за гэтага костачкі перамывалі. Трынаццаць гадоў як «завязаў», у рот не бяру, а плётак і звадаў менш не стала. Як абмывалі задніцу, так і абмываюць. Мабыць, справа не ўва мне, а ў іх саміх. Піў — ляскалі языкамі, але цешыліся. Кінуў піць — яшчэ горш для іх — няма да чаго прычапіцца. Значыцца, трэба шукаць любую зачэпку, каб папсаваць кроў. Эх, людзі, людзі... Што вам трэба? Чаго не хапае?

Адказаў на гэтыя пытанні я не ведаў тады, не ведаю іх і па сённяшні дзень. А таму, спаслаўшыся на тое, што хачу паглядзець, ці не вырас які грыб у бліжэйшым невялічкім бярэзніку, устаў на ногі і, цярэбячыся скрозь зараслі быльнягу, усё ж выбіўся на вузкую, крывую сцежку. У галаве былі не так грыбы, як жаданне падняцца на Бухвалаўскую гару і пасядзець на тым месцы, дзе адпачываў некалі той маўклівы няўдаліца-землякоп калодзежа.

Левы схіл гары парос густым, зблытаным арэшнікам. Лясны арэх, ці, ляшчына, калі верыць старажытным мудрацам — маё дрэва. Менавіта яно блізкае мне па біяэнергетыцы, а таму станоўча ўплывае на самаадчуванне. І сапраўды, нідзе так добра не пачуваюся, як у пераплеценых кустах арэшніку. Гэта яшчэ цягнецца з дзяцінства, калі днямі, з торбачкай на шыі, як малпа, лазіў па высокіх арэшынах і зрываў гроначкі цёмна-жоўтых лушчанцоў. Не ўтрываў, падышоў да лапушыстага куста, прыгнуўся і стаў выглядваць ласунак. На жаль, арэхі, як правіла, бываюць праз тры на чацвёрты год. Гэты год быў не ўраджайны.

Прысеў трошкі воддаль, так, каб нішто не замінала бачыць студню. Вось яна, паіліца людзей, і не толькі іх. Той жа Рушэвіч змайстраваў над ёю, каб не

зацякаў дождж, стрэшку. А дзе ж цяпер сам гаротнік землякоп? Цікава было б ведаць, пра што былі яго думкі, калі спачываў тут, на гары? Пэўна ж, не надта вясёлыя... А наўкола пахла чаборам. Цэлая паляна фіялетавых невысокіх таўкачыкаў, хоць касой касі. Упадабала духмяная і лекавая, незаменная для прыгатавання гарбаты, кветачка сонечны і пясчаны пагорак.

Раптам падалося, што там, унізе, пад гарой, за кустамі не відаць, хтосьці ці то стогне, ці то крэкча. Па праўдзе кажучы, спачатку, калі прыслухаўся да звону ў вушах, нават падумаў, што гэта звер які. Калі б такое надарылася ноччу, а не ясным, сонечным жнівеньскім днём, напэўна, спужаўся б. Цікуючы і асцярожна ступаючы, пачаў спускацца з гары на гэтыя ўнутраныя, з падвываннем гукі.

Мясціны тутэйшыя ведаў як свае пяць пальцаў. У дзяцінстве ганяў на пашу амаль штодня карову Лысуху. Сюды ж прыбягаў, каб нарваць трусам сакавітай асакі, якая расла па беразе рэчкі, пры самай вадзе. Зрэдку пасылала маці па лапушысты чэмер, найлепшы сродак супраць рознага паскудства, якое вадзілася ў вясковых хатах пасля вайны. Чэмер рос купкамі, на сушэйшым, але таксама непадалёку ад вады. Пад самай гарой бруіліся празрыстыя і халодныя крыніцы.

Вось тут, сярод ледзь не ў рост чалавека скрыпеню, крынічніку, аеру, арудаваў рыдлёўкай глуханямы Вінцэсь. Пазнаў яго адразу ж, хоць той стаяў сагнуўшыся і бокам да мяне. У гумавых ботах і ватоўцы (у такую сухмень!), глуханямы раз-пораз кулаком падбіваў пляскатую, выцвілую кепку, што спаўзала на вочы, зрэдку выпростваўся, азіраўся, ступаў крок-два ў адзін ці ў другі бок, пасля, цяжка крэкчучы, насядаў на рыдлёўку. «Валяр’ян капае» — здагадаўся па спецыфічным густым паху.

Я не спяшаўся выходзіць са сваёй засады. Стаіўся за кустом арэшніку, назіраў. Вінцэсь нарадзіўся здаровым, быў як усе дзеці. Але яшчэ задоўга да вайны захварэў на тыф. Хто, цяпер ужо і не скажаш, параіў маці пакупаць малога ў халоднай вадзе. Цёмная вясковая кабета, шукаючы паратунку, так і зрабіла. Боўтнула амаль беспрытомнае дзіця ў бочку з ледзяной вадой і сама жахнулася: толькі ледзь чутна піснуў малы ды слабенька заплёскаў ручкамі. І анямеў. Жыць застаўся, але анямеў і аглух.

Нягледзячы на перанесеную хваробу і нішчымніцу, вырас Вінцэсь здаравенным мужчынам. Высокі, шырокі ў плячах, на людзей глядзеў даверліва, з дзіцячай дабрынёй. І не было ў вёсцы лепшага сціртавальшчыка! Брыгадзір у гэтай справе давяраў няמому самую адказную работу — завяршэнне сцірты. Звычайна, першымі не вытрымлівалі жанчыны, пачыналі сварыцца, паказвалі мігамі, каб злазіў, бо цяжка было закідваць на вышыню сена. А ён, як бусел, самавіта паходжваў, падпраўляў, раўняў, прыхарошваў сцірту і, у рэшце рэшт, усцешаны, з’язджаў на спіне на загадзя падрыхтаваную капу сена. І ўжо ніякі дождж ці буран не страшныя былі сцірце. Пастаўленыя ім на лугах і аселіцах, яны радавалі вока сваёй завершанасцю, правільнасцю формаў. Напэўна, гэту прыгажосць адчуваў і сам Вінцэсь, інакш які быў сэнс так шчыраваць?

Глуханямы выпрастаўся, зняў кепку, бліснуўшы на яркім сонцы глянцавай лысінай, і, быццам адчуўшы, што ён тут не адзін, зірнуў у бок арэшніка. Давялося ўнурыць галаву ў плечы і прысесці на кукішкі каля куста. Вінцэсь дастаў капшук з махоркай, скруціў цыгарэту, нетаропка прыкурыў. Пыхнуў шызым едкім дымам і нечакана замахаў перад тварам, над галавою рукамі, злосна штосьці загергетаў. «Пчолы дыму не ўзлюбілі», — падумаў я. Бaронячыся, выпусціў самакрутку, тая ці не раскруцілася, бо нямы злосна тупнуў ботам, дастаў капшук і пачаў круціць новую.

Я не стаў перашкаджаць чалавеку займацца важнай справай, хоць закралася сумненне: а ці адцвіў валяр'ян, каб яго можна было нарыхтоўваць?..

Рушэвіча каля сажалкі не застаў, мабыць, рыбалка была не вельмі ўдалай і ён, страціўшы цярпенне, падаўся дахаты. Мяне таксама нічога тут не затрымлівала. Пахадзіў па родных мясцінах, прыгадаў басаногае дзяцінства, трошкі пашчымела сэрца — і досыць…

— Мой водпуск, Бім, заканчваўся і праляцеў ён нібыта адзін дзень. Атрымаў ад бацькоў блаславенне на магчымую жаніцьбу, а на іншае, матэрыяльную дапамогу, я не разлічваў і пачаў збірацца ў горад. Акрамя сумкі з вясковымі прысмакамі вёз і нешта больш важкае: у душы — родны кут. Таму слухай і ўнікай.

*Без пяці мінут настаўнік беларускай мовы і літаратуры (няхай будзе — Андрэй Ляшкевіч) едзе на замурзаным аўтобусе да бацькоў на летнія вакацыі. Пакуль наш руплівец калываецца па пыльнай дарозе, самы час бліжэй прыгледзецца да яго.*

*Настрой у хлопца неблагі. Пасля пакутлівых развper_aжанняў выбраў тэму дыпломнай работы. Тэма патрыятычная і адначасова ўзнёслая: «Творчасць Уладзіміра Караткевіча — яскравы прыклад служэння Радзіме».*

*Андрэй — натура ўражлівая і чуйная, нават рамантычная. А як жа інакш! Дзелавыя, ухватістыя хлопцы сёння грошы куюць, а ён сам сабе намаляваў такую няпэўную будучыню. Каб не жыў паэт у душы, хіба на такое можна адважыцца? Праўда, точыць чарвяк, ой, точыць нутро. У кожны свой прыезд хлопец пільна ўзіраецца не толькі ў знаёмыя з маленства краявіды, але прыглядаецца да вяскоўцаў, іх жыцця. Нібы хоча прыдушыць таго чарвячка, цыкнуць на яго, каб не дакучаў.*

*Тое-сёе з пачутага і ўбачанага радуе, натхняе, абнадзейвае. Шмат што бянтэжыць, засмучае, цісне на грудзі. Тады паганы чарвяк ажывае, квеліць душу, казыча сэрца. Можа, падсвядома, а хутчэй зусім асэнсавана, Андрэй пакутліва аналізуе жыццё вёскі і вяскоўцаў. Хоць сам сабе не прызнаецца, а робіць гэта дзеля яго, чарвячка.*

*У такія горкія хвіліны возьме і паразважае. Вось свеціць сонца. Яго ласкавае цяпло патрэбна людзям. А ці атрымлівае асалоду ад сваёй нястомнай працы яно само? Зелянее трава-мурава. Яна ж не так сабе песціць вока. Ці скардзіцца на свой лёс, калі кладзецца ў пракосы? Трэліць птушка, пахне кветка, зноў-такі сабе ў ахвотку і на замілаванне людзям. А чалавек? Канкрэтна ён, Андрэй Ляшкевіч, і яго навука? Прынясе карысць людзям і ўсцешыць сваю душу? Ці ўсё кату пад хвост?.. Чарвячок, аказваецца, няпросты, усяляе трывогу, хваляванне. Каб ён спрах, гэты чарвяк!..*

*Андрэй любіць сваю зямлю і ўсё, што на ёй жыве-дыхае. Яшчэ любіць Слова. Не лішне будзе, так мяркуем, вынесці на суд шаноўнага чытача яго спробы праявіць сябе ў прыгожым пісьменстве. Не, вершаў ён не піша. А што тычыцца прозы, то трошкі крэмзае. Як атрымліваецца? Быццам, няблага... Першая спроба пяра і, вядома ж, пра Слова. Дакладней, пра Слова і яго ратавальнікаў, студэнтаў. Андрэй перакананы, што будучыня беларускага слова ў руках мажлівых настаўнікаў, аграномаў, урачоў, эканамістаў, інжынераў, юрыстаў, палітыкаў...*

*А каб Слова глыбока ўкаранялася і вечна жыло, яму патрэбна маліцца. Як гэта рабіць і што гаварыць? А вось так, як ён, Андрэй, выпакутаваў:*

*Малітва студэнта Слову*

*«Любае, шаноўнае Слова! Вітае цябе студэнт Андрэй, нізка кланяецца, схіляе сваю галаву. Хачу пакаяцца за ўсе здзекі, што чыніліся і чыняцца над тваёй святасцю. Даруй нам, недаваяркам, грахі нашы цяжкія, за тое, што не шануем, нявечым, калечым, ганьбуем цябе.*

*Ты ж, Слова, маеш душу, сэрца і розум, смак і колер, цану і вагу, сілу і аўтарытэт, бываеш пяшчотным і гнеўным, салодкім і горкім, цнатлівым і гаючым, цярплівым і ўтрапёным, добрым і злосным, гарачым і халодным, жыватворным і смяротным...*

*Ты, Слова, было першым. Ты нам Госпадам дадзена на векі вечныя. Каб нам добра жылося, працавалася, пілося, елася і яшчэ хацелася. Каб з роду ў род у нас не нараджаліся нямтуры і самаеды. Каб добрыя людзі хінуліся да нас, а мы да іх. Каб мы і нашы дзеткі славілі Бога, неба і зямлю, прызнаваліся ў каханні, радаваліся і гаравалі, смяяліся і плакалі, шчыравалі ў працы і адпачывалі, нараджаліся з табою і дзеля цябе, Слова.*

*Табе, Слова, цяжка. Ты, нібы рыба, выкінутая з вады на бераг рэчкі, нібы кветка, вырваная з карэннем, быццам вольны чалавек за кратамі! Але ты, Слова, не адчайвайся. Мы, студэнты, уратуем і зберажом цябе. Нас многа, мы маладыя, няўрымслівыя, дужыя, апантаныя. Мы цябе, Слова, любім і захаваем...»*

*Вось такая малітва Слову атрымалася ў Андрэя. А цяпер скажыце: хіба хлопец не рамантык? Яшчэ які! То што з яго узяць... Ён жа яшчэ і не на такое здатны! Думае, калі ён да людзей з адкрытым сэрцам і душою, чыстымі думкамі, дык і яму павінны плаціць тым жа. Не, браце, так у жыцці не бывае. Лепш рот трымай на замку, сапі ў дзве дзіркі, варушы сваю справу, а там — Бог-бацька. Хіба ён прыслухаецца да добрай парады? У яго сваё ў галаве, сваё карціць, ён сваё гне.*

*Але ж і чаканы аўтобус ужо навідавоку. Выкаціў з-за таполевых прысад. Як там наш Андрэй пачуваецца? Нічога, дзякаваць богу. Пружыніста скочыў на зямлю, камусьці адсалютаваў рукою, ускінуў на пляччо спартыўную сумку. Белабрысы, стройны, нават хударлявы. Загарэлы, валасы русыя, кароткія, але густыя і шорсткія. Позірк дапытлівы, але не дзёрзкі. І ў гуморы. Толькі носам круціць. Гэта аўтобус патыхнуў смуродам і пакаціў да цэнтра калгаса. Аблачынка едкага дыму рассеялася, запахла гаркаватым дымам. Нічога, Андрэй, душу сваю адвядзеш і ўлагодзіш у лесе.*

*Лес — рукой падаць. Перайшоў дарогу, два крокі — і ты нібы нанава нарадзіўся. Ісці два кіламетры. Так сведчыць указальнік, і ты гэта добра ведаеш...*

*Насыпная, торная, утрамбаваная коламі аўтамабіляў, трактароў, фурманак даволі шырокая дарога. Паабапал — векавы яловы лес з густым пахам смалы і кары. Пракідваюцца ніцыя бярозы і трапяткія асіны, скрозь купчасты арэшнік, а там-сям імкнуцца ўвысь разгалістыя дубы, іх тут сойкі «пасадзілі». Гэтак жа як рабіну, а яна тут таксама сустракаецца, «пасеялі» дразды.*

*А хто гэта грукоча, ажно рэха па лесе ляціць? Мабыць, лясны доктар? Трэба пацікаваць, што за штукар.*

*Андрэй саступіў з дарогі, па мяккай, пачарнелай мінулагодняй лістоце і шыльніку крадком ступае, дыхае прэласцю і сухасцю векавога лесу. Шчэміцца на зацяты стукат. Змахнуў з твару павуцінне і залюбаваўся на маладую ялінку. Яшчэ тонкая і кволая, невысокая, у яго рост, скрозь аблытана танюсенькімі, бліскучымі ад расы, ніткамі-павуцінкамі. Вешай цукеркі, чырванабокі*

яблык — і вось табе гатовая навагодняя ёлка. Гэта, Андрэй, не душны горад з расплаўленым асфальтам, задушлівым пахам гудрону і СО . Тут лес з усім сваім багаццем водараў і гукаў. Не проста лес, а лес твайго дзяцінства, дзяцінства твайго бацькі, дзеда і прадзеда.

Трэснуў сухі сук пад нагою — і дзяцел змоўк. Сцішыўся і Андрэй. Прыхінуўся плечуком да шурпатай кары старой хвоі, чакае. Немаведама чаго ў грудзях моцна закалацілася сэрца. Усміхнуўся: «Як дзіця». Дзяцел зноў зашчыраваў, ужо зусім побач. Не кранаючыся з месца, задраў галаву, паўзіраўся. На зламанай бурай тоўстай, у абхват, асіне прыліп да ствала і цяслярыць чорны дзяцел. Верхавіна асіны валяецца непадалёку і ўжо струхлела. Ды, Бог з ёю, з верхавінай! Жаўна! Чорны дзяцел! Не так часта пашчасціць сустрэць. Дзівосны экзэмплярчык! Вялікі, з галку, сапраўды чорны, як смоль, ажно блішчыць, з чырвонай шапачкай на цемені, выліты кардынал-каталік. Доўгай светлай дзюбаю крышыць ствол, ажно трэскі ляцяць. То на момант сціхне і, як злодзей, дзікавата вызірне з-за ствала.

Андрэй не хацеў яго пужаць, але аступіўся, ледзь не грымнуўся, нарабіў шуму. Дзяцел узляцеў на самы верх высокай кудлатай елкі, трывожна і прарэзліва закрычаў: ткля-я!.. На яго мове, мабыць, гэта — небяспека. А можа, што іншае сказаў добраму лесу і яго насельнікам.

Пакуль выкіроўваў з гушчару, натрапіў на сонечную сунічную палянку. Паміж рэдкага папаратніку чырванелі буйныя духмяныя ягады. Не ўтрымаўся, паставіў сумку, назбіраў жменю і, каб адчуць асалоду, па каліву кідаў сабе ў рот. Падсохлая сямейка рыжых лісічак выклікала лёгкі сум — ні сабе ўцехі, ні людзям радасці: даўнавата дажджу не было.

Дарога паварочвала, і адразу пачынаўся стромкі спуск з высокай гары. Унізе, у глыбокай седлавіне, цячэ ціхаплынная рэчка Вуса. На правым беразе яе прытулілася вёска Павуссе. Адсюль назоў: паВусе. Вада ў рэчцы крынічная, халодная, да ламоты ў зубах. Не зважаючы, дзетвара плешчацца да пасінення. Вуса тут, паблізу, бярэ пачатак, пасля блытаецца паміж аселіц, сенажацяў, лугоў, парослых лесам і хмызам гор і пагоркаў. Утварае маляўнічыя лукі, ажно пакуль не трапіць у абдымкі бацькі Нёмана. Вуса — дачка яго. Пра рэчку згадвае ў сваёй манументальнай працы «Беларусы» Яўхім Карскі. Цвердзіць, што этымалогія назвы мае літоўскія карані. Можа, і так. Для яго, студэнта-філолага, акадэмік Карскі — аўтарытэт беспярэчны.

З гары вёска быццам на далоні. Андрэй прыпыніўся, хацеў трохі памілавацца на гожую панараму, ды зашаргацелі аб пясок колы. Азірнуўся, з веласіпеда спешвалася незнаёмая маладая, са стомленым тварам і чарнатой пад вачамі, жанчына.

— Мусіць, баіцеся ехаць з гары? — адказаў на прывітанне і весела пацікавіўся Андрэй.

— А то как же! Гора-то крутая-то,— адказала і ўсміхнулася жанчына.

Сумненняў быць не магло: з прыезджых. Іх тут, у цэнтры калгаса, атабарылася за апошнія гады шмат. Чыста руская мова сведчыла, што прыехала здалёку. Ёсць сярод перасяленцаў людзі працавітыя, прыстойныя, але як і сярод нас, гультаі. А што мова, дык кожнаму народу яе Бог дае. І не трэба проціпастаўляць мовы, як часам мы робім. А калі хто пагарджае сваёй, дык сам і вінаваты... Яны спускаліся з гары побач, і Андрэй, каб нешта сказаць, не маўчаць, як вады ў рот набраўшы, спытаў:

— Па якой патрэбе да нас? Калі не вялікі сакрэт...

— Та, ведь Катерина-то ногу сломала. Вот здесь, на горе-то. Тормоза-то отказали у велосипеда. Я теперичe почту вожу...

*Кацярыну Казека, іхнюю паштарку, ён, вядома, ведаў. А вось што яна знявечылася, пачуў упершыню. Дзіва што, два месяцы не наведваўся да бацькоў. Сесія, пасля тлум з дыпломнай...*

*— А Ляшкевічам маеце што даць? То я забяру, каб вам не ехаць у канец вёскі...*

*Спытаў, хоць добра ведаў, ёсць. Выпісаў бацькам, праўда, за іхнія грошы, адну рэспубліканскую і раённую газеты.*

*Жанчына прыпынілася, не знімаючы з руля веласіпеда тонкі цэлафанавы пакет, закорпалася ў ім, зашалясцела, дастала газеты і працягнула хлопцу. Нетаропка спусціліся ўніз, на мосце цераз рэчку паштарка села на свой рыпучы веласіпед, націснула на педалі, паехала. Андрэй, так ён заўжды рабіў, калі пераходзіў мост, абапёрся на іржавую металічную парэнчу, прыслухаўся да роўнага шуму вады цераз плаціну. Унізе, там, куды падала вада, паміж цёмных камянёў і каменьчыкаў паблісквалі серабрыстай луской печкуры, выгіналіся вусатыя сліжы і верацяніцы. Далей, па цячэнні, рэчка раздвойвалася і ўтварала невялікі астравок з высокімі і густымі купінамі асакі. Там і сёння ў задуменні прыпыніліся на сваіх доўгіх чырвоных нагах два буслы.*

*Андрэй крыху пастаяў, затым падаўся да сваёй вёскі. Каля магазіна сабраліся ў гурт і балабонілі вясковыя кабеты. Трошкі воддаль, пад Марыльчынай ліпай, сядзелі на лаўцы і частаваліся байкамі мужчыны. Яшчэ здалёк хлопец пачуў брудную лаянку. Знаёмы крыклівы голас Тэклі Газмен, першай у вёсцы пляткаркі і звадыякі, прысадзістай бабы-кадушкі, з чалмой (так яна павязвае цёплую чырвоную хустку) на галаве. Як толькі ў такую гарачыню качан не адапрэе! Лаецца на чым свет стаіць, з нагоды і без, дома і на вуліцы, пры дзецях і старых. У мінулы свой прыезд Андрэй падслухаў, як яна тут жа, ля крамы, апавядала жанчынам пра свае адведкі, быццам бы хворай Кацярыны Крыцкай, таксама нястрымнай на язык. Вечарам, седзячы ў святліцы, паспрабаваў перадаць тое на паперы. Лаянку пазначаў шматкроп'ем. Вось што атрымалася.*

*— Прыходжу... А яна... сядзіць раскірэчыўшыся... Тэлевізар... глядзіць... ...Рэйтузы рваныя... На стале... скаварада... з салам. У хаце... чорт нагу... зломіць...*

*Самому стала агідна, кінуў тады ручку. «Бяднее, ой, бяднее духоўнае жыццё вясковага электарату,— самоціцца Андрэй.— Вясковы чалавек паўнее целам, ды худзее душою. Гэта факт».*

*Паслухаць пра што і як гавораць тубыльцы, яго землякі, то і жыць не захочаш. Што ні слова, то мат-перамат. І такія з пяці-сямі слоў будуюць паверхі! Мужчыны і жанчыны, хлопцы і дзяўчаты, нават дзеці. Здаецца, языкі паабразаў бы. Урэшце, і ў горадзе тое самае. Але ў вёсцы мудрэй. Проста нейкае насланнё. Каб з гэтых канструкцый-паверхаў можна было свінарнікі і кароўнікі, ды зернетакі ўзводзіць, мы, мабыць, па архітэктуры і дызайне пераплюнулі б усіх у свеце.*

*— ...Во, гарадскія на свята прыджгалі,— не паспеў Андрэй павітацца, загаварыла Тэкля Газмен і вачамі ўпілася ў хлопца.— Нябось, маці ўжо яечню спякла, чакае. Што, Андрэй, чуваць на белым свеце?*

*«Так я табе і паспавядаўся,— падумаў Андрэй.— Слова скажы, ты дзесяць дапляцеш. Пасля будзеш бегаць пазавуголлю ляскаць языком. Такім дзёгцем выпацкаеш, не адмыешся».*

*— На белым свеце ўсё ў ажуры. Таму ён і называецца белым,— сціпла ўсміхнуўся Андрэй.*

*Такі адказ не сказаць, каб задаволіў звадыяку, яна чмыхнула носам. Толькі хітрыя, круглыя, як у свінні, вочкі, працягвалі абшукваць хлопца.*

*— Мой жа ўнук учора надвячоркам прыехаў, — загаварыла Паўліна Невяроўская, старая, але яшчэ рухавая кабета. — Прыходзь, Андрэй. Заўтра ж Сёмуха, вялікае свята.*

*— Прыехаў Пятрусь? — перапытаў Ляшкевіч.*

*— Прыехаў, прыехаў. Прыходзь, сынок.*

*Усталявалася цішыня. Прыляцеў, закружыўся над галовамі бухматы чмель, жанчыны замахалі рукамі, бзынкалі мухі і авадні. З ліпы лёгкі ветрык сарваў дачасна зжаўцелы лісток, і ён кружыўся ў паветры, падаў. На выгане зарыкала карова, і жанчыны насцярожыліся. Неўзабаве пастух будзе гнаць рагуль з пашы на даенне, і кожнай трэба вылучыць сваю са статку. Уласна, яны тут, каля магазіна, і топчуцца дзеля гэтага клопату. Як і мужчыны, што сядзяць воддаль на лаўцы пад Марыльчынай ліпай. А што выбраліся загадзя? Такая завядзёнка. Дзе і калі, як не тут, пагамоніш, даведаешся пра апошнія навіны-плёткі. Казала-мазала-размазала. Казаў-пэцкаў-выпацкаў. Дзеля гэтага і работа пачакае. Толькі лаўкі няма, каб даць адпачыць навярэджаным нагам. Была, была лаўка. Стаяла вось тут, пад гэтай карабатай знізу і гладчэйшай вышэй, старой высокай бярозай. Зламалі тутэйшыя абібокі. Кабеты іх клянуць. Абібокаў цяпер у вёсцы хапае. Неяк з бацькам пачалі лічыць: колькі на семдзесят двароў маладых хлопцаў і мужчын, якія нідзе не працуюць, а піць — п'юць? Дзесяць чалавек ва ўзросце ад дваццаці да пяцідзесяці гадоў. Жанчын не лічылі. Хаця тыя жлукцяць барматуху мудрэй за мужчын.*

*— Вот, усе кажуць: Сёмуха, свята, — ачуняла Тэкля Газмен. — А людзі летась рабілі. На свае вочы бачыла. Стукалі-грукалі... Ды і якое свята! Вось паглядзіце заўтра. Гэта раней і музыка, і танцы, і маёўкі. А цяпер...*

*— Дык і ты ж летась на Сёмуху корпалася ў агародзе. А твой бязбожнік дровы калоў,— астудзіла праведніцу маладая і бойкая Паліна Уланевіч.— Я таксама на свае вочы бачыла, абгаворваць не стану.*

*Пакуль кабеты не схапіліся за чубы, Андрэй вырашыў лепш падацца да мужчын. Пляткарства, звады — не для яго. Надта ўжо атрутныя. Гэта яшчэ з часоў Адама, ад змея, які спакусіў Еву. У плётках зашмат змяінага яду.*

*Калі ў згорбленай сівой, сухенькай, зморшчанай у крук, з лыжнай палкай у руцэ, цікаўныя дапытваліся колькі гадоў яе ліпе, бабуля Марыля чэсна прызнавалася: не ведаю. І ахвотна пачынала лічыць свае гады. Згадваліся войны, смерці, радзіны і вяселлі… Атрымлівалася дзевяноста. Пры тым бабуля ўпэўнена цвердзіла, што пад гэтай ліпай у маленстве яна гуляла ў хованкі, і дрэва было, як абняць.*

*А ліпа сапраўды на заглядзенне, на ўсю вёску. А можа, нават і на цэлы раён. Роўная, як свечка. Побач стаіць слуп электралініі, то ліпе ён па калена. Каб аперазаць камель, не хапіла б папруг гэтых пяці мужчын, якія зараз сядзяць пад ёю. Знізу шырокая і разлапістая, галіны да самай зямлі звісаюць, бліжэй да верхавіны звужаецца на конус. І густая-густая. Цень і зацішак упадабалі вераб'і. Іх тут — процьма. Крона варушыцца. Бывае, усчыняць гвалт, дык усё наваколле калоціцца. Трохі ліпавы ліст пэцкаюць, ён ажно шэры... Але гэта пакуль ліпа не зацвіце жоўтым, духмяным мядовым цветам. Тут ужо днём гаспадараць пчолы, і ліпа гудзе ад іх. А на ноч кватараваць прылятаюць вераб'і. Пасядзець пад ліпай ды адпачыць збіраюцца мужчыны. Вечарам — моладзь. Лепшага месца для прызнання ў каханні не адшукаць. Густы салодкі пах цвету — найлепшы памагаты ў гэтай справе.*

*Андрэй падобрыдзенькаўся, мужчыны адказалі і хацелі пацясніцца на лаўцы, даць хлопцу месца. Але лаўка нядоўгая і сядзелі шчыльна. Урэшце, Антон Дыбіцкі, які за словам у кішэню ніколі не лез, чалавек адкрыты, без*

*цырымоній, звярнуўся да Фені Лушчыцкай, маладзіцы, якая сядзела на ўскрайку лаўкі.*

*— Слухай, Феня. Колькі ты будзеш сядзець тут? Ідзі ты ўжо да баб. Дай месца хлопцу.*

*Феня падскочыла, нібы яе варам аблілі.*

*— Сядзеце, сядзеце... Я пастаю. Такой бяды, такой бяды,— заспяшаўся і зніякавеў ад такога павароту падзей Андрэй.*

*Гэта «такой бяды, такой бяды», сказанае па вясковаму, надта спадабалася мужчынам. Яны падабрэлі тварамі, заўсміхаліся.*

*— Ідзі, ідзі, Феня. Без цябе нам будзе весялей, — жартаваў Дубіцкі.*

*— Ну і пайду. А ты, Андрэй, сядай. Мне ўжо самой апрыкла слухаць іхнюю балбатню, — маладзіца, знарок віхляючы задам, падалася да гурту кабет.*

*Гаворка вілася вакол прыкрага здарэння, якое ўскалыхнула ўсю вёску. У васьмідзесяцігадовага дзеда Данілы Камарыцкага ўкралі скрыпку. Не зусім, каб сцібрылі, проста аблапошылі яго жонку.*

*Сам Даніла, павэдлуг сваёй гаспадыні, стары борзды. Калі на пенсію ішоў, у канторы калгаса вывесілі прысвечаную яму насценную газету. Павіншавалі, але і сяброўскі шарж намалявалі. Падымае Камарыцкі штангу, а ўнізе подпіс: «Што збіраецеся рабіць на пенсіі?» І адказ Данілы: «А ты што, не бачыш?!» Вясною Андрэй напаткаў дзеда, паглядзеў на яго лёгкую паходку і па-добраму пазайздросціў: калі ўжо дажываць да глыбокай старасці, то да такой.*

*Шырокі ў косці, каржакаваты, сціcне пальцы ў кулак, міжволі задумаешся (як ён толькі трапяткую скрыпку і смык умудраўся ў такіх руках не раздушыць, а віртуозна граць). Трохі пануры. Ніякі не весялун. Хто не ведае, то можа падумаць, што звераваты і сугней. Але гэта не так. Проста дзед Даніла чалавек нешматслоўны, сам у сабе, як кажуць. А што ўнутры творыцца, да гэтага нікому справы няма. Трошкі нос вялікі, з гарбінкай, сагнуты да нізу, псуе лагодны выраз твару. Але з твару вады не піць. Хоць на вяселлях шалапуты падсмейваліся: дзед Даніла грае не смыкам, а носам. А ён, бывала, схіліць галаву так, што нос ледзь струн не кранаецца, вочы заплюшчыць і трэба табе польку-трапятуху, танцуй да ўпаду, папросіш «юрачку», падыспань, кракавяк ці вальс, калі ласка. А граць навучыўся ад свайго бацькі. Той і скрыпку ў спадчыну перадаў...*

*Даніла сядзеў на другім канцы лаўкі, звесіўшы галаву і ўтупіўшыся вачыма ў дол, пануры і маўклівы, нейкі надта кіслы. Мужчыны і так, і гэтак з усіх бакоў абсмоктвалі навіну, і Андрэй спаўна ўявіў, як тое было.*

*Дзед Даніла жаніў унука. Ён і сам яшчэ сыграў бы вяселле, каб на пару з добрымі гарманістам ды цымбалістам і каб было каму біць у бубен. Але ўнук закапыліў нос, зажадаў ансамбль. Стары паслухаў-паслухаў тую музыку, паглядзеў, як цяпер вытанцоўвае моладзь, і сказаў: «Шмат грукату, енку. І скачуць быццам камары кашу таўкуць летнім надвячоркам». Кудлаты хлопец-бубеншчык угледзеў на старым камодзе скрыпку (Даніла яе зрэдчас браў у рукі) і прыліп:«Прадай!». Даніла усміхнуўся, пакруціў галавою і схаваў інструмент у шафу, ключ паклаў у кішэню выхаднога пінжака, апранутага з вядомай ужо нагоды. Хлопец той быў добры дзялок і пранырa, а можа, хто з тутэйшых паскуднікаў падказаў. Праз тыдзень наведаўся на легкавіку, якраз тады, калі старога не было ў хаце, вось як цяпер — пайшоў вылучаць карову з чарады. Што там было, як было, аднак скрыпка апынулася ў руках таго архараўца. За капейкі прадала гаспадыня: за два з паловай кіло каўбасы. А інструмент — пашукаць. Не фабрычны, самаробны. Даўнейшай работы. Кудлаты ведаў толк у скрыпках.*

*— Два тыдні ні чорнага, ні белага. Маўчыць. Толькі старой сказаў: ты прадала маю маладосць,— нахіліўся і прашаптаў на вуха Андрэю Дубіцкі.*

*Андрэй крыху падаўся наперад, каб лепей бачыць дзеда. Той сядзеў усё гэтак жа сутуліўшыся, паніклы, як дзіця, бездапаможны. Шкада стала старога: «Галаву таму недавярку мала адкруціць». Тым часам гаворка перакінулася на спрадвечныя турботы вяскоўцаў: хто і колькі ўкасіў сена і як яго дабавіць да гумна, ці вырасце ў сухмень бульба, хто багацее, а хто апошняе прапівае...*

*Андрэй услухоўваецца ў нетаропкую гамонку землякоў, разважае. Вёска сёння, як тое поле, узаранае нядбайным трактарыстам. Жыццё сялян няроўнае. Адны робяць ад відна і да цямна, круцяцца, багацеюць. Той-сёй жывот адгадаваў — цераз папругу перавісае. Другія п'юць-крадуць, крадуць-прапіваюць. У іх штаны з задніцы звальваюцца. Не ведаю, мяркуе сам сабе Ляшкевіч, што меў на ўвазе рускі класік, калі ў рамане «Браты Карамазавы» пісаў, што маўляў, усе добрыя людзі на Русі — п'яніцы, усе п'яніцы на Русі — добрыя людзі. Можа, там яны і добрыя, Бог яго ведае. А ў вёсцы, дзе хатка яго бацькоў — благія. Іхніх дзяцей, вечна галаднаватых, з недзіцячай тугой у вачах, шкада.*

*Мужчыны выгаварыліся і палезлі ў кішэні па цыгарэты. «Самы час», — устрапянуўся Андрэй, нагнуўся, расшпіліў сумку і дастаў кнігу Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Ён і раней, калі наведваўся да бацькоў, здаралася, чытаў вяскоўцам што-кольвечы вясёлае, жартаўлівае ці сатырычнае. Землякам гэта даспадобы, яны рагаталі там, дзе трэба было гэта рабіць, і абураліся таксама да месца. Сёння хлопец наважыўся прачытаць тое-сёе са згаданай кнігі і, вядома ж, старонкі, дзе Бог дзеліць паміж народамі зямлі. Напачатку трошкі распавёў пра Уладзіміра Сямёнавіча, яго задуму.*

*Сама легенда просценькая, трошкі іранічная. Склалі яе нашы прадзеды напачатку 30-х гадоў XIX стагоддзя. Калі хто забыўся ці не памятае, то можна з большага нагадаць…*

*Прыйшлі беларусы па надзел і вельмі пану Богу спадабаліся. Ён і адмераў «братачкам» зямлю ўрадлівую, рэкі поўныя, і ў іх рыба віруе, пушчы — нямераныя, азёры нялічаныя. Звяры і дзічына ў пушчах чародамі, пчолы ў борцях касякамі. Жанчыны прыгожыя, дзеці дужыя, сады багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Паабяцаў, што голаду не будзе, але і зажэрціся не дасць. Шмат яшчэ чаго адшкадаваў пан Бог. Аж тут святы Мікола падвярнуўся, штурхець Усявышняга ў бок: «Пане Божа, ды падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаяце!..» Бог падумаў-падумаў, не забіраць жа назад…*

*— Яно яшчэ на маёй памяці тое было,— ледзь Андрэй скончыў чытаць, раптам варухнуўся, ціха загаварыў дзед Даніла, і ўсе ажывіліся. Дубіцкі нават падміргнуў Андрэю, таўхануў яго ў бок.— У нашай Вусе, праўда, тады тры млыны стаяла, рыбы — кішма кішэла. Палку ўтыркні, будзе стаяць, не паваліцца. А цяпер... Што ж... Але, хлопцы, жыць трэба. Пакуль жывеш, то і жыві. Рабі, шавялі мазгаўнёй… А то мы прывыклі, ледзь што, усё на некага ківаць, усё шукаць вінаватых… А самі што? Безгаловыя?*

*Сонца шчодра адорвала зямлю ласкавым цяплом. Шапталася лістота на ліпе, з агарода пахла кропам, з палісадніка — язмінам. Пырхалі з галінкі на галінку, заўзята шчабяталі птушкі. Рыкалі ў прадчуванні скорай дойкі каровы. Пагрузнелыя ад травы, разамлелыя на сонцы, яны ішлі нетаропка, валюхаючыся, адбіваліся хвастамі ад аваднёў і мух, паднялі густы шызы пыл. Вяскоўцы заспяшаліся, сталі клікаць сваіх Галак, Лысух, Лабатак… Заспяшаўся да бацькоўскага парога і Андрэй Ляшкевіч.*

*Ішоў загуменнямі, спакваля, у глыбокім одуме. Трэба дапісаць малітву. А напішу так: «Пакуль жывеш, Слова, — жыві. А мы будзем шчыраваць, рупіцца, шавяліць глуздамі. Інакш грош цана нам».*

## Жаніцьба. І яшчэ сёе-тое

— Я стаміўся ад успамінаў! Галава пухне, — гэта я скарджуся сведку маіх пакут сабачку Біму. — Дарэчы, што ты, цюцька, сам думаеш?! Магчыма, мае пустэльніцкія развражанні знаходзяць водгук у тваёй душы?! Пачакай, пачакай, Андрэй… Ды ці ёсць у сабакі душа?

На нейкі момант цалкам засяроджваюся на гэтай праблеме, а пасля іду ў чыстую палову хаты і з кніжнай паліцы бяру самую гуманістычную і загадкавую на свеце Кнігу (частку сваёй бібліятэкі перавёз з горада ў вёску). Гартаю і знаходжу тое, што калісьці чытаў і што запала ў памяць. Вось яно, сведчанне мудрага Эклезіяста: «… Сказаў я ў сэрцы сваім сынам чалавечым, каб Бог іх выпрабаваў і каб убачылі яны, што самі ў сабе яны — жывёлы: бо доля сыноў чалавечых і доля жывёлін — доля адна; як паміраюць тыя, так паміраюць і гэтыя, і адно дыханне ва ўсіх, і няма ў чалавека над жывёлінаю перавагі, бо ўсё — марнасць!... Хто ведае: ці дух сыноў чалавечых падымаецца ўгору, а ці дух жывёл апускаецца долу, у зямлю?»

Вось так… Выходзіць, у Біма ёсць душа? Праўда, Эклезіяст гаворыць пра жывёл. А сабака? Гэта жывёла ці нешта іншае? Мажліва, проста сабака. Ні пра каня, ні пра карову асабліва здзеклівага род людскі нічога не гаворыць. А вось пра сабаку… Ледзь што: «Сабака ты!» Дык хто ён, сабака? Мяне гэта пытанне заінтрыгавала і нават на пэўны момант заняло ўсе мае думкі. Ажно пакуль не спахапіўся: жонка ў мяне біёлаг і яна-то павінна ведаць, да якога роду-племя належаць цюцькі!

Ужо наважыўся патэлефанаваць, як у апошні момант апякла яшчэ адна думка: «Сёння ж трыццатае кастрычніка! Дзень нашых заручын! Колькі ж гэта гадкоў мы дружна-мужна разам крочым па жыцці? Дзякаваць богу, што не паталефанаваў, не ляпнуў пра сабачаю праблему. Вось бы апраставалосіўся! А патэлефанаваць абавязкова трэба. Яна, Света, заўжды згадвае гэты дзень… Раней, як былі маладзейшыя, нават яго адзначалі. Цяпер абыходзімся ўспамінамі…»

А праблема ўзаемаадносін чалавека і прыроды і з усім, што ў ёй жыве і дыхае, вырашаецца проста — калі заўжды будзем памятаць Таго, хто яе стварыў. І яшчэ. Прырода зусім не майстэрня, і чалавек у ёй далёка не гаспадар. Прырода — калыска, а мы ў ёй усяго толькі дзеці. Усе: і людзі, і жывёлы. Як бы нам, неўмалятам, не вываліцца з гэтай люлькі…

Перш-наперш праверыў, колькі ў астатку грошай на мабільным тэлефоне і ці доўга можна будзе лялякаць. Калі набіраў нумар тэлефона сваёй палавінкі, неяк па-маладому загрукала сэрца і я адчуў лёгкае душэўнае трымценне.

— Бусенька мая! Віншую з днём нашых заручын… Няхай дае табе Бог здароўя ў ручкі, ножкі і куды сама хочаш трошкі! Няхай на цябе з кожнага куточка нашай кватэркі шчасце глядзіць! Будзь вясёлай, як вясна, прыгожай, як лета, багатай, як восень, бадзёрай, як зіма! А я з табой заўжды буду побач! — нават не павітаўшыся, выпаліў у адзін дых.

— Дзякуй! А я падумала ўжо, што і сёлета не ўспомніш павіншаваць, — трошкі памарудзіўшы, з лёгкім смехам адказала жонка.

— Мужчыны па-сапраўднаму пачынаюць цаніць жанчын толькі добра

глынуўшы халасцяцкага жыцця, — кажу таксама з гумарам і працягваю: — Адзінота абвастрае пачуцці, агаляе нервы, парадкуе думкі і само жыццё. Адзінота — найлепшае лякарства супроць пыхі і самаўпэўненасці. Адзінота — найлепшы час для суровай рэвізіі ўласнай душэўнай канстытуцыі і пераацэнкі маральных каштоўнасцей. Урэшце…

— Слухай! — таропка перапыняе салаўя-філосафа жонка. — Ты альбо зноў каструлю спаліў (адкуль яна ведае?), альбо прыклаўся да чарачкі.

Не спяшаюся адказваць, супакойваць сваю гаспадыньку, сумысля доўжу паўзу. Аднак мая Света — Святлана Васільеўна — пачынае ў трубку алёкаць, і я «пакрыўджаным» голасам кажу:

— Ну, вось… З табой ніякай рамантыкі. Хацеў, як лепш, а ты пра прозу жыцця…

— Малайчынка… Малайчынка… Разумнічак. Даруй… А ці памятаеш ты, якое было надвор’е, калі мы выйшлі з ЗАГСа?

Забіце — не помню. Не, здаецца, імжэў дожджык, і Ларыса весела пажартавала: «Быць вам багатымі…» Было халаднавата, і мы наставілі каўняры сваіх лёгкіх плашчоў. А яшчэ я разгарнуў парасон і трымаў яго над Светай. Перад самым паходам у ЗАГС Святлана пайшла ў цырульню. Папрасіла майстра адрэзаць, не надта коратка, касу і зрабіць ёй вясельную прычоску. Спачатку дзяўчаты ўгаворвалі яе пакінуць такую прыгажосць, а пасля дружна (у салоне кліентаў як раз не было), гуртам раіліся… Калі Света аслабанілася і выйшла ў залу чакання — я ахнуў. І не толькі я. Па вачах майстрых-цырульніц, поўных захаплення, якія цікавалі з-за дзвярэй — што за нарачоны ў такой красулі? — няцяжка было здагадацца: і яны ўражаныя. Міжволі, крадком, зірнуў у вялікае люстэрка, якое вісела на сцяне, абабітай чырвоным дэрмацінам, і стала ніякавата. Шавялюра яшчэ нішто сабе, але ўжо і залысіны лезуць на макаўку…

Не сказаць, каб чалавек я раўнівы, і ўсё ж… На вуліцы, у аўтобусе ці тралейбусе, кінатэатры, тэатры (зрэдку наведваліся) позіркі хлопцаў і мужчын, зыркастыя пагляды дзяўчат і жанчын былі скіравана на яе. На мяне — нуль увагі. Затое і ў маладосці, і цяпер, калі прыспічыць каму папытаць: дзе гэта вуліца і дзе гэты дом; як даехаць ці дайсці — запыняюць мяне. У чым прычына? Што мне на твары Бог пазначыў?..

Таму я ўсё ж Свету крыху раўнаваў. Выгляду не падаваў, а для папрокаў (дзякаваць ёй і яе выхаванню) яна падстаў не давала. Часам і цяпер з гонарам кажа: «Ты ў мяне першы і апошні». То і дзякуй.

— А ці памятаеш ты, як мы пасля ЗАГСа прыехалі ў рэстаран у гасцініцы «Юбілейная» і як вакол століка круціўся з фотаапаратам Мікола Мельчанка? Наш газетны фотакарэспандэнт… Помніш? — згадваю тыя шчаслівыя часіны і я.

— Дзіва што! — радасна адгукваецца ў трубку жонка. — Такая памяць засталася. На ўсё жыццё.

Уся наша вясельная гасціна памясцілася за адным столікам. Мы — маладыя. І сведкі: з яе боку — Ларыса, з майго — Ігар Ражкоў, мой новы загадчык аддзела маладзёжнай газеты, у якой я на той час працаваў. І згаданы ўжо Мікола Мельчанка. Ён сапраўды круціўся вакол стала: то прысядаў, то пры-кленчваў, то ледзь не клаўся на падлогу і бясконца шчоўкаў сваім, дарагім па тым часе, японскім фотаапаратам «Нікан». Урэшце, угаманіўся і прысеў да стала. Выпіў чарку-другую, неяк хутка захмялеў і з захапленнем, моцна, так, што ў наш бок павярнулі галовы кліенты з суседніх столікаў, рашуча сказаў:

— Ведаеш, Андрэй, у мяне жонка прыгожая — ты яе бачыў. Але твая Света прыгажэйшая! Пашанцавала табе…

Мы ўсе, як па камандзе, дружна зарагаталі. У Святланы, чамусьці, заружовіліся шчокі.

— Не, Ігар, скажы, што я кажу праўду? — не супыняўся Мікола.

Ігар згодна захітаў галавой і дадаў:

— Лічу, што Мікола выдаў дасціпны тост. Таму прапаную выпіць за Святлану. За Андрэя можна і пазней. Будзе яшчэ адна нагода напоўніць чаркі.

Так мы і зрабілі. Не хапала ў нашай гаманкой кампаніі Уладзіка Церына. Ды не я таму быў віной. Так захацела Ларыса. Хоць я і жыў яшчэ ў заводскім інтэрнаце і мы з ім зрэдку сустракаліся, але пярэчыць лепшай сяброўцы сваёй нявесты не мог. Ды і прычына таму была. Ларыса вось-вось таксама збіралася выходзіць замуж. Яна ўсё ж паехала адпачываць на поўдзень. Там і пазнаёмілася з хлопцам з сонечнага Азербайджана. І быў гэты джыгіт поўнай супрацьлегласцю не толькі Церыну, але і самой гэтай неўтаймоўнай, вясёлай, хлебасольнай дзяўчыне. Маўклівы, слова не выцягнеш, з вечна суровым тварам і — страшэнны раўнівец. Пазней Ларыса апавядала, што неяк перачытвала «Анну Карэніну» і захацелася ёй прачытаць свайму мужу любоўную сцэну з гэтай кнігі. То ён выхапіў з яе рук тварэнне Льва Мікалаевіча, узяў нажніцы і выразаў некалькі «гадкіх» старонак. Каментарый быў важкі:

— Нэхарашо замужнэя жэншына чытаць такое…

Яму, чалавеку іншай культуры, узгадаванаму ў іншых звычаях і традыцыях, цяжка было зразумець Ларысу, а ёй — яго. Таму і скончылася тым, чым павінна было скончацца — разышліся як у моры караблі.

Церын перажываў страшэнна. За «сваю» Ларыску ён гатовы быў у агонь і ваду. Аднак жа чалавек горды, ён толькі і здолеў тое, што сам таропка ажаніўся на жанчыне з дзіцем. І варта сказаць, што з яго атрымаўся добры муж, бацька і гаспадар. А Ларыса… Праз шмат гадоў пацікавілася ў мяне: ці страчаю Церына? І з надзеяй пaглядзела ў вочы. Яна больш так і не выйшла замуж…

— Ты што прапаў з эфіру? — падала голас жонка. — Грахі свае ўспамінаеш? Ці, як мы з табою пасля рэстарана раз’ехаліся па сваіх катухах? Ха-ха-ха…

Я перачытаў нямала кніг. Па родзе сваёй баламутнай працы сустракаўся з сотнямі людзей, а такой гісторыі не вычытаў і не пачуў. Прайшло амаль чвэрць стагоддзя, а і сёння не ведаю, як ацаніць і паставіцца да таго, што тварылася пасля заручын.

Выйшлі з рэстарана, цёпла развіталіся з сябрамі і… Куды падацца? Імжэў дождж, гуляць па горадзе няўтульна, патрэбен нейкі прытулак. Света к гэтаму часу працавала на заводзе кантралёрам (па маёй пратэкцыі — прапіскі ж не было!) і здымала разам з адной дзяўчынкай кануру ў прыватным доме на ўскраіне горада. Я, з дазволу парткама завода, працягваў жыць у інтэрнаце. Ні да мяне, ні да яе ехаць не выпадала. Мы нават і гаворкі не вялі на гэтую тэму.

Не сказаць, што не рыхтаваўся да важнай у жыцці падзеі — жаніцьбы і не падшукваў прыстойную кватэру. Аднак мае высілкі плёну не давалі. Гаспадары, згодныя прыняць кватарантаў, аказваліся альбо добрымі выпівохамі, альбо гатовыя за капейку ўдушыцца. А тут якраз настала пара рэгістрацыі шлюбу…

І вось мы стаім каля яе часовага прыстанішча, ціснемся адно да аднаго, каб хоць дыханнем і цяплом уласных целаў крыху сагрэцца. Працінае даволі задзірысты халодны ветрык. Я муляюся, на душы неяк пагана. Мяркую сам сабе, што не пра такую першую шлюбную ноч марыла мая нявеста! А каб у цяпле, з мноствам кветак і ціхай пяшчотнай музыкай. Рашаюся і кажу Свеце пра свой боль.

— Ведаеш, Андрэй, а мне хочацца яшчэ пабыць нявіннай! — яна ў адказ пяшчотна смяецца і мацней ціснецца да мяне. — У нас жа ўсё наперадзе. Ты толькі кватэру падшукай…

Ці ж не анекдот?!

— Грахоў у мяне шмат,— дыпламатычна адказваю на першае пытанне, і знарок пакідаю па-за ўвагай яе згадку пра рэстаран і ўсё астатняе. — Але ж і ў цябе ёсць адзін грашок!

— Які? — здзіўлена ўскліквае мая Святлана Васільеўна.

— А тады яшчэ, да жаніцьбы, з кім гэта ты пад ручку шпацыравала ўздоўж трамвайных пуцей? Такі хлопец каранасты, але трошкі ніжэйшы?

— Пачакай… Пачакай… Падумаю…

Я ніколі, да сённяшняга дня, не нагадваў ёй пра той выпадак, сведкам якога стаў зусім выпадкова. Пасля таго, як Света паддалася на мае ўгаворы і пераехала ў Мінск, неўзабаве мне прапанавалі месца ў маладзёжнай газеце. Я апынуўся ў такім віры журналісцкіх клопатаў, што ўсё астатняе неяк адышло на іншы план. Самалюбства, а гэтага дабра ў мяне хоць адбаўляй, не дазваляла плесціся ў хвасце. Хацелася як мага хутчэй сцвердзіцца ў калектыве сапраўдных прафесіяналаў. Таму бясконца гойсаў па камандзіроўках. І пісаў, пісаў, пісаў… А прынцып у газетнай журналістыцы такі ж самы, як і паўсюль у жыцці: хто цягне — на таго і грузяць.

Не сказаць, каб забыўся пра Свету, часта згадваў, а вось каб прызначыць сустрэчу — усё не выпадала. У інструментальным цэху, дзе яна працавала, гарадскі тэлефон быў, бадай, толькі ў начальніка цэха. Не станеш жа яго турбаваць і прасіць, каб паклікаў сваю работніцу. Беглі дні за днямі і вось…

Я ехаў з працы ў дрогкім, нібы п’яным трамваі. Кідала з боку ў бок, трамвай пазваньваў, спыняўся на прыпынках, выходзілі і заходзілі людзі. Але ўсё гэта заставалася для мяне незаўважным. Галава была забіта думкамі, каб як мага хучэй напісаць чарговы артыкул, які ўжо стаяў у рэдакцыйным плане. І тут мяне нібы агнём апякло… Добра помню, што ў грудзях так сціснула, ажно перахапіла дыханне. Ускрай вуліцы, па тратуары, ішла мая Света. Побач з ёй, энергічна размахваючы рукамі, — нейкі хлопец. Ён, павярнуўшы галаву ў яе бок, штосьці гаварыў, а яна смяялася. Я літаральна прыліп носам да бруднага трамвайнага акна і знямеў. «Як жа так? Яна, мая Света, ідзе поруч з чужым хлопцам. Мабыць, са сваім кавалерам. А я?!»

Усёй сваёй істотай — розумам, сэрцам, душой адчуў: магу страціць дзяўчыну. Такога ўзрушэння і пакут не зведваў у сваім жыцці ні раней, ні пазней.

— Успомніла, — гуллівым голасам азвалася жонка. — Гэта быў хлопец з нашага ўчастка. Слесарам-інструментальшчыкам у нас працаваў. Ха-а-арошы хлопец… Ён мяне пасля другой змены праводзіў дахаты, а то я надта баялася адна ісці. Ты ж мяне кінуў…

— Ды не кінуў я цябе! Не кінуў! — крычу ў трубку на ўсю моц, так, што Бім падскочыў, і знарок скарджуся: — Эх, горам жыццё маё пасеяна. Ніхто мяне не разумее, не любіць і не цэніць.

— Ну, ну, ну… Супакойся. Мы з ім проста сябравалі.

— А цалаваліся?

— Не паспелі. Ты ж зноў на гарызонце з’явіўся, — весела смяецца мая надзейная спадарожніца жыцця. — А наконт гора, то я табе скажу так: не паспытаўшы гора, не пазнаеш і шчасця…

— І хто не пажыў на прыватных кватэрах, той ніколі не ацэніць асалоду жыцця ва ўласнай, хоць бы сабе «хрушчоўцы», — нагадваю жонцы пра нашу першую кватэру, якую атрымаў праз тры гады працы ў маладзёжнай газеце.

— Вой і не кажы! — цяжка ўздыхае мая гаротніца. — Прыватная ёсць прыватная, а свая ёсць свая. Няхай сабе і «хрушчоба». Хадзі, як хочаш, калі хочаш, рабі, што хочаш і не прасі чужой ласкі.

Наступіла паўза. Не сказаць каб няёмкая, але яна крыху зацягнулася. Не толькі я, а, відаць, і жонка гэта адчула. За гады сумеснага жыцця навучыліся адгадваць жаданні і адчуваць стан душы адно аднаго.

— Табе хоць там пішацца? Мусіць жа, холадна?.. Жэгліў, што патрэбны рабочы кабінет… Ёсць кабінет, а сам сабраўся і паехаў у глухамань.

— Ведаеш, на чым я цяпер сяджу? На нашым ложку… Помніш? Праз месяц пасля заручын прыехалі, а бацькі падаліся на базар…

— Усё, усё, усё… Няма таго, што раньш было… Канчай балабоніць, а то прагаворыш усе грошы, — засаромелася і паспяшалася скончыць вечар успамінаў Святлана. Аднак жа ў самы апошні момант не забылася спытаць пра звыклае для кожнай клапатлівай гаспадыні:

— Ты там не галадаеш?

— Не хвалюйся, дарагая. Сёння ў духоўцы падсмажыў курыцу.

— Атрымалася? Есці можна? — вясёлым голасам спытала жонка.

— З півам проста цудоўна!

— Як гэта курыцу з півам? — у трубцы чуваць непадробнае здзіўленне.

— Курачка… Гэта… Трошкі перасмажылася. Стала падобная на салёную і вэнджаную таранку. Даў ножку Біму, то ён спраг смагай і папрасіў вадзіцы.

— Божа! Ты там здзічэеш! Што мне з табой рабіць — сама не ведаю.

— А нічога не трэба рабіць. Курачку я ўжо з'еў і, цьфу-цьфу-цьфу, жывы. Ведаеш, як дзядька Юзік гаворыць: горкае пі, кіслае і салёнае — еш і памрэш — не згніеш…

— Усё-такі, бачу, мне трэба прыехаць да цябе…

— Не, не… У спартанскіх умовах можа жыць толькі пустэльнік. Ды-ы-ы… Я ўжо пачаў пісаць. Хутка пабачымся. Цалую.

Як жа ўзвышае і акрыляе добрая гамана з блізкім і дарагім чалавекам! Вось жа быццам бы і не сказалі адно аднаму нічога новага ці цікавага, а душа спявае, сэрца радуецца, хочацца доўжыць і доўжыць згадкі пра маладыя гады. Усе мы жывём у палоне ўспамінаў. Выключэнне — дзеці, для якіх кожны дзень свята, а будучыня толькі мроіцца. Для сталых людзей, тым больш у пашанотным узросце, кожны пражыты дзень адыходзіць у нябыт і застаецца аб ім толькі ўспамін. Калі гэты дзень ці шмат дзён насычаныя цікавымі падзеямі, добрымі справамі, то і згадкі яркія, радасныя. І наадварот. Калі ім спадарожнічалі шэрасць і пустата, нуда і аднастайнае бытаванне, то і прыгадаць няма чаго, ды і не хочацца. Ці не таму мы любім апавядаць пра тое, што нас больш за ўсё ўразіла, узрушыла, пакінула след у памяці, сэрцы і душы? Ці многа такіх падзей выпадае на долю чалавека? Мусіш з горыччу прызнацца: лепшыя гады і сілы змарнаваныя змаганнем з праклятымі «дробязямі» быту. І яшчэ. Багацце чалавека не ўзвышае, аднак разумных і інтэлігентных людзей робіць больш міласэрнымі. Дурняў жа толькі разбэшчвае і робіць больш сквапнымі. А вось разумны дастатак не шкодзіць. Ні тым, ні другім…

## Канец журналісцкай кар'еры

«Працуй, нябожа, а Бог дапаможа». Гэтыя слова я чуў ад сваіх матулі і татулі яшчэ змалку. І яны сталі праграмнымі на ўсё жыццё. Магчыма, таму і ў маладзёжнай газеце ўкараніўся даволі хутка. Браўся за любую тэму; не ўтыкаў нос у чужыя справы, што таксама істотна ў вялікім творчым калекты-

ве. Словам, прыжыўся. Першай мяне пахваліла машыністка рэдакцыі Галіна Антонаўна. Самая старэйшая і самыя вопытная з усіх жанчын, якія штодня пакутліва разбіралі нашы крэмзы (напіша пісака — не разбярэ і сабака). Яна аддрукавала мой чарговы артыкул і, калі прыйшоў забраць яго, аўтарытэтна сказала:

— А ў вас, Андрэй, мова гожая. Сапраўды — народная. Ёсць чаму павучыцца астатнім.

Гэта было да таго нечакана, што я міжволі азірнуўся на дзверы машыннага бюро. Не хацелася, каб падобнае пачулі калегі. Раўнівыя мы, творчыя людзі, хваравіта ставімся да катэгарычных пахвал на адрас таварыша па пяры. Нездарма ж нават у Святым пісанні сказана: «Жорсткі гнеў, неўтаймаваная лютасць, але хто ўстаіць супроць нагавораў і зайздрасці?» На рэдакцыйных лятучках усё часцей і часцей сталі згадваць маё прозвішча. Рэдактар газеты Вазько, з лёгкай рукі якога пачаў свой журналісцкі шлях, неяк стрэўшы на калідоры, моцна пацiснуў руку і мімаходзь сказаў:

— Няблага. Але нос не задзірай. Табе яшчэ трэба атрымаць кватэру. Шчыруй…

Колькі слоў варта сказаць пра журналістыку той, цяпер ужо далекаватай пары. Калі параўноваць яе з сённяшняй, то плакаць хочацца. Сённяшняя журналістыка, на маё меркаванне, падкая на сенсацыі, далёкая ад рэальных клопатаў і патрэб людзей. Працуе яна не проста на халастым ходу, а шмат у чым дэградзіравала, выхаласцілася, апустошылася. Па сутнасці, яна стала бульварнай, забаўляльнай, залежнай ад тоўстых кашалькоў… І не толькі медыйная прастора Расіі, у якой мы, як і раней, існуем. Там увогуле пісакі страцілі тагачасныя арыенціры. Але і наша беларуская журналістыка не вылучаецца сваёй адметнасцю. Мы, нібы тыя малпы, запазычваем у суседзяў нізкапробныя бясконцыя шоу, старонкі газет запаланіла крымінальная тэматыка, у эфіры бясконца гучаць бездумныя папса і збітыя шлягеры. А яшчэ крывавыя баевікі, мыльныя серыялы і іншая трасца. Чалавек застаўся, так бы мовіць, за кадрам, сам-насам з усімі сваімі праблемамі, пачуццямі, думкамі. Душа яго засяваецца палыном, сэрца поўніцца крыўдай і злосцю, у галаве суцэльны вэрхал.

«Дык жа хапала дурноты і ў застойныя часы!» — лаўлю сябе на такой думцы. Хапала. Але ж мы, журналісты той пары, былі сваімі людзьмі сярод рабочых заводаў і фабрык, новабудоўляў, утульна пачуваліся сярод калгаснікаў, студэнтаў, вучоных… Нас кілзалі ідэалагічныя пастулаты, з якімі мусілі лічыцца. Гэта скоўвала ініцыятыву, прымушала ўважліва ставіцца да выбару тэм і іх вырашэння. А што яно лепш ці горш: «беспредел» на экранах і ў друку ці разумныя абмежаванні духоўнага гвалту над людзьмі — час пакажа. Урэшце, паказаў ужо…

— Іншая справа — крайнасці. Праўда, Бім? — звяртаюся да хітрунасабачкі. — Хочаш паслухаць, то я табе сёе-тое прыгадаю і раскажу?

Біму абы быць у цяпле. Ён, пачуўшы сваё знакамітае сабачае імя, натапырыў вушы, падскочыў з падлогі, з асалодай пацягнуўся і падыходзіць да мяне. Цёплым языком пачынае лізаць рукі. Мне такія сабачыя ласкі не вельмі падабаюцца, бо падлізаў не паважаю праз усё жыццё. А таму кажу:

— Калі будзеш уважліва слухаць, то, магчыма, уласкаўлюся і пакіну на начлег у хатцы. А калі будзеш дрыхнуць ці перабіваць, то калець табе на ганку. Уцяміў?

Бім касавурыцца і з пакрыўджаным выглядам паслухмяна ўмошчваецца каля маіх ног. Я пачынаю свае згадкі (зрэшты, ад адзіноцтва можна і да сцяны звяртацца, з ёю гаманіць).

Ужо і кватэра была, і сам у загадчыках аддзела рабочай моладзі хадзіў, як на галаву звалілася прыкрая прыгода. Захапіўся я фотажурналістыкай. Найцікавейшая справа! Спачатку шчоўкаў як аматар, а пасля прафесіянальныя здымкі сталі атрымлівацца. Неяк наведаўся ў мастацкі музей і ўбачыў там вельмі вабную дзяўчыну. Яна з захапленнем разглядвала поўныя празрыстага святла і непаўторных фарбаў пейзажы мастака Куінджы. Твар дзяўчыны свяціўся ціхай радасцю, лагодай і нагадвала яна мадонну, толькі без дзіцяці на руках. Не звярнуў нават асаблівай увагі на рэдкую тады і надзвычай модную сярод моладзі джынсавую імпартную сукенку, у якой яна выглядала вельмі зграбна. А тут яшчэ падфарціла: каля прыгажуні прыпыніўся, хутчэй за ўсё каб пазнаёміцца, малады хлопец. Ён аб чымсьці спытаў незнаёмку, тая з ледзь заўважнай усмешкай павярнулася да яго, і я злавіў момант, шчоўкнуў фотаапаратам.

— Твой эцюд паставім у святочны каляровы першамайскі нумар, — абрадаваў мяне Ігар Ражкоў, які перабраўся ўжо ў крэсла адказнага сакратара газеты.

І вось свежы нумар маладзёжкі, яшчэ пахне друкарскай фарбай, — у мяне ў руках. Колькі гадкоў ні працуй, колькі ні пішы і ні друкуйся, а ўсё тое ж душэўнае трымценне… Ды не доўга цешыўся. Прыбегла сакратарка рэдактара і з заклапочаным выглядам ледзь прыадчыніла дзверы, скорагаворкай, выпаліла:

— Рэдактар кліча. Тэрмінова. Не ведаю чаго… Злосны.

Ледзь пераступіў парог, пачуў раздражнёнае:

— Падставіў ты, Ляшкевіч, і мяне, і ўвесь калектыў. Глядзі, — і ён тыцнуў пальцам у газету, якая ляжала на яго стале. — Эцюд свой глядзі. Добра глядзі…

Вылупленымі вачыма доўга ўзіраўся ў здымак, але нічога крамольнага не заўважыў.

— Вось гэта... Што? Чытай, — і Вазько алоўкам поркнуў прыгажуні ў пышную цыцку, на якой красавалася «лэйба».

«Ман-та-на», — прачытаў па складах, бо ўсё ж марка фірмы на здымку атрымалася не зусім выразная.

— Вось іменна: «Мантана»! Прапаганда буржуазных, заходніх каштоўнасцей. Нашай молодзі трэба сваё насіць… Званілі з ЦК партыі. Намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі…. Выклікаў мяне, але я сёння кепска пачуваюся. Прастудзіўся. Едзь сам і адбаярвайся.

«Хітруе мой апякун. Вунь твар чырвоненькі, і сам, падскокваючы, як верабей (так ён хадзіў), носіцца па кабінеце», — паспеў падумаць, а Вазько ўжо сунуў у рукі паперку з прозвішчам і нумарам кабінета высокага партыйнага начальніка.

— Лішняга не плявузгай. Скажы, што дзяўчына і хлопец спадабаліся, — параіў напаследак рэдактар.

Раней мне не даводзілася бываць у гэтым гранітным манументальным будынку. Вышкалены дзяжурны міліцыянер у званні старшыны ліха ўскінуў руку да казырка фуражкі і пацікавіўся:

— Да каго?

Я адказаў, і ён, набраўшы нумар телефона з трох лічбаў, сказаў:

— Да вас Ляшкевіч Андрэй Макаравіч. З газеты. Кажа, што па вашым выкліку. Прапускаць? — і, паклаўшы трубку, ужо да мяне: — Прама па лесвіцы падыміцеся на чацвёрты паверх. А там, па калідоры — налева.

Уразіла цішыня ў доўгім калідоры. Ніводнай жывой душы не напаткаў. Не чуваць было галасоў і за масіўнымі дзвярамі кабінетаў. Такое ўражанне, што трапіў у будні дзень на могілкі. «Не тое, што ў нас у рэдакцыі, дзе зранку і да вечара таўкатня і гамана», — адзначыў сам сабе.

Па шырокай, мяккай, «крамлёўскай» чырвонай дарожцы дайшоў у канец калідора. Знайшоў патрэбны кабінет, набраў поўныя грудзі паветра і не вельмі настойліва пагрукаў у дзверы. У адказ — цішыня. Магчыма, не пачулі мой палахлівы стук, а мажліва, не палічылі патрэбным адказваць. Націснуў на ручку ў пазалоце і адчыніў дзверы. А там, аказваецца, яшчэ адны. Для прыліку пагрукаў і не чакаючы дазволу — увайшоў.

Гаспадар кабінета ціха размаўляў па телефоне. Я стаяў і чакаў. Спадцішка прыглядваўся да аднаго з галоўных ідэолагаў рэспублікі. Чалавек як чалавек. Мужчына з сябе відны, гадоў пад пяцьдзясят, у ёмкіх плячах адчуваецца немалая фізічная сіла, з кароткай, пад «вожыка», стрыжкай, толькі вось твар нібы высечаны з граніту: нічога на ім нельга прачытаць.

Ён скончыў свае перамовы, мелькам зірнуў на мяне, выцягнуў з шуфлядкі ўнушальнага, вырабленага з чырвонага дрэва стала чысты аркуш паперы, працягнуў мне і коратка загадаў:

— Сядзьце вось там,— махнуў рукой у бок яшчэ аднаго прадаўгаватага стала для пасяджэнняў,— напішыце тлумачальную запіску.

На яго асабістым стале не ляжала ніводнай паперы. Мяне гэта больш за ўсё ўразіла. Не безліч тэлефонных аппаратаў, не прыгожы вялікі мармуровы пісьмовы прыбор, а менавіта чысты ад папер стол. «Як можна так працаваць?! — дзівіўся я, прымошчваючыся ў тарэц стала. — На маім стале сам чорт галаву зломіць. Мабыць, сам ён нічога не піша, а толькі падпісвае паперчыны…»

Кораценька пераказаў фабулу эцюда: дзе? калі? як? Маўляў, хацеў, як лепш для газеты. Абяцаю быць больш абачлівым.

Апошняе, відаць, спадабалася ідэолагу. Ён моўчкі перачытаў напісанае, кіўнуў галавою, моўчкі дастаў з кішэні пінжака ключ, моўчкі адчыніў дзверы высакаватага і пузатага сейфа і сунуў у яго чэрава маю павінную. Бясстрасным, глухім голасам, не глядзячы на мяне, па-сутнасці, паўтарыў маё:

— Надалей будзьце больш уважлівым. Нам гэта не патрэбна…

Відавочна, ён меў на ўвазе «Мантану». Маё «да пабачэння» засталося без адказу. Выйшаў за двайныя дзверы як апляваны. Дарэчы, гаварыў беларускі ідэолаг на рускай мове, а тлумачальную я напісаў — на роднай.

Выскачыў, з святая святых, будынка ЦК, трошкі прыпыніўся на гранітным ганку, каб прысмаліць цыгарэту, і тут мой позірк упёрся ў дзве спіны і галавы. Адну — кудлатую, а другую — лысую: Карла Маркса і Леніна… Пастаяў, і заспяшаўся прэч: інстынкт самазахавання падказваў мне, што нярварта навідавоку, пад самымі вокнамі гэтага будынка, доўга стаяць.

Вярнуўся ў рэдакцыю і распавёў пра ўсё сваім надзейным сябрам: Міколу Фядзько і Яўгену Крупеню. Мікола загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва, а Яўген працаваў у гэтым аддзеле літкансультантам. У свой час абодва скончылі Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве, пісалі і выдавалі таленавітыя вершы, цудоўна ведалі сусветную літаратуру. Мне было цікава з імі бавіць час і сяму-таму вучыцца. У маладзёжцы я напісаў першае апавяданне і, зразумела, першым чынам даў пачытаць Міколу Фядзько. Спакойны, разважлівы, добразычлівы, ён ахвотна, у маёй прысутнасці, пакуль я з нецярпеннем чакаў прысуду, прачытаў, падняў на мяне ўсмешлівыя вочы і лагодна сказаў:

— Яшчэ адзін рамантык у беларускай літаратуры, — і, так бы мовіць, дабраславіў: — Дзярзай!..

Выслухалі мяне хлопцы, і першым загарэўся эмацыянальны, экспрэсіўны Яўген:

— Трэба тэрмінова збіраць «Піўбюро», — прыдумалі самі па аналогіі з «Палітбюро». — Правільна, Мікола?

— І паклічам Ігара, — ахвотна пагадзіўся Фядзько, тут жа палез у кішэню пінжака, каб зрабіць рэвізію кашалька. Тое ж самае паўтарылі і мы з Яўгенам.

Фінансавая падтрымка важнага мерапрыемства была забяспечана, і мы ўчатырох пашыбавалі на вуліцу Калініна, дзе аблюбавалі ўтульны і ціхі піўны бар.

— Ну, няўжо ў іх няма больш важных спраў! — яшчэ па дарозе з Дома друку да бара не сунімаўся Яўген.— Хіба так важна, што на грудзях ці на задніцах у моладзі? Падабаецца — няхай носяць гэтую джынсу. Абы ў галовах вецер не гуляў. Правільна, Мікола?

— Правільна, правільна… Толькі ты менш балбачы, — параіў заўжды стрыманы Фядзько. — Асабіста я думаю, што працягу гэтай, недарэчнай справы не будзе.

— Вазько абяцаў абмежавацца вымовай і паставіць на гэтым кропку, — унёс яснасць Ігар Ражкоў, больш чым мы дасведчаны ў рэдакцыйнай кухні. — Яму ж трэба неяк рэагаваць. А так ён і сам смяецца. Дзяўчына на здымку яму вельмі спадабалася.

Пасля выпітых па два куфлі піва і заедзеных тлустай скумбрыяй выспела і рашэнне «Піўбюро» : 1. Плюнуць і растаптаць; 2. Як мага хутчэй выкінуць з галавы; 3. Андрэю Ляшкевічу, па-магчымасці, пераплавіць усё ў гумар.

Японцы злосць на сваіх начальнікаў спаганяюць на пудзілах, падобных на іх — б’юць палкамі. Амерыканцы здымаюць стрэсы тым, што кулакамі лупяць свае падушкі. Рускія дубасяць адзін аднаго. Мае землякі — кусаюцца… Ну, а я ўлагоджваю сябе за пісьмовым сталом — гумарам. Як і раілі хлопцы-дружбакі выпеставаў у душы і намаляваў такі вось «Эцюд».

*Лявон Карэнда, малады фотакарэспандэнт часопіса, атрымаў заданне зрабіць здымак на вокладку ў святочны нумар. Рэдактар на развітанне зірнуў на яго паверх акуляраў, якія віселі на кончыку носа, прыспешыў:*

*— Дзейнічай, Лявоне, не марудзь!*

*Праз колькі часу Лявон, перакінуўшы цераз плячо цяжкую сумку, ішоў па тлумнай гарадской вуліцы. Засяродзіцца перашкаджалі аўтамабілі, мітусня і гамана прахожых. «Не, хоць лопні, а нічога не прыдумаеш. Зайду ў парк. Пахаджу ў цішыні, можа, там што вартае і прыдумаю».*

*У парку і сапраўды было ціха і хараша. Стаялі заснежаныя бухматыя прыгажуні ёлкі, высіліся беластволыя маркотныя бярозкі, сіратліва віселі арэлі…*

*І раптам Лявон ажно сцепануўся. Насустрач ішлі Ён і Яна. Дзяўчына незвычайнай красы, у белым футры і пушыстай пясцовай шапцы — ну, нібы тая Снягурка. Не менш уражліва выглядаў і хлопец: высокі, з густою светла-русаю барадою. «Вось ён, цудоўны навагодні эцюд! — мільганула думка. Заставалася злавіць момант. Ды так, каб яго, Лявона, не заўважылі. Бо заўсёды эцюд удаецца, калі здымак зроблены знянацку, і тыя, каго здымаеш, пра гэта нават не здагадваюцца.*

*Але ж трэба яшчэ і цікавы ракурс выбраць. «Хоць бы яны спыніліся, узяліся за рукі, ці што?» — пакутаваў фотакарэспандэнт. І тут хлопец з дзяўчынай нібы пачулі Лявонавы думкі. Яны спыніліся, хлопец абняў дзяўчыну за плечы, прытуліў да сябе, а тады дастаў з кішэні насоўку і асцярожна пачаў выціраць ёй твар.*

*Лявон умомант пераскочыў на супрацьлеглую алею, прыцэліўся аб'ектывам і паспеў некалькі разоў шчоўкнуць… Вясёлы, ледзь не подбегам, памчаўся ў фоталабараторыю праяўляць плёнку.*

*Эцюд спадабаўся ў рэдакцыі ўсім. Аднагалосна вырашылі паставіць здымак на першую вокладку. Калі часопіс напярэдадні Новага года з'явіўся ў кіёсках, за ім адразу ж выстраіліся чэргі.*

*А на наступны дзень у кабінет рэдактара з рашучым выглядам увайшоў малады чалавек: высокі, у дублёнцы і з шыкоўнай светла-русай барадою. Ён пацікавіўся, хто такі Лявон Карэнда? Рэдактар выклікаў Лявона, і калі той пераступіў парог і ўбачыў героя свайго эцюда, адразу ж скеміў, што ўліп.*

*— Ваш?*

*— Мой.*

*— Дык вось. Вы разбілі мне сям'ю. Жонка сёння падае на развод…*

*— А як жа ваша каханая? Прабачце, ваша знаёмая?*

*— А ёй што? Яна ж яшчэ не замужам!*

*Счакаўшы, пакуль мужчына крыху супакоіцца, рэдактар папрасіў патлумачыць, што да чаго.*

*— Разумееце, сустрэў аднакурсніцу. Выпадкова. Разам вучыліся ў інстытуце. Не бачыліся гады са тры. Сустрэліся, гаварылі, успаміналі студэнцкае жыццё... А ў знаёмай запарушылася вока. Я наважыўся дапамагчы ёй. А ён, — хлопец кіўнуў галавой у бок Лявона , — і сфатаграфаваў нас у гэты момант.*

*Мужчына пакрыўджана змоўк, пасля роспачна працягваў:*

*— Што мне цяпер рабіць? Як жонку пераканаць, што гэта ўсяго проста выпадковасць? Яна ж мяне і слухаць не хоча. Кажа, каханку завёў...*

*...З рэдакцыі яны выходзілі ўдвух: Лявон і яго новы знёмы. Ішлі на перамовы да раўнівіцы жонкі...*

— Ну, што скажаш, Бім? — звяртаюся я да адданага мне сабакі.— Замест суровай і абразлівай праўды жыцця — суцэльная рамантыка. А што мне заставалася рабіць пад пільным вокам ідэалагічнай цэнзуры?

Прабеглі гады. І вось я, Андрэй Ляшкевіч, сярод тлумнага шматтысячнага натоўпу мітынгоўшчыкаў. Хадзіў амаль на ўсе, як сказаў Сяргей Ясенін у «Анне Снегінай», быдластыя сходкі. Дахадзіўся, што да мяне падазрона пачалі прыглядвацца ладна скроеныя, зіркатыя хлопцы ў цывільным. А я ж проста хацеў зразумець: што дзеецца на белым свеце? Дарэчы, мая прафесійная цікавасць і нястрымнае жаданне як мага глыбей вывучыць і пазнаць жыццё прыносілі і прыносяць мне шмат непрыемнасцей…

Слухаў гарачых выстопоўцаў, з чымсьці пагаджаўся, з чымсьці — не, сёе-тое насцярожвала… Бянтэжыла, што ніякіх рэальных зрухаў да лепшага жыцця і блізка не назіралася. Наадварот, заводы стаяць і людзі не атрымліваюць заробак, у крамах пустыя паліцы, а ў парламенце бясконца шукаюць «згоды». Затое адкрыліся шлюзы і хлынула ўсялякая брыдота, накшталт размоў і не толькі адных гаворак аб непазбежнасці сексуальнай рэвалюцыі. Камусьці вельмі хацелася як мага хутчэй у чарговы раз ачмурыць народ, утаптаць у бруд, спляжыць сэрцы і разбэсціць душы людзей.

…Між іншым, яшчэ працавалі райкамы, гаркамы, абкамы і ЦК партыі. Аднак яны ўжо істотна не маглі паўплываць на ход падзей. Простыя людзі, якія раней са сваімі крыўдамі і клопатамі ішлі ў партыйныя камітэты і там дамагаліся праўды, сталі абмінаць іх. А вось у газеты ўсё яшчэ звярталіся па

дапамогу. Па адным такім пісьме-скарзе давялося і мне выехаць у камандзіроўку. І была гэта мая апошняя камандзіроўка ў якасці журналіста. Згойсаў, падрыхтаваў да друку грунтоўны артыкул…

— Толькі свету, Бім, ён не пабачыў. А пра што апавядалася ў скарзе? Ды скарга тая, так бы мовіць, дакумент эпохі…

## Непрыдуманая гісторыя

Выклікаў рэдактар газеты, без лішніх слоў, толькі з хітраватай і загадкавай усмешкай даў у рукі пісьмо-скаргу жыхароў не такога ўжо і далёкага ад сталіцы райцэнтра, даручыў разабрацца па сутнасці. Шэф быў чалавек выхаваны, усіх супрацоўнікаў называў на «вы», што не замінала яму па два-тры разы вяртаць напісанае на дапрацоўку. «Нешта ж таямніча пасміхаецца», — падумаў я, зачыняючы дзверы кабінета.

На трох старонках разборлівага рукапіснага тэксту дзесяць чалавек выказвалі свой гнеў і абурэнне, крыўду на ашуканства. Было гэта, калі захісталіся і вось-вось меліся рухнуць, здавалася б, цвёрдыя, гранітныя, вечныя ўстоі самага лепшага ў свеце ладу жыцця. Заставаліся лічаныя тыдні да апячатання дзёрзкімі хлопцамі дзвярэй райкамаў, гаркамаў, абкамаў і самога ЦК КПБ. Усё ішло да таго. Грамадскае жыццё бурліла, пенілася, выплюхвалася на вуліцы, крычала, гарланіла, мацюкалася. І... ніхто толкам не ведаў: што да чаго, дзеля чаго і як яно будзе. Прадбачылі ўсё людзі ў высокіх кабінетах. Яны не мітусіліся, глядзелі цвярозымі вачыма далёка наперад...

Дарога слалася пад колы аўтобуса то роўнай і гладкай стужкай, то пятляла і падкідвала на выбоінах. Міналіся пералескі, лагчыны і ўзгоркі. Аўтобус укаціў у стары лес, уздоўж дарогі, на прыволлі, раслі гонкія, магутныя дубы, глыбей — яліны, бярозы, асіны. Ліст ужо жаўцеў, падаў з дрэў, трапляў на шкло кабіны вадзіцеля, нейкі момант трапятаўся, кружыўся і слаўся на зямлю. Спакой панаваў у прыродзе, але не ў маёй душы.

З чаго пачаць? Вось што вярэдзіла нутро. Я ж не следчы, не аператыўны работнік... А справа, калі верыць фактам, выкладзеным у пісьме, надта заблытаная і складаная. Можна сказаць, крымінальнага кшталту. Дзесяць аўтамабіляў «Жыгулі» трапілі ў рукі не тым, хто гадамі чакаў іх у чарзе, а людзям пры ўладзе. Ды якім людзям! Другі сакратар гаркама партыі, старшыня гарвыканкама, старшыня камітэта народнага кантролю, старшыня партыйнай камісіі... Прозвішчы, пасады — усё было ў скарзе ўказана, усё крычала немым крыкам.

Утульны, старажытны гарадок, вузкія брукаваныя вуліцы і вулачкі, адна- і двухпавярховыя цагляныя, пачарнелыя ад часу будынкі, суровыя муры разбуранага замка... Скрозь — сады і палісаднікі. Куды ні кінь вокам, да чаго ні дакраніся — паўсюль багатая і цікавая, часам, трагічная гісторыя народа. Сюды паехаць бы не ў брудзе калупацца, а спатольваць духоўную смагу, слухаць вечнасць, ратаваць душу. Нават не верыцца, што ў гэтай глухой цішы могуць віраваць страсці. Але так яно бывае на крутых паваротах гісторыі. Ніхто і нішто не застаецца ў баку.

«Трэба пачынаць з ДАІ»,— рашыўся я і пахваліў сябе за вынаходлівую задуму. Дзяжурны, капітан — на пагонах ярка блішчэла, вылучалася з астатніх, пацямнелых, новая зорачка — энергічны, добразычліва выслухаў, кінуў вокам на пасведчанне, з гатоўнасцю адказаў:

— Гэта ўсё проста. Зараз паглядзім: калі і на каго зарэгістраваны аўтамабілі.

Афіцэр узяў тоўсты талмуд, пачаў гартаць старонку за старонкай і бадзёра, з ахвотай стаў называць даты, прозвішчы — усё супадала. Пакідаючы будынак ДАІ, я падумаў, што капітан, зразумела ж, ведаў, хто стаіць за гэтымі прозвішчамі, як і сама гісторыя з аўтамабілямі для яго не навіна і не сакрэт. Гарадок не такі вялікі, у адным канцы кашляні — у другім чутно будзе. А выклаў усё як на сподачку. Было б гэта год таму, наўрад ці рызыкнуў бы даішнік на такую адкрытасць. А можа, і самой махінацыі у такім разе не было б?

Я не спяшаўся грукацца ў высокія кабінеты. Туды варта ісці, маючы на руках важкія аргументы. Карцела спаткацца з аўтарамі скаргі, хоць бы з той жанчынай, якая пакінула ў пісьме свой адрас і нумар хатняга тэлефона. Яна, мяркуючы па ўсім, і была завадатарам. Але што, акрамя эмоцый, а магчыма, і слёз, яна магла яшчэ дадаць да напісанага? Вырашыў завітаць да аўтаркі вечарам, калі яна вернецца з работы, а ў мяне ўжо будуць на руках такія-сякія факты. Цяпер жа ішоў цяністай вуліцай у гарвыканкам. Калі ёсць чарга на пакупку і атрыманне аўтамабіляў, меркаваў, павінны быць і спісы прэтэндэнтаў. І захоўвацца яны павінны ці ў агульным аддзеле, ці ў сакратара гарвыканкама.

У прыёмнай сустрэла жанчына ў гадах, з рэшткамі былой прыгажосці. Высакаватая, мажная, з узбітымі русымі валасамі, з затушаванымі маршчынамі пад вачыма, яна напачатку слухала журналіста ўважліва, але чым далей раскрываўся сэнс візіту, тым больш нервавалася, губляла цярплівасць, зашморгала шуфлядамі, узялася перабіраць паперы на стале. У скарзе значылася і яе прозвішча. Я не надта спяшаўся, час дазваляў чакаць, а таму прыткнуўся на крэсла каля сцяны, дэманструючы ўпартасць дабіцца свайго. Сакратарка ўцяміла, што карэспандэнт трапіў настырны, і, каб паказытаць мне нервы, яшчэ крыху паваждалася, пашалясцела паперамі, падхапілася, ледзь крэсла не паваліліся, і выскачыла за дзверы. Меркаваў, што яна павінна была б завітаць да шэфа, далажыць пра нежаданага госця. Вырашыў зрабіць гэта сам. Прыадчыніў дзверы кабінета старшыні гарвыканкама, але там было пуста. Пазней сакратар гаркама сказаў, што той у ад'ездзе.

Жанчыны даўгавата не было, а калі з'явілася, ужо не ўтойвала сваёй непрыязнасці: моўчкі сунула ў рукі канцылярскую кнігу, села за стол, камусьці пазваніла і знарок гучна пачала гутарыць па тэлефоне.

Кніга была прашнуравана, старонкі пранумараваны. Я пачаў мэтанакіравана гартаць яе ў надзеі адшукаць знаёмыя прозвішчы і нумары чаргі на аўтамабілі. Якое ж маё было здзіўленне, калі, дабраўшыся да патрэбнага месца, угледзеў, што нумарацыя старонак губляецца. Яна была, але ў кнізе не хапала двух лістоў. Яны былі вылуплены жыўцом, бо малюпасенькі шматочак паперы зачапіўся за шнурок і сведчыў пра тое. «Дурная справа — няхітрая», — падняўся, гэтак жа моўчкі паклаў кнігу на стол сакратаркі, адно сказаў: «Да пабачэння». Цяпер можна было ісці ў гаркам партыі.

У прыёмнай гаспадарыла маладая, увішная, з вясёлымі вачыма дзяўчына. Яна адразу ж запрасіла прайсці ў кабінет другога сакратара. Склалася ўражанне, што мяне тут чакалі. Згодна з пратаколам, яна павінна была б спытаць у гаспадара кабінета: прыме ці не госця? Акінуў позіркам прыёмную: налева — кабінет першага сакратара, направа — галоўная асоба канфлікту. Заўважыў вазоны з кветкамі, былі там два кактусы, здаецца, лімоннае дрэва, на сцяне невялічкі герб горада... Асабліва прыглядвацца не было калі, маладзіца адчыніла адны дзверы, другія, сказала:

— Да вас карэспандэнт з Мінска.

Чакалі. Інтуіцыя не падвяла.

— Заходзьце, Андрэй Макаравіч, — падняўся з крэсла гадоў сарака мужчына, пайшоў насустрач, працягнуў руку. — Добры дзень. Уладкоўвайцеся. Мяне, вы ўжо ведаеце, як клічуць. Вячаславам хрысцілі. Вячаслаў Браніслававіч Акаловіч.

—А ў вас служба някепска пастаўлена,— не ўтрымаўся я.

—Ха-ха. А як жа вы думалі?! Мы павінны ведаць усё, што ў нас у горадзе і раёне творыцца, — жыва, упэўнена гаварыў сакратар гаркама, узіраўся ў вочы журналіста і ўжо сур’ёзна: — Ва ўсякім выпадку так было да гэтага часу. А як яно пойдзе далей, вам, сталічным журналістам, лепш ведаць.

Адразу ж скеміў, што меў на ўвазе партыец, аднак у мае планы не ўваходзіла дыскутаваць на палітычныя тэмы. Неўпрыкмет глядзеў на сакратара гаркама, і розныя думкі раіліся ў галаве. «Нават выгляду не падае, што хвалюецца. Быццам я прыехаў за сотню з гакам кіламетраў лясы тачыць. Або чалавек скрытны і хітры, або махнуў ужо на ўсё рукою. Хутчэй апошняе...»

— У гасцініцу ўладкаваліся? Магу даць каманду.

— Дзякуй. Заказаў, выязджаючы. Але яшчэ не афармляўся.

— Праблем не будзе. Давайце, Андрэй Макаравіч, выкладвайце, з чым да нас прыехалі,— прапанаваў гаспадар кабінета.

Мне пачынаў падабацца сакратар гаркама. Чалавек доўга прытварацца не можа. Тым больш, такі малады. Харошая кар’ера, добрыя перспектывы. Былі. Падобна на тое, што былі. Шкада. Чалавек, па ўсім бачна, бясхітрасны, шчыры і разумны. Вочы смяюцца, а на дне іх тоіцца смутак. Перажывае. З-за майго прыезду? Наўрад ці. Хутчэй варункі апошняга часу падарвалі аптымізм, веру ў будучыню. Але гэта ўжо не па маёй частцы...

Я выняў з кішэні пінжака пісьмо, стаў тлумачыць мэту сваёй камандзіроўкі. Акаловіч абапёрся локцямі на стол, паклаў руку на руку, схіліў кранутую сівізной галаву, уважліва слухаў. Нішто на яго твары не змянілася, спакойны, без ценю ўзрушанасці. Ці то паспелі ўжо з гарвыканкама па тэлефоне ўсё расказаць, ці то дзясяткі разоў, перш чым ублытацца ў нягожую гісторыю з аўтамабілямі, усё было папярэдне абмеркавана, узважана, раскладзена па палічках. «Можа, у яго ёсць важкія аргументы, пра якія я не ведаю і не здагадваюся?» — схамянуўся, а ўслых сказаў:

— Вы, Вячаслаў Браніслававіч, таксама без чаргі набылі аўтамабіль. Ці не так?

Сакратар гаркама загаварыў не адразу. Падняў галаву, доўгім, адсутным позіркам глядзеў на чырвоны, у чорную палоску мой гальштук карэспандэнта, ад чаго я пачуваўся ніякавата. Пасля адхіснуўся на спінку крэсла і абмяк. У яго вачах прачытаў: «Ну, што ты прыліп смалою? Што табе тлумачыць? Ты сам усё павінен разумець...» Праз нейкі момант партыец рэзка варухнуўся, напружыўся, вочы засвяціліся ўпартасцю, нават утрапёнасцю. Перада мною сядзеў, не, ён падняўся ўжо з крэсла, захадзіў каля стала, зусім іншы чалавек: кіраўнік высокага рангу, валявы, напорысты, які ведае сабе цану. Падобна было, што ён стрымлівае свае пачуцці, і голас яго сапраўды прагучаў у кабінетнай цішы прыглушана, з ноткамі горычы і расчаравання.

— Андрэй Макаравіч! Хіба вы не бачыце, што ўсё рушыцца?

Я — маўчаў. І яшчэ доўга буду сядзець вось так, сцяўшы зубы, дзівіцца, слухаць усхваляваную, гарачую споведзь чалавека аб лёсе партыі, краіны, народа.

— Усё ляціць дагары нагамі, шаноўны Андрэй Макаравіч, паратунку гэтаму ўжо няма. Смурод і гніль пайшлі адтуль, адкуль мы менш за ўсё чакалі — з Масквы. Пачалося, з так званай, перабудовы. Хто яе аўтары? Гарбачоў?

Ельцын? Якаўлеў? Не-е-е... Мы, гарадское і раённае партыйнае звяно — пешкі на шахматнай партыйнай дошцы ў вялікай гульні. А яны самі аказаліся такімі ж пешкамі ў больш глабальнай гульні. Вы, Андрэй Макаравіч, калі не цяпер, то праз пэўны час гэта зразумееце.

Зазваніў адзін з тэлефонаў. Акаловіч зморшчыўся, нагнуўся і націснуў кнопку з боку стала. У той жа міг дзверы ў кабінет адчыніліся, на парозе стаяла сакратарка, запытальна ўтаропілася ў шэфа.

— Не злучаць. Мяне ні для каго няма.

Сакратар гаркама змоўк, сутаргава глытнуў паветра, наважыўся гаварыць пра набалелае, тое, што гняло, вярэдзіла душу і сэрца не адзін дзень і не толькі аднаму яму. Якраз у гэты мамант у адчыненую фортачку кабінета ўляцела ластаўка. Гэта было так нечакана, што я не ўтрымаўся, засмяяўся. Ластаўка не білася ў сцены, шыбы, крыштальнае люстра, як гэта звычайна бывае з кожнай птушкай, якая апынулася ў няволі. Не. Яна танцавала. Насупраць стала Акаловіча, трошкі збоку, стаяў доўгі стол з крэсламі для пасяджэнняў. Вось над гэтым сталом ластаўка то ўзлятала, то прысядала, то вывівалася, весела шчабятала. Кідалася ў вочы цёмна-сіняя спінка, бялюткі жывоцік, растапыраны чорна-белы даўгаваты хвост. Танец доўжыўся, можа, секунд пятнаццаць, затым ластаўка гэтак жа нечакана як і заляцела, сiганула ў адчыненую фортку.

— Яна не першы раз залятае. Гэта яе падзяка, — патлумачыў Акаловіч.— Яны гняздо звілі пад самым вільчаком будынка гаркама, вартаўнік хацеў спароць, а я не даў. Разумееце, якая ўдзячнасць у птушак! А ў людзей?

Ён сцішыўся, узяў сябе ў рукі, ужо спакойна, разважліва працягваў:

— Ведаеце, я ўжо і работу сабе падшукаў. Пайду ў школу завучам. Я ж настаўнік па адукацыі. Пасля, праўда, скончыў вышэйшую партыйную школу і акадэмію кіравання народнай гаспадаркі ў Маскве. Цяпер усё гэта кату пад хвост. А партыя? Крытыкуюць яе цяпер каму не лянота. Між тым, партыя — гэта стрыжань, вакол якога ўсё круцілася, вiравала жыццё. Прабіраюць нас уздоўж і папярак: і тое кепска, і тое блага... І гэта не так, і тое не так... Вы думаеце, мы не бачылі і не разумелі, што трэба рэфармавацца? Тут, на сваіх месцах, мы гэта адчувалі куды больш востра, чым яны, нашы высокія партыйныя начальнікі. Але трэба было не партыю бэсціць, таптаць нагамі, а лібералізаваць эканоміку.

Маналог сакратара гаркама закрануў за жывое, таму я загаварыў не як карэспандэнт, а як адзін з многіх, неабыякавых да лёсу краіны людзей.

— То хто ж вам не даваў, Вячаслаў Браніслававіч, своечасова курс партыі падкарэкціраваць? Вы ж каля руля...

Акаловіч самотна ўсміхнуўся і паглядзеў на журналіста як на дзіця якое не разумее ці не хоча разумець відавочнага.

— Мы — выканаўцы. Разумееце, простыя выканаўцы рашэнняў пленумаў і з’ездаў. У нас ніхто і ніколі не пытаўся: згодныя мы ці не згодныя, што рабіць і як рабіць? А спаганялі як мае быць: і за ідэалогію, і за эканоміку, і за сацыяльную сферу... За ўсё. Вось вы пытаеце: набыў я машыну ці не набыў? Купіў. Чаму? А вы ведаеце, што гадамі партыя не заахвочвала і не ўхваляла, каб мы, партыйныя і савецкія кіраўнікі на месцах абжываліся машынамі і дачамі? Мы калі чым і вылучаліся з натоўпу, дык сваімі дублёнкамі і андатравымі шапкамі. Скажаце, што ў нас былі службовыя аўтамабілі, сёе-тое з прывілей? Дзе гэта ўсё цяпер? Мы засталіся ля разбітага карыта. А хіба мы не людзі і ў нас сем’яў няма? Хіба нашу работу і адказнасць можна параўнаць з работай гэтай (тут ён скрывіўся) бабы, загадчыцы сталоўкі, якая падбухторыла людзей і напісала скаргу?

Сакратар гаркама, было бачна, стрымліваўся, не хацеў нагаварыць лішняга. Дастаў з пачка цыгарэту, прапанаваў і мне закурыць. Я не адмовіўся. Акаловіч ужо не стаяў, сядзеў у крэсле. Цяпер ён павярнуўся бокам да карэспандэнта, шчоўкнуў ключом, які быў уторкнуты ў дзверцы сейфа, адчыніў яго, дастаў тоўсты агульны сшытак, звярнуўся да мяне:

— Пакуль курым, паглядзіце. Я два гады быў у Афганістане. У атакі не хадзіў, але і прагулкай па гарах тое не назавеш. А гэта мае вершы. І пра Афганістан таксама. Вам, як журналісту, можа, будзе цікава...

— Я ў паэзіі — слабак, — прызнаўся шчыра. — Каб яшчэ проза...

Усё ж сшытак узяў. Роўны, настаўніцкі почырк, падкрэсленыя чырвоным алоўкам назвы вершаў... Запыніў увагу на вершы, прысвечаным аўтарам сыну. Прачытаў.

— А што, Вячаслаў Браніслававіч?! Думкі ёсць, пачуцці і рыфма, здаецца, неблагая... Можаце друкавацца...

Акаловіч махнуў рукою, забраў сшытак.

— Для сябе. Я нават дамоў не нясу. У сейфе хаваю. Цяпер ужо не да вершаў, — сумна прамовіў і раптам: — А у вас, Андрэй Макаравіч, машына свая ёсць?

— Няма.

— А дача?

— Няма. Затое ёсць, як лёду, дзве тысячы на ашчаднай кніжцы. Усё, што мы з жонкай сабралі, — весела адказаў я і з цікавасцю паглядзеў на партыйца. Да чаго хіліць?

Сакратар гаркама на момант задумаўся, як бы што ўзважваў ці прымаў рашэнне.

— Грошы на кніжцы трымаць не трэба — небяспечна, — гаварыў ён і адначасна набіраў нумар тэлефона. Счакаў, пакуль на тым канцы ўзялі трубку, не то загадаў, не то папярэдзіў: — Будзь на месцы. Зараз прыеду з адным чалавекам,— і ўжо адрасуючыся да мяне: — Я вам нешта хачу паказаць. Паехалі, Андрэй Макаравіч.

Чорная «Волга» пятляла па вузкіх вуліцах, ажно пакуль не выехала на ўскрай горада. Тут ужо вырастаў новы жылы раён з шматпавярховых панэльных і цагляных будынкаў. Сноўдаліся сюды-туды магутныя «МАЗы» і «КРАЗы», пазвоньвалі, верашчалі вежавыя краны, курыўся пыл. «Волга» звярнула ўлева, праехала яшчэ метраў семсот у бок старога горада. Спыніліся.

— Вось і прыехалі,— вылазячы з-за руля сказаў Акаловіч.

«Рамонтна-будаўнічае ўпраўленне», — прачытаў на абшарпанай шыльдзе несамавітага драўлянага доміка. Убачыў праз акно «Волгу», выбег на двор начальнік упраўлення, таксама яшчэ малады, высокі, жылісты мужчына. Павіталіся за руку, знаёміць Акаловіч не стаў. Гаспадар пра мэту наведвання не спытаў, відаць, такія наезды сакратара гаркама былі звыклымі і сама патрэба добра вядомая яму.

— Гатовы хоць адзін ёсць? — спытаў Акаловіч.

Той кіўнуў галавою і без слоў падаўся ў глыб двара. Крыху прайшлі па заасфальтаванай тэрыторыі, павярнулі за вугал вялікага гаража з будаўнічымі машынамі і механізмамі, адразу выкіравалі да сталярнага цэха. Густа запахла, ажно заказытала ў носе, хваёвай смалою. І не дзіва! Перада мною намаляваўся новы, скіданы з шырокіх і тоўстых сасновых брусоў вялікі дом-стадола. З сонечнага боку апілаваныя плашчакі свяціліся, ажно зіхацелі, жаўтавата-светлым колерам. «Жывая смала. Дом як звон, будзе стаяць сто гадоў. Ні дождж, ні снег, ні шашаль, ні гніль яму не страшныя»,— падумаў я. Не стрымаўся,

падышоў бліжэй да сцяны, дакрануўся пальцам да велікаватага карычневага сука, на якім вісела маленькая кропелька густой смалы. Панюхаў і бытта апынуўся ў сасновым бары. У такім доме жыць-пажываць ды здароўе нажываць. Дом быў складзены на нямецкі вугал, яшчэ не накрыты, але кроквы ўжо сталі, шыфер ляжаў напагатове, вокны ўстаўлены, але без шыбаў — усё новае, усё дыхтоўнае, усё вабіла вока і я адчуў, як затахкала сэрца.

— Цана тая ж? — спытаў хутчэй для прыліку ў начальніка ўпраўлення Акаловіч. Той згодна кіўнуў галавою.

— Вось, Андрэй Макаравіч, дача. Восем на восем метраў. Чатыры пакоі і туалет. Дзве тысячы. Забіраць можаце хоць зараз...

— Зараз? — нервова засмяяўся.— Яе на плячах не занясеш...

— Навошта на плячах? — лагодна сказаў сакратар гаркама.— Вунь, у тым лесе, у нас стаіць ракетная часць. У іх ёсць «сараканожкі», так мы іх клічам, ракеты на іх перадыслацыруюць. Адно слова — і дача ноччу будзе ў вас. Скажыце толькі, куды везці. Суправаджэнне, кран, рабочыя...

З высокага неба лілося на зямлю святло і цяпло бабінага лета. Восень, ціхая і задумлівая, напаследак песціла і лашчыла ўсё жывое. Лёгкі ветрык прыемна халадзіў твар, гарэзіў у густой лістоце дрэў, калыхаў тонкае павуцінне, і яно трымцела, пераліваcя срэбрам. Прыляцелі і селі каля ног тры свойскія галубы. Яны скасавурыліся на мяне, нібы чакалі адказу.

Зірнуў у той бок, куды паказаў рукою Акаловіч. Там, у далечыні сінеў густы яловы лес, ён распасціраўся ажно да самай пушчы і зліваўся з ёю. Дзесьці там неслі сваю службу ракетчыкі. З лесам, звярамі, птушкамі яны парадніліся. На прыродзе людзі дабрэюць душою, адно слова сакратара гаркама, і хлопцы выканаюць баявую задачу: прытарабаняць дачу мне на ўчастак, які даўно выкуплены, на якім конь не валяўся і які ўкарчэў, у рост чалавека, быльнягом. Дзве тысячы. Каляровы тэлевізар цяпер, калі не памыляюся, каштуе каля тысячы. Проста нейкая казка. А дом дурманіў пахам смалы, плылі, блыталіся ў галаве думкі, то радасць нахлыне, ажно горача стане, то смутак і журба агорнуць.

Даўняя мара, мая і жонкі, мець сваю дачу, каб было дзе прытуліцца ў выхадныя ці водпускам самім, вывезці на свежае, чыстае паветра дзяцей — можа збыцца. Каштуе гэта неспатольная прага ўласнасці ўсяго дзве тысячы. А дом, вясёлы, прывабны, вялікі, ці не восем вокнаў, налічыў, прасторны, светлы, вось ён, чакае свайго гаспадара, за нейкія дзве тысячы.

— Грошы на кніжцы не варта трымаць, — падаў голас Акаловіч.— Час такі, Андрэй Макаравіч, усяго можна чакаць.

Значна пазней, калі ўклады соцень, тысяч, мільёнаў людзей ляснулі, сталі пылам, я ўспомніў настойлівую параду ці папярэджанне сакратара гаркама. Ведалі партыйцы, ой, ведалі, куды ўсё гнецца і чым скончыцца.

Далікатны начальнік упраўлення спаслаўся на нейкі клопат, абачліва пакінуў гасцей дамаўляцца самім наконт куплі-продажу дачы. Скажу шчыра: вельмі карцела стаць яе ўладальнікам і штосьці стрымлівала.

— Я вам, Андрэй Макаравіч, не сказаў самае важнае, — тонка адчуўшы хісткі душэўны стан карэспандэнта, зноў загаманіў сакратар гаркама.— Машыны, якія паступілі на горад, яны не з рыначнага фонду. Гэта мэтавая пастаўка аблвыканкама са свайго фонду для кіруючых работнікаў горада і раёна. Па нашым пісьме-просьбе ў абкам партыі.

Пачутае істотна ўплывала на ўвесь ход падзей, развязвала рукі. Першнаперш, відавочна, што скарга не абгрунтаваная — усе, хто стаяў на чарзе, не могуць прэтэндаваць на новыя аўтамабілі. Па-другое, стукнула ў галаву, я

магу без згрызот сумлення купляць гэты церам. Ужо нават наважыўся сказаць аб сваёй згодзе, бо торгу тут не было, але для большай пэўнасці спытаў:

— Адпаведныя дакументы таксама ёсць на гэты конт?

Акаловіч нахмурыўся, відаць, не чакаў такой уедлівасці ад журналіста. Аднак хутка ўзяў сябе ў рукі і паблажліва, зноў-такі, як малому дзіцяці, пачаў разжоўваць мякіш:

— Пісьмо наша ёсць. А вось аблвыканкама... Андрэй Макаравіч! Многія пытанні вырашаюцца па тэлефоне. Вы што, не разумееце? Хто сёння стане забіваць сабе галаву чаргой на аўтамабілі? Каму муляюць клопаты нейкіх там ахвотнікаў перасесці на калёсы? Разруха кругом... Кожны дбае пра сваё. Гадоў пяць-сем будзе цягнуцца валынка. Не тое, што машыны, ніткі з іголкай не купіш. Вось паглядзіце... Нашы гэта машыны, нам яны выдаткаваны. Так што хай у вас сумленне будзе чыстым. Дарэчы, як здароўе Аляксандра Аляксандравіча? Наш зямляк... Раней скардзіўся крыху на сэрца.

У мяне, мушу прызнацца, непрыемна заныла пад лыжачкай. «Наш зямляк» — ніхто іншы, як мой новы галоўны рэдактар, які ўручаў камандзіроўку і хітра пасміхаўся. Сакратар гаркама, выведзены з цярплівасці ўпартасцю карэспандэнта, недвухсэнсоўна даў зразумець: ёсць, ёсць рычаг збіць табе, хлопча, рогі і паставіць на месца. І яшчэ. Калі па-добраму, то бяры дачу амаль за бясцэнак і ўсё будзе шыта-крыта. Пісаніна твая сёння нікому не патрэбна.

— Мацуецца Аляксандр Аляксандравіч. Кіруе... — толькі і сцяміў, што вымавіць. І ўжо амаль разгублена: — Дайце, Вячаслаў Браніслававіч, падумаць да вечара. Хачу жонцы патэлефанаваць, параіцца...

Акаловіч спытаў, куды адвезці, я папрасіў у гасцініцу. Ехалі моўчкі.

Папалуднаваў і, заадно, павячэраў у гасцінічным кафэ. Пасля тэлефанаваў у гарвыканкам, камітэт народнага кантролю, партыйную камісію... Усюды чуў адно і тое ж: да канца тыдня не будзе. Як змовіліся. Магчыма, так яно было і на самай справе. Затое адразу адгукнулася жанчына, аўтар пісьма, падрабязна, з імпэтам, тлумачыла, як адшукаць вуліцу і дом.

Ісці было далекавата. Ёсць асалода ў вячэрнім шпацыраванні па ціхім, утульным, старажытным горадку. Такое ўражанне, што жыццё тут калі і не спынілася, то цэдзіцца марудна, запаволена, без усплёскаў і віхур. Нават у цэнтры акуратныя пафарбаваныя, драўляныя дамкі скрозь у густых зарасніках старых яблынь, вішань, груш і сліў. Сям-там віўся па сценах вінаграднік, павойная ружа. Сядзіць кот на ганку, дрэмле, схіліўшы галаву, слухае звонкую цішыню. Пакліча гаспадыня, наль'е ў бляшанку ці ў глыбакаватую талерку малака, і зноў цішыня. Прашаргаціць коламі адна-другая машына, але і яны не парушаюць запаволенасці хады часу. Хоць і восень, а гаспадыні адна перад адной выпінаюцца, каб цвіло і пахла ў іхніх агародчыках ажно да першых прымаразкаў. Дыхаць тут не надыхацца. А над усім — вячэрні, ужо ружаваты блакіт неба, задуменная маўклівасць восені, бадзёрае струменне паветра. Шастае пад нагамі першае апалае лісце, дзесьці і аступішся, трапіш у выбоінку; ляжаць жа гэтыя камяністыя тратуары, мабыць, не адзін век.

Без цяжкасцей адшукаў патрэбны пяціпавярховы дом. Пазваніў. Адчыніла мажная, дагледжаная, сярэдніх гадоў жанчына. Чаго не было, дык гэта слёз. Кабета была загартаваная ў змаганнях з чыноўнікамі. Яна ведала ўсё гарадское начальства, далася ім у знакі, калі выбівала трохпакаёвую кватэру і гараж. Цяпер вось — машына. Але былі стогны пра хлеб і ваду, на якіх сям'я сядзела, адмаўляла сабе ва ўсім, пакуль збірала па капейцы грошы на аўтамабіль.

Скажу шчыра: за сваё журналісцкае жыццё слухаў падобныя енкі не раз і не два, ведаў ім цану. Дыхтоўная мэбля, дываны на сценах і на падлозе,

шыкоўны рамонт, у кватэры пахла фарбай — супярэчылі галашэнню кабеты. У рэшце рэшт, ні прычытанні, ні дастатак не маглі паўплываць на тое, што наважыўся сказаць. Калі гаспадыня выгаварылася і памкнулася ставіць чаркі на стол, я ветліва падзякаваў, сказаў, што толькі ад стала, і не стаў, так бы мовіць, цягнуць ката за хвост, загаварыў:

— У вас мала шанцаў і надзеі на станоўчае вырашэнне справы. Машыны паступілі, куплены, грошы заплачаны. Вярнуць іх можна толькі праз суд. Падставы, на маю думку, для гэтага ёсць...

— Ды... Я, мы, ужо былі ў пракурора! Ніхто слухаць не хоча. Адна мафія...— аж захліпвалася ад злосці жанчына. — Але во, канец пачулі... Сталі хапаць... Мала папілі, паелі... Цяпер ім машыны падавай.

Кабета яшчэ доўга мыліла карак «роднай і любімай», але я апошнім часам чуў на вуліцах і не такое. У нас жа так: калі хваліць — то да нябёсаў узносіць, калі ганьбіць — то адпраўляць у пекла або ў турму заканапачваць. Сярэдняга, разважлівага, разумнага пачатку і канца няма і не будзе. Такі менталітэт наш.

— Дык вы хоць напішыце ў газеце пра аферыстаў? — на дзіва хутка супакоілася і ачуняла кабета. — Хай людзі ведаюць... Каб яны ў вочы людзям сароміліся глядзець.

— Я вам нічога не абяцаю. Буду раіцца з галоўным рэдактарам, — коратка адказаў і развітаўся.

Ужо на вуліцы, пры святле ліхтара, зірнуў на гадзіннік: да адпраўлення апошняга аўтобуса на Мінск заставалася сорак пяць мінут. «Паспею», — падумаў (рашэнне выспела імгненна). Заставацца ў гэтым гарадку мне больш не хацелася…

На работу трошкі запазніўся. Зайшоў у кабінет да галоўнага. Шэф падняў галаву, кіўком адказаў на прывітанне, наважыўся слухаць, але вочы схаваў у паперы на стале. Пакуль я вылузваўся са скуры, апавядаў пра вынікі паездкі, твар шэфа заставаўся безуважным.

— Рашайце самі: пісаць ці не пісаць. На ваш разгляд,— нехаця вымавіў ён.

Не заходзячы ў свой кабінет, выйшаў на гаманкую вуліцу, у кіёску купіў бутэльку піва і падаўся ў сквер. Трэба было ўсё добра абмазгаваць, заадно, параіцца са сваім сумленнем…

— Што мне, Бім, заставалася рабіць? Наступілі ліхія часіны, прабіў час авантурыстаў і ліхадзееў. Сумленная журналістыка ім была не патрэбна. А ў новай, наскрозь хлуслівай, я сябе не бачыў. Таму і напісаў заяву на звальненне. А што было пасля? Ну-у-у… Пра гэта раскажу іншым разам…

Назаўтра я схадзіў да дзядькі Юзіка, укінуў у вядро крыху гліны, замазаў дзверцы і накачагарыў стаяк. Цёпла, утульна, можна сказаць, камфортна. Самы раз садзіцца за працу: пісаць свой творчы жыццяпіс…



## Казімір КАМЕЙША

### НЯМІГА

Даўно ўжо стаміліся вочы
Цябе ў сутарэннях шукаць.
Я ўдзячны, што сон мой аднойчы
З табой па стагоддзях блукаў.

Што крыецца ў цёмных закутках,
У змрочных падцёках густых?
Там залежы нашага смутку,
Там нашага болю пласты.

У сполахах свечкі грамнічнай,
Што век у руцэ сваёй нёс,
Праліўся мой дзень навальнічны
Ракою матуліных слёз.

Няўжо яшчэ там, на пачатку,
Было наваронжана кім?
Дзяўчаткі, мае дзяўчаткі,
Вы падалі, як снапкі.

---

*__Камейша Казімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

А ў небе дасюль мітусіцца
Забыты вясной журавок.
Баіцца мой дзень навальніцы,
Далёкае помніць жніво.

Ты гэтак і спіш, як заснула,
У цеснай бетоннай труне,
Пад гоманам зверху і гулам…
І што табе бачыцца ў сне?

Не бачыш ты даўняга смогу,
Ні граду на нашай градзе,
Не бачыш, якою дарогай,
І як, і куды мы ідзем.

Шукаў я. Стаміўся дарэшты
У сценах і вулках крывых.
Цябе не знайшоў. А цячэш ты
Па думках маіх і крыві.

І выплыве крыгай здалёку
Далёкая крыўда сама.
Ёсць дзесьці ў цябе два вытокі,
А вусця і выйсця няма.

Шукай жа яго, як шукала,
У думках, пластах і мурах.
Няміга!
Ты доўга так спала,
Пара прачынацца, пара!

## НАЧНАЯ ДАРОГА

Вазіў на бераг занямонскі
Пушчанскі, з поскрыпам, паром.
Травой, сухой, як волас конскі,
Там луг някошаны парос.

Яго і пчолы абляталі,
І конь заезджаны не скуб.
Грымела грэбля капытамі,
Аж косці трэсла вазаку.

Запрэглі і маю дарогу
У ноч, у цемрыва гушчэр.
На дваццаць вёрст — нідзе нікога,
Ані акна, ані вачэй.

Казыча шчокі вецер золкі,
Трывожна пахнуць палыны.
І перашэптваюцца зоркі,
Хітруюць, бачна, і яны.

Мы воз тапталі — колькі ўлезе,
Не воз паўзе, а сам стажок.
І ён згубіўся тут, у лесе,
І цемрай стаўся сам ужо.

Настрой дарожны — як астрожны —
У ноччу вытканым мяшку.
І прыдрамаць урэшце можна,
Падклаўшы зорку пад шчаку.

Дарога значыцца кустамі,
Клубамі чорнымі, як дым..
А воз на ямінах хістае,
І свет хістае разам з ім.

І ўсё тут хісткае навокал,
І гэты шлях не абмінеш.
Ад Шчорсаў і да Налібокаў
Прыдумалі калыску мне.

Паўночы конь ужо адмераў,
А дом… Яго ўсё не відаць.
Які б ні быў ён, родны бераг,
А ў крыўду ён цябе не дасць.

Ён недзе выблісне агнямі,
Цяплом дыхне, зусім сваім.
А тое, што было між намі,
І застанецца нам дваім.

Дарог ці мала дорыць доля.
І ў кожнай свой разбег і лад.
Ды не паўторыш той ніколі,
Якая першаю была.

* * *

Прыпазніўся,
Не хапіла дня,
А дамоў імчуся, дзякуй Богу.
Ёлку навагоднюю ў агнях
Нагадала позняя дарога.

Мы на ёй, як цацкі, стракацім,
І ляцім, і рэжам цемру гэту.
Ах, з якіх заблытаных націн
Сплецены густыя нервы свету!..

Там, дзе боль,
Вузлоў заўсёды больш,
Там, дзе смутак,
Пробліск ёсць нібыта.
Колькі там наблытана й табой,
Пэўна, за жыццё і не разблытаць.

Позна.
Я свой дзень не перайму.
Спіць мой лес,
І ўсе ў ім дрэмлюць сцежкі.
Пэўна, і спазняешся таму,
Што заўсёды падганяе спешка.

Недзе ў грубцы танчыць мой агонь,
Дражніцца і кпіць з сябе самога.
Цяжка мне ў дарозе без яго,
А яму, гарэзніку, — нічога.

Дагарыць,
Рассыплецца ў вуглі.
Трэба на ўсе дзверы зачыняцца.
Дзіўны сон прысніцца зноў зямлі,
Ну а мне няма калі здзіўляцца…

* * *

Папярэджвалі малога,
Каб у сад чужы не лез,
Не глядзеў на лес падоўгу,
Рос, не гледзячы на лес.

Але ўсё ж за ім цягнуўся —
Там усё-ткі вышыня, —
Гнуткім быў, але не гнуўся,
Тых, вышэйшых, даганяў.

Сад расце, буяе проста,
Рошчына ў дзяжы расце.
Сіраце ж няма ўсё росту —
Дайце росту сіраце!..

На патэльні блін смяецца,
На краёчках прыўстае.

Што ты зробіш, не расцецца,
Хата росту не дае.

Ён па шыбе водзіць пальцам
І малюе там вярсту,
Быццам просіць:
— Пачакайце,
Можа, заўтра падрасту!..

Як расці — ніхто не вучыць,
Ну а хата раіць так:
— Хай падцягвае за вушкі
Па зарубінцы вушак!..

Вы, і праўда, пачакайце,
Хоць не можа быць дзівос.
Калі мала росту ў хаце,
Хай яго дабавіць лёс!..

## БЕЛЫЯ ЯБЛЫНІ

Усё ад цвету ў садзе аж кіпела,
І свет прымлеў ад дзіўнае красы.
І спеўная птушыная капэла
Пад сэрца такт лучыла галасы.

І ўсім хапала ў свеце белай пудры,
Усім хапала ў садзе дабрыні.
І юным прастачкам,
І старцам мудрым
Хацелася імгненне прыпыніць.

Не выйшла —
Не спыняецца імгненне.
У руху ланцугу яно — звяно.
Малі яго, хоць падай на калені,
А не парушыць свой ланцуг яно.

А потым вецер наляцеў імгненны
І смешна-снежна дол запарушыў.
І знікла ўся святочная праменнасць,
Пакінуўшы асадак на душы.

І тая, што збіралася да шлюбу,
У іншыя абдымкі паплыла.
Згаралі ўсе, і любы, і нялюбы,
У белым сумным полымі святла.

А ў снежні зноў у садзе пабялела,
Халодны цвет галіны агарнуў,
І тое, што вясной яшчэ балела,
Пабегла зноў праз далеч у вясну.

Пад сутарэнні белыя касцёла
Яно лілося з даўніх дзён святлом,
Пад крылы снежна-белыя анёла
Ружанцам з белых рук тваіх плыло.

Стары твой сад ці мала што паўторыць.
Прыб’е апошні промень на градзе.
Зноў будуць падаць яблыкі і зоры,
І сукня разам з імі ападзе.

Пайду я ўслед за яблыняю белай
На пушчы самы небяспечны ўскрай,
Дзе некалі ўсё ззяла і кіпела,
Дзе быў той самы абяцаны рай…

* * *

*Але*

Вячорны змрок кладзецца пад вачыма
І сеецца самотай на душу.
Цярпі мяне, цярплівая жанчына,
Я толькі аб адным цябе прашу.

Шануе Бог усіх усёцярпімых,
Я ведаю, я столькі сам цярпеў.
Пражытае паправіць немагчыма,
Яно жыве, караючы цябе.

Душа стрывае ўсё, хоць не з трывалых.
Стамлюся я — нястомным будзе зло.
Камусьці рай давай — і будзе мала,
А мне — каб толькі пекла не было,

Каб сонца гэта яснае свяціла,
Да ўсіх вачэй дарожку кладучы,
Каб твар дзіцячы прыўсміхаўся міла
І засынаў жаночы на плячы.

А раю ўсё ж няма. Ёсць абяцанні
Ды для наіўных — даўняя хлусня.
Калі аднойчы сеў не ў тыя сані,
Дык не кляні нявіннага каня.

Такая, значыць, доля і дарога.
У кожнага свайго цяжару воз,
Свая малітва ўласная да Бога,
І свой у песні ўласнай разгалос.

Нявер'я змрок развеецца, магчыма.
Я зноў цябе пяшчотай ахілю.
…Цярпі мяне, цярплівая жанчына,
Як сам сябе я ўсё жыццё цярплю!..

## МАМІНА ПЛЮШАЎКА

***Памяці маці***
***Ядвігі Казіміраўны***

Выстылі сцены,
Халодная печ,
Але дасюль яшчэ помніцца
Плюшаўка даўняя з маміных плеч,
Зімаў маіх выратоўніца.

Чорны адліў і пушок, як зямля,
З простай сялянскай аздобаю.
Нехта ж і колер такі прыдумляў,
Сумны,
Нароўні з жалобаю.

Бачна здалёк, толькі вочы прымруж:
Зноў ты снуеш, незаменная…
Вёску халодную хутала ў плюш
Восень пасляваенная.

Жылы напяты,
Ірвуцца гужы,
Песня марнее без голасу.
Ціха ў кішэні зярнятка дрыжыць —
Збегла крадком ад коласа.

Рукі, як доля сама, у вузлах.
На скразняках адубелая,
Чорнай мурашкаю з лесу паўзла
Цераз завею белую.

Помню дрывотні разбуджанай гром —
Дровы нялёгка каloліся.
Бегла кругамі бяды, як вядро,
Ты праз нягодаў калодзежы.

Не суравой, а суровай зусім
Ніццю наскрозь перашытая,
Нібы жыццё, што заходам другім
Нанава пражытае.

Сёння на печы халоднае спіш
Ты сарамлівая, ціхая.
А час за сцяной, адмаўляючы ціш,
Абцасамі даўнімі цікае.

У рэчышча даўняе ўлёгся мой гнеў,
А вочы ад стомы аж плюшчацца.
Мяккая надта душа ў мяне,
Як маміна плюшаўка.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Паўтараецца зноў…
Хтось нябачнай рукою
Круціць даўні млынок,
Сыпле свежай мукою.

На двароў астраўкі
Сыпле, нібы варожыць.
Намалоў ён мукі
Аж па самы парожак.

На зямлі чыставік,
Снегам тым знітаваны,
След кладзе чаравік,
Як радок друкаваны.

І самотны паэт
Рады гэткай хвіліне —
Хоць на снезе свой след
Ён сягоння пакінуў.

* * *

Паўтараючы — жывеш.
Тое, што пражыта ўчора,
Новай дзеяю плыве,
Новым вяжацца паўторам.

— Пройдзенае паўтары! —
Кажа мне настаўнік класны. —

Зноў старое гавары,
Але ўжо на лад сучасны.

Паўтараецца мой сон,
Паўтараецца і ява.
І ў паходцы новых дзён
Бачыш даўняе яскрава.

Цэлы лес знаёмых рук
Зноў сплятаецца ў абдымкі.
Паўтараецца і ўнук
Цёплай дзедавай радзімкай.

Паўтараюцца ў вяках
Гора даўняе з бядою.
Паўтараецца рака,
Хоць і новаю вадою.

След пластуецца на след,
Зёрны цягнуцца да зёрнаў.
Толькі сам наш дзіўны свет,
Ён адзін і непаўторны…

* * *

Глядзяць на людзей звысоку
Не толькі сівыя аблокі,
Не толькі месяц, і зоркі,
І ў лесе высокім сасонкі.

У частым жыццёвым аблудзе
Глядзяць на людзей звысоку
Часцей за ўсё самі людзі.

## ЧАРАВІКІ

***Алесю Козелу***

Меў я дарог… Ім не ведаю ліку.
Можа б, даўно і забыўся пра іх,
Каб не старыя мае чаравікі
З памяццю цвёрдай падэшваў сваіх.

Вёсны мае маладзецкія, дзе ж вы?
Колькі губляў іх, пасля пераймаў,
Сёння раскажуць вам толькі падэшвы,
Толькі яны,
Іншых сведкаў няма.

Недзе плылі яны ў свет незнаёмы,
Лёгкі ў траве пакідаючы след,
І паглядалі зайздросна за Нёман,
Дзе верхаводзіў той зваблівы свет.

Але спыняліся за Навікамі,
Родныя вокны жагналі ізноў,
Смешна з травою гулялі шнуркамі,
Потым знікалі надоўга з вясной.

Як яны лёгка круцілі педалі!..
Я за старанне іх нават хваліў.
Беглі, дзяўчат ля Сулы даганялі
І… пад сабою не чулі зямлі.

Помняць яны мае полькі і вальсы,
Гром іх маснічыны гнуў і калоў.
Бляску было малавата і ваксы —
Спрыту і скрыпу аж лішне было!..

Што ж вы пакінулі мне для ўспаміну?
Нейкай травінкі худы валасок,
З даўніх дарог і дварышчаў пясчыну,
Сумны з магілаў забытых пясок…

Брук і асфальт абчасалі абцасы,
Але падэшвы, глядзі, зберaглі.
Беглі, спяшаліся недзе за часам…
Добра, што ў часе сваімі былі…

* * *

Недахопаў шмат чужына мае,
Што паўзуць да нас, нібы вужы.
Недахопаў нам сваіх хапае,
Не хапала нам яшчэ чужых!..

Добра сёння ведаю ужо я,
Што па чым там,
Што там да чаго.
Колькі не хапайся за чужое,
Мусіш зноў вяртацца да свайго.

Выраю — крыло,
А дрэву — корань,
А сямейцы кожнай — па страсе…

З міскі аднае зямля нас корміць —
Родныя
*карміцельцы*
мы ўсе.

Кожнаму — адны і тыя ж краскі,
Рэчка,
сцежка,
лес
і сенажаць…
Кожнаму — ні менш, ні болей ласкі,
Калі грымне час той спачываць.

Мудрасць на паверхні ўся зямная.
Хочаш — дык капай сабе глыбей.
Кожны сам даўно ўсё гэта знае,
Толькі сам не слухае сябе…

## ВЯЧЭРНЯЕ

Як засутонее на ўзбор'і
І сцежкі змрок завечарыць,
Ізноў ружанцамі сузор'яў
Іскрыцца неба і гарыць.

І птах стамлёны не лятае,
І пад вядзёрны перазвон
Уся лістота залатая
Малітву шэпча ля акон..

Як дзіўна гукі ў ёй зліліся
У нейкі мудры сугалос.
І ты, дачушка, памаліся
За ўсё, што дзень табе прынёс,

За гэту мілую сцяжынку
Каля азёрнага стаўка
І тую сумную смяшынку
На сініх крылцах матылька,

За ўсё, што ў дні тваім наступным,
Хоць і паўторыцца інакш,
Ды стане новаю прыступкай
Да Храма, што ўзвышае нас!..



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# АПАВЯДАННІ

*З цыкла «Дунілавіцкія былі»*

## Жыццё любіць смелых

Чарга да зубнога ўрача была доўгай, як саматужная пуга, і рухалася марудна.

Будынак райбальніцы — доўгі каменны дом, пабудаваны яшчэ за польскім часам, служыў раней для розных панскіх патрэб. Пакойчыкі ў ім былі невялікія, а калідоры — вузкія і цесныя. Затое летам там адчувалася жывая, прыемная прахалода. Але некаторых хворых калаціла зусім не ад таго, што ў будынку панаваў халадок: іх чакала сустрэча з зубным урачом. Толькі той рэдкі шчаслівчык, які ніколі не чуў, як працуе бормашына, здзіўлена паціснe плячыма. Астатнія ж — тыя, што зведалі мукі зубнога болю і болю ад лячэння, — зразумеюць настрой тых гаротнікаў, якія чакалі сваёй чаргі. Напятая цішыня раз-пораз перарывалася цяжкімі ўздыхамі.

— Людцы добрыя, пусціце мяне да доктара! — хворыя здзіўлена і разам з тым зацікаўлена пачалі азірацца, каб убачыць таго смельчака, што як мага хутчэй імкнуўся патрапіць на зубныя экзекуцыі.

Тым часам па калідоры ўжо каціўся нізенькі таўстунок, размахваючы рукамі, нібыта вятрак крыламі. Калашыны ягоных цёмна-шэрых штаноў знізу былі сашпіленыя прышчэпкамі, якія гаспадар, відаць, забыўся зняць, злезшы з ровара. Светла-блакітная, васільковая кашуля на спіне таўстуна цямнелася вялікімі, мокрымі ад поту плямамі.

У правай руцэ мужчына трымаў пакамечаную зашмальцаваную шапку, якой часта выціраў узмакрэлы лоб. З яго вуснаў бесперастанку злятала адчайнае: «Памру, дальбог, памру».

— Чакай паміраць, — спакойна прагаварыў мажны дзядзька з чаргі і ўсміхнуўся: — Малады яшчэ ногі выцягваць.

— Эге, а старому дык што, думаеш, жыць не хочацца? — адразу запярэчыў яму жвавы, сухі дзядок, што сядзеў на лаўцы недзе ў канцы чаргі. — Стары толькі што з выгляду няпекны ды на пень падобны, а жыць яму ўсё

---

***Зарэцкая Юлія Францаўна** нарадзілася 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Дунілавіцкую СШ (1995), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2000). Працавала рэдактарам, загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў, намеснікам галоўнага рэдактара, цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Вожык». Аўтар кнігі «Шчаслівыя людзі» (2011).*

адно хочацца. Чаму б і не пагрэць на сонцы яшчэ свае косці, калі Бог пакуль да сябе не забірае?

— Вельмі ты яму патрэбны, — рагатнуў малады хлопец, які трымаўся дагэтуль за прыпухлую шчаку.

Таўстунок спыніўся перад людзьмі і няўцямна залыпаў вачыма, спрабуючы скеміць, пра што яны гавораць.

— Што за бяда ў цябе, чалавек? Сціхніце, балбатуны! — прыкрыкнула на мужчын кабета, якая стаяла каля акна, і падышла бліжэй, спагадліва паглядзела на бедака.

Ён як быццам цяпер толькі прыйшоў да памяці і зноў адчайна залямантаваў: «Пусціце да доктара, бо памру!»

— Нешта доўга ты паміраць збіраешся. Каб так кожны канаў, дык да ста гадоў жыў бы! — не вытрымаў мажны гаваркі дзядзька і злёгку таўхануў у бок сухенькага дзядка. Дзядок заўсміхаўся шчарбатым ротам, у якім хістаўся змарнелы пярэдні зуб.

— Атруту я праглынуў, — асуджана і сцішана прагаварыў неспакойны пацыент.

— Што ты кажаш, чалавек? — войкнула кабета і закрыла збялелы твар рукамі.

— Дык ты, дзядзька, не туды прыбег. Тут зубны ўрач прымае. А табе цяпер клізма толькі дапаможа, — разважліва пачаў тлумачыць дзядок.

Малады хлопец, які ціха душыўся смехам, не вытрымаў і голасна зарагатаў.

— Ну што вы як нелюдзі! — зноў прыкрыкнула кабета на мужчын і спачувальна запыталася ў таўстуна: — Як жа ты тую атруту праглынуў?

— Незнарок. Толькі ўзяўся костку абгрызаць, яшчэ нават да мазгоў не дайшоў, як яна шусь — і ўжо ў горле. Ну, я і праглынуў…

— Костку, ці што?

— Не, плёмбу… — уздыхнуў мужчына. — Ну, тую, што з мыш’яком. Доктар учора дзірку ў зубе ім заклаў. Сказаў, што нерв ад гэтага згіне і зуб балець не будзе, а пасля сапраўдную плёмбу, цэментную, паставіць. Ой, памру я! — і зноў загаласіў.

Тым часам дзверы кабінета адчыніліся. На парозе стаяў доктар Матошка. Невысокі, ударлявы, ён строга паглядзеў праз шкельцы сваіх акуляраў у цёмнай, тоўстай аправе на хворых і няголасна, але строга спытаў: «Што за гвалт вы сабе тут дазваляеце?» Хворыя, нібы нейкія малыя распуснікі, што сколваюцца[1], уміг прыціхлі, іх твары выцягнуліся і замерлі.

— Ну, чаго маўчыш? Ты ж паміраць сабраўся! — зашаптаў дзяцюк, дакорліва зіркаючы на таўстуна.

Той умольна паглядзеў на доктара і… пачаў паволі апускацца на падлогу. Але доўга ляжаць на зямлі пужліваму пацыенту не дазволілі. Медсястра, якую паклікаў зубны ўрач, хуценька тыцнула мужчыну пад нос нашатыр.

— Уставайце, хворы, прашу заходзіць, — схаваў усмешку ў рэдкіх, сівых вусах Матошка і пайшоў у кабінет.

Мужчыны дапамаглі таўстунку падняцца і беражна падвялі да пакоя: «Ну, далей сам…»

— От трус! Як быў баязліўцам, так і застаўся! — з ухмылкаю прагаварыў дзядзька, які дагэтуль маўчаў, і, забыўшыся, сабраўся смачна плюнуць, ды ў

[1] Сколвацца — дурэць.

час апомніўся і стрымаўся. Ён быў апрануты ў шэры пінжак і галіфэ, падперазаныя франтавой дзягай. — Пеленкавацца[1] з ім яшчэ трэба…

— А вы, дзядзька, ведаеце яго, ці што? — пацікавіўся малады хлопец.

— Эге, ведаю. Чаму ж не ведаць? Пецька Сянькевіч. Ды і ён мяне, Сашку Бурачкова, відаць, таксама памятае. Мы ж з ім старшынямі першых у нас калгасаў былі! От быў час…

— Няпросты быў час, — заківаў галавою дзядок. — У нас жа тут, малады, можа, не ведае, — і стары пільна зірнуў на хлопца, — у Заходняй Беларусі калгасы толькі гады праз чатыры пасля вайны пачалі ствараць. Не надта ахвотна хацелі людзі ў іх уступаць, аддаваць, як кажуць, чорту лысаму нажытае, зробленае мазалём, ды куды падзецца? Таму зганялі з хутароў, вымушалі пакідаць родныя хаты, агароды, пашы, пераводзіць жыўнасць… Мала радасці было сялянам, але ж за вілы не хапаліся.

Хоць і неспакойна было!.. Калі немцы нашу зямельку тапталі, па лясах шмат людзей са зброяй хадзіла. Хто — партызаны, а хто — так, адна назва… Ды і потым, пасля вайны, яшчэ шмат «партызан» у лесе засталося, якія ні немцаў, ні бальшавікоў не прызнавалі.

— Ага, хто сабе: прыхільнікі Арміі Краёвай Польшчу хацелі вярнуць, літоўскія «зялёныя браты» — Літву, — развёў рукамі былы старшыня калгаса. — Хто толькі пад соснамі ды бярозамі не туляўся! І дэзерціры, што ад прызыву ў Савецкую Армію хаваліся, і пакрыўджаныя новай уладай, і проста жулікі, якія ахвотна рабавалі падчас неразбярыхі…

— Вайна як быццам скончылася, а ўсё яшчэ ваявалі, усё не было спакою, — зазначыў дзядок.

— Ат, які там спакой! — махнуў рукою Бурачкоў і неўспадзеўкі крыва ўсміхнуўся, хмыкнуў: — Хоць часам не толькі страшна, а і смешна было. Але гэта пасля, як зразумеў, што да чаго… Калі хочаце, збаю пра адну прыгоду, пакуль гэтага сярлі́ўца ад смерці выратуюць.

— Цікава паслухаць, раскажыце! — аж прыўстаў малады смяшлівы хлопец, што не адпускаў рукі ад сваёй апухлай шчакі.

Уся чарга згодна заківала галовамі: «Раскажы!»

— Ну, то слухайце! — ажывіўся мужчына, відавочна ўзрадаваны такой увагай. — У вайну партызаніў я тут, быў камандзірам атрада… Таму і абралі мяне пасля старшынёй калгаса. Цяжкавата, шчыра кажучы, давялося працаваць, рознага хапала: то той незадаволены, то таго пакрыўдзілі, то гэты скардзіцца ў раён начальству, то гэны… Ды памалу паставілі мы гаспадарку на ногі, пабагацелі. Ну, і вырашыла праўленне калгаса на агульным сходзе купіць матацыкл. Эх, як цяпер бачу той мінскі мацыклет — цёмнага, чорнага колеру, аднамесны, з багажнікам, тры хуткасці…

Ну, і ехаў я аднойчы на ім з Асінагарадка ў Рапае́ва ды праз лес. Вядома, чуйна прыслухоўваўся, пільна прыглядаўся. Вайну прайшоў, не з палахлівых быў, але як праз лес ідзеш ці едзеш, так, здаецца, і цікуюць за табой ледзь не з-за кожнага куста. Гэтыя ж «барацьбіты супраць савецкай улады» і міліцыянераў забівалі, і чэкістаў, і савецкае начальства, і фінагентаў… Словам, еду на матацыкле ды вачамі па баках зіркаю, думаю, як гэта хутчэй адсюль выбрацца. А там жа не разгонішся — лясная дарога: то ўніз, то ўправа, то яміна, то лужына… Пхнуся паціху.

І раптам сярод гэтай цішыні — аўтаматная чарга! Вось табе і ціхі лес, думаю, глядзі, каб сам зараз не сціх навек. Кінуў я той мацыклет, схаваўся ў

[1] Пеленкавацца — няньчыцца.

нейкай канаве. Матацыкл заглух. Лес шуміць. Ну, а я ляжу… І так паслухаю, і гэтак — цішыня. Вытыркнуў асцярожна галаву — ціха. Паляжаў яшчэ крыху, вытыркнуў галаву вышэй — ціха. Прыўстаў — таксама ціха. Ну, думаю, не век жа мне тут ляжаць, трэба ўставаць.

Памалу вылез з рова, падыбаў да матацыкла. На дарозе ж — як на далоні: пацэліш як піць даць! Дабег на дрыжачых нагах да матацыкла, пачаў заводзіць, а тут зноў аўтамат як затрашчыць! Я на месцы і гэпнуўся. Здзекуюцца яны з мяне, ці што? Расплюшчыў вочы, зноўку азіраюся паціху па баках… І — ніколі ў жыцці так больш не лаяўся! Побач з мацыклетам выхлапная труба ляжыць! Калі ехаў, адвалілася, значыцца, ну, матацыкл і затрашчаў, нібы аўтамат!.. Прыкруціў трубу да цыліндра, ну, і пакаціўся далей… — Бурачкоў выцер лоб рукою, уздыхнуў. — Вось такое было жыццё. І паплачаш, і пасмяешся….

— Ну вы, дзядзька, смелы! — сказаў хлопец у захапленні. — Калі б я на вашым месцы быў, то нізашто б не ўстаў. Гэта ж бяры і страляй — усё відаць!

— Ну, і што б ты рабіў — ляжаў да пенсіі? — пацвеліўся з хлопца сухі дзядок і зноў паказаў шчарбаты рот.

— Чаму да пенсіі? — не залюбіў дзяцюк. — Я што, дурны? Паляжаў бы, пакуль не сцямнее, а ўжо потым, упоцемку, пайшоў бы ціхенька дахаты.

— А мацыклет?

— А гары ён гарам, той мацыклет! Жыццё даражэй.

— Э-э, хлопец, неважнецкі з цябе ваяка, — дакорліва паківаў дзядок галавой. — Калі б усе так рабілі, мы ў вайне ніколі не перамаглі б.

Хлопцу стала ніякавата, ён апусціў вочы.

— Э-эх, хлопча, не бядуй. Бачу, што ты — добры дзяцюк. А сказаў так, не падумаўшы, — пашкадаваў яго Бурачкоў. — Ты думаеш, я не баяўся? Баяўся. Баяўся — і жаніўся ў голад ды холад, дзяцей у свет пускаў. Баяўся — і калгасам кіраваў. Баяўся — і ваяваў. Ваяваць заўсёды страшна. Але калі зямлю тваю чужынцы топчуць, забудзешся на страх, бо бараніцца трэба. Што баяцца? Пра будучыню думаць варта, пра дзяцей, каб жылі яны на гэтай зямлі вольна ды шчасліва. Дзеля гэтага людзі змагаліся, цярпелі, гінулі…

— Смеласць на гэта трэба, — упарціўся хлопец. — Адвага.

— Ну, не без гэтага, — пагадзіўся былы старшыня. — Смеламу Бог памагае. А трусіць будзеш — што за жыццё? У скрыні хіба хавацца, як таму Сянькевічу.

— Таму? — здзіўлена перапытаў дзяцюк.

— Але, таму, хто ад кроплі мыш'яку памерці баіцца, — усміхнуўся Бурачкоў.

— А пры чым тут скрынка?

— Асобная гісторыя пра гэта.

— Раскажыце, дзядзька! — зноў папрасілі з чаргі ледзьве не хорам, прадчуваючы, што гісторыя будзе безумоўна цікавай.

— Ну, калі просіце… — сказаў мужчына нібыта з неахвотай. Але адчувалася, што расказаць яму хочацца. — Раней жа як было? Што ні вёска — то і калгас. У Дунілавічах я старшынёй быў, а ў суседняй Гліншчыне — Сянькевіч. І кожны вечар трэба было яму адтуль вяртацца дахаты, у Дунілавічы. Дарогі той — кот наплакаў: нейкі кіламетр усяго. Ды — страшна! А каго там баяцца? Справа — адны могілкі, каталіцкія, злева — другія, праваслаўныя, а яшчэ далей — яўрэйскія… Але ж, як людзі кажуць, баяцца трэба не памер-

лых, а жывых. Жывыя ж маглі толькі ў адным месцы хавацца — у сасонніку, што перад каталіцкімі могілкамі расце. І, як ні круці, а ехаць мусіш менавіта праз яго.

— Але, задача, — уздыхнуў мажны дзядзька і крэхнуў. — На самалёце ж не паляціш…

— Затое ў скрынцы схаваешся! Побач з Гліншчынай, у Лембаўцы, жыў Антак, за коньмі век прыглядаў. Дык ён запрагаў штовечар калгасную кабылу Клеапатру, прыладжваў на воз драўляную скрынку, у якой раней вазілі бульбу, буракі, яшчэ якую гародніну. Тады прыходзіў Сянькевіч, узлазіў на воз ды клаўся ў тую скрыню.

— Так і ехаў?

— Не, трэба было яшчэ прыхаваць яе. Антак абкладваў скрыню саломай, ставіў наверх лаўку. І толькі пасля садзіўся і ехаў.

— І што, да самай хаты так яго і вёз? — зноў пачаў душыцца смехам хлопец.

— Не, чаму да хаты? Сорамна, усё ж нейкі час нібыта ў партызанах быў, — запярэчыў дзядзька. — Хаця, хто ведае, чаму ён да іх прыстаў? Можа, таксама са страху?.. Дык вось. Як толькі праязджалі сасоннік і небяспека мінала, Антак спыняў каня, здымаў лаўку, расхінаў салому і адчыняў куфар. Сянькевіч вылазіў, доўга абтрасаўся, выціраючы пот, які ледзь не градам каціўся з ілба, і ўрэшце ўладкоўваўся на возе.

— Эге, дык ён, лічы, з персанальным шафёрам ездзіў!

— А як жа — улада!

У чарзе зарагаталі. У той жа момант дзверы кабінета адчыніліся і медсястра вывела пад рукі Сянькевіча. Мужчына дакорліва паглядзеў на людзей:

— Усё рагочаце?

— Ну, смяяцца лепш, чым плакаць, — рэзонна заўважыў дзядок.

«Наступны!» — данеслася з кабінета.

Бурачкоў хуценька падхапіўся, паправіў дзягу і са словамі: «Ну, не сумуйце тут без мяне!» бадзёрым крокам пайшоў у пакой.

— Але, горш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся… — задумліва прагаварыла кабета.

— Пэўна ж, — ахвотна пагадзіўся Сянькевіч і выпраміў спіну. — Я дык вось гэтых зубных дактароў век не баяўся: чаго?

— Дык вы, дзядзька, смелы! — незаўважна падміргнуўшы чарзе, працягнуў хлопец.

— А ты думаў! — задаволены такім неспадзяваным «падвышэннем», Сянькевіч нават задзёр нос і чамусьці апусціў рукі па швах, нібы рыхтуючыся да таго, што яму зараз павесяць на грудзі важкі ордэн.

— Дык ты, браток, што, і Ракалёнка не баўся? — як Піліп з канапель, ублытаўся ў размову дзядок.

Сянькевіч неяк адразу перамяніўся, уяўная ўзнагарода ў імгненне вока растала ў паветры, плечы мужчыны апусціліся.

— Яго, дзед, усе баяліся… Бо жыць хацелі. Сам, відаць, здагадваешся, колькі ён жыццяў загубіў са сваімі бандытамі! Не шкадаваў саветаў ані…

— Дык яму што, савецкая ўлада не падабалася? — спытаў малады хлопец, які, відаць, нешта ўжо чуў пра Ракалёнка.

— Эх, хлопец, саветы тут не ўсім па душы былі, — сумна ўздыхнуў дзядок. — Можа, памятаеце такую байку? — зірнуў стары на больш сталых людзей. — Апынуўся неяк у нашых мясцінах адзін усходнік. Пахадзіў-паез-

дзіў, а потым і кажа: «Нікак не магу паняць: почэму эта у Западнай Беларусіі вездзе есць такая уліца — сімнаццатага сінцябра? В Поставах, Глубоком, Шарковшчызне… Так што эта за дата такая?» Яму і патлумачыў нехта з мясцовых, што сямнаццатага верасня нас вызвалілі. Ад усяго… Вось што гэта за дата. Кажуць, зразумеў.

— Э, дзед, тое, нешта ты не тое, — прыкметна захваляваўся Пётр Сянькевіч. — Антысавецкай прапагандай займаешся, а за гэта…

— Не хвалюйся, смяльчак, — асадзіў яго дзядок, — за маю прапаганьбу. Людзі розныя былі. Хто не прымаў новую ўладу, а хто і за яе быў. Нехта ж увогуле нічога не мог зразумець… Я столькі ведаю, што табе і не снілася. І пра Ракалёнка — таксама. Ён жа з суседняй ад нас вёскі быў — з Лісіц. І ніякі не ідэйны ён, не змагар за волю, а самы звычайны бандыт, дэзерцір. Не хацеў ісці ў Савецкую Армію, на фронт, хаваўся. Ды аднойчы тыя, хто расшукваў дэзерціраў, падпільнавалі яго. Ракалёнак пачаў уцякаць, яны — страляць. У яго таксама быў аўтамат, ну, ён і адказаў… Вось з таго моманту і стаў Ракалёнак барацьбітом супраць савецкай улады.

Сабе жыццё скруціў — Бог з табою, дык жа іншым людзям жыцці паламаў! А гэта вялікі грэх. Жыў у нас у вёсцы Эдмусь. Звычайны чалавек, на зямлі працаваў, гаспадарку трымаў, сям'я была. Дык забралі яго і дваццаць пяць гадоў уляпілі! За што? За тое, што ён нібыта вынес Ракалёнку ці мех, ці паўмеха хлеба. Думаеш, вярнуўся Эдмусь? Дзе там! Згінуў недзе ў далёкай, няроднай Сібіры…

А як на вечарынцы гэты Ракалёнак міліцыянтаў забіў, чулі? Пад канец вайны гэта здарылася. Прыслалі з раёна двух міліцыянтаў лавіць Ракалёнка. Ён ужо тады сабе «славу» займеў. Пайшлі яны на вечарынку, дзе мясцовая моладзь збіралася. Зайшлі ў хату. Пары танчаць, ну, і міліцыянты прыселі на лаву. Крыху пазней і сам Ракалёнак туды наведаўся. Камандзіраваныя ў твар яго ведаць не маглі, сядзяць сабе спакойна. А гэты чорт агледзеўся, падхапіў адну з дзяўчат ды кінуўся ў танцы. Зрабіў колькі кругоў і, апынуўшыся насупраць міліцыянераў, выхапіў пісталет і, лічы, ва ўпор расстраляў іх…

— Дык яго, што, злавіць не маглі? — шчыра абурыўся хлопец і здзекліва працягнуў: — Міні-і-цыя-я называецца!..

— Ты, хлопец, лепш трымай язык за зубамі, калі не ведаеш, пра што вякаеш, — сур'ёзна, з націскам, адрэзаў мажны дзядзька, які дагэтуль уважліва слухаў гаворку. — Людзі жыцці свае паклалі, а ты языком цяпер мянташыш.

Хлопец вінавата апусціў галаву.

— Ды і як злавіць было, калі ён дужа бярогся? — расхваляваўся дзядок і нават устаў з лаўкі. — Колькі гадоў пражыў на свабодзе! На яго засады рабілі, усюды шукалі — усё марна… Ён жа, паскуда, хітры быў. Простых людзей стараўся не чапаць. Калі чалавек з новаю ўладаю не знаўся, то спакойна мог сустрэць яго ў лесе, на дарозе, у полі… Казалі, Ракалёнак мог узяць у вяскоўца каня і заехаць на ім за шмат кіламетраў, але потым перадаць праз чужых людзей, дзе шукаць жывёлу. Казалі, мог нават нешта з нарабаванага аддаць сям'і, якая мела ў гэтым пільную патрэбу. Шчодры быў, яці яго маць, за чужы кошт!

— Але, — згодна заківаў галавою мажны дзядзька. — А я вось што некалі чуў. Кажуць, сядзелі неяк зімою мужчыны ў хаце, у карты перакідваліся. Раптам заходзіць Ракалёнак з аўтаматам у руках: «Мне патрэбны ваш дэпутат! Хто завядзе да яго?» Усе, вядома, маўчаць. Тады ён сам выбраў гаспадара, папярэдзіў, каб астатнія не выходзілі з хаты, ну, і пайшлі. Мусіў той чалавек паказаць, дзе жыве Талесфор-аднаасобнік, якога ледзь не сілай выпхнулі на тое дэпутацтва. І ўжо ўтрох яны пашыбавалі ў магазін — звычайную вяско-

вую хату. Ракалёнак па-свойску агледзеў усё, узяў тое, што яму было трэба — цукар, хлеб, выцягнуў дзясятак селядцоў з бочкі, захапіў пару ботаў, фуфайку, запалкі… А ім, сведкам, загадаў дакладна запомніць, колькі і чаго ўзяў, каб потым дапамаглі крамніку трымаць справаздачу перад «эмгэбістамі». Затым адкаркаваў некалькі пляшак гарэлкі і пачаў частаваць мужчын. Піце, маўляў, гэта ж вам не сыналька[1]! Не да выпіўкі ім было, але хіба адмовіш?.. А калі напаіў іх, пайшлі назад, у хату. Ракалёнак пералічыў мужчын, якія, вядома, і не думалі куды-небудзь уцякаць, а затым з «панскай» міласці грукнуў перад імі на стол дзве пляшкі «казёнкі» і выйшаў з хаты… Можа, і было так, можа, і не. Маглі ж людзі і прыдумаць…

— Як піць даць прыдумалі! — упэўнена сказаў дзядок.

— Калі ён такі шчодры і добры быў, чаму ж тады столькі людскіх слёз з-за яго пралілося, столькі гора ды бяды ён нарабіў? — жанчына, якая ўвесь гэты час маўчала, не вытрымала і загаварыла. — А людскія слёзы — не вада, за іх адкажаш рана ці позна. Вунь цётка мая за адну ноч з-за яго ссівела… Сын яе адразу пасля вайны настаўнічаў у нашых мясцінах. Камсамольцам быў. Затым дырэктарам пачатковай школкі прызначылі. Таму, калі ўладзе трэба было што — адразу яго выклікалі.

У той раз падпіску на пазыкі збіраў. Нахадзіўся, нагаварыўся, наўпрошваўся… Стаміўся хлопец, прыйшоў да бацькоў і заснуў, як забіты. Ноччу загрукалі ў дзверы. Бацька мусіў адчыняць. Уваліліся ўзброеныя людзі, нейкія злыя, зацятыя. Вядома, ведалі, куды ішлі, гэта ж вёска… Пачалі біць хлопца, «выхоўваць». А затым загадалі збірацца. Маці галосіць, бацька на калені перад бандытамі становіцца… Але хіба гэта людзі? Забралі. Заехалі за вёску, патрымалі яго яшчэ з паўгадзіны і — адпусцілі дахаты. Загадалі толькі, каб ішоў акурат дамоў, нікуды больш не заходзіў, нікому нічога не расказваў. Вярнуўся хлопец у родную хату, супакоіў бацькоў... Леглі спаць, аж зноў грукаюць у дзверы. Адчыніў бацька, а на парозе тыя ж бандыты стаяць. Прыйшлі праверыць: ці выканаў іх загад. «Ну, пся крэў, тваё шчасце, што дома! А то зараз кокнулі б тваіх бацькоў, ды хату падпалілі б!..»

— Па лесе бадзяўся, таму і стаў на ваўка падобны, — задумліва зазначыў хлопец. — Паглядзі на гэтага звера здалёку — залюбуешся. Здаецца: прыгожы, смелы, дзёрзкі, разумны… Але ж і ліха ад яго колькі! Адно слова: звер!

— А во тут, хлопча, ты праўду сказаў, — ажывіўся дзядок і нават ляпнуў сябе далонню па калене. — Як у сук уляпіў. І колькі ваўку не бегаць, а канец вядомы. Савецкая ўлада крапчэла, «партызан» такіх трэба было знішчыць дашчэнту. Ды і людзі ўрэшце перасталі баяцца, даліся ім у знакі гэтыя гульні ў вайну, гэтая банда, што шнырыла каля іх вёсак ды хутароў. Лопнула людское цярпенне, калі ні днём, ні ноччу не мелі спакою.

Аднойчы спыніўся Ракалёнак у адной удавіцы адпачыць. Памыўся, перааpрануўся ў чыстае ды, відаць, дрэньчыла[2] яго нешта: зірнуў у акно. А там удалечыні — службовыя людзі. Зразумеў адразу, што па яго душу ідуць. Выбег з хаты, ускочыў на каня і ўцякаць што сілы. Тыя заўважылі, пачалі страляць. Ракалёнак у адказ адстрэльваўся. Кінуліся ў пагоню... Паранілі бандыта. Дык ён, каб не трапіць у рукі сваіх зацятых ворагаў, пусціў сабе кулю ў лоб… Тры дні яго цела ляжала «для ўсеагульнага агляданання» каля райаддзела міліцыі ў Рапае́ва. Людзі праходзілі і глядзелі на яго, нібыта на звера, які ўжо нікому не мог учыніць зла…

---

[1] Сыналька — адгон, слабая самагонка.

[2] Дрэньчыць — непакоіць.

Маўчанне парушыў скрыгат дзвярэй. На парозе стаяў вясёлы Бурачкоў і ўсміхаўся:

— Ну, што замаркоціліся? Наступны!

Жанчына ціха войкнула і асцярожна, нібы па першым лёдзе, пайшла ў кабінет.

— Сумныя гісторыі згадвалі, вось і засумавалі, — адказаў хлопец. — Вы ж, відаць, таксама яго ведалі — Ракалёнка.

— О, вы тут гэтага бандыта ўспаміналі! — аж прысвіснуў былы старшыня. — Шмат яму чэсці: праз столькі гадоў згадваць. Звярнуў галаву — ну і чорт з ім! — і пашукаў вачыма Сянькевіча. — Ну, як ты, жывы? Ці каленькі ўсё яшчэ трасуцца?

— Жывы, — неахвотна прамовіў мужчына. — Затое ты нічога не баішся — ні зубнога ўрача, ні бандзюкоў.

— А як ты думаў, Пецька? — паблажліва ўсміхнуўся Бурачкоў. — Думка ваду п'е, а адвага — мёд. Калі б нашы хлопцы баязліўцамі былі, дык Ракалёнак са сваёй бандай і цяпер яшчэ па лесе швэндаўся б! Так што ты, хлопец, таксама нічога не бойся ў гэтым жыцці, — паглядзеў ён на прыціхлага дзецюка. — Ты ж вольны чалавек! І свет цяпер вольны.

— Але, маладым цяпер жыві і жыві, — падтрымаў яго дзядок. — Толькі жыць трэба з людзьмі па-людску, як чалавеку… Сам свой лёс выбіраеш, але сам і адказваеш. Тут не зманіш, не схаваешся ў скрынку з саломай, не ўцячэш на быстрым кані… Выбірай, хлопча, сваю дарогу, ды не памыліся.

— Пра смеласць, адвагу не забывай! — зноў паўтарыў Бурачкоў. Мужчына дастаў з кішэні галіфэ прытабачніцу[1] і зірнуў на знаёмца. — Ну што, Пецька, пойдзем чарку возьмем за тваё выратаванне, ці што? Сто гадоў яшчэ жыць будзеш!

Сянькевіч нехаця падняўся, накінуў на галаву шапку.

«Наступны!» — зноў пачулася з кабінета. Малады хлопец схапіўся за прыпухлую шчаку і цяжка ўздыхнуў…

## Каб ведаць…

У гэтым вялікім горадзе Міхась бываў не раз. Вясковы чалавек, ён не любіў тлумнае паселішча, вечную мітусню і кругаверць. «Ці ж ты ўпохапкі што талковае зробіш? Каб я бегам за плугам хадзіў ці дровы шчапаў, што тады і было б? — пытаўся мужчына сам у сябе і тут жа адказваў: — Цырк на дроце. Толькі людзей насмяшыў бы. А тут, у горадзе, усе ляцяць некуды, шыбуюць, пруцца, а толку?» Толк, па Міхасёвым разуменні, павінен быў стаяць ва ўсім на першым месцы. Так мысліў яго прадзед Антось, якога малому Міхаську пашанцавала ведаць і які гадаваў яго ў маленстве. Так разважаў яго дзед Ігналя, шчыры вясковы працаўнік, які сваімі ўласнымі рукамі паставіў хату. Так лічыў яго бацька Чэсь, майстар на ўсе рукі, да якога па дапамогу ды параду звярталіся многія аднавяскоўцы.

Гэтым разам Міхась выбраўся ў дарогу ў вялікі горад (малым горадам лічыўся свой райцэнтр, а вялікім — сталіца, Мінск). Час, праўда, не вельмі спрыяў далёкім паездкам: лета ў самым разгары, ды выбіраць не выпадала. Сусед Віцька ехаў на сваёй машыне ў Мінск да сябра на юбілей і падахвоціўся завезці Міхася да сына.

[1] Прытабачніца — партсігар.

— Праветрышся, дзядзька Міхась, адпачнеш. Хоць адзін дзень пасядзіш склаўшы рукі, — казаў вясёлы, рухавы Віцька і падміргваў Алене, яго жонцы. — На дзевак гарадскіх паглядзіш.

— Ну хіба толькі паглядзіць, — махнула ў адказ рукой нізенькая, шырокая ў клубах кабета ды недаверліва ўсміхнулася. — Шкоды не зробіць.

— А вось вазьму ды нашкоджу! — вочы немаладога ўжо мужа, які пакінуў свае лепшыя вёсны далёка ў мінулым, загарэліся. Ён нават узяўся падкручваць сівы вус. — Пасмяешся тады.

— Ой, бацька, не смяшы мяне ды сарок на дубе. Глядзі, вунь паселі на галінах, трашчаць што сілы. Так і чакай, ад смеху на зямлю гэпнуцца, — Алена паглядзела ў акно.

Міхась, не задумваючыся, таксама падсунуўся бліжэй да святла, зараз жа адумаўся, ды было позна. Рухі яго заўважылі і жонка, і сусед. Мужчына весела хмыкнуў і засмяяўся разам з імі…

Вялікі горад вясковец Міхась не надта любіў, і была б яго воля, наведваўся б туды як мага радзей (прынамсі, не часцей, чым певень знясе яйка). Ды што зробіш, калі іх з Аленай  дзеці — і сын Валерка, і дачка Света — паехаўшы пасля школы вучыцца ў сталіцу, так і засталіся ў гэтым людскім мурашніку. Вывучыўшыся на інжынера, сын пайшоў працаваць на аўтазавод. Відаць, талковы ўсё ж работнік, бо неўзабаве хлопцу крыху павысілі зарплату, а праз пару гадоў «падвысілі» і самога: прызначылі намеснікам начальніка цэха.

Маці Міхася, старая вастраносая Юзя, калі ёй расказалі пра поспехі ўнука, заўсміхалася і паківала галавой: «А што я вам казала! У яго ж першыя зубкі зверху пачалі прарэзвацца — значыцца, «падвышоным» чалавекам будзе, вялікім начальнікам. А вы смяяліся з мяне, не верылі старой бабе. Мяне ж бабуля мая яшчэ так навучыла, а яна, дзякаваць богу, дзевяноста сем гадкоў пражыла на гэтым свеце, ведала, што да чаго…» Невядома, ці справа сапраўды была ў зубах, ці ўсё ж у галаве Валеркі, але яшчэ праз некаторы час да яго пачалі звяртацца няйнакш як Валерый Міхайлавіч і стукацца ў дзверы з шыльдаю «Начальнік цэха». Тым часам Валерка паспеў ажаніцца, а яго жонка Ірына — нарадзіць дваіх дзетак: светлагаловую трасцiначку Ніначку і няўрымслівага, вяснушкаватага Сашку. Вось да іх і ехаў Міхась, перад гэтым загрузіўшы ледзьве не ўвесь багажнік суседавай машыны рознымі торбамі і клункамі, якія напакавала рупная Алена.

Светка ж сям’і пакуль не мела: маўляў, рана яшчэ пялюшкамі займацца. Гэтым сваім сучасным і зусім не вясковым меркаваннем дзяўчына вельмі засмучала паджылых бацькоў. Але такія выхаваўчыя меры ўздзеяння, як сцяблінка крапівы ці плясканне атымалкай[1] па тым месцы, адкуль ногі растуць, былі ўжо неактуальнымі. Таму даводзілася час ад часу наладжваць вольналюбівай дачцэ, калі яна прыязджала дахаты, выхаваўчыя гутаркі з бабуляй Юзяй і — чакаць. Да таго ж, тыдзень таму Светка з’ехала з сяброўкай на адпачынак у Турцыю.

…Суботнім чэрвеньскім ранкам Віцька падвёз Міхася аж да самага дома, дзе жыў ягоны сын з сям’ёй. Нават дапамог падняць на дзявяты паверх сякія-такія вандзэлкі, калі Валерка, адказаўшы бацьку па мабільным тэлефоне (Міхась нетаропка націснуў заскарузлымі пальцамі неабходныя маленькія кнопачкі на апараце), спусціўся да машыны. Маладыя мужчыны крыху пагаварылі пра жыццё і, пажадаўшы адзін аднаму ўсялякіх даброт у жыцці, развіталіся.

[1] Атымалка —ануча.

— Дзеда! Дзеда мой! — радасна пераняла Міхася ў парозе ўнучка.

Ніначка сёлета пайшла ў першы клас і таму з поўным правам лічыла сябе дарослай. Не тое што гэты Сашка, які яшчэ год будзе хадзіць у дзіцячы садок, есці манную кашу і спаць у абед. Але брат гэтых дзяўчацкіх меркаванняў не падзяляў, справядліва лічачы, што раз ён мужчына, значыць, і больш дарослы, чым нейкая малая дзяўчынка. Таму вяснушкаваты хлапчук дазволіў сястрычцы першай сустрэць любімага дзеда.

— Прывітанне, дзядуля! — падбег Сашка да парога і працягнуў маленькую руку. Ён жа не маленькі, каб дзед падымаў яго на рукі, як Ніначку, гушкаў і цалаваў у шчокі: мужчыны вітаюцца за руку.

Дзед апусціў дзяўчынку на падлогу і пацiснуў маленькую ручку ўнука сваімі шурпатымі, мазолістымі рукамі. Сашка задаволена заўсміхаўся.

За сталом, які прыстроіла[1] нявестка Ірына, крыху паўнаватая, спакойная маладзіца, малыя спачатку сядзелі ціха. Першай зноў не стрымалася Ніначка:

— Дзеда, а я табе сюрпрыз не скажу і не прасі!

Брат незадаволена зірнуў на балбатліўку і нахмурыў броўкі:

— Гэта я не скажу!

— Не, я! — заматляла светлай галавой дзяўчынка.

— Не, я! — настойваў на сваім маленькі мужчына.

— Ну, ціха! — перапыніў іх спрэчку бацька. — Як вы сябе паводзіце?

— Дзядуля можа падумаць, што вы заўсёды такія балбатуны нявыхаваныя, — прагаварыла Ірына і дакорліва зірнула на дзяцей.

— Не заўсёды! — прапішчала Ніначка.

— Не балбатуны нявыхаваныя! — паправіў сястрычку Сашка.

— І я не скажу сакрэт, што мы пойдзем заўтра ў заапарк! — выпаліла дзяўчынка і асеклася.

— Эх, ты, — уздыхнуў брат.

Дарослыя пераглянуліся і, не вытрымаўшы, шчыра рассмяяліся…

У заапарку Міхась за ўсё жыццё не быў ні разу і, шчыра кажучы, у нядзелю раніцой яму (відаць, не менш, чым малым) карцела туды выправіцца. Па вясковай звычцы мужчына прачнуўся рана, гадзін у пяць, і яму давялося добра-такі пачакаць, пакуль устануць астатнія. «Эх, любяць у горадзе паспаць, — бурчаў сам сабе пад нос Міхась. Апрануўшыся, ён стаяў каля акна і пазіраў на вуліцу. — Хоць бы дзе чалавечак які паказаўся. Спяць як пшаніцу прадаўшы, — і сам сабе запярэчыў: — А што ім рабіць? Сена касіць не трэба, карова ў хляве не рыкае, нават ваду і тую са студні цягаць няма патрэбы». Мужчына паспеў перадумаць і тое, што нізавошта не прамяняў бы сваё вясковае жыццё на гарадское, і што дажываць абавязкова будзе ў вёсцы, дзе кожны яго ведае і дзе ён ведае кожнага, і што толку таўчыся ў гэтым мурашніку, сядзець, нібы ў клетцы, калі ёсць прастор і воля, цішыня і спакой. Глядзі куды хочаш, ідзі куды хочаш…

— Дзеда, глянь, які… Які… — не знайшлася што сказаць Ніначка, убачыўшы аднаго з першых жыхароў заапарка.

— Вярблюд, — адразу ж падказаў Сашка і хуценька пачаў раскрываць пакунак з прыпасамі, каб пачаставаць двухгорбага прыгажуна скібачкай хлеба.

Скібачак спатрэбілася шмат: да вярблюда шпарка падбеглі яго сабраты і пачалі выцягаваць шыі, смешна варушачы губамі. Калі жывёлы рухаліся, гарбы на іх спінах злёгку пакалыхваліся, таму здавалася, нібыта яны гарэзяць.

[1] Прыстроіць — прыгатаваць.

Вярблюды былі ласкавыя, прывычныя да людзей, і Міхась нават пагладзіў іх па пысках, адчуўшы прыемнае жывое цяпло.

— А вось казёл! — паказаў пальцам Сашка некуды ўверх і пабег да іншага вальера.

— І каза! — кінулася ўслед за братам Ніначка.

— Гэта вінтарогі казёл. Бачыце, якія ў яго рогі — закручваюцца, як вінт, — патлумачыў малым бацька. — Жыве ён далёка ад нас — у Гімалаях, Тыбеце.

— А капусту і нашу з’есць, — Ірына працягнула лісты капусты жывёлам. — Частуйцеся!..

Па заапарку так нахадзіліся, што ажно ногі гулі. Паглядзелі і на буслоў, якія спакойна гулялі па лужку, і на жвавых дзікоў, і на цара звяроў — паважнага льва, што горда трымаў сваю грывастую галаву, і на вялікасную тыгрыцу, ад якой нельга было адвесці вачэй, і на цыбатых, хударлявых сахатых, і на лабатага, небяспечнага ваўка з яго хвастом, падобным на палена… У тэрарыум, дзе жылі розныя чарапахі з кракадзіламі ды змеямі, Міхась не пайшоў. Не любіў ён гэтых слізкіх рэптылій, гідзіўся іх. Мужчына вярнуўся да вальераў з птушкамі.

Яго чамусьці зноў пацягнула паглядзець на грыфа. Вялікая чорная птушка сядзела на зямлі, распластаўшы свае агромністыя крылы, і сумна пазірала навокал. «І што гэта за жыццё ў птушкі такое? — абурыўся ў думках Міхась. — Не жыццё, а турма! Клетка нейкая малая, ці ж з такімі крыламі тут палётаеш як след? Ды і дрэнна яму, відаць, вунь як крылы раскідаў, уздыхае… І нікому ніякае справы!.. Такую б птушку — ды на волю, каб лётала дзе хацела, свет вольны бачыла!..»

Мужчына неўпрыкмет адышоў ад вальера. Міхась заўважаў за сабой такую асаблівасць: калі хадзіў, яму лепш думалася. Пайшоў па сцяжынцы ўглыб заапарка. «А што, калі ўзяць, ды выпусціць бедака на волю? — запульсавала ў галаве навязлівая думка. — Ну што ён там сядзіць без толку? А так хоць палётае, жыццё ўбачыць… Толькі ж як ты яго вызваліш? На дзверцах клеткі замок вісіць, кругом усё сеткай абнесена — і па баках, і зверху. Сетка, сетка… Дык гэта ж добра, што сетка, а не сцяна цагляная! — мужчына рэзка спыніўся, рашуча ляпнуў сябе па калене. — Сетку ж раз — і няма!» — і чамусьці адразу ўцягнуў галаву ў плечы…

— Дзеда, дзеда! А я цябе першай убачыла! — падбегла да Міхася ўнучка і абняла яго за ногі. — Я там такую змяю вялікую бачыла! Як… як… як слана!

— Слана тут няма — не выдумляй! — паправіў сястру Сашка і зачаравана дабавіў: — А змяя была вяліка-а-а-ай!

— Ну вось, цяпер ноччу не заснуць, — падышлі да іх Валера з Ірынай. — Дарма ты з намі не пайшоў!

— Не, не люблю я змей. Слухай, Валерка, дай мне ключы ад машыны, я там мабільнік свой, відаць, забыўся, — нечакана для сябе зманіў Міхась.

— Ну, схадзі, правер, неяк недаверліва (ці гэта толькі падалося?) прагаварыў сын і працягнуў ключы. — А мы пакуль у дэльфінарый сходзім. А можа, і ты з намі?

— Не, не хачу, стаміўся, — адмоўна пахістаў галавою Міхась і пайшоў да выхаду.

Там ён упрасіў жанчыну-кантралёра ўпусціць яго праз пяць хвілін назад («Толькі тэлефон вазьму і адразу ж сюды!») і пашыбаваў да машыны, якая стаяла непадалёк. «Павінен жа быць у яго ў багажніку нейкі інструмент!

Вадзіцель жа, — пераконваў Міхась сам сябе. — Ну, ці хоць нешта падобнае на кусачкі». Мужчына адчыніў багажнік і на імгненне застыў: справа, каля нейкай скрынкі, ляжалі кусачкі. «Значыць, няхай так і будзе!» — вырашыў Міхась, схаваў інструмент пад пінжак і накіраваўся зноў да ўваходу ў заапарк. Там ён дрыготкай рукой паказаў кантралёру свой білет, хуценька прайшоў і сам не заўважыў, як зноў апынуўся каля клеткі з чорным грыфам.

Цяпер птушка не ляжала, а паволі прахаджвалася па вальеру і раз-пораз нешта дзяўбала на зямлі. Міхась азірнуўся па баках: людзей амаль не было. Вечарэла. Заапарк мусіў хутка зачыняцца, і рэдкія наведвальнікі падцягваліся да выхаду. «А можа, не варта? Гэта ж не жартачкі — птушка вялікая, дарагая, відаць. Спахопяцца, пачнуць шукаць… — замагаваўся[1] мужчына. — Ты што, вырашыў на старасці гадоў у злодзеі запісаццца? Сын вунь начальнік, а ты яму такую ганьбу зробіш?» Як быццам разумеючы Міхасёвы трывожныя думкі ды пакутлівыя развагі, грыф прыпыніўся і задумліва паглядзеў на мужчыну. Міхась не мог адарваць ад яго погляду, і са здранцвення яго вывеў тэлефонны званок.

— Ну, дзе ты, бацька? Мы ўжо да машыны падышлі, чакаем цябе, — заклапочана пытаўся Валерка. — Усё нармальна?

— Нармальна, ужо іду! Зараз буду, — адказаў Міхась і рашуча дастаў з-пад пінжака кусачкі.

Падышоў бліжэй да клеткі і няцвёрдымі, але ўмелымі рухамі адшчыкнуў па кругу сетку, асцярожна апусціў яе на зямлю. Агледзеўся навокал: нікога побач не было.

«Ляці, птах! Лётай па небе, жыві на волі. Больш цябе тут ніхто не затрымае», — Міхась махнуў грыфу рукой на развітанне і хутка пайшоў па сцяжынцы. Але, ступіўшы колькі крокаў, не вытрымаў і азірнуўся: чорны грыф паволі падыходзіў да адтуліны ў сетцы…

Як ехаў дахаты, Міхась памятае слаба. Вядома, пра нешта гаварыў, нешта адказваў, але спытай цяпер, пра што — не ўспомніць анічога. Нават вячэраць адмовіўся.

— Што з табою, бацька? Можа, нездаровіцца? — занепакоіўся Валерка.

— Не, сын, нічога. Галава штосьці пачала балець. Я лепш прылягу, — адказаў Міхась і пайшоў у пакой.

Там ён няспешна разаслаў ложак і лёг. Але сон не ішоў. «А што, як знойдуць мяне? — халадзела ў грудзях і сэрца пачынала шалёна тахкаць. — Ну, па адбітках пальцаў… Якія адбіткі? — пярэчыў сам сабе Міхась. — Ты што, злодзей, каб твае адбіткі пальцаў недзе ў міліцыі былі? Мора людзей у той дзень у заапарку прайшло. Хто цябе ўспомніць?.. А калі кантралёр? Я ж туды-сюды бегаў. Ну і што? Адзін Гаўрыла ў Полацку!.. А вось тое, што кусачкі каля клеткі пакінуў — кепска. Расхваляваўся, стары дурань, вось і забыўся… Нічога, затое птах будзе на свабодзе: ляці куды хачу!..» І шмат якіх іншых думак перадумаў у тую летнюю і нейкую вельмі доўгую ноч Міхась: і пра жыццё птушынае, і пра чалавечае, і пра волю, і пра няволю…

А назаўтра, ледзь развіднела, паціху ўстаў, апрануўся і, не вытрымаўшы, адчыніў уваходныя дзверы ды выслізнуў на вуліцу. Балазе, заапарк знаходзіўся недалёка, прыпынкаў за пяць, і дарогу — роўную, толькі адзін паварот налева — Міхась памятаў вельмі добра. Мужчына нетаропка пайшоў…

Недзе з гадзіну, а то і больш, давялося чакаць каля варот заапарка, пакуль той адчыніцца. Дарослыя і дзеці, якія таксама былі сёння аднымі з першых

[1] Магавацца — быць у нерашучасці.

наведвальнікаў, тоўпіліся каля ўваходу і весела перамаўляліся. Некаторыя з іх здзіўлена пазіралі на Міхася — чалавека сталага веку, поруч з якім не заўважна было ні ўнука, ні ўнучкі — і паблажліва пасміхаліся. Але Міхась нічога гэтага не заўважаў. Ён з нецярпеннем чакаў, калі можна будзе трапіць за вароты і апынуцца перад пустой клеткай з грыфам.

Неўзабаве пачалі прапускаць у заапарк. Міхась працягнуў білет, мінуў турнікет і ногі самі панеслі яго па знаёмай сцяжынцы. Набліжаючыся да клеткі, мужчына заўважыў, як у ёй мільганула нешта вялікае і чорнае. «Птушка? Няўжо яна там?» — занепакоіўся Міхась і прыспешыў крок…

Па клетцы няспешна прахаджваўся чорны грыф. Выразаны з сеткі круг быў акуратна прымацаваны дроцікамі на месца. «Што ж ты, птах, не ўцёк? Чаму не паляцеў? Няўжо табе воля не мілая?» — пытаўся ў думках у грыфа Міхась і нічога не мог зразумець. Ён падышоў да самай сеткі і прысеў. Грыф не спяшаючыся, асцярожнымі крокамі падышоў з таго боку клеткі і прыпыніўся. Затым задумліва паглядзеў на мужчыну. Вочы яго, дальбог, былі такія разумныя, і глядзеў ён нібы не на чалавека, а ў яго душу, што Міхась не вытрымаў і ўстаў. «Відаць, не разумею я цябе, птах. Відаць, і ў вашым птушыным жыцці не ўсё так проста, як здаецца чалавеку… Ну, прабач», — і пайшоў па сцяжынцы назад. Але на паўдарозе ўсё ж азірнуўся. Грыф стаяў каля сеткі і пазіраў на чалавека сумнымі вачамі…

Ды і як было Міхасю зразумець гэтую птушку, калі ён нічога пра яе не ведаў. (А ў кожнай жывой істоты, між іншым, свой лёс.) Не ведаў, што лёс чорнага грыфа быў незайздросны. Што ў заапарк ён трапіў з цырка, дзе жыў у вельмі цеснай клетцы і таму нават не ўмеў лётаць. Не ведаў, што калі грыфа пасялілі адразу ў вялікі вальер, яму было там вельмі няўтульна. Таму вальеры паступова мянялі на ўсё большыя, пакуль птах не прывык. Паступова, з цягам часу ён навучыўся лётаць і садзіцца на адмысловую жэрдку. Не ведаў, што ў спёку грыф любіць распрастаць свае крылы і пасушыць іх на сонцы. Не ведаў, што каб яму не было сумна, да яго падсялялі розных птушак — арланаў, ястрабаў, нават маленькага пеўня. З пеўнем грыф пасябраваў, апекаваўся над ім, а пры небяспецы закрываў сваімі магутнымі крыламі і нікога не падпускаў.

Не ведаў Міхась і тое, што жыць чорнаму грыфу заставалася сем месяцаў і пяць дзён…



## Валерый КАЛІНІЧЭНКА

### ДАЖДЖЫ НАД АЙЧЫНАЙ

Дажджы на айчыну
Лье позняя восень,
У рыжай аўчыне
Дні цёплыя зносіць.

Дзе ўчора я песні
Вясеннія слухаў, —
Плывуць з паднябесся
Да нас завірухі.

Зазімак дарогу
У сцюжы мне мосціць.
Пытае ён строга:
— Дзе час маладосці?

Гадам няма глуму,
Пакуль ідуць позвы.
У снежныя думы —
Ніколі не позна.

Карункам іскрыстым
Пад стылым блакітам
На тройцы агністай
Ты сходзіш з арбіты.

---

***Калінічэнка Валерый Іванавіч*** *нарадзіўся 21 жніўня 1949 года ў вёсцы Уборкі Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум (1969), факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1981). Служыў у Савецкай Арміі (1969—1971). Працаваў у буда-кашалёўскай раённай газеце «Авангард». У 1990 годзе пераехаў у горад Шатура (Падмаскоўе). Быў галоўным рэдактарам раённай газеты «Ленинская Шатура». З 2001 года жыве ў Маскве. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Русский инженер».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Зорны дазор» (2008), «На залатым ганку» (2010), «Роднасць» (2012), рамана «Обреченные на счастье» (1996), аповесці «Тайное голосование» (1997).*

Прысніцца ж такое —
Сынам не раскажаш.
Яны ўсё спакоем
Мне хочуць уважыць.

Дзе сілы былыя,
Каб поспехі множыць?
Душой маладыя,
Мы ўсё яшчэ зможам.

## МЁРТВЫ СЕЗОН

Страчай, Піцунда —
Пад сонцам цуд.
Кастрычнік нудны
Гасцюе тут.

Гуляе мёртвы
Сезон усцяж.
Мы ў белых шортах.
Астылы пляж.

Прыбой бруіцца
Ля босых ног.
— Пара б спыніцца, —
Хтось засцярог.

Хаця навокал —
А ні душы.
Глядзяць звысоку
Люстэркі шыб.

Хваёвай цнотай
Настой плыве.
Падзей спякотных
Настрой жыве.

Гаючы водар,
Марскі пейзаж —
Наш з асалодай
Нясём багаж.

Туман ці морак
На бераг лёг?
Дзень, як і мора,
Крыху знямог.

Жыцця палотны
Ці то — міраж?
Гуляе мёртвы
Сезон усцяж.

Пустэльны церам
Ускрай зімы.
Адны пад небам
У хвалях мы.

Рэжым сезонны
Зняў строгі фрак.
Вады сцюдзёнай
Цвярозы смак.

Стаім ля краю
У галізне.
Пад вокрык чаек
Прыліў імкне.

Нам душы поўніць
Асенні блюз.
Гадоў не торніць
Самотны груз.

## ЗІМА

Марознае ружовае світанне
Зарою апаліла небакрай.
Яшчэ крыху халоднага чакання —
І выплывае з жару «каравай».

Прамені дружна абвясцілі свету,
Што сонца стала ў вогненны дазор.
З іголкі дрэвы ў іней разадзеты.
У снежнай стоме зіхаціць прастор.

Празрысты дзень выходзіць на прыволле:
На лыжах мчыць па белай цаліне,
Дзіцячым смехам будзіць наваколле,
Нясецца на каньках у жупане.

Бор сцішыўся пад снегавою коўдрай,
У гурбах спяць лясныя жыхары.
Дзень сонечны, бадзёры, светла-добры
З лядоўні мне ўсміхаецца ў двары.

## МІКОЛЬСКІ ДЗЕНЬ

Пякучыя марозы
Мікольскі дзень прынёс.
Збываюцца прагнозы —
Над Волгай стыне Плёс.

Ляжыць зіма ўладарна
На белых берагах.

Рака віруе марна,
Скаваная ў ільдах.

З надзеяй спяць пад снегам
Гандлёвыя рады:
Яшчэ тэкстыльным смехам
Пацешаць гарады.

Царквы святой узвышша
Паклоны б'е з гары.
Празяблае зацішша
Трывожаць званары.

Настроем навігацый
Жыве стары прычал.
Якіх ён дэлегацый
Тут толькі не страчаў!

З разлівам паўнаводным
Прачнуцца маякі,
Каб спевам цеплаходным
Напоўніць плынь ракі.

Накрыла свет пароша,
Абняў прастор мароз —
Пад інеем прыгожа
Над Волгай стыне Плёс.

## ШПАКОЎНЯ

На могілках снягі пазней сыходзяць:
Пад соснамі гамоняць раўчукі.
Крыж пахіліўся у мінулым годзе…
Вось-вось дадому вернуцца шпакі.

Вясна ўладарна гоні абудзіла, —
Ад нас пайшла ты гэткай жа парой, —
У падмаскоўным лесе заблудзіла
І разгарнула каляровы крой.

Блакіт — на неба, ізумруд — на травы.
Пралескі — бела-белым дыванам.
І так лагодна ветрык кучаравы
З красавіком сваволяць пад акном.

А я майструю з раніцы шпакоўню.
Хачу паспець — прымаць гасцей чарод.
Гляджу пасля: хлапчук, з такой жа роўняй,
Вітае ў небе выраю зварот.

Дзе дом для птушак ставіць — не гадалі:
На ганак з хаты выйшла ўся сям'я.

Ды не тваё мне рукі падавалі
Цвікі, калі шпакоўню вешаў я.

Мы ўсе пяройдзем заўтра часу межы,
У кожнага — яшчэ не знаны лёс.
Бярозавік… Які ён вабна-свежы!
Нам сонейка ўсміхаецца з нябёс.

## ЗНІШЧАЛЬНІК

*М. Б.*

Знішчальнік — вялікі рамантык,
Прызванне ён хобі заве.
На трасах далёкіх галактык
Душа яго шчыра жыве.

Вышэй ён сярэдняга росту.
Спартыўны. Настрой баявы.
Палкоўнікам стаў не па ўзросце.
Сягоння — дачасна сівы.

Трывогі, бяссонныя ночы,
З палётаў чакае сям’я.
Фарсаж — гэта графік рабочы,
І выша нябёс — нічыя.

Па знаку імгненнай здагадкі
Патрэбна рашэнне прыняць,
Бо кропку дакладнай пасадкі,
Бывае, інакш не пазнаць.

Халодная вечнасць Сусвету
Адорыць абраных вянцом.
Яна прызывае паэтаў
У зорную варту байцоў.

Знішчальнік з сумленнем паэта,
Бар’еры — на звышгукавой.
Надзеяй на сябра сагрэты,
Ды часам губляе спакой.

Вісіць самалёт над планетай,
Ляцець ім арбітай адной.
Шар верне ад здраднага ветру,
А з ім — яго зорны канвой.

Камусьці няўрымсліва трэба —
Траншэі па межах ляглі —
Ахоўваць вялізнае неба
Маленькай планеты — Зямлі.

## САЛДАЦКАЯ МАДОННА

***З. А.***

На рэштках мар і страчаных надзей,
Хаця пражыта толькі паўстагоддзя,
Без зайздрасці і крыўды на людзей
Спрабуеш ты з Сусветам быць у згодзе.

След змрочных дат на пройдзеным шляху
Душу параніў, растрывожыў веру.
А за табой — ні кропелькі граху.
За што ад лёсу столькі недаверу?

Твой час спыніла вышыня Алдан,
Што помніць аб загінуўшым салдаце.
Байцы ішлі праз вогненны Афган.
То быў не выбар беларускай маці.

Жаночай долі спачувае свет.
Яе адчай не просіць аб спагадзе,
Тым больш — радкамі здрадніцкіх газет.
Ікона залатая ў нашай хаце.

На вас маліцца, на ахвяр вайны,
Прыходзяць дзеці і чужыя маці,
Што не яны, не іхнія сыны
Стаялі ў той чарзе ў ваенкамаце.

Салдацкая мадонна, для цябе
Няроўны бой не скончыцца ніколі.
А родны край шчыруе на сяўбе,
Гул трактароў калыша наваколле.

* * *

У сінім небе — купалы,
Узлёт Успенскага сабора.
Да Бога словы пахвалы
Штодня узносяцца ў прастору:
За хлеб надзённы, цішыню,
За ранне мірнае над краем,
За светлы шлях на вышыню,
Якую ўсё жыццё скараем.
У бліскавіцах навальніц,
Сярод ілжы, гулянняў, здзекаў,
Мы просім у святых званіц:
— Дай, Божа, стаць мне чалавекам.



Анатоль АНДРЭЕЎ

# ЗАЛАТАЯ РЫБКА

*Апавяданне*

Жыў Уладзіслаў Антонавіч Елісей са сваёй жонкай Мартай Тарасаўнай, у дзявоцтве Калагрыўка, у дабротным доме (сталінскі ампір, сцены паўтараметровай таўшчыні, велізарныя вокны) па вуліцы Марской. Яны жылі разам ужо роўна дваццаць гадоў.

Жыццё да гэтай пары́ не трапала гэтую па́ру жорсткімі штормамі, з мэтай выпрабаваць на трываласць, і надалей не прадвяшчала ім хвалюючых перамен, хаця і вялікімі непрыемнасцямі таксама не пагражала. Захацеўшы, іх спакойнае існаванне можна было назваць ціхім шчасцем; а камусьці, не выключана, такое жыццё магло здацца сумным штылем. Але гэта яшчэ як паглядзець.

Уладзіслаў Антонавіч, якога прыяцелі, як і Марта клікалі Елісей, відавочна, прымаючы прозвішча за імя, быў ці то малаталенавіты музыкант, ці то сярэдняй рукі журналіст, што піша на тэмы культуры. Магчыма нават, у ім гінуў пісьменнік, якому перашкаджаў журналіст-падзёншчык.

Зноў жа, з якога боку глядзець.

Елісей нарадзіўся ў гэтым доме, што меў нумар адзін, і колькі сябе памятаў, жыў на Марской — побач з плошчай Перамогі, недалёка ад Свіслачы (той, хто бываў у Мінску, вядома, згадае гэтае выдатнае месца). Спачатку ён вучыўся ў музычнай школе, потым скончыў музычнае вучылішча па класе баяна. Аднак паводле жадання свайго педагога, дзівака і чарадзея Савелія Сабалеўскага, якога вучні за вочы з павагай клікалі выключна па бацьку Ерафеевіч, Елісей выконваў не столькі народны рэпертуар, колькі балады Шапэна. І ён так захапіўся музыкай Шапэна, што ўсё для яго скончылася сумна: баян Елісей не палюбіў, а добра іграць на фартэпіяна так і не навучыўся. А вось Ерафеевіч на баяне, сваім любімым інструменце, выконваў творы

---

*__Андрэеў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 28 красавіка 1958 года ў горадзе Севераўральску Свярдлоўскай вобласці (Расія). Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1984). Доктар філалагічных навук, прафесар. Працуе выкладчыкам філалагічнага факультэта БДУ.*

*У друку выступае як літаратуразнаўца і культуролаг. Аўтар манаграфій «Целостный анализ литературного произведения» (1995), «Культурология» (1998), «Психика и сознание: два языка культуры» (2000), «Теория литературы» (2010) і інш. Выдаў раманы «Летний мужской роман» (2001), «Маргинал» (2003), «Для кого восходит» (2002), «Халатов и Лилька» (2003), «Игра в игру» (2005), «Всего лишь зеркало...» (2004) і інш.*

любімага класіка так, што нават вядомыя эстэты-піяністы даўно перасталі крывіцца, слухаючы яго ігру.

Настаў час выбіраць, дзе маладому чалавеку з добрай сям'і (якая аддавала перавагу мірным прафесіям, а менавіта: гойбіт, наладчык музычных інструментаў etc.) вучыцца далей. Аднак набываць вышэйшую адукацыю Елісей немаведама чаму падаўся на журфак, хаця якраз тады ўжо адчуў выразныя сімпатыі да мастацкай літаратуры (ды і яна, здаецца, схільная была адказваць яму ўзаемнасцю). У журналістыцы ён, натуральна, расчараваўся, а з літаратурай усё складвалася няпроста: апавяданні, падпісаныя Елісей В-ч (што глядзелася вытанчаным псеўданімам), былі нават надрукаваны, а вось раман...

Ён адчуваў, што зможа напісаць раман, нават назву прыдумаў цалкам экзістэнцыяльную, але той чамусьці не пісаўся. На пытанне блізкіх знаёмых, маўляў, як справы? Елісей усё яшчэ бадзёра адказваў: «Ды вось, пішу раман, і не трэба рабіць круглыя вочы, я вас прашу». Аднак да тае пары, калі з ім здарыліся неверагодныя падзеі, гэта значыць, да таго, як яны пражылі з Мартай разам ужо роўна дваццаць гадоў, ён стаў саромецца свайго сумленнага адказу ўсё болей і болей.

На Марце Калагрыўка ён ажаніўся, бо вельмі кахаў яе, як чалавек прыстойны і здольны на глыбокае перажыванне. Аднак гэта знамянальная падзея, жаніцьба, адбылася ў той самы момант, калі будучы муж стаў употай сумнявацца нават не ў глыбіні свайго пачуцця, а ў тым, што яно наогул ёсць.

Але тут бесцырымонна ўмяшаўся лёс, які прымусіў Марту паверыць у тое, што яна цяжарная. Аднак час ішоў і гэта не пацвердзілася, але Марта была ўсё адно ўпэўнена, што цяжарная — такая ўпэўненасць, як выявілася, з'яўлялася родавай адзнакай Марты, і гэтая яе перакананасць ціха раздражняла Елісея.

Пасля ж выявілася іншая сумная рэч: Марта не можа зацяжарыць. І гэта вызначыла адносіны Елісея да дзяцей: ён баяўся высветліць, каб не прычыняць сабе боль, як сапраўды да іх ставіцца. Нешта падказвала яму, што не мець нашчадкаў — не самая зайздросная доля. Калі ўжо не, дык не…

Няўдалы раман з музыкай, сумніўны раман з Мартай, яго жаніцьба на ёй, яе няплоднасць, а таксама нясконччаны раман «Лянівая фартуна» — усё гэта прымусіла Елісея прызнаць, што ў гэтым свеце ёсць лёс. Так атрымлівалася, што яго думкай не асабліва цікавіліся; яго проста ставілі ў прапанаваныя абставіны і не вельмі каб песцілі свабодай выбару.

Што ж, лёс дык лёс, Елісей плакацца ў камізэльку не збіраўся. Ды і каму?

Рашэнні лёсу абскарджанню не падлягаюць.

Гэтым, уласна, і абмяжоўваўся круг знакавых падзей з жыцця нашага героя, які мог бы характарызаваць яго як асобу.

Часткова — так, аднак не так ужо і мала па цяперашнім часе.

На лесвічнай пляцоўцы трэцяга паверха, прама насупраць Елісея з Калагрыўкай (жонка — унучка легендарнага камісара — наадрэз адмовілася браць прозвішча мужа), жыла-была Злата, дзелавая жанчына. У яе быў кветкавы бізнес, які, мяркуючы па ўсім, прыносіў ёй немалы прыбытак, нават хочацца сказаць — квітнеў. Рудавалосая з зялёнымі вачыма бізнес-лэдзі хвацка раз'язджала на джыпе «Судзукі» колеру «пырскі шампанскага» з залатым адлівам (хоць яшчэ год таму ў яе быў не менш мадэрновы джып «Таёта» колеру «шэрай травы»). З мужам яна развялася, і з задавальненнем выхоўвала ненаглядную дачку Марусю, якая наведвала тую самую музычную школу, у якой калісьці вучыўся Елісей. Дзяўчынка вучылася іграць на флейце, паралельна — на саксафоне, любіла англійскі більярд «снукер» (тут іх інтарэсы

з Елісеем нечакана перасякаліся: ён мог гадзінамі па тэлевізары назіраць за мудрагелістымі камбінацыямі з шарамі; Марта, на жаль, любіла невысокага класу бокс).

Злата таксама ўсё жыццё пражыла ў доме нумар адзін. Яна, вядома, ведала Елісея, і Елісей, зразумела, не мог не ведаць пра Злату! Злата была на дзесяць гадоў маладзейшай за яго і належала ўжо да іншага пакалення, са сваімі поглядамі на жыццё. Калі яны выпадкова сустракаліся ў двары або на лесвічнай пляцоўцы, то размаўлялі, быццам даўнія прыяцелі: іранічна і паблажліва — гэты стыль размовы пераважаў сярод хлопцаў і дзяўчат яе пакалення.

— Як справы, шаноўны пане Елісей? Пішаце кароткія апавяданні? Пра каханне? Як жа, чытала, чытала...

— Кароткае — не заўсёды талковае, — неяк па-заліхвацку і знаходліва адказваў Елісей. — Скажу больш, гэта аптымальная форма існавання глупства. Я вось раман пішу, вырас з кароткіх штонікаў...

— Гэта ж трэба... Я чалавек просты, сучасныя раманы не чытаю. Таксама пра каханне, мяркую?

Водар яе духоў, якія яна вельмі любіла, хваляваў Елісея. Злаціна падстрыжаная дублёнка здавалася яму верхам вытанчанасці і густу яе гаспадыні. Яе зялёныя вочы іскрыліся, у іх таемна пакалыхвалася нейкая стыхія, якая ашаламляльна прыцягвала Елісея і, хутчэй за ўсё, была яму неабходна, як вітамін. У гэтых вачах ён нібы ўгадваў змест, з якога павінен быў складацца яго занядбаны раман — у іх нешта было з болю і святла. Але як чалавек прыстойны, Елісей не дазваляў сабе нічога лішняга нават у думках, нават у мроях. «Гэтая тэма» ўяўлялася яму салодкім вірам, які злавесна кружыў галавы простым хлопцам. Ён інтуітыўна пазбягаў болю і няшчасцяў.

— У вас, русалак, думкі толькі пра адно каханне.

— Вядома. Інакш навошта жыць на свеце? Прасвятлі мяне.

— Не ведаю, як. Вось дапішу раман — скажу.

— Буду з нецярпеннем чакаць.

— Давядзецца мне адкласці ўсе справы і паскорыць працу... Няёмка прымушаць жанчыну чакаць. Тым болей — такую жанчыну, мару празаікаў...

Пасля мілых дыялогаў, якія ні да чаго не абавязваюць, хоць і ён, і яна казалі шчыра і сур'ёзна, Елісей гатовы быў паклясціся ў гэтым; ды неяк удавалася ім сумяшчаць лёгкасць і змястоўнасць, і гэта была іх маленькая таямніца), ён разумеў, што ніколі не напіша раман, дзеля якога, магчыма, быў народжаны на свет. Не задаўся лёс.

Елісей называў яе не русалкай, а Залатой Рыбкай. Наўрад ці з прычыны прыхільнасці яе да яркіх колераў. Хутчэй за ўсё з-за любові да свабоды і незалежнасці, якую ён, магчыма, ёй прыпісваў.

Яна адкрывала свае дзверы, ён — свае, яны разыходзіліся з адной пляцоўкі ў розныя жыцці, і ў яго ў тую самую секунду, нібы па ўзмаху чароўнай палачкі, згасалі вочы і знікаў дар мовы (гэта прыходзіла як фізічнае адчуванне). Насустрач, нібы сонны сом з акварыума (пакаёвыя кактусы і пальмы глядзеліся буяючымі водарасцямі), выплывала бляклая Марта ў заношаным халаце («Купі новы, нарэшце!» — «А чым табе гэты не падабаецца?»). Думкі не фармуляваліся, разбягаліся, пачуцці адмаўляліся ўзгарацца, і яго светлы розум і душа выяўляліся ў сумных пытаннях: што ў нас на абед? што ў нас на вячэру?

— Вячэра, вячэра... Вячэра не для сэра, — жартам казаў Елісей і еў, чамусьці, больш, чым яму хацелася.

Ён так і не навучыўся ўтвараць ад строгага «Марта» нешта памяншальна-ласкавае. Проста казаў: «Купі новы халат». Або: «Што ў нас на абед?» Калі

злаваўся, называў яе Марфай-пасадніцай, хоць дрэнна ўяўляў сабе, што значыць «пасадніца».

Елісей быў бы вельмі здзіўлены, калі б яму сказалі, што жыве не сваім жыццём або што ён няшчасны. Па-першае, ад лёсу не ўцячэш, а па-другое, шчасце — ёсць адсутнасць няшчасцяў.

Усё сыходзіцца. Жыццё — ягонае. Што ж датычыць нуды...

Гэта яшчэ як паглядзець. Так, ён сумаваў па паху духоў Залатой Рыбкі. Часам знарок выходзіў на лесвічную пляцоўку, каб атрымаць асалоду ад глытка паветра, у якім ужо было або неўзабаве будзе растворана гаркавае амбрэ, а то і проста паглядзець на яе нядаўна пастаўленыя надзвычай трывалыя дзверы… Але душа часам ные і плача — на тое яна, верагодна, і душа.

Але хто сказаў, што Залатая Рыбка — для яго?

Хто сказаў, што ёй, такой паспяховай, бліскучай і свабодалюбнай патрэбны чалавек з каламутным лёсам?

Хто сказаў, што яна зможа пакахаць яго? Хто сказаў, што ён кахае яе?

Хто сказаў, нарэшце, што можна пакінуць Марфу пасля дваццаці гадоў сумеснага жыцця?

Хто сказаў?

Яны перажылі бяздзетнасць і змірыліся з ёю — а гэтая бяда асабліва збліжае; яны параднілiся ўжо настолькі, што жывуць адной крывяноснай сістэмай, ці добра, ці дрэнна, але жывуць адным жыццём.

І ў яго, вядома, хопіць сілы волі пазбегнуць спакусы. Ніякіх віроў, ніякіх русалак, ніякіх казак. Навошта бянтэжыць сябе нязбытнымі марамі?

Напэўна, у кожнага на дне душы схавана штосьці глыбока асабістае, прыроджана-сумнае, што выказаць змог толькі Шапэн; але жыццё мала падобнае на свята, на «пырскі шампанскага». Разбурыць надзейны прычал можна вельмі хутка, але хто дасць гарантыю, што нуда тут жа не будзе выцеснена болем і няшчасцем?

Лёс гарантый не дае, ён проста паказвае табе тваё месца.

Усё. Хопіць. Кропка.

Аднойчы сырым лютаўскім днём (са звыкла шэрага неба сыпаў мокры сняжок, але раніцой — упершыню за зіму! — тонка і зусім не нясмела заходзіліся піскам нейкія птушкі, працягла і прызыўна: то быў недвухсэнсоўны голас вясны) Елісей сабраўся на працу.

Ён выйшаў на лесвічную пляцоўку, удыхнуў цёплае паветра (горкае?) — і тут жа насцярожыўся. Увагу яго прыцягнуў не свежы пах духоў, а гукі, якія даносіліся з кватэры Залатой Рыбкі. Аказваецца, ён заўсёды прыслухоўваўся і да гукаў, але, акрамя слабога стогну саксафона, які вымучваў рэпертуар бітлоў, нічога іншага ніколі не чуў: тоўстыя сцены надзейна захоўвалі таямніцы гаспадароў.

На гэты раз было інакш. Тупы стук суправаджаў энергічную валтузню, якая нагадвае бойку. Елісей замёр. Яму пачуўся здушаны стогн. Ізноў барацьба. Нейкія ўдары. Ізноў прыдушаны стогн. Потым усё сціхла.

Гукавы вобраз бойкі стаяў у вушах. Елісей у нерашучасці патаптаўся каля сваіх дзвярэй.

У гэты момант унізе пачуліся крокі па лесвіцы (у доме старой канструкцыі ліфт быў не прадугледжаны). Неўзабаве паказалася шапачка з пампонам — гэта бадзёра маршыравала Маруся. У яе руках быў футарал ад флейты.

— Добры дзень, дзядзька Уладзіслаў, — сказала яна, беспадстаўна ўсміхаючыся.

— Прывітанне джазбэнду, — ціха адказаў ён.

Яна ўжо падрыхтавала ключы, каб адамкнуць дзверы.

— Пачакай, Руся, — ён звярнуўся да яе так, як гэта звычайна рабіла маці.

Яна здзіўлена ўскінула на яго вочы. Ён паклікаў яе указальным пальцам. Яна падышла.

— У вас у хаце хто-небудзь ёсць?

— Ды як бы нікога, мама на працы. А што здарылася?

— Мне здалося... Глупства, вядома... Там нешта не так. Руся, ты адчыні дзверы, але не зачыняй за сабой, а я пастаю побач. Увойдзеш, глянь, ці ўсё ў парадку, потым вернешся і зачыніш за сабой дзверы.

У позірку Русі з’явілася недаверлівасць. Елісей нечакана праявіў напорыстасць:

— Руся, ты павінна мне верыць. Я ж ведаю цябе з пялюшак, ты была белабрывай малечай. Я толькі што чуў крыкі з вашай кватэры. Ну, хочаш, я Марту паклічу?

Яна, ні слова не кажучы, падышла да дзвярэй.

— Давай, я патрымаю твой інструмент.

Яна моўчкі перадала футарал.

Бясшумна спрацаваў замок, і яна, не ўваходзячы, расчыніла дзверы насцеж. На парозе стаяў дужы хлопец у наглуха зашпіленай на маланку куртцы і пальчатках. Даўгаватую галаву яго дапаўняў тоўсты вязаны капялюшык, і застылы ў нерухомасці хлопец — гладкі твар, вузкія вочкі — нагадваў пакрытага лакам алавянага салдаціка з жалудом на плячах. Далікатная Руся ступіла назад і прыціснулася да Елісея.

Па тым, як скамянела яго маленькая суседка, Уладзіслаў зразумеў, што яна не знаёмая з госцем. Хлопец маўчаў і, відавочна, не быў схільны да кантактаў.

— Добры дзень, — сказаў Елісей.

— Праходзь, — кінуў «салдацік» з гладкім тварам не яму, а Русі.

— А хто вы, уласна кажучы, будзеце? — На гэты раз Елісей не збіраўся здавацца.

— А вы?

Хлопец прыкметна разгубіўся і цягнуў час, не ведаючы, што рабіць.

— А мы — суседзі, — сказаў Елісей і з выклікам націснуў на кнопку званка ў сваю кватэру.

У гэты момант «салдацік», які дзейнічаў відавочна не па плане, а па абставінах, кінуўся на яго, і Елісей, ці не першы раз у жыцці, здзівіў сам сябе. Рабрыстым футаралам ён стукнуў таму ў твар па лініі нос — вусны — падбародак. Цяжкая флейта выслізнула з футарала і са звонам пакацілася па бетоннай падлозе. Гэта нібы надало сіл Елісею: ён тыцнуў няўклюдна складзеным кулаком у жалуд пад шапачкай і косткай рукі трапіў «салдаціку» якраз у вока. Хлопец скурчыўся, і ў гэты момант Елісей, сам здзіўляючыся сваёй мэтанакіраванай неадольнай лютасці, схапіў таго за шчыльна абліплую каля цела куртку і шпурнуў на лесвіцу. Падаючы, хлопец ухапіўся за дублёнку Елісея, пацягнуў яго за сабой і яны кулём пакаціліся ўніз праз усе дзесяць прыступак. Елісей ускочыў, быццам гутаперчавы (ён згрупаваўся так удала, што не атрымаў ні сіняка, ні драпіны: гэта быў ягоны дзень). Хлопец застаўся ляжаць. Ён быў у непрытомнасці. Зверху на іх, быццам два анёлы, глядзелі Марта і Руся.

Хуткая і міліцыя прыехалі адначасова. У «салдаціка з жалудом» пульс ужо знікаў — са шматлікімі пераломамі рэбраў і чэрапна-мазгавой траўмай яго тэрмінова павезлі ў рэанімацыю.

Злаце таксама дасталося: «жалуд» збіў яе — удары па печані, па нырках павінны былі дэмаралізаваць «аб’ект» — і прывязаў да крэсла, заляпіў рот скотчам; яна страшэнна спалохалася за Русю і не адыходзіла ад яе ні на крок.

Ці не больш за ўсіх пацярпела ні ў чым не вінаватая Марта: наступствы шоку былі сумныя — у яе адняліся ногі.

На пераможцу Елісея завялі крымінальную справу і ўзялі падпіску аб нявыездзе. Маладога следчага чамусьці цікавіў не столькі бандыт, які патрабаваў у Златы кругленькую суму, яго, мабыць не цікавіла, што тую суму бандыт не са столі ўзяў (вузкавокі «жалуд» добрасумленна «працаваў на аб'екце»: тыдзень высочваў яе, быў у курсе ўсіх нюансаў Злацінага бізнесу — ён добра ўяўляў, чаго варта дамагацца ў дадзеным выпадку), як тое, перавысіў ці не Елісей дапушчальныя межы абароны.

Папярэдне атрымлівалася, што перавысіў: хлопец быў у коме, Елісей жа толькі злёгку спалохаўся, у выніку чаго рэзка павысілася яго ўласная самаацэнка (хоць апошняе да справы не прышыеш). Елісей абараняўся — так, несумненна, гэта даказана, аднак жыццё нападаўшага апынулася пад пагрозай. Адзін удзельнік інцыдэнту здаровы, а другі — ледзь жывы. Гэта дакладна ўстаноўлена. Як аддзяліць чалавечы фактар ад юрыдычнага?

Вельмі нашкодзіў Елісею злашчасны футарал ад флейты, які стаў «рэчдокам»: атрымлівалася, што напад на бандыта быў ледзь не спланаваным ці наўмысным. Элемент нечаканасці, спантаннасці, які паслужыў бы вельмі і вельмі змякчаючай віну акалічнасцю, стаў козырам «жалуда», які нечакана з агрэсара ператварыўся ў ахвяру.

Ці варта казаць, што Елісею сталася не салодка, але — дзіўная справа! — ён зусім не падаў духам, здзіўляючы і Злату, і сябе ўнутранай сілай, што выявілася ў ім. А яму ж пагражала турма. Рэальны тэрмін.

— Ды ты мужык, каралевіч Елісей, — сказала яму Злата. Яна папрасіла яго па-суседску зайсці на чай.

— Ну, што ты... Я ўсяго толькі аўтар кароткіх апавяданняў. Ды яшчэ — акула пяра. Так, і майстар адзінаборстваў на лесвіцы, як высветлілася. Новы від спорту, аднак, флейтай па фэйсе.

— Вось што, аўтар, які не памрэ ад сціпласці. У цябе будзе лепшы адвакат. Мы выйграем справу, чаго б гэта нам ні каштавала. Ясна? А за Руську я табе па скон веку буду ўдзячная.

— Флейту шкада.

— У яе ўжо новая флейта, не хвалюйся. Лепшая, чым была. Што ж датычыць Марты Тарасаўны... Патрэбныя лекі мы ёй дасталі. Ёй неабходны добры санаторый — праз месяц яна паедзе на лячэнне. У Аўстрыю. Праз гадзіну ёй прывязуць інвалідную каляску. Мне вельмі шкада. Я заўсёды рада буду дапамагчы, майстар. Як там пасоўваецца раман?

— Думаю, усё не так ужо безнадзейна. Ён пішацца.

— Ты малайчына, каралевіч.

— Дзякуй за праўду. Люблю аб'ектыўнасць.

— Я табой ганаруся.

— А я... Вельмі смачнае пячэнне. Дзякуй, Злата.

— Дзе ты быў? — спытала Марта.

— У Златы.

— Ненавіджу яе, — сказала Марфа-пасадніца. — Яна ператварыла маё жыццё ў пекла. Ненавіджу! І каб ты да яе больш не хадзіў!

— Марта! Трымай сябе ў руках.

— Я б паглядзела, што б ты заспяваў на маім месцы!

— Марта!

— Я б паглядзела, што б яна заспявала на маім месцы!

— Марта!

— Што ты раскаркаўся, як папугай! Папрасі, няхай лепш яна нам дзверы

ўваходныя паставіць, такія самыя, як у яе. Дзесяць ступеняў абароны. Я цяпер за ўсё баюся, да кожнага шоргату прыслухоўваюся.

— Мы самі ў стане паставіць сабе дзверы.

— Марта!

— І каб да яе больш ні нагой!

— Як жа я буду выпрошваць у яе дзверы? А?

— Ні нагой!

Праз месяц Марта паляцела ў Аўстрыю, дзе ёй прапанавалі абследавацца ў лепшых спецыялістаў.

Толькі пасля таго, як ён застаўся адзін, Елісей зразумеў, што Марта ператварыла ягонае жыццё ў пекла. Відавочна, яна належала да тых людзей, якім для поўнага шчасця не хапае толькі цяжкай, у ідэале невылечнай хваробы: з яе дапамогай тэрарызаваць сваіх блізкіх — адно задавальненне. У гэтай сітуацыі яна адчувала сябе, як рыба ў вадзе. Хутка адаптавалася, ператварылася ў сапраўднага дэспата і стала валадарыць над Елісеем так, нібы ён, беглы катаржнік, быў за ўсё ёй павінен, і цяпер усё астатняе жыццё яму трэба было слугаваць ёй. Ён мог хіба што змяніць адну турму на іншую, калі пашанцуе, вядома.

Магчыма, менавіта таму суд Елісея не палохаў; і, можа, была яшчэ адна таму прычына. Хоць шанцы яго патрапіць у іншую турму, трэба аддаць належнае Злаце, што ні дзень, то памяншаліся. Адвакат працаваў, як трэба.

Увечары Елісей, як і абяцаў, зайшоў да Златы на чай (уласна, апошні час ён рабіў гэта кожны вечар, па-суседску).

Яны хутка, без лішніх слоў і эмоцый, абмеркавалі дробязі, якія маглі праявіцца ў працэсе судовага разбору. Злата арыентавалася ў дэталях не горш за адваката. Відаць было, што яна прымала блізка да сэрца гэтую несправядлівасць лёсу: як жа так, высакародную ахвяру пераблыталі з катам!

Наогул, яна была вельмі ўважлівая да дэталяў: на стале стаяла тое самае пячэнне, якое мімаходзь пахваліў Елісей, чай быў завараны якраз так, як падабалася Елісею (ён бегла адзначыў яе выдатнае ўменне падаваць чай у меру моцным і гарачым — і вось цяпер усё паўтарылася адзін да аднаго, як у мінулы раз). А самае галоўнае — на ёй была тая самая цесна прыталеная сукенка ў сонечных блёстках, якія нагадвалі луску залатой рыбкі, сукенка, якая так спадабалася Елісею, хоць ён не прагаварыўся пра тое. І раптам...

— Падабаецца сукенка? — спытала Злата.

— Так, — сказаў ён, не падымаючы вачэй. Ён ніколі не глядзеў на тое, што яму вельмі падабалася.

— Чаму ж ты не глядзіш на мяне?

І Елісей пачырванеў, нібы мак: ягоны твар да таго палаў так толькі адзіны раз у жыцці — тады, калі Марта паведаміла яму аб сваёй цяжарнасці. Дзіўна, але толькі цяпер ён з сумнай асуджанасцю зразумеў, што Марта адкрыта схлусіла: яна элементарна злавіла карасіка Елісея на голы кручок. З разлікам, цынічна. Раней ён баяўся называць рэчы сваімі імёнамі так адкрыта і груба (нельга, нельга дрэнна думаць пра чалавека, з якім пражываеш сваё жыццё: перш за ўсё, гэта непавага да сябе). Ён прывучыў сябе да думкі, што, хутчэй за ўсё, не да канца спасцігае дзіўныя (хто зразумее жанчын!) матывы яе паводзін.

І вось цяпер, побач са Златай, ён адчуў, што на свеце ёсць іншыя жанчыны, па крайняй меры, ёсць адна іншая, якая не будзе яму наўмысна хлусіць, не стане сваёй хваробай дакараць направа і налева, выклікаць пры кожным зручным выпадку пачуццё віны. (Дрэнна так думаць, але думку адагнаць было ўжо немагчыма: у Марты сапраўды паралізавала ногі ці яна сімулюе хваробу?)

— Яна ператварыла тваё жыццё ў пекла? — спытала Злата, і Елісей зусім не здзівіўся яе пытанню: ён ужо быў упэўнены — яна і ёсць іншая, гэта значыць патрэбная яму, яго жанчына, якая разумее свайго мужчыну без слоў.

Таму ён сказаў не тое, што павінен быў сказаць прыстойны і выхаваны чалавек, не тое, што павінен вымавіць мужчына ў яго становішчы, не тое, што ёй прыемна было б чуць — словам, не тое, што захоўвала б дыстанцыю паміж імі.

Наадварот, з яго вуснаў сарвалася:

— Я цябе кахаю, Залатая Рыбка.

І ў адказ пачуў тое, што забараняў сабе чуць нават у самых адважных фантазіях:

— Здымі з мяне сукенку. Смялей, каралевіч.

Яе цела аказалася цёплым і жаданым, а яго рукі — упэўненымі і пяшчотнымі.

Тры дні і тры ночы, якія цягнуліся даўжэй, чым усё папярэдняе жыццё, праляцелі як адно імгненне.

— Заўтра суд, — сказала Злата. — Расказаць табе анекдот?

— Раскажы.

— Справа была ў акварыуме. Адна залатая рыбка пытаецца ў другой: «Як ты думаеш, ёсць Бог ці няма?» Тая адказвае: «Не ведаю. Але ж нехта мяняе нам ваду ў акварыуме...»

— Забаўна, — азваўся Елісей. — Толькі гэта не анекдот, а прытча.

— Можа, і прытча. У жыцці ўсё так заблытана...

І быў суд, і суд быў справядлівым, і Елісей апынуўся на волі са сваім шчасцем. Адбылося гэта ў дзесяць гадзін раніцы першага красавіка.

Лёс, здаецца, пачаў інакш ставіцца да Елісея (або Елісей — да лёсу?).

У гэтым трэба было разабрацца. Лёс і тут не стаў нічога адкладваць: увечары першага красавіка вярнулася пасвяжэлая Марта. Дастаткова было паглядзець на яе, каб пераканацца: ёй стала значна лепш, але яна пакуль не ўставала з каляскі (што выглядала нават некалькі ненатуральна). Праўда, Елісею ў нейкі момант здалося, што ў прыадчыненыя дзверы ваннай ён убачыў пустую каляску.

З гэтай секунды яму каштавала вялікіх намаганняў перамагчы спакуслівы сверб падглядаць за ёй. Ён пачынаў злавацца ці то на сябе, ці то на Марту, ці то на ўвесь белы свет. Марта была дома толькі гадзіну, а здавалася, што цэлых бясконцых шэсцьдзясят хвілін.

— Можа, варта было б паклікаць Злату? Мы б адзначылі тваё выздараўленне. У рэшце рэшт, трэба падзякаваць ёй.

— Маё выздараўленне? Хто сказаў табе, што я здаровая? Гаворка ідзе аб паляпшэнні стану, не больш таго.

— Воля твая, але я б паклікаў Злату. Інакш нядобра атрымліваецца.

— Я не жадаю бачыць гэтую выдру, з-за якой страціла сваё каштоўнае здароўе.

Елісей стрымаў прыліў такой лютай злосці, што нават узрадаваўся: з падобнымі пачуццямі наўрад ці ён зможа жыць з Мартай далей. Не наканавана?

— Як можна вінаваціць чалавека ў тым, што з усімі намі адбыўся няшчасны выпадак? У чым яе віна? Яна дапамагла табе — ад чыстага сэрца, заўваж, па добрай волі; яна мяне з турмы выцягнула...

— Па-твойму, зараз мы павінны гэтай мільянершы ўсё жыццё ў ножкі кланяцца? Жылі сабе, гора не ведалі, і тут на табе — зладзейку рабуюць...

Можа, дабрадзейка сама ўсё гэта і арганізавала. А ты, як лапух, усё за чыстую манету прымаеш.

Елісей адчуваў сябе насельнікам пекла. Нянавісць, што душыла яго, не магла назапасіцца ўсяго за гадзіну; відавочна, яна падспудна нарастала ў ім усе дваццаць гадоў, і раптам узяла за глотку. Прыступ неадольнай лютасці, часткова зменшанай падчас сутычкі з жалудовым хлопцам, проста скалануў Елісея.

Але Марта добра ведала свайго мужа, — значна лепей, чым ён сам.

— Ты хочаш яе бачыць? Кліч, — пакорліва заявіла яна.

Ён павярнуўся і выйшаў з пакоя. Спыніўся перад люстэркам. Пазіралі на яго ва ўпор ягоныя вочы, спыталі: «Што цяпер будзем рабіць з акварыумам?»

На наступны дзень, вярнуўшыся з працы, ён заспеў Злату і Марту, якія мірна гутарылі за чаем на кухні ў Елісея.

— Вы паставіце нам такія дзверы ў кватэру, як у вас? — прастадушна-капрызліва спытала Марта, запрашаючы Елісея да размовы. — Мне ён сказаў, што прасіў вас аб гэтым, і вы абяцалі замяніць нам дзверы. Гэта так міла з вашага боку. Пасля ўсяго таго, што я перанесла, і пасля таго, што сказалі мне лекары, ці маю я права папрасіць вас яшчэ пра адну паслугу... Гэта будзе адзіная мая просьба...

— Вядома, вядома, я зраблю ўсё, што ў маіх сілах, Марта Тарасаўна.

— Наўрад ці я калі-небудзь устану з інваліднай каляскі, вы мяне разумееце? А калі ўсё ж устану, то пры пэўных умовах. Мне трэба забыцца пра перажыты кашмар: пажадана зрабіць рамонт, памяняць шпалеры, мэблю, нават вопратку. Карацей кажучы, змяніць асяроддзе пражывання. Так рэкамендуюць лепшыя лекары. Мы людзі небагатыя, баюся, мы не адужаем перамен у такім аб'ёме. Вы мяне разумееце?

Марта гаварыла, Залатая Рыбка стрымана ківала.

Потым Злата падзякавала за гасціннасць і пайшла, не гледзячы на Елісея.

Пад цяжкім позіркам Марты Елісей так і не падняў сваіх вачэй.

Праз тыдзень Елісей убачыў каля дзвярэй Златы дагледжанага мужчыну, які распаўсюджваў вакол сябе ўстойлівы пах дарагой парфумы, — па іроніі лёсу, гладкавыбрытага і вузкавокага, толькі не маладога, а ўжо ў гадах. Ён з задавальненнем шчоўкаў замком, адкрываў і закрываў яго, атрымліваючы асалоду ад працы хітрага механізма. Заўважыўшы ўважлівы погляд Елісея, ён міралюбна растлумачыў:

— Я ваш новы сусед, чалавек рахманы і ціхі. Рады знаёмству. У вас, я бачу, такія самыя дзверы. Замок надзейны?

— А дзе ж Злата?

— Былая гаспадыня? Яна тэрмінова прадала мне гэтую кватэру. Відавочна, памяняла месца жыхарства. Гэта ўсё, што мне вядома. Вельмі мілая жанчына, ці ж не праўда?

— У яе быў кепскі характар, — на парозе іх кватэры стаяла Марта Калагрыўка ў новым ліловым халаце. — А замок надзейны. Нам падабаецца.

У яе голасе гучалі ноткі абсалютнай упэўненасці.

Уладзіслаў Антонавіч Елісей засмяяўся ад душы. Яго жонка, нібы ўчуўшы ноткі фальшу, здзіўлена павяла бровамі.

— Ці ведаеш ты, Марта Калагрыўка, хто мяняе ваду ў акварыуме?

Бровы падняліся яшчэ вышэй.

Новы сусед нічаму не здзіўляўся.

***Пераклад з рускай Міхася Кенькі.***

## Баніслаў СПРЫНЧАН



* * *

Не чуваць вас у стылай цішы.
Нешта важнае, вечнае страчана.
Як самотна бывае душы,
Як журботна без голасу Панчанкі!

Забірае паэтаў зямля.
Так лісты аблятаюць па восені...
І няўрымслівы верш Макаля
Пад травой забыцця беларосіцца.

І жалейка маўчыць, і труба
Дабрадушнага віцязя Пысіна.
Пераемнікі дзе? Ну хіба
Ўсё выбітнае калісь напісана?!

Хоць гадоў тых не вернеш назад,
Толькі свеціць святлом месяцовым
Блік усмешкі, з хітрынкай пагляд
І магутнае слова Стральцова.

---

***Спрынчан Браніслаў Пятровіч*** *нарадзіўся 16 жніўня 1928 года ў вёсцы Каніж Новаміргарадскага раёна Кіравацградскай вобласці (Украіна). Пасля заканчэння Кіраваградскага машынабудаўнічага тэхнікума (1949) працаваў на заводзе «Гомсельмаш» майстрам кавальскага цэха, быў літсупрацоўнікам завадской шматтыражнай газеты «Сельмашавец». Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве (1959). Загадваў аддзелам паэзіі часопіса «Нёман». Трагічна загінуў 8 ліпеня 2008 года.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Над кручами Сожа» (1957), «В центральном пролёте» (1961), «Ветер на откосах» (1964), «Плавка» (1968), «Черты лица» (1970), «Ясень» (1973), «Стремнина» (1982), «Надежды нежные ростки» (1986), «Свет любви» (1988), «Жизни вечные круги» (1990), «Васильки на белом полотне» (1990), «Смутный день» (1994), «Вербная неделя» (2002), «Осенний вереск» (2006) і інш.*

*Пераклаў на рускую мову вершы многіх беларускіх паэтаў, у тым ліку «Вянок» Максіма Багдановіча.*

Яго лірыка побач са мной,
Перад ёю схіляюся ніца,
А яна — бы кляновік вясной,
Бы з крыніцы жывая вадзіца.

## НА РАДЗІМЕ

На світальных сонечных пракосах,
Бы ў юнацтве, радасна так зноў.
Праз галін цадзілку ў росных лозах
Малако струменіць тумано́ў.

Цэдзіцца і льецца ў коўш лагчыны,
А зара, прабіўшы сіняву,
Залаціць кароў літыя спіны
І празрыста-росную траву.

Я стаю ля поплава шчаслівы,
Да мяне рагуля падышла
І сваім дыханнем казытлівым
Мне душу і твар мой апякла.

Цеплынёй павеяла такой,
Што памкнулі думкі чарадою
Ўсё туды, дзе ў кубак сырадою
Лье матуля добраю рукой.

* * *

Чагосьці я прыціх,
Спаволіўся зарана,
Вярбой схіліўся ніц,
Жыцця спазнаўшы радасць.

І жоўты дождж лістоў —
За дні мае расплата...
Гляджу на фарбаў свята —
І бачыцца наноў,

Як за лістком лісток
Надзеі аблятаюць
І ў сэрца навяваюць
Расстайны халадок.

Змяркаецца знячэў.
Вандроўкі хмары босай
Па выцвілых нябёсах
Не радуюць вачэй.

Мінуласцю жыву.
Агняцца асяніны.
Гляджу на куст каліны,
На жухлую траву.

Аж моташна ад дум...
Нібыта з павуціны,
Жыццё снуе ніціны.
Душу вярэдзіць сум.

Не здзівіш адкрыццём.
Халодзіць сны самота...
Адно вярбы лістота
Трапечацца жыццём.

* * *

На тваім плячы бруіць каса.
Сарамліва — чыста, без падману —
Шчокі так зардзеліся румяна,
Ўспыхнула славянская краса.

Маладзіш усмешкаю Сусвет,
Дабрыню прыносіш, і пяшчоту,
І адхлання сонечную ноту,
Ў сэрцы пакідаеш светлы след.

Ці табою зноўку мае сны
Саграваць і цешыцца ў самоце?!
Я зрання, як кажуць, пры рабоце —
Дасяваю свой надзел зямны.

Як хвалюе жывапіс бяроз,
Жаўталісця шолах пад нагамі!
Адцвітання колерныя гамы
Чымсь кранаюць велічна, да слёз.

Я гляджу, прасветлены нібы,
Ці дубровай цешуся, ці пожняй,
Ці то клінам зябліва апошнім,
Што чакае весняе сяўбы.

Звон царкоўны, нібы камертон,
Мае думкі струніць так высока.
Сонца апускаецца з аблокаў,
Так ружова сцелецца наўкол...

Сумаваць і кволіцца чаго!
Зорачка міргае над вадою...

І — якая радасць! — маладою
Ты ідзеш да вогнішча майго.

* * *

Не блішчэла раніцай імглістай.
Дождж пайшоў без грому, цёплы, сыпкі —
Кроплямі па кроне б’ецца зыбкай,
Весела палошчацца па лісці.

Мы б да стога даімчалі, мабыць:
Пачынаўся дождж не надта спешна.
Ды і тут, пад ліпаю прывабнай,
Нам дваім і сорамна, і грэшна.

Мы з табой як быццам бы малыя,
Нам яшчэ вучыць урокі трэба.
І павіслі струны дажджавыя,
Сенакос яднаючы і неба.

Мы яшчэ знаходзімся наводдаль,
Ды выводзіць з гэтага здранцвення
Ліпы гаманкое шалясценне
І яе мядовы тонкі водар.

Ад яго душа мая хмялее.
Добра мне пад кронаю цяністай
Бачыць, як твой позірк цеплавее
І як твар ад радасці зіхціцца.

## ГАЛІНКА МІМОЗЫ

На аконным выстуджаным шкле
Адсваволіў жывапіс марозу.
І запахла на маім стале
Веснім духам жоўтая мімоза.

Шарыкі і рэдкае лісцё
Азарылі сонейкамі вазу,
І маё размернае жыццё
Перайшло ва ўзрушлівую фазу.

Свецяцца пяшчотнай сінявой
Свіслачы крутыя павароты,
Што здаецца: ліпы нада мной
Шалясцяць вясноваю лістотай.

Качкі ўсё плывуць — крыло ў крыло,
У затоцы — рыхлы лёд зялёны.

Чую: нават карканне вароны
Мяккую працяжлівасць знайшло.

Стане яркай дзён будзённых проза.
Зноў душа ад радасці пяе.
Хто павінны ў гэтым? Ці мімоза,
Ці мо ты, што прынясла яе?

* * *

Танеюць снежныя сумёты,
Хоць і марозіцца зямля.
Ужо мелодыя пяшчоты
Чуваць здаля.

Хоць снег сінее на канавах,
На рэках тая ж сінізна,
Ды толькі крокам рупна-жвава
Ідзе вясна.

Трымцяць сухія чараты,
Ды лозы — ў вэлюме ружовым.
Ад гэтай музыкі вясновай
Юнееш ты.

Пад перазвоны-сны вяршалін
Цяпла праляжа весні шлях.
Спрабуюць снежніцу праталін
Гракі ў палях.

Наструнены на новы лад,
Ты пазіраеш за аблокі —
І распрамляе поле зроку
Вясны пагляд.

О гэта дзіўнае прадвесне!
Сусвет ад радасці трымціць.
І жаўруком у паднябессі
Душа ляціць.

***Пераклад з рускай Міколы ШАБОВІЧА.***

**Валянціна НАВІЦКАЯ**

# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ І ЯН БАРШЧЭЎСКІ: ХАРАКТАР МАСТАЦКАЙ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ПІСЬМЕННІКАМІ НАРОДНАГА ЭПАСУ

Працэс перадачы інфармацыі, узаемапранікнення, суіснавання розных ментальных пластоў аўтара і чытачоў праз тэкст і яго разнастайныя структурныя адзінкі нараджаюць мастацкі дыскурс, які можа змяшчаць безліч сэнсавых і інтэрпрэтатыўных пластоў, асабліва ў сучасным літаратурным працэсе. Складанасцю мастацкага дыскурсу вызначаюцца шматлікія творы канца XX — пачатку XXI стагоддзяў, што з'яўляецца характэрным, знакавым для творчасці Дж. Фаулза, У. Эка, В. Пялевіна і інш. Сярод прадстаўнікоў беларускай літаратурнай традыцыі вылучаецца мастацкая спадчына У. Караткевіча.

Бібліяграфія і геаграфія цытавання славутага аршанца выключна шырокая: ад Святога Пісання да Руноскэ Акутагавы, ад «Боскай камедыі» да М. Булгакава. Аднак у мастацкім вопыце У. Караткевіча асобна варта вылучыць творчасць Яна Баршчэўскага. Вылучыць як крыніцу натхнення, з аднаго боку, і як тэкст-донар для надання адпаведнага каларыту арыгінальным творам, і як спосаб таленавітага маркіравання глыбінных ідэйна-філасофскіх, эстэтычных і маральных праблем, узнятых у творы пісьменніка іншай эпохі, з другога.

Творчасць Я. Баршчэўскага зусім невыпадкова адыграла істотную ролю ў мастацкім лёсе У. Караткевіча. Яшчэ ў 1964 годзе ён напіша ў лісце да Я. Брыля: «Янка! <…> Ці не час рэабілітаваць Яна Баршчэўскага? Дзівосны пісьменнік, стыліст, Беларусь пяшчотна любіць, дыялогі — па-беларуску, стыль, побыт, фантазія, народны характар — усё чыста беларускія. А што, калі мы пагаворым з Броўкам, ды «Шляхціца Завальню» перакладзём, араматным такім, дабротным старым стылем. <…> Каб ты ведаў, які сімпатычны чалавек, патрыёт, талент, дэмакрат! Падумай, да рэвалюцыі ганялі за дэмакратызм, пасля — за ўяўную рэакцыйнасць. <…> Сто дваццаць год ганення, падумай толькі! А як жа рассунуцца межы літаратуры! Першы жа ён! І такі тыповы, рамантычны беларускі гафманізм! І такая фантазія! <…> шмат грахоў нам даруецца, калі вернем забыты цень. Несправядліва забыты» [1, с. 115]. Такая захопленасць, апантанасць У. Караткевіча слынным беларускім пісьменнікам-рамантыкам XIX стагоддзя сведчыць аб выключнай падрыхтаванасці свядомасці і светабачання аўтара да ўспрымання і разумення не толькі творчасці Я. Баршчэўскага, але і характару яго мыслення, трансфармаванага ў мастацкай рэальнасці «Шляхціца Завальні». Караткевічаўскае імкненне да пераасэнсавання, рэінтэрпрэтацыі традыцый рамантызму, памножанае на выключную эрудыцыю — своеасаблівая падстава меркаваць, што фрагментаваныя, алюзіўныя запазычанні з творчасці Я. Баршчэўскага ў тэкстах У. Караткевіча маюць абгрунтаванае, лагічнае і функцыянальнае паходжанне.

Герменеўтычная расшыфроўка, дэкадзіраванне тэкстаў У. Караткевіча, як і любых мастацкіх твораў наогул, патрабуе не толькі гатоўнасці пачуць голас аўтара праз тэкст, але і падрыхтаванасці інтэлектуальнай. Як слушна заўважыў вядомы рускі літаратуразнаўца В. Цюпа, «семіятычная асаблівасць мастацтва, якая базуецца на своеадметнасці ўнутранай мовы, прыводзіць да таго, што мастацкі тэкст, узяты ў ягонай паўнаце, цалкам, уяўляецца падобным да археаграфічнай

знаходкі <…>. Для таго, каб такі тэкст расшыфраваць, неабходна аднавіць яго страчаную мову. Аналіз мастацкага тэксту якраз і вымагае ў пэўнай ступені рашэння аналагічный задачы. Праўда, усялякае чытацкае разуменне літаратурных твораў ёсць спроба падобнага ўзнаўлення прыхаванай ад нас знакавай сістэмы» [2]. Тэкст поліфанічны, шматзначны можа вымагаць ад сваіх чытачоў ведання не адной, а некалькіх такіх «моў» — герменеўтычных ключоў. Для твораў У. Караткевіча адным з падобных ключоў з’яўляецца творчасць Я. Баршчэўскага.

Напрыклад, раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», непасрэдны аповед у якім пачынаецца з фантасмагарычнага, міфалагізаванага і нават сюррэалістычнага раздзела «Падзенне агнявога змія», літаральна прасякнуты шматлікімі згадкамі і спасылкамі на нацыянальную і сусветную фальклорна-міфалагічную сістэмы. Аднак сярод гэтай яркай і трывожнай феерыі фарбаў і вобразаў лёгка пазнаецца вобразная сістэма Яна Баршчэўскага: «А з Менска ў той самы час убачылі ў небе два легіёны, якія, схапіўшыся, біліся так, што ясна было: мала хто застанецца жывы. Можна было разгледзець дым, шаблі, коней, што гігаталі без гуку, і каноны» [3, с. 10]. У тэксце «Шляхціца Завальні» чытаем: «І цяпер яшчэ старыя, апавядаючы маладым аповесці даўніх часоў, успамінаюць дзіўныя знакі на небе, калі на беразе Балтыйскага мора сышліся дружыны шведаў з велізарным войскам паўночнага Цэзара, дрыжала Нарва і іншыя фартэцыі ад зброі пераможцаў. Зарыва страшных пажараў, плывучы ў аблоках ад марскіх берагоў, няраз апоўначы залівала крывёю неба над усёй Беларуссю. Люд, дрыжучы, паглядаў угору, дзе ў хмарах, што дыміліся крывёю, змагаліся палкі конных і пешых волатаў, і няраз гэты прывід трываў на небе да ўзыходу сонца» [4, с. 141].

Вельмі блізкія, сумежныя па сваіх сутнасных і фармальных знакавых атрыбутах вобразы, калі іх разглядаць у праекцыі да тэкстаў цалкам, маюць розную мастацкую нагрузку. Так, у рамантычным, фантастычным, народным па сваім духу мастацкім сусвеце «Шляхціца Завальні» зварот да містычных знакаў на небе абгрунтаваны як самой рэальнасцю твора, так і творчымі задачамі, якія ставіць перад сабою аўтар. Па-першае, у аснове рамантычнага канфлікту твора Я. Баршчэўскага не адзін канкрэтны персанаж, а цэлы народ, што ў пэўным гістарычным асяроддзі адчувае сябе не проста чужым, а ў стане марных пошукаў: якую б «маску» не надзелі прадстаўнікі беларускага народа, яна ніколі не зможа стаць іх сапраўдным аблiччам, не зможа даць месца ў самой гісторыі. Аўтар прапануе адначасова і геніяльна просты, і надзвычай складаны спосаб: знайсці сябе і прыйсці да гармоніі праз Бога, праз звышнатуральную стваральную сілу. Матыў боскага пачатку, якім літаральна прасякнуты ўвесь тэкст «Шляхціца Завальні», патрабуе ад аўтара ўключэння ў твор таямнічых і невытлумачальных праяў. Па-другое, Я. Баршчэўскі цудоўна разумеў мысленне чытацкай аўдыторыі, таму і звяртаецца ў такой алегарычнай і загадкавай форме да сваіх сутворцаў. Людзям варта шукаць сваё месца не праз багацце, грошы і ўладу, а праз прыроду свайго краю, яго гісторыю, шчырае і спагадлівае стаўленне да сябе падобных: «О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў, зразумейце гэтыя знакі ў пэўных абрысах аблокаў, якія заўсёды перад вашымі вачыма; Божая рука папярэджвае вас, што няма нічога сталага на зямлі, гмахі вашы ператворацца ў руіны, моц, багацці, гонар і слава рассеюцца і знікнуць, як лёгкі дым у паветры» [4, с. 140].

У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» алюзія на тэкст Я. Баршчэўскага мае больш насычаны і складаны вобразны і семантычны змест. Першае, на што варта звярнуць увагу пры параўнальным аналізе такога мастацкага прыёму,— на пашыраны храналагічны складнік. Калі мастацкі час на старонках «Шляхціца Завальні» і рэальны час чытачоў, да якіх апелюе аўтар, прыблізна супадаюць (за выключэннем рэтраспекцый у гісторыях, што распавядаюць шчодраму Завальні яго госці), то ў тэксце беларускага майстра слова XX стагоддзя асноўных часавых пластоў адразу два: аб’ектыўны час аповеду — пачатак XVI стагод-

дзя — і час, які фігуруе ў наратыўным фокусе двух сведкаў: «Будучы на схіле дзён, рыхтуючыся да агульнай чашы чалавечай <…>, вырашылі мы <…> распавесці вам, людзі, аб Юрасі Братчыку, якога царква назвала «лжэ-Хрыстом» [3, с. 5]. Між тым, чытацкі час не стасуецца ні з адным з мастацкіх. У такім выпадку можа падацца відавочным, што праз уключэнне ў тэкст рэмінісцэнцыі на твор Я. Баршчэўскага аўтар, з аднаго боку, дэталізуе свядомасць і светаўспрыманне людзей таго часу і супастаўляе ідэйна-філасофскія задачы ўласнага тэксту з творам XIX стагоддзя. Аднак больш пільнае прачытанне дае падставы меркаваць, што аўтар твора займае трансцэндэнтную пазіцыю адносна часу як мастацкага, так і чытацкага. Аўтарскае «я», непасрэдная воля творцы зліваюцца з рознымі часавымі фармацыямі ў тэксце, што, у сваю чаргу, робіць розныя элементы мастацка-вобразнай, структурнай, наратыўнай сістэм твора сучаснымі і даўнімі адначасова, дазваляе тэксту існаваць і ўспрымацца па-за межамі пэўнай эпохі, быць метатэмпаральным. Такім чынам, для У. Караткевіча «знакі на небе» Я. Баршчэўскага — гэта, у першую чаргу, прывід вайны, жаху і болю, які лунаў над Беларуссю заўсёды, які зрабіўся найбольшай фобіяй не толькі аўтара і яго пакалення, але цэлай нацыі на працягу ўсёй гісторыі яе існавання. І толькі ад самога народа будзе залежыць, ці спыніцца калі-небудзь бясконцы страх. З другога боку, менавіта праз уключэнне ў тканіну твора дадзенай алюзіі падкрэсліваецца такая асаблівасць беларусаў, як выключна міфалагічная свядомасць, што патрабуе блізкасці да першакрыніц, да вытокаў, да гісторыі. А яшчэ праз згаданы фрагмент аўтар пакідае на старонках рамана спадзяванне, што калі-небудзь уважлівы чытач пазнае ў арыгінальным тэксце словы Я. Баршчэўскага і зробіць тое, што не ўдалося ажыццявіць У. Караткевічу ў першай палове 60-х гадоў XX стагоддзя — адкрые для ўсёй Беларусі таленавітага мастака XIX стагоддзя, значнасць і маштабнасць яго мастацкіх ідэй і вобразаў.

Першы раздзел рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», як найбольш таямнічы і цяжкі для інтэрпрэтацыі, утрымлівае, апрача міфастылістычнай сістэмы, набліжанай да Бібліі, яшчэ адну фрагментызаваную сувязь з Баршчэўскім: «…Вясной той, уначы, — а бачылі тое жыхары з Міра, з Нясвіжа, і Слуцака, і Слоніма, усіх тых мясцін і весяў, — з шыпам і свістам прамчаў па небе агнявы змій з доўгім зыркім хвастом» [3, с. 10—11]. Вобраз змія (цмока), заўважым, наогул часта фігуруе на старонках «Шляхціца Завальні»: «Аднойчы і я, калі пасвіў коней на начлезе, бачыў, як ляцела тое страшыдла, з шумам рассыпаючы вакол сябе іскры, нібы распаленае жалеза пад молатам каваля» [4, с. 22]; «ляцеў, палаючы агнём, цмок, нёс нібыта з сабою шмат золата і срэбра грэшніку, які прадаў д'яблу душу» [4, с. 41]; «з поўначы, шугаючы полымем, ляцеў цмок і іскры сыпаліся з яго; пэўна, нёс золата для нейкае душы, што пабраталася з д'яблам» [4, с. 153]. Я. Баршчэўскі цесна яднае міфічнага цмока з вядзьмарствам, чорнай магіяй і майстэрствам чарнакніжжа. Аднак лёс чарнакніжнікаў беларускі рамантык малюе надзвычай сумным: ад фізічнай смерці да страты сябе як чалавека. Міфалогія як аснова любой культуры і фантастычная стылістыка выкарыстоўваюцца аўтарам не ў якасці самастойнага вобразатворчага знака, а ў якасці алегарычнага інтэрпрэтатыўнага ключа. У М. Хаўстовіча чытаем: «Пісьменнік у тагачасных палітычных умовах быў вымушаны старанна шыфраваць ідэйна-мастацкую сутнасць сваіх твораў, але для чытача ён пакідаў у тэксце ключы дзеля дэшыфроўкі» [5, с. 302—303]. Калі ўлічыць гістарычную панараму часоў Баршчэўскага, то можна прыйсці да высноў, што пад чарнакніжнікамі пісьменнік разумее тых беларусаў, якія згадзіліся слугаваць чужынцам насуперак уласнаму сумленню, якія згубілі апошні гонар дзеля ўлады і грошай. Аўтар «Шляхціца Завальні», на думку даследчыка, папярэджвае: «Не будзе шчасця тым, хто здрадзіў свайму краю; не прынясуць карысці трыццаць срэбранікаў таму, хто згаджаецца нават за дробязь служыць акупантам» [5, с. 302].

У сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіч ідзе далей за свайго папярэдніка: эксперыментуе з міфалагічным вобразам, падключае роз-

ныя гістарычныя эпохі выяўлення архетыпу, надае іншыя значэнні. Перш за ўсё, аўтар праводзіць дыферэнцыяцыю вобразаў цмока і змія. Цмок у рамане малюецца ўжо мёртвым і зусім не падобным да «агнявога змія»: «Выглядам той цмок быў, як звер фока, такі самы льсняны, у складках, толькі без поўсці. І шэры, як фока. Але даўжэйшы за яго куды. <…> Тулава мелі тыя цмокі шырокае і трохі пляскатае, і мелі яны плаўнікі <…>. Шыю мелі, па тулаву, дык тонкую і надта доўгую. А на шыі сядзела галава, адначасова падобная на галаву змяі і на галаву лані» [3, с. 8—9]. Цмок У. Караткевіча выяўляецца істотай воднай, дзівосна падобнай на Лох-нэскую пачвару: менавіта як цюленя з неверагодна доўгай шыяй і змяінай галавой апісвалі Нэсі рымскія легіянеры. Падабенства, апрача выключна знешняга, выдае і наступная згадка: «Якраз тады выдахлі ў Сенненскіх азёрах цмокі, пра якіх пісаў яшчэ прападобны Амбражэй Куцеянскі; якіх цмокаў ён калісь закляў і загнаў у возера, каб не палохалі людзей» [3, с. 7—8]. Існуе аналагічная шатландская легенда, паводле якой ірландскі манах святы Калумба супакоіў пачвару з дапамогай малітвы. Безумоўна, вобраз цмока ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» мае негатыўную нагрузку, адпаведны каларыт якой надае тоеснасць з шатландскай Нэсі. Цмок, небяспечнае для чалавека стварэнне паводле міфалагічнай свядомасці народа, дапаўняе ў тэксце рамана змрочную сімволіку праз прыналежнасць да вады, якая традыцыйна ўспрымаецца як таямнічая, цёмная і непрадказальная стыхія. Аднак мёртвы, цмок ужо не з'яўляецца пагрозай. Караткевіч, які гэтаксама як і Баршчэўскі, быў залежны ад улады і цэнзуры, праз іншасказанне даводзіць, што беларусам варта выйсці з цемры, зазірнуць у вочы асабістым страхам і крытычна паставіцца да ўласнай гісторыі, зрабіць з вопыту мінулых гадоў цвярозыя высновы, каб не паўтараць аналагічных памылак у будучыні.

Паралельна з цмокам у тэкст уводзіцца і вобраз змія. Першапачаткова можа падацца, што міфалагічныя істоты маюць тоесную функцыянальную нагрузку: «Яму тую, разам з усім, потым мірскі каплан загадаў, не гледзячы і не капаючыся, зямлёю засыпаць — каб спакусы не было і каб не дакранацца да рэчаў змеевых. Бо ўсім вядома, чыёй зброяю быў змій» [3, с. 11]. Здаецца, што змій у тэксце мае выразную біблейскую трактоўку — гэта зброя нячысціка, ворага людзей і бога. Але аўтар выкарыстоўвае ў сваім творы вядомыя вобразы іншага сімвалічнага значэння. Першапачаткова змій меў хтанічную прыроду (сама назва мае агульны корань са словам «зямля»), сімвалізаваў урадлівасць і жаночы пачатак. Вобраз агнявога змія сведчыць аб крайняй ступені абуранасці народа, сведчыць пра абуджэнне яго хаатычнай, першароднай сілы. І гэта сіла прыводзіць не да краху, а да з'яўлення лідара, які прымушае людзей паверыць у сябе, а разам паверыць у лідара, якога пакуль бракуе ў жыцці рэальным.

Асаблівай увагі заслугоўвае і той факт, што абодва пісьменнікі досыць часта ўключаюць у свае тэксты вобраз-сімвал змяі або вужакі, сярод якіх вялікае месца адводзіцца вужынаму каралю. Я. Баршчэўскі прысвячае гэтай міфічнай істоце апавяданне «Вужовая карона», а У. Караткевіч — апрацаваную народную казку, пра якую, дарэчы, згадвае і ў сваім шматпакутным рамане «Нельга забыць».

Вужыны кароль Яна Баршчэўскага, хоць і не з'яўляецца ў апавяданні функцыянальна актыўным персанажам, аднак яго прысутнасць многае тлумачыць у філасофскім змесце светапоглядных канцэпцый пісьменніка. Паглыбляецца пры гэтым разуменне ўсёй метафарычнай сістэмы твора. Міфічная істота рэпрэзентуецца выключна як форма д'ябальскай, цёмнай сілы, якая дзейнічае часцей за ўсё не сама, а праз праваднікa, які дае чалавеку інструкцыі рытуальнага тыпу, каб той меў магчымасць кіраваць гэтай сілай у сваіх карыслівых мэтах: «Пасцялі перад ім белую хустку, укленч і пакланіся; ён кіне табе на хустку сваю Залатую Карону і з грамадою сваіх вужоў пойдзе ў зімовыя сховы. Слухай яшчэ, дам табе перасцярогу: ідучы ўначы на Ласіную гару, не палохайся нічога і нічому не дзівіся, інакш дарэмны будзе твой клопат» [4, с. 52]. Верагодна, аўтар у алегарычнай форме выкладае свае ўласныя назіранні: простаму, сумленнаму

чалавеку, які апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, з якой ён не можа знайсці выйсця і таму звяртаецца па дапамогу да варожых сіл, да чужынцаў, трэба вытрымаць значна больш, каб заслужыць іхні ілюзорны давер. Яму давядзецца сутыкнуцца са значна большымі спакусамі, чым людзям без сумлення: «Здаецца Сямёну, што выходзіць ён з лесу і бачыць удалечыні палац, які свеціцца золатам і срэбрам; падыходзіць да тае пекнае пабудовы праз чароўны сад, дзе як быццам вясна і лета сышліся разам: найпрыгажэйшыя кветкі і даспявае найвыдатнейшая садавіна. <…> Спаткалі яго дзяўчаты з вянкамі на галовах, танцуючы, вабілі да сябе» [4, с. 53]. Ян Баршчэўскі выкарыстоўвае досыць распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі варыянт апісання палаца вужынага караля. Сюды кароль прывозіць, згодна з традыцыямі народнага эпасу, сваю нявесту. У згаданым апавяданні і пекная пабудова (палац), і чароўны сад, і дзяўчаты-прыгажуні — гэта ўвасабленне аўтарскай перасцярогі чытачу: ведай, што зло можа прымаць любыя, нават самыя прывабныя формы.

Апісанне палаца вужынага караля ёсць і ў казцы У. Караткевіча, аднак аўтар малюе яго зусім інакш: «К заходу сонца прыплыў човен на далёкую выспу. Уся яна пушчаю дрымучай абрасла, хмелем перавілася, павуціннем пераблыталася. І пасяродку гэтага царства мёртвага, бязлюддзя суворага стаіць палац закінуты з дзевяццю вежамі, а вакол яго па ставу нячутна плаваюць чорныя лебедзі. І ўсё як быццам сон здушыў: ціха, як на могілках» [6, с. 42]. Дадзены фрагмент можна назваць функцыянальна надзвычай насычаным: па-першае, праз закінутасць месца аўтар дадаткова падкрэслівае цяжкі эмацыянальны стан галоўнай гераіні казкі Яліны; па-другое, параўноўваючы палац вужынага караля з царствам мёртвых, з могілкамі, пісьменнік акцэнтуе ўвагу адначасова на архетыповасці і ўніверсальнасці паходжання вобраза Яліны: традыцыі многіх народаў звязваюць вясельныя рытуалы з жыццёвым цыклам, з аспектамі памірання (для сваёй сям’і) і адраджэння (у сям’і мужа). Аднак інтэрнацыянальнымі па сваёй сутнасці выяўляюцца не толькі асноўны персанаж, але і сама казка. У адрозненне ад Я. Баршчэўскага, У. Караткевіч абірае не тыповы беларускі, а вандроўны сюжэт, найбольш ранні варыянт якога адносіцца яшчэ да антычнай літаратуры (легенда пра Амура і Псіхею, пераказаная ў рамане «Залаты асёл» Апулея). Такі творчы метад гаворыць аб тым, што пісьменнік досыць талерантна, абачліва і цвяроза ставіцца да ўсяго «чужога»: без залішняга даверу і захаплення, але і без ксенафобіі. Прага У. Караткевіча да ведаў, да пазнання, спасціжэння новых гарызонтаў прывяла да разумення, што нацыянальныя, самабытныя, унікальныя культурныя і мастацкія здабыткі могуць заззяць новымі фарбамі і зрабіцца па-сапраўднаму значнымі для свайго народа толькі праз прызму глабальнага, сусветнага. Сваю гнасеалагічную парадыгму аўтар сцвярджае тэкстуальна:

«— У, змяіныя вырадкі.

Адказаў Ясень:

— Чаго лічыць, хто ад каго нарадзіўся. У нас бацька змей, а справы чалавечыя, а ў вас бацькі людзі, а ўчынкі вашыя, як у змяі» [6, с. 46].

Сімвалічны дыялог скіроўвае ўвагу на праблему катэгарычнага непрымання нічога чужога, што вядзе да вузкасці мыслення і светаўспрымання, якія бываюць небяспечнымі і могуць прывесці нават да непапраўнага.

Падагульняючы сказанае, можна прыйсці да наступных высноў. Абодва пісьменнікі звяртаюцца да сваіх каранёў, да традыцыйнага народнага фальклору, аднак ідэйна-філасофскія і мастацкія задачы ставілі перад сабой розныя. Так, Я. Баршчэўскі карыстаецца жанрам фантастычнага народнага апавядання для шыфравання асабістага стаўлення да сучаснай яму гістарычнай сітуацыі і магчымасцей захаваць нацыянальны дух, гісторыю, культуру, свабоду. У. Караткевіч пашырае нацыянальны складнік праз вопыт і здабыткі сусветнай культуры і надае народным першакрыніцам універсальную моц, змушаючы такім чынам чытачоў абудзіць сваю гістарычную памяць і свядомасць.

## Літаратура:

1. Уладзімір Караткевіч і Янка Брыль. Перапіска // Шляхам гадоў / уклад. У. Мархель — Мінск: Маст. літ, 1990. — 372 с.

2. Тюпа, В. Художественный дискурс (Введение в теорию литературы) / В. И. Тюпа / [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://anthropology.ru/ru/texts/baudrill/silent.html — Дата доступа: 1.04.2013.

3. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У. Караткевіч. — Мінск: Маст. літ., 1990. — Т.6: Хрыстос прызямліўся ў Гародні: раман, 1990. — 494 с.

4. Баршчэўскі, Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях / Я. Баршчэўскі. — Мінск: Маст. літ., 2009. — 326 с.

5. Хаўстовіч, М. Даверыць таямніцу сэрца / М. Хаўстовіч / Баршчэўскі, Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. — Мінск: Маст. літ., 2009. — С. 297—309.

6. Караткевіч, У. Вясна ўвосень: Казкі / У. Караткевіч / Укладальнік У. І. Карызна. — Мінск: Юнацтва, 2000. — С. 38—49.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 26 красавіка 2013 г.

**Валянціна НАВІЦКАЯ**

### Уладзімір Караткевіч і Ян Баршчэўскі: характар мастацкай інтэрпрэтацыі пісьменнікамі народнага эпасу

### Рэзюмэ

У артыкуле акрэслены асаблівасці ўспрымання Уладзімірам Караткевічам жыццёвага лёсу і творчай спадчыны Яна Баршчэўскага. На аснове параўнальна-супастаўляльнага аналізу аповесці «Шляхціц Завальня» і рамана У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», яго казачнага эпасу раскрыта своеадметнасць мастацкай інтэрпрэтацыі пісьменнікамі, прыналежнымі да розных эпох, фалькларна-міфалагічнай вобразнай сістэмы. Герменеўтычная расшыфроўка тэкстаў У. Караткевіча дазволіла вызначыць ідэйна-філасофскую змястоўнасць і функцыянальна-эстэтычную значнасць тэкстуальных рэмінісцэнцый, алюзій на твор Баршчэўскага. Раскрыты асаблівасці выкарыстання пісьменнікамі фантастычна-міфалагічнага эпасу ў залежнасці ад глабальных праблем свайго часу і адпаведных мастацкіх задач.

### Summary

**Valiantsina NAVITSKAYA**

### Uladzimir Karatkievich and Jan Barshcheuski: the Writers' Artistic Interpretation Character of the National Epos

The article describes the peculiarities of Uladzimir Karatkievich's perception of the fate and artistic heritage of Jan Barshcheuski. On the base of the comparative analysis of the «Shliakhtits Zavalnia» novel and the novel by U. Karatkievich — «Christ has landed in Garodnia», his fairytale epos the peculiarity of the folk and mythological imagery artistic interpretation of the writers of different age is exposed. Hermeneutic interpretation of U. Karatkievich's texts allows to determine the conceptually-philosophichal content and functional-aesthetic significance of the textual remini scences, allusions on Barshcheuski's works. The specific features of using the mythical-mythological epos, depending on the global events of the time and the artistic tasks of the writers are examined here.

Серафім АНДРАЮК

# ЯНКА СІПАКОЎ І ЯГО «МАЯ БІБЛІЯТЭКА»

«Мая бібліятэка».

Апошні пісьменнікаў твор. Незавершаны…

Твор заканамерны ў творчасці Сіпакова. Асабліва ў творчасці пачатку новага стагоддзя. Дзесьці нібы прадчуваючы завяршэнне жыццёвага, а з ім і творчага шляху, Сіпакоў у апошнія гады працуе шмат, апантана. Ён імкнецца, спяшаецца сказаць пра самае істотнае ў гэты час, тое, што набалела за мінулыя гады, на што сучаснасць не давала адказу. Сказаць адкрыта, шчыра. У большасці твораў гэтых аўтар — ён і галоўны герой. Жанр іх — дзённік, эсэ.

Вось іх публікацыі.

2003 год. Зборнік «Вецер на даху вагона». Побач з апавяданнямі друкуецца шэраг эсэ.

2007. «Наталенне смагі». Дзённік настрою. У анатацыі (адчуванне, што яна не выдавецкая, а аўтарава) пазначана: «Жыццё — гэта вечная смага. Наталенне смагі — гэта наталенне жыццём». І далей: «Гэта своеасаблівы дзённік душы. У ім, як і ў самім жыцці, знойдзецца ўсё: каханне і здрада, радасць і смутак, спагада і злосць, тое, чаго хочацца, каб было паболей, і тое, чаго не хочацца мець зусім». Сіпакоў як пісьменнік (ды і як чалавек) вельмі адкрыты, як бы душэўна агалены да ўспрыняцця навакольнага жыцця, свету. Успрымае востра, актыўна рэагуе, выказвае свае адносіны. Піша пра ўсё, што яго цікавіць і хвалюе сёння, што ўразіла ў мінулым, прымушала думаць, патрабуе праз гады выказацца. Выказванні гэтыя рознага характару: тут і разгорнутыя ўспаміны — навелы, разважанні пра жыццё сучаснае, пра савецкае мінулае, пра літаратуру, асобных творцаў, тут і кароткія сентэнцыі агульназначнага зместу, пачэрпнутыя з жыцця вясковага («Мы ніколі не выкідалі ніводнага засохлага кавалачка хлеба, бо з дзяцінства верым, што ў голад, каб наесціся, будзе не хапаць нам менавіта гэтага асушка»), ці то вынашаныя-выпакутаваныя асабіста («Мова — гэта душа. Сваю душу можна выкласці толькі праз сваю мову. Чужая мова робіць чужою тваю душу. І яна ўжо становіцца сваёю і таму народу, на мове якога ты загаварыў…»).

Усе гэтыя дзённікавыя запісы зроблены ў 1994—2005 гг. То былі гады, якія творцу непакоілі, патрабавалі выказацца, сказаць пра набалелае, перажытае і перадуманае. Выказацца адкрыта, шчыра, гучна заставаўся «дзённік настрою». І вось гэтая форма — «дзённік настрою» — «наталення смагі» жыццём, сучаснасцю і ў пазнейшыя гады клікала пісьменніка, прыцягвала, прымушала пісаць усё новыя і новыя старонкі. Новыя старонкі «дзённіка настрою» пад назвай «Шукаю спакой у цішыні» друкуюцца ў 2009 г. у часопісе «Маладосць» (№ 3, 4, 5), а ў 2010 г. пад назвай «Соты» — у «Полымі» (№ 12). І гэты часопісны, умоўна кажучы, «дзённік настрою», як і ранейшы кніжны, пазначаны шчырасцю, імкненнем, жаданнем сказаць, расказаць пра самае для аўтара ў гэты момант істотнае, набалелае, адзначыць у навакольным свеце нешта адметнае, нечаканае, што здзівіла, зацікавіла. Тут якіясьці моманты, з’явы, імгненні толькі асабістага характару,

асабліва тыя, што запісаны ў Зубрэвічах, на прыродзе, тут і меркаванні, высновы, разважанні больш шырокага, агульназначнага зместу.

У кнізе ёсць такія словы: «Пісьменнік жыве да таго часу, пакуль не стоміцца здзіўляцца жыццю. Пісьменнік да таго часу пісьменнік, пакуль ён можа здзіўляцца ўсяму». Чытаючы ўсё напісанае Сіпаковым у апошнія гады, яшчэ раз пераконваешся, упэўніваешся, што здзіўляцца жыццю, захапляцца прыгажосцю і багаццем навакольнага свету, яго таямнічасцю і бясконцасцю ён умеў і мог да апошніх дзён сваіх. І не толькі здзіўляцца, непасрэдна рэагаваць, адгукацца, але і думаць, аналізаваць, ацэньваць убачанае і ўспрынятае, абагульняць, рабіць пэўныя высновы. Гэта добра відаць у невялікіх дзённікавых эсэ, прысвечаных творчасці асобных пісьменнікаў, лёсу літаратараў свайго пакалення, роднай Беларусі, яе мінуламу, будучыні, якая не можа чакаць, асабліва шмат пра беларускую мову.

Звяртаецца ў гісторыю, гаворачы пра сённяшнюю дзяржаўнамоўную сітуацыю на Беларусі, згадвае 1696 год, калі было забаронена ўжыванне беларускай мовы ў Рэчы Паспалітай. «А да гэтага ў Вялікім Княстве Літоўскім на беларускай мове вялася дакументацыя ў гарадскіх управах, магістратах і магдэбурыях, выкарыстоўвалася ў канцылярыях і судах, пры правядзенні вопісаў войск, інвентарызацыі маёнткаў. На ёй пісаліся дакументы ў каралеўскіх канцылярыях Кракава і Варшавы, што прызначаліся для ВКЛ». Далей заўважае, што «не пройдзе і дзвюх соцень гадоў, як гэткі ж самы эксперымент з беларускай мовай здзейсніць другая суседка Беларусі — Расія».

Шмат што ў сучасным жыцці выклікае ў пісьменніка здзіўленне, недаўменне, бо ў такой ступені яно не адпавядае адвечным народным маральным нормам, элементарным правілам прыстойнасці. Абсурднай, прыніжальнай для беларуса з'яўляецца сітуацыя з роднай мовай. Прыкладаў падаецца нямала — балючых, ганебных, абуральных, якія сведчаць, што беларусы «на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, у сваёй незалежнай дзяржаве аказаліся "нацменшасцю"». Узгадваецца лёс Ф. Багушэвіча, цытуецца яго несмяротны заклік-маленне: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Раней чытаючы ўнікальную яго кнігу «Зялёны лісток на планеце Зямля» (2006), пазней — «Зубрэвіцкую сагу» (2010), выразна і пэўна адчуваеш і бачыш, суадносячы іх з запісамі дзённікавымі, што пісьменнік, Янка Сіпакоў, і там і там, ва ўсіх сваіх творах, у новым стагоддзі жыў аднымі і тымі ж жыццёва-творчымі праблемамі і турботамі. Так — *жыццёва-творчымі*. Бо тыя творчыя пытанні, праблемы, якія ён вырашае, настолькі звязаны з яго асабістым чалавечым лёсам, духоўна і эмацыянальна ім насычаны, вельмі ў многім угрунтаваны на падзеях і фактах жыцця асабістага, што ўспрымаюцца як нешта арганічна адзінае. Тым больш, што пісьменнік сваю асабістую прысутнасць, па сутнасці, ва ўсіх творах свядома падкрэслівае.

«Зялёны лісток на планеце Зямля» — своеасаблівая энцыклапедыя нашай Радзімы. Яна складаецца з 28 нарысаў-эсэ, у кожным з якіх падкрэсліваецца адметна нашае, беларускае. Тут з'явы прыродныя: «Наша зямля», «Наша вада», «Нашы лясы», «Нашы камяні»… З'явы, прадметы і паняцці, усталяваныя гісторыяй: «Нашы замкі», «Нашы кнігі», «Нашы грошы», «Нашы гарады і мястэчкі», «Наша культура і літаратура»… І чыста духоўныя паняцці, дзесьці містычныя: «Наша міфалогія», «З чаго мы смяемся», «Нашы вятры, дажджы, маразы», «Нашы святыні і сімвалы», «Наша неба, наш космас». Чалавек, прырода, духоўны свет, гісторыя, сучаснасць. Усё тое, што ёсць нашае, што ёсць з намі, у нас, што ёсць мы. Шырыня праблемна-тэматычнага ахопу, багацце матэрыялу як гістарычнага, так і сучаснага геаграфічнага, багацце канкрэтных лічбаў, фактаў, прозвішчаў і назваў з'яўляюцца грунтоўнай асновай для аўтаравых асабістых выніковых агульназначных высноў ці то філасофска-публіцыстычнага, ці то лірычна-ўзнёслага характару. Увогуле ў творы існуе вельмі арганічная сувязь

паміж агульным і асабістым, пачэрпнутым з розных навуковых крыніц і ўведаных асабіста, пазнаным непасрэдна. Атрымалася, што энцыклапедыя агульная (адносна гісторыі, геаграфіі, біялогіі, духоўнага жыцця) стала энцыклапедыяй асабістай.

Твор гэты багаты тэматычна і фактычна, не менш багаты і эмацыянальна. Эмацыянальны лад яго адпавядае ва ўсім высокай мэце, задачам, якія пісьменнік ставіў перад сабою. Сама назва паэтычна-ўзнёслая — «Зялёны лісток на планеце Зямля». Кніга напоўнена шчырай, адкрытай любоўю, насычана пачуццём замілаванасці, захаплення, глыбокай веры ў шчаслівую будучыню краю, перакананасцю ў гэтым. Зразумела, матыў узнёсласці, захаплення ў эмацыянальным напаўненні твора з'яўляецца асноўным. Але не адзіным. Гучаць і балючыя трагічныя ноты. Найбольш у раздзелах, звязаных з мінулым краю і народа. Трагізмам напоўнены самі факты, лічбы.

Нарыс-эсэ «Нашы войны». Парадаксальна недарэчная рэч: войны па сваіх мэтах чужыя беларускаму народу аказваліся для яго па сваіх выніках найбольш разбуральна-знішчальнымі.

Вайна 1812 года. «Беларусаў у гэтай вайне загінула каля мільёна — чвэрць тагачаснага насельніцтва краіны».

Вайна Расіі са Швецыяй (1700—1721 гг.). Вялася галоўным чынам на беларускіх землях. Вынікі для нашай зямлі: «Насельніцтва скарацілася з 2,2 мільёна чалавек да 1,5 мільёна чалавек, загінуў кожны трэці чалавек».

У XVII стагоддзі ў вайне паміж Рэччу Паспалітай і Масквою, якая доўжылася сем гадоў, «беларускія землі страцілі дзве трэці свайго насельніцтва». «Былі разбураны і разрабаваны палацы, храмы, манастыры, вывезены друкарні, бібліятэкі».

А страты ў Першую сусветную вайну…

У Вялікую Айчынную вайну, якая для нашай краіны доўжылася 1113 дзён і начэй, «загінула 2,5 мільёна беларусаў. Кожнага чацвёртага чалавека, а па іншых падліках — кожнага трэцяга, страціла наша зямля».

Жаль, шкадаванне, боль адчуваюцца і тады, калі пісьменнік гаворыць пра нашы святыні і сімвалы, пра кнігі і творы мастацтва, пра тую гістарычна жахліва несправядлівую сітуацыю, калі «нашых нацыянальных каштоўнасцей на Беларусі засталося толькі дзясятая частка. Усё астатняе знаходзіцца ў іншых гарадах і краінах — у Санкт-Пецярбургу, Маскве, Варшаве, Кракаве, Вільні, Кіеве, Львове».

Шмат у гэтай кнізе, як наогул у публіцыстыцы і эсэістыцы, гаворыцца пра беларускую мову, яе гісторыю, яе сучасны стан, гаворыцца ў тоне ўзвышана-драматычным. Як пра самае галоўнае, самае істотнае для існавання *беларускага* народа, краіны *Беларусь*.

Увогуле «Зялёны лісток на планеце Зямля» — «гэта своеасаблівы дзённік настрою аднае душы, роздум над няпростымі рэаліямі сучаснага жыцця». Так зазначаецца ў выдавецкім суправаджальным слове. Раздзелы кнігі акрэслены гадамі: 1994—1997, 1998—1999, 2000, 2003—2005. Гэта — наша сучаснасць, наш дзень, як яго ўспрымае, бачыць, ацэньвае адзін з самых сумленных і таленавітых прадстаўнікоў «філалагічнага пакалення», які прайшоў найсуровейшую школу жыцця і знае цану слову. І тая гісторыя ёсць у гэтай кнізе, жыве жыццём сучаснасці, звернута да сучаснасці, працуе на будучыню. Няма тут выпадковасці. Бо гісторыя гэтая жыла ў пераломныя гады канца мінулага і пачатку гэтага стагоддзя ў душы, у свядомасці пісьменніка, шмат у чым вызначала мэту і змест, накірунак творчасці. І гэта не толькі ў эсэістыцы і публіцыстыцы.

Цікава ў такім плане зірнуць на своеасаблівы раман Сіпакова «Зубрэвіцкая сага». Пісьменнік у гэты гістарычна пераломны час, знаходзячыся ў родным кутку зямлі бацькоў сваіх, змог неяк па-асабліваму зірнуць на гісторыю — праз прызму гісторыі і жыцця роднай вёскі Зубрэвічы. І аказалася, што ў нашай гісто-

рыі і ў часе, і ў прасторы ўсё і ўся ўзаемазвязана, узаемаабумоўлена, усё складае адзінае арганічнае цэлае — краіна, народ.

Суб’ектыўны, хутчэй чыста асабісты пачатак у творчасці апошніх гадоў асабліва, найбольш адчувальны ў вялікім эсэ «Мая бібліятэка. Кніга пра кнігі». Першая частка, ці як аўтар яе называе «Паліца першая», была завершана 6 красавіка 2010 г. на трэці дзень Вялікадня. Так адзначана аўтарам. Надрукавана ў часопісе «Маладосць» за 2011 г., № 1—3. Пачатак «Паліцы другой. Аўтографы» пазначаны: 26 чэрвеня 2010 г. в. Зубрэвічы. Нечаканая смерць Івана Данілавіча Сіпакова 10 сакавіка 2011 г., не дазволіла яму завяршыць гэтую працу. «Але дзякуючы намаганням блізкіх Сіпакова — жонкі Раісы Фёдараўны, сына Сяргея і ўнучкі Каці — рукапіс удалося расшыфраваць і перадрукаваць», — піша ва ўступным слове, па-сяброўску шчырым, сардэчным, да публікацыі Зіновій Прыгодзіч. Кніга гэтая (яе другая частка) надрукавана ў часопісе «Полымя» за 2012 г., № 2, 3, 5, 6, 10, 11.

Ва ўступным слове гаворыцца і пра тое, як Сіпакоў умеў расказваць пра свае кнігі. «Кожны раз я з вялікім захапленнем слухаў гэтыя аповеды, дзівячыся невынішчальнай, неспатольнай любові Івана Данілавіча да кнігі, яго неўтаймаванай, апантанай настойлівасці знайсці, займець патрэбнае выданне.

Аднойчы, пасля чарговай займальна-прыгодніцкай гісторыі, я сказаў свайму сябру:

— Слухай, Янка. Дык у цябе ж, лічы, гатовая кніга пра кнігі. Засталося толькі яе запісаць.

Іван Данілавіч спачатку адмахнуўся. Але праз нейкі час заходзіць да мяне і з напускным папрокам кажа:

— Ну і задаў жа ты мне работку. Усю ноч сядзеў, перабіраючы свае кнігі.

Ага, абрадаваўся я, значыць, ідэя мая ўсё-ткі яго зачапіла».

Разам з тым у невялікім уступе да «Першай паліцы», які складаецца з чатырох невялічкіх прыпавесцяў, гучыць непрыхаваная нота развітання і дзесьці шкадавання.

Ну, вось гэтая:

«Усяму свой час, і час кожнай рэчы пад небам… Час раскідаць камяні, і час збіраць камяні…», — кажа Эклезіяст.

«Час збіраць камяні, і час думаць пра тое, як яны, камяні, будуць жыць без цябе і што, урэшце, рабіць з імі, сабранымі», — хочацца дадаць нам ад сябе.

Ці гэтая:

«Цікава, а дрэвам не бывае скрушна, калі яны ўвосень развітваюцца са сваімі лістамі?!»

Далей, ужо непасрэдна ў самім апавяданні пра бібліятэку, асабліва ў яе першай частцы, не адзін раз узнікаюць намёкі, што кнігі нібы развітваюцца з іх уладальнікам, а ён з імі. І якраз гэты момант арганічна ўваходзіў у эмацыянальны — прачулы, шчыры — аповед пра кнігі, іх аўтараў, асобныя гісторыі з імі звязаныя.

Зразумець жа канчаткова ўвесь настрой кнігі, саму манеру падачы матэрыялу стала магчымым пазней. У газеце «Літаратура і мастацтва» (1 сакавіка 2013 г.) у артыкуле «Дар вялікага земляка» паведамлялася: «Чытальная зала “Бібліятэка Янкі Сіпакова” адкрылася ў Аршанскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна».

У папярэднім звароце да гарадскіх улад Янка Сіпакоў пісаў: «Я не набыў вялікіх скарбаў, ні золата, ні дыяментаў, але ў мяне ёсць адна каштоўнасць — кнігі. Кнігі — мае сябры. Я збіраў іх усё жыццё і, як адзначаюць знаўцы, гэта, бадай, самая лепшая бібліятэка ў Мінску. Я падараваў сваіх сяброў вам, каб у іх з’явілася многа сяброў — чытачоў. Гэтыя кнігі дастойны быць у гарадской бібліятэцы і хачу, каб яны былі менавіта ў Оршы».

«Мая бібліятэка» — гэта, як бачна, развітанне. Развітанне не проста ўладальніка са сваёй маёмасцю. Зусім не. Гэта — развітанне чалавека з самымі душэўна блізкімі сябрамі, дзесьці, можа, як з роднымі дзецьмі. Сіпакоў рыхтаваў перадачу сваёй бібліятэкі, адбіраў кнігі, вызначаў іх прыналежнасць. Месца па паліцах… Перадаць не паспеў. Але мара яго здзейснілася. Здзейснілі яе жонка Раіса Фёдараўна і сын Сяргей. У аднаўленай пасля капітальнага рамонту цэнтральнай бібліятэцы Оршы адкрылася чытальная зала Янкі Сіпакова. Так пісьменнік вярнуўся ў свае родныя мясціны не толькі ўласнымі творамі, дзе ўсё насычана гісторыяй, прыродай і духам Аршаншчыны, але і сваёй бібліятэкай, кнігі якой яго выхоўвалі, натхнялі, духоўна мацавалі. Поўныя цяплом яго рук і душы. Усе кнігі, іх аўтары ў большай ці меншай ступені прычыніліся непасрэдна да Янкі Сіпакова — творцы, чалавека.

Ствараючы кнігу пра сваю бібліятэку, зразумела ж, ён не мог не выказаць сваё разуменне кнігі, хатняй бібліятэкі, разуменне іх месца і прызначэння ў чалавечым жыцці. Выказванні яго эмацыянальныя, вынашаныя, прадуманыя.

Вось некаторыя:

«Бібліятэка — гэта, на мой погляд, сабраны разам увесь розум чалавецтва за ўсе часы і народы з таго моманту, як патухлая зорка Зямля зрабілася жывою, скарб, якім можа бесперашкодна і з радасцю карыстацца кожны чалавек на планеце.

Бібліятэка — гэта сувязь часоў. Яна прыбірае ўсе межы, яднае адлегласці, эпохі, народы».

Далей:

«Бібліятэка — гэта схова, пристанішча ад мітусні і зласлівасці. Кнігі — гэта наш спакой. Душэўны.

Бібліятэкі не даюць чалавеку расчалавечвацца».

Інакш, напэўна, і быць не можа. Бо «чалавек, які чытае кнігу, — шчаслівы чалавек.

Ды і бібліятэка — гэта сама чысціня, давер, парадак. І цішыня».

Цытаванне вялікае. Але яно дазваляе ўбачыць, адчуць, што такое бібліятэка была для Сіпакова. Як ён адносіўся да кнігі. Верыш, калі ён піша: «Сваёй бібліятэцы я, можна сказаць, аддаў усё сваё жыццё».

Для мяне асабіста тут усё зразумелае і блізкае. Дзесьці ўсё як бы сваё. Словы: «Маё дзяцінства — гэта кнігі. Мы, дзеці вайны, чыталі апантана» — гэта пра многіх з пакалення дзяцей вайны. Гэта і пра мяне. Тым больш, што на працягу многіх гадоў мне давялося, а як сёння разумею, пашчасціла, удзельнічаць разам з Барысам Сачанкам, Янкам Сіпаковым (нярэдка далучаўся і Анатоль Вярцінскі) у «кніжных паходах» у кнігарні, радзей — на кніжную базу. То былі для ўсіх нас шчаслівыя дні. Знешне асабліва прыкметна выяўлялася ў паводзінах Сіпакова і Сачанкі. Яны ледзь не танцавалі ад радасці. Вочы ззялі, усмешка не сыходзіла з твару, голас шчасліва звінеў. Трэба было бачыць, з якой пяшчотнай асцярожнасцю, з ласкай гарталі яны старонкі толькі што набытых кніг.

Веру, калі Сіпакоў піша: «Я шанаваў кожную кнігу. Браўся разглядаць новыя набыткі свае, толькі шчыра памыўшы рукі. Нікому не дазваляў загінаць у кнігах старонкі, крэсліць іх. Я любіў кнігу і таму шанаваў яе, даражыў ёю».

Увогуле расказваючы пра асобныя кнігі сваёй бібліятэкі, пісьменнік ужо не проста передае настрой часу набыцця іх — радасць, захапленне, узрушанасць. Той настрой узбагачаны часам, гадамі, паглыблены, узмоцнены і праверавы літаратурай. Гэта ўжо сённяшнія адносіны да кнігі наогул і да кнігі канкрэтнай. Па сутнасці, кожная кніга падаецца як твор таго ці іншага аўтара, уключаецца ў пэўны жыццёвы і літаратурны кантэкст. Больш за тое, яна ўжо па-свойму праверана жыццём і творчасцю ўладальніка бібліятэкі. Гэта ўжо не проста кніга яго бібліятэкі, нярэдка гэта кніга яго жыцця і творчасці. «Мая бібліятэка» — гэта

бібліятэка твораў тых, хто жыў і пісаў у 2-й палове XX ст. і на самым пачатку XXI, тых, каго яны чыталі ў гэты час. Наогул гэта — свет кнігі тых гадоў, якім яго бачыў, у якім жыў, які пеpажыў і захаваў у памяці і сэрцы адзін з самых адданых, верных прыхільнікаў і паклоннікаў яе — Янка Сіпакоў.

З захапленнем, узнёсла піша пра свой час як час кнігі:

«Гэта і сапраўды быў век кнігі.

Кніга ў нашым родным XX стагоддзі, здаецца, была ці не самаю галоўнаю каштоўнасцю. Кнігі чыталі і абмяркоўвалі. Кнігі ведалі ў твар, паважалі і сябравалі з імі. Кнігі дарылі на любыя святы, і тыя, хто атрымліваў такі падарунак, былі шчаслівыя.

Мы ўпіваліся кнігамі».

Адны ўзнёслыя афарыстычныя сцвярджэнні:

«Кніга была нашым жыццём».

«Нашы святы не абыходзіліся без кнігі…»

«Кнігі гаварылі з намі, мы іх цытавалі».

«Кнігі выходзілі стотысячнымі, мільённымі тыражамі, а іх усё было мала, мала і мала…»

Такая была агульная духоўная атмасфера тых гадоў. Такою яна захавалася ў памяці Янкі Сіпакова. Такою ж яна жыве і ў маёй памяці. Упэўнены, у памяці многіх і многіх, хто ўваходзіў у жыццё, жыў у тыя гады. І што істотна: гэта не была мода — не той час. То была прага розуму, сэрца, знясіленых, скутых гадамі вайны і ўмовамі дыктатарскага рэжыму. Кніга садзейнічала духоўнаму абнаўленню жыцця, удзельнічала ў ім. Яна падтрымлівала, мацавала веру ў дабро, справядлівасць.

«Мая бібліятэка» якраз і пра гэта. Яна найперш і галоўным чынам пра чалавечы і творчы лёс яе аўтара — як ён складваўся, фарміраваўся, сцвярджаўся ў яго ўзаемадачыненнях з кнігай. Можна, напэўна, сцвярджаць: яго бібліятэка — гэта яго творчы лёс. Яго — Янкі Сіпакова.

«Мая бібліятэка» складаецца з дзвюх частак, як іх называе сам аўтар — паліц. Паліцы гэтыя адрозныя па фактычным матэрыяле, змесце, па самой манеры падачы. Першая паліца. Тут знаходзяцца кнігі пісьменнікаў не беларускіх — замежных, найбольш рускіх. Кнігі пра пісьменнікаў, пра мастакоў, кампазітараў, кнігі энцыклапедычнага зместу і характару. Кнігі ж другой паліцы (пра гэта ўжо гаворыць сам падзагаловак — «Аўтографы») — гэта ўжо штосьці іншае. Па-першае, гэта кнігі беларускіх аўтараў, з якімі Сіпакоў сустракаўся, таварышаваў, сябраваў, разам працаваў. Таксама кнігі тых аўтараў іншых краін, іншых літаратур, з якімі так ці інакш перакрыжоўваліся жыццёвыя і літаратурныя шляхі-дарогі. Па-другое, другая паліца ў падачы матэрыялу больш інфармацыйная. У ёй добра відаць узаемадачыненні Сіпакова — творчыя і непасрэдна чалавечыя — з іншымі пісьменнікамі, творцамі. А яны такія багатыя, такія сардэчныя.

Першая паліца — гэта ў асноўным класіка. Тут творы і творцы, якія ацэнены і прааналізаваны не адзін раз і не адным даследчыкам. Паўтараць агульнавядомае, перабіраючы кнігі сваёй бібліятэкі, — недарэчна. Трэба было знайсці свой ракурс у падачы багатага і разнастайнага матэрыялу. Свой фармальна і эмацыянальна. Сіпакову гэта ўдалося.

Так ён называе абойму пісьменнікаў, культавых на той час, не прачытаць якіх тады нельга было.

«Камю і Сартр, Верхарн і Рэмбо, Фолкнер і Моэм, Басё і Ду Фу, Лагерквіст і Лагерлёф, Уітмэн і Аскар Уайлд, Апдайк і Фіцджэральд, Гамер і Канфуцый, Хаям і Фірдаўсі, Авідзій і Катул, Кэндзабура Оэ і Іўлін Во, Ражэ Вайян і Карлас Фуэнтас, Кабо Абэ і Кавабата, Герман Гесэ і Рэмарк, Карл Сэндберг і Герман Бёль, Рансар і Апалінэр, Сент-Экзюперы і Дос Пасос, Лорка і Пецёфі, Пірандэла і Унамуна, Марыяк і Акутагава. Гэтыя імёны лашчылі нам слых, хвалявалі сваёй

недасягальнасцю, дражнілі наша ўяўленне. І кожнага з іх мы хацелі, мы марылі, мы праглі набыць у сваю бібліятэку. І радаваліся, калі гэта спраўджвалася.

Усе яны, творцы і мудрацы розных часоў, эпох і народаў, зрабіліся для нас на той час нашымі сучаснікамі…»

То перадаецца тагачаснае духоўнае адчуванне і разуменне літаратуры, яе сутнасці. Яно ў пакалення засталося на ўсе наступныя часы, вызначыла яго адносіны да літаратуры, яе разуменне.

Цікава: каго сёння — якіх пісьменнікаў, якія творы — можна было б назваць у такім аспекце? Каго сучасны чытач марыць, жадае набыць? Цяжка, а можа, і немагчыма сказаць.

Сіпакоў жа перадаў тагачаснае адчуванне, успрыманне, разуменне літаратуры. І спіса гэтага дастаткова, каб уявіць і вышыню, і глыбіню крытэрыяў, што вызначалі стаўленне пакалення да літаратуры. Таксама і да жыцця. Многія прозвішчы і творы не проста называюцца. Аўтар імкнецца не пра аднаго і сваё слова сказаць. Можна згадаць тут і К. Гамсуна, і У. Фолкнера, і Д. Стэйнбека, і Ф. Саган, і Э. Хэмінгуэя…

Апавядаецца пра Гамсуна, пра яго драматычны ваенны (супрацоўніцтва з акупантамі) і пасляваенны (турма і ганьба) лёс. Даецца ацэнка яго рамана «Голад».

Падкрэсліваецца, што «гэта нават не эмацыйнае, а фізіялагічнае ўздзеянне на чытача: чытачу і напраўду здаецца, што ён сам галодны, што яму, сытаму, хочацца есці. Некаторыя лічаць, што гэта натуралізм, а мне думаецца, што тут працуе магутнае майстэрства пісьменніка. Вядома, не без уласнага вопыту. А такі вопыт у маладога Гамсуна, як мы ведаем, быў».

Згадваецца, што Стэйнбек быў адным з герояў свайго рамана «Гронкі гневу».

Ідэя асабістай перажытасці пісьменнікам усяго, пра што ён піша, для Сіпакова з'яўляецца вядучай, калі ён бярэ з паліцы тую ці іншую кнігу, прыгадвае змест. Згадвае настрой, які яна выклікала пры чытанні, думае пра яе аўтара, успамінае, што чытаў пра яго, што ведае. Тут ужо не проста прадстаўленне якасці кнігі, згадванне яе аўтара. Гэта ўжо своеасаблівае эсэ, у якім выразна адчуваецца ў настроі, у кампаноўцы, падачы фактаў аўтар, ён жа ўладальнік бібліятэкі.

Так напісана пра Хемінгуэя:

«Мы зачытваліся Эрнестам Хемінгуэем. Вядома, мы з захапленнем чыталі і ягоныя раманы, аднак настольнымі кнігамі майго пакалення былі аповесць «Стары і мора» і кніга ўспамінаў «Свята, якое заўсёды з табою». Апошні твор, зазначае Сіпакоў, стаў «і нашым святам».

І гэтаму верыш. Бо калі пасля стольніх гадоў так напісана — з тонкім веданнем, з такім хваляваннем — пра слыннага пісьменніка то нельга не верыць. Так і ўяўляеш, як пасівелы ўжо Іван Данілавіч, бярэ з паліцы збор твораў слыннага раманіста і — ажывае, твар свеціцца радасцю. Увесь аж трапечацца. Пачынае згадваць часы маладосці, радасць знаёмства з такой прозай. Усплываюць у памяці факты і падзеі з жыцця і творчасці Хемінгуэя, згаданыя ім у яго публіцыстыцы, у іншых крыніцах.

З кнігі публіцыстыкі «Стары газетчык піша» цытуюцца выказванні гэтага выдатнейшага раманіста пра рускую літаратуру, у прыватнасці, пра Льва Талстога і Ф. Дастаеўскага. Робіцца заключэнне: «Значыць, Хемінгуэй любіў рускую літаратуру. Захапляўся ёю і вучыўся ў яе». Імкнучыся спасцігнуць, «што ж гэта, урэшце, за глыба такая, і сам ён, Хемінгуэй?», Сіпакоў звяртаецца да яго мінулага, згадвае яго біяграфію ў ЖЗЛ (аўтар Б. Грыбанаў), вызначальныя вехі яе, цытуе «Зялёныя ўзгоркі Афрыкі» і «Свята, якое заўсёды з табою». Хочацца зразумець, неяк вытлумачыць, чаму «гэты жыццялюб і моцны чалавек, які толькі што адсвяткаваў сваё шасцідзесяцігоддзе», так скончыў сваё жыццё — застрэліўся.

Адказу няма.

Асоба, творца, загадка — ёсць.

Дарэчы, гаворачы пра кнігу Хемінгуэевай публіцыстыкі, выдадзеную ў выдавецтве «Прагрэс», гаспадар бібліятэкі заўважае, што гэтую серыю ён «набыў амаль усю». Называе прозвішчы Байрана, Маруа, Прыстлі, Сіменона, Чэстэртона, Марыяка, Сент-Экзюперы.

У першай частцы «Маёй бібліятэкі» ёсць некалькі прозвішчаў пісьменнікаў, напэўна, вельмі блізкіх аўтару, пра якіх яму хочацца сказаць самае для яго важнае. Істотнае. Ён не толькі называе іх кнігі, але імкнецца сказаць і пра іх саміх, іх асяроддзе. Атрымліваецца своеасаблівае эсэ-нарыс. У такім плане выдатна расказана пра С. Ясеніна, Г. Ахматаву. Пра іх жыццё, творчасць гаворыцца ў кантэксце літаратурнага, духоўнага жыцця тых гадоў. У такіх эсэ-нарысах вельмі натуральна ўплятаюцца і ўспаміны-згадкі самога іх аўтара. Якраз гэтыя ўспаміны даюць магчымасць уведаць, як выспельвалася любоў да кнігі, з чаго ўсё пачыналася, як стварыўся гэты яго свет кнігі, свет таго ці іншага аўтара.

Сяргей Ясенін. Сіпакоў згадвае, як яшчэ ў школе выкладчык рускай літаратуры Захар Міхайлавіч Рубанаў даў яму з сябрам пачытаць томік гэтага паэта. Перадае настрой пасля знаёмства з творчасцю паэта. Цытуе:

«Поет зима — аукает,
Мохнатый лес баюкает
Стозвоном сосняка.
Кругом с тоской глубокою
Плывут в страну далекую
Седые облака».

І ўжо праз дзясяткі гадоў не можа стрымаць захаплення:

«Ды гэта ж сама музыка! Чуеце: о-а-у… Сапраўды «аукает»! У араторыі, якую выдатны рускі кампазітар Георгій Свірыдаў напісаў на выдатныя вершы Сяргея Ясеніна і якую я вельмі люблю і цяпер, гэтыя словы і гукі, здаецца, з’яўляюцца ці не ключавымі.

Тая кніга назаўсёды зрабіла мяне прыхільнікам паэзіі гэтага сапраўднага лірыка, ці як яго потым назавуць наступныя пакаленні, — рускага салаўя».

Усё, што далей гаворыцца пра Ясеніна, насычана яго паэзіяй — вершамі, урыўкамі іх, радкамі. І ўсё жыццё паэта — літаратурнае, бытавое, сямейнае — падаецца ў эмацыянальнай атмасферы яго паэзіі. А жыццё гэтае было няпростае. І Сіпакоў імкнецца перадаць усю гэтую няпростасць, часамі драматычную. Зноў жа робіць гэта, называючы, выкарыстоўваючы кнігі са сваёй бібліятэкі. Выкарыстоўваецца кніга ўспамінаў пра Ясеніна пад рэдакцыяй Ю. Прокушава, успаміны М. Ройзмана «Усё, што я памятаю пра Ясеніна», «Раман без хлусні» А. Марыенгофа, «Выбраныя вершы» Р. Іўнева і, напэўна, самае важнае тут выданне — «Маё жыццё. Мая Расія. Мой Ясенін» Айседоры Дункан.

Пра Айседору Дункан зноў жа гаворыцца са спасылкамі на кнігі-ўспаміны. Заўважаецца аўтарам: «Ага, усё ў жыцці ўзаемазвязана, і наша жыццё ўжо само па сабе ёсць неймаверны і неверагодны сюжэт». Уяўляецца, што такі сюжэт маюць і асобныя эсэ-нарысы ў «Маёй бібліятэцы». Так, апавядаючы пра жыццё Айседоры Дункан з Ясеніным, Сіпакоў згадвае пра іх узаемаадносіны са скульптарам Канёнкавым. Пра яе стасункі з Радэнам. Пра апошняе згадвае ў сваіх успамінах Дункан. Усё гэта дае падставу назваць кнігі пра скульптараў, што выдадзеныя былі тады ў серыі «Жыццё ў мастацтве» і якія займаюць годнае месца на «першай паліцы» бібліятэкі.

Гэтае эсэ змешчана ў пачатку «Маёй бібліятэкі». Думаецца, невыпадкова. Сваім зместам, сюжэтам, аўтаравай дасведчанасцю, эмацыянальным ладам яно як бы дае запеў усёй гісторыі бібліятэкі, настройвае чытача, абяцае, якія кнігі чакаюць яго, якіх пісьменнікаў, аўтараў. І ён, чытач, не будзе падмануты.

Эсэ-нарысы носяць розны характар. Пра Ясеніна лірычна-ўзнёслы. Пра Ахматаву і паэзію пачатку XX стагоддзя — больш аналітычна-аглядальны, пра дзекабрыстаў — насычаны моцным драматызмам, пра Франца Кафку — псіхааналітычны. Але ўсе яны асновай маюць кнігі «Маёй бібліятэкі».

З якой любоўю, захапленнем, замілаваннем расказвае Сіпакоў пра зборнік Ганны Ахматавай «Бег времени»! А гэта ж ужо ў якім узросце. А відаць той час, хваляванне, тая радасць. «А найперш пасля таго, як Ахматаву і Зошчанку наноў прынялі ў Саюз пісьменнікаў, быў светлы, як свята, томік выбранай паэзіі Ганны Андрэеўны. Аформлены з густам, шыкоўна. Белая чыстая супервокладка. Справа ўнізе — невялікія, але вельмі выразныя літары: «Анна Ахматова». І яшчэ меншыя «Бег времени». А на ўсю светлую супервокладку — …імклівая і лятучая лінія. Мадзільяні! Знакаміты партрэт Ганны Ахматавай! Усяго толькі росчырк пяра…

Упершыню я ўбачыў гэты томік у руках Барыса Сачанкі. І не сумнявайцеся нават: не супакоіўся, пакуль не набыў яго сабе. Вунь і цяпер адтуль, дзе ён стаіць на паліцы, нібыта выпраменьваецца нейкае дзіўнае святло.

Тую ноч я не спаў. Зачытаўся».

Дарэчы, Янка Сіпакоў, апавядаючы пра набыццё рэдкіх кніг, часта з удзячнасцю згадвае Барыса Сачанку. Я таксама не адзін раз быў ашчасліўлены Барысам Іванавічам, прынёсшы дамоў рэдкае выданне. Набытае з яго дапамогай.

Згадваюцца важныя факты і падзеі з жыцця і творчасці Ахматавай. Называюцца мастакі, якія яе малявалі. Гаворыцца пра незвычайную яе сустрэчу ў юнацтве ў Парыжы з Мадзільяні, даюцца яе згадкі пра гэтага мастака.

Непасрэдна тут жа даецца эскіз асобы і творцы мужа Ахматавай Мікалая Гумілёва. Цытуюцца яго вершы. Істотныя вехі яго драматычнага лёсу. Адзначае яго пераклады вавілонскай паэзіі, эпаса «Гільгамеш», яго афрыканскую паэму «Мік». У сувязі з перакладамі вавілонскай паэзіі Сіпакоў узгадвае, што і ён з асалодаю перакладаў на беларускую мову «гэтыя даўнавечныя радкі». Цытуе пераклад. Афрыканская паэма «Мік», каментар да яе, які зрабіў сам Гумілёў, адразу ж выклікалі ў памяці ўспаміны ўдзельніка Расійскага экспедыцыйнага корпуса ў Абісініі беларуса Аляксандра Булатовіча «З войскам цара цароў». У канцы гэтых нататак зазначаецца: «Дзякуючы земляку мне ўдалося напісаць сваё афрыканскае апавяданне, якое ўвайшло ў кнігу «Зубрэвіцкая сага».

Кнігі, творчасць рускіх пісьменнікаў першай чвэрці XX стагоддзя, дарэвалюцыйных і першых паслярэвалюцыйных гадоў на «першай паліцы» Сіпаковай бібліятэкі займаюць асаблівае месца. Яны прыкоўваюць да сябе асаблівую ўвагу іх уладальніка. Раней іх, па сутнасці, не было. З'явіліся значна пазней, чым пачалося апантанае фармаванне ўласнай бібліятэкі. Гэта было штосьці новае, незвычайнае. Падаючы чытачу тую ці іншую кнігу, іх аўтараў, Сіпакоў захоўвае тагачасны настрой здзіўлення, захаплення, але ў асобных момантах дазваляе сабе і асцярожныя крытычныя заўвагі.

Зазначае: вершы Марыны Цвятаевай «ураждвалі, здзіўлялі». «Яны ў савецкай паэзіі нібыта стаялі асобна». Цытуе вершы «Мне нравится, что вы больны не мной» і «Мой милый, что тебе я сделала?!», музыку да якіх напісаў Тарывердзіеў і якія сталі сапраўднымі музычнымі хітамі. Пра апошні зазначае, што «гэта, на мой погляд, не песні. Гэта плач па няспраўджаным каханні ўсіх жанчын свету». Згадваюцца драматычныя, нават трагічныя моманты яе жыцця.

«Не хочацца ў гэта верыць, але ж гэта так: сваіх абедзвюх малалетніх дачушак яна аддала ў прытулак… Ага, было цяжка, ага, як кажуць рускія, «невмоготу»… Але…»

«У гібелі Марыны Іванаўны некаторыя даследчыкі яе жыцця і творчасці і сёння вінавацяць Мура, жорсткага, бескампраміснага, ганарыстага і таленавітага сына паэтэсы, які пакінуў гэты свет усяго толькі дзевятнаццацігадовым і якога яна так утрапёна і бязмежна любіла». А той «упарты і катэгарычны, у сваім дзёр-

зкім, нават цынічным хлапчукоўскім дзённіку вельмі недалікатна, з пагардаю і грэбліва, піша пра тую, што яго абагаўляла, сцвярджаючы, быццам бы яна такі не стала яму маці».

Сіпакоў кнігі сваёй бібліятэкі як бы прэзентуе — не проста называе кнігу і аўтара, а імкнецца падаць якіясьці адметныя рысы, штрыхі творчасці і жыццёвага лёсу, убачыць творчасць у тагачасным і гістарычным літаратурным кантэксце. Гаворыць пра сваё асабістае іх успрыманне. Так прэзентуюцца кнігі і творчасць Д. Меражкоўскага, А. Белага, В. Хлебнікава, І. Севяраніна, Д. Хармса, У. Маякоўскага.

Шмат увагі аддаецца А. Беламу, яго прозе, мемуарыстыцы і эсэістыцы. Творчасць яго сугучная душы аўтара «Маёй бібліятэкі», выклікае балючы водгук і ўжо ў XX стагоддзі. Раман А. Белага «Пецярбург», пачаты ў 1911 г.:

«Ліхалецце. Нейкі няпэўны час, які заражаў няўпэўненасцю і аўтара. Аўтар не ведае, куды, у які бок павярнуць усё сваё даследаванне часу, светапоглядную мітусню. І гэтую яго няўпэўненасць адчуваем і мы. Зараз у новым тысячагоддзі».

Такі стан душэўны Белага перадаваў стан грамадства напярэдадні першай сусветнай вайны. «А войны ж ды рэвалюцыі ніколі і нікому не дапамагалі разабрацца, не тлумачылі, як можна і трэба жыць». І крыху далей: «Рэвалюцыі і войны — гэта катастрофы. Якія вынішчаюць усё тое, што самае дзетароднае».

Бібліятэка Янкі Сіпакова збіралася, ладкавалася не ў нейкі адзін перыяд яго жыцця. Яна фармавалася ўсё яго свядомае жыццё. Паступова, год за годам, дзень за днём. Былі перыяды асабліва кніжнага буму, былі больш спакойныя. І гэта відаць, адчуваецца. Але ацэнка каштоўнасці кніг, творчасці пісьменнікаў даецца, сыходзячы з яе мастацкіх якасцей. Мода, магчыма, уплывала ў час набыцця кніг. Пры напісанні «Маёй бібліятэкі» зусім не. Такой мне бачыцца стрыманая, а дзесьці і адмоўная ацэнка творчасці Д. Меражкоўскага. Гэта — з аднаго боку. З другога — ухвальныя словы пра творчасць У. Маякоўскага, якая сёння замоўчваецца або ацэньваецца даволі крытычна.

На паліцы бібліятэкі Сіпакова стаіць сціплы двухтомнік Маякоўскага, набыты аж у 1955 годзе ў Шклове, дзе ён працаваў тады ў раённай газеце пасля заканчэння сярэдняй школы. Паэзія Маякоўскага яму, прызнаецца, вельмі падабалася. Прайшоў час, шмат што змянілася ў жыцці, у літаратуры. «Вядома ж, яго сёння не чуюць. Некаторыя не чуюць і напраўду, а некаторыя проста прыкідваюцца, што не чуюць, а то і зусім не хочуць чуць. А ён жа жывы!»

Цытуе творы паэта, радкі з «Вершаў пра савецкі пашпарт». Зазначае, што няма ўжо і Савецкага Саюза, і таго пашпарта.

«Але ж паэзія ёсць! Яна засталася, бо яна сапраўдная! І яшчэ — яна сведка гісторыі. Якая расказвае пра дзяржаву, што калісьці была вялікай і гордай…»

Так вось, з такой любоўю, захапленнем, душэўнай шчырасцю, падаецца творчасць не аднаго аўтара. Бо як жа інакш: ва ўласную бібліятэку набываліся і потым аставаліся ў ёй кнігі, якія зацікавілі, кранулі сэрца, творы сапраўднай літаратуры. Таму аўтар не проста расказвае, а перажывае: і калі першы раз бярэ ў рукі кнігу, набывае, і калі бачыць яе на паліцы побач з іншымі кнігамі, і калі развітваецца з ёю. І так не толькі ў адносінах непасрэдна да мастацкай літаратуры.

Піша: «У маёй бібліятэцы — каля палавіны кніг з найпапулярнейшай у Савецкім Саюзе серыі “ЖЗЛ”, якія выйшлі ў ёй за ўвесь час яе існавання». Называе трыццаць прозвішчаў творцаў і дзеячаў асабліва знакамітых у сусветнай гісторыі, чые біяграфіі ёсць у яго ў гэтай серыі. «Але маё сэрца неяк пачынае шчымець, калі я бяру ў рукі кнігу “Гаршын”, якую я прывёз з Пуцяціна — невялічкага астраўка ў Ціхім акіяне». Там у 1964 годзе Я. Сіпакоў і У. Дамашэвіч праходзілі на Ціхім акіяне вайсковыя зборы…

Сіпакоў згадвае, як ён набыў гэтую кнігу, як пачаў чытаць… Зачытаўся. Праз дзясяткі гадоў, расказваючы пра драматычны лёс пісьменніка, яго трагічнае завяршэнне, не можа стрымаць узбуджанасці, шчымлівага болю.

Кніга гэтая цягне за сабою цэлы ланцуг успамінаў, згадак з прачытанага, уведанага з гісторыі, з іншых кніг, выклікае на роздум і пра сваё, ужо зробленае. Тут зноў жа бачыцца і пэўны сюжэтны прыём — ланцужок сувязей розных кніг, розных аўтараў, розных часоў. І ўсё гэта звязана з асобай аўтара, які ўвесь напоўнены Радзімай, яе мінулым, сучаснасцю, яе духоўным багаццем, яе шматграннай адметнасцю.

Згадваецца востраў Пуцяцін, дзе набыў «Гаршына». А хто такі адмірал Пуцяцін? Што пра яго вядома? Адказ шукае ў дзесяцітомнай «Малой Савецкай Энцыклапедыі», на якую яшчэ ў студэнцкія гады падпісаўся ў 1959 годзе. Яна стаіць на паліцы. Знаёмства з артыкулам пра Пуцяціна прыводзіць да падарожных нарысаў І. Ганчарова «Фрэгат “Палада”. Восем тамоў гэтага пісьменніка таксама стаяць на паліцы. Але кніга падарожных нарысаў Сіпакова зацікавіла асобай перакладчыка пры Я. В. Пуцяціне. Гэта — «наш зямляк, ураджэнец Міншчыны, дыпламат, вучоны-мовавед, даследчык Кітая і Японіі, натураліст Іосіф Антонавіч Гашкевіч». Расказваецца пра яго, яго дыпламатычную і навуковую дзейнасць.

Сіпакоў згадвае: «…Я напісаў эсэ “Гашкевіч: на фрэгаце і на зямлі” і надрукаваў яго ў часопісе “Беларусь”, дзе тады працаваў, пад рубрыкаю “Беларусы ў свеце”». Зазначае, што пад гэтай рубрыкай былі змешчаны і іншыя нарысы і эсэ. Дванаццаць называе, дадаючы — «і іншыя публікацыі пра нашых землякоў». Тут жа кажа і пра кароткія нататкі, якія пісаў і друкаваў у той жа «Беларусі» пад рубрыкай «ХХ стагоддзе ў творах беларускіх мастакоў». Называе шаснаццаць прозвішчаў слынных мастакоў Беларусі. Зноў жа — «і іншыя». Прызнаецца: «…Мне здаецца, атрымалася неблагая кніга. І нават назва ў яе ўжо, ведаеце, ёсць, — “Крыламі дакрануцца да Радзімы”». Будзем чакаць: такія кнігі павінны выходзіць аператыўна. Сёння яны так патрэбны.

«Зялёны лісток на планеце Зямля», «Крыламі дакрануцца да Радзімы» — усё гэта створана ў апошнія два дзесяцігоддзі. Гэта — кнігі эсэ, жанру, у якім прысутнасць аўтара адчуваецца вельмі моцна. У адносінах да гэтых кніг інакш і быць не магло. Янка Сіпакоў пісаў пра самае запаветнае, святое — пра Радзіму. Беларусь, яе гісторыя, яе прырода, быт і норавы насельнікаў, яе духоўныя набыткі — усё гэта ёсць на старонках кніг, турбуе сумленне чытача. І тое, што гэтыя эсэ, гэтыя кнігі з’явіліся ўжо ў новы перыяд нашай гісторыі зусім не выпадкова. Лёс Беларусі, яе народа, яе мовы моцна непакоілі пісьменніка, выклікалі трывогу. Захапленне і боль, радасць і горыч, паэтычная ўзнёсласць і драматызм, вера, надзея і неўразуменне, роспач пранізваюць усю эсэістыку гэтых гадоў.

Аднак гісторыя з кнігамі з Далёкага Усходу ў «Маёй бібліятэцы» яшчэ не скончана. Вярнуўшыся, Сіпакоў, як ён распавядае, зацікавіўся Друцкім княствам. Высветліў, што і Зубрэвічы ўваходзілі ў яго. Ды і востраў Пуцяцін мае нейкія адносіны да яго родных мясцін. Род Пуцяціных мае свае карані ў друцкай зямлі — паходзіць ад тутэйшых Пуцятаў.

І яшчэ. Адтуль, з Далёкага Усходу, прывёз таксама рэдкую па тым часе кнігу паэзіі Эдуардаса Межэлайціса і «з найвыдатнейшымі гравюрамі Стасіса Красаўскаса «Кардыяграма». Ды не толькі. «…Цягнуў я ў плечуку, у рукзаку, у заплечным мяшку такую далеч дадому — вельмі вялікі, тоўсты фаліянт, прывёз аж з Находкі». Гэта адзін з тамоў, які адсутнічаў у Сіпакова, «Усеагульнай гісторыі мастацтваў». А зараз глядзіць на гэтыя кнігі на паліцы, гартае, спыняецца на асобных прозвішчах. Спыніў Пітэр Брэйгель старшы. Разглядае рэпрадукцыі карцін «Жніво», «Сенакос». Узгадваюцца родныя мясціны, мастак Язэп Драздовіч. Гледзячы на малюнак «Вяртанне статку», згадвае і цытуе верш Анатоля Вярцінскага «Статак вяртаецца з поля». «Сялянскае вяселле», «Сялянскі танец»,

«Танец на вяселлі», «Вавілонская вежа»… Пра кожны твор, яго змест, мастацкі характар гаворыцца стрымана і разам з тым эмацыянальна, дасведчана, суадносячы з жыццём рэальным, сваім. Цытуе словы У. Дамашэвіча, які разглядаючы гэтыя малюнкі Брэйгеля яшчэ ў цягніку, калі ехалі дадому, сказаў: «Глядзі ты, як у нас усё роўна…»

Пра мастакоў гаворыцца і ў іншых мясцінах твора. І ўсё гэта стрымана, з пранікненнем у сутнасць іх творчасці. Дарэчы, так і пра творцаў музыкі, пра музыку, выканаўцаў музыкі. Відаць гэта асабліва ў эсэ пра Паганіні (Кніга Анатолія Вінаградава «Аповесць пра братоў Тургеневых. Асуджэнне Паганіні», набыта за 60 кілаграмаў макулатуры).

Выказвае свае адносіны, сваё разуменне Паганіні:

«Любіў усяго яго, але найперш — капрычыа «Кампанела»: як толькі даходзілі да мяне знаёмыя, нібыта напраўду жывыя, гукі, як адкладваў убок усё і, я зачараваны, — у каторы раз! — слухаў гэты шэдэўр. І мне заўсёды здавалася, што так апантана іграць чалавек не можа! Так можа выкарыстоўваць скрыпку, калі слухачу здаецца, што скрыпка тая жывая, што ў яе ёсць душа і што гэта менавіта яна, а не музыкант, гаворыць, — не, так можа іграць толькі чалавек выключны, фенаменальны, незямны».

У такім тоне, у такім узвышана рамантычным тоне, настроі даецца ўвесь сціплы аповед пра трагічны жыццёвы і пасляcмяротны лёс вялікага майстра. Натуральна ў гэты аповед уплецены звесткі пра творчасць і жыццё А. Вінаградава.

Драматычны, трагічны лёс выклікае ў памяці аўтара згадкі пра падобны лёс другога музычнага генія — Моцарта. У выкладанні гэтай трагедыі зноў жа адштурхоўваецца ад кніг сваёй бібліятэкі — раман Дэвіда Вейса «Узвышанае і зямное». Называе таксама і яго раманы пра Агюста Радэна «Голым прыйшоў я» і пра Айседору Дункан — «Дух і плоць».

Пахаванне Моцарта.

«На могілках быў толькі адзін магільшчык. Вазак скінуў труну на зямлю, і магільшчык спіхнуў цела Моцарта ў агульную яму для беднякоў — на тры рады ўжо складзеных там трупаў…»

Аўтар здзіўляецца, жахаецца:

«Спіхнуў Маэстра!

Генія!»

І адказ:

«І праўду ж кажуць: “Талентам зайздросцяць, а Геніяў — ненавідзяць”…»

***Працяг у наступным нумары.***

Іван САВЕРЧАНКА

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ЭПОХІ РЭНЕСАНСУ

З'яўленне друкаванай кнігі і яе масавае пашырэнне ў эпоху Рэнесансу стала сапраўднай інфармацыйнай рэвалюцыяй. Беларускія пісьменнікі-інтэлектуалы напоўніцу скарысталі спрыяльныя ўмовы. У пачатку XVI ст. Ф. Скарына пераклаў і надрукаваў «Біблію» на роднай мове. У 1562 г. у Нясвіжы быў выдадзены славуты «Катэхізіс» С. Буднага. На працягу XVI ст. у друкарнях Брэста, Вільні, Нясвіжа, Любчы былі надрукаваны дзясяткі богаслужэбных, павучальных, гістарычных і ўласна мастацкіх твораў.

Літаратура эпохі Рэнесансу прадстаўлена разнастайнымі родамі, відамі і жанрамі. У гэты час былі створаны выдатныя ў мастацкіх адносінах белетрызаваныя *эпічныя* творы, аснову якіх утваралі важныя палітычныя і грамадскія падзеі: «Слуцкая хроніка», «Аповесць пра часы князя Аляксандра Казіміравіча», «Хроніка дзяржаўных і вайсковых спраў Аляксандра Казіміравіча», «Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму», «Хроніка княжання Жыгімонта І Старога», «Навела пра ажэнства караля Жыгімонта ІІ Аўгуста з Барбарай Радзівіл». На старонках гэтых твораў рабіўся акцэнт на буйных падзеях, звярталася ўвага на ўчынкі знакамітых асоб.

Беларускія пісьменнікі XVI ст. стварылі корпус твораў, у якіх фіксаваліся падзеі *царкоўных сабораў і сінодаў*, асвятлялася іх падрыхтоўка, характар правядзення і вынікі. Найбольш значныя сярод літаратурных гісторыка-царкоўных помнікаў: «Сабор у богавыратавальным горадзе Вільні» Іосіфа Солтана; «Апісанне сабору ў Іўі 1568 года» Сымона Буднага; «Апісанне навагрудскага дыспута» Марціна Сміглецкага; «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і Абарона здзейсненых згоды і лучнасці, якія сталіся на сінодзе Берасцейскім у 1596 годзе» Іпація Пацея.

Дзейнасць дыпламатычных місій і вялікіх пасольстваў знайшла адлюстраванне ў *пасольскіх дзённіках.* Аўтарства аднаго з іх належыць кіраўніку вялікага пасольства ў Маскву князю Стафану Збаражскаму. Яго твор мае назву: «Дзённік літоўскіх паслоў» (каля 1556). Унікальным творам, у якім зафіксаваны падзеі рускага пасольства ў Вільню ў 1560 г., з'яўляецца «Размова з Сукіным і яго таварышам, калі яны прыходзілі да Вільні ў апошні раз», напісаная Астафеем Валовічам, што пацвярджаецца яе зместам. Да ліку пасольскіх дзённікаў належыць «Рэляцыя пасольства 1573 года ў Маскоўскае княства» Міхаіла Гарабурды.

У XVI ст. на хвалі Рэнесансу зарадзілася свецкая кніжная *паэзія*, заснавальнікам якой справядліва лічыцца Францыск Скарына. Беларускі першадрукар выявіў сябе як бліскучы нацыянальны паэт, сапраўдны майстар паэтычнага слова. Яго пяру належаць некалькі цікавых рыфмаваных радкоў, што змешчаны ў прадмовах да кніг «Іоў», «Зыход» і «Эсфір», а таксама «Акафіст Іаану Прадцечу» і дзве малітвы.

Сапраўдны росквіт кніжнай паэзіі эпохі Адраджэння прыпадае на апошнюю чвэрць XVI ст. Галоўнае месца ў свецкай паэзіі займалі *панегірычныя* жанры, гэтак званыя «эпіграмы», што суправаджалі выявы гербаў славутых магнатаў і гарадоў. Найбольш значны ўклад у развіццё эмблематычнай паэзіі Беларусі

эпохі Адраджэння ўнёс Андрэй Рымша. Яго пяру належаць тры надзвычай яркія «эпіграмы». Першы эмблематычны верш А. Рымшы «На герб яснавяльможнага пана Астафія Валовіча» (1585), падпісаны крыптонімам «А. Р.», быў змешчаны ў выданні кнігі Г. Скалярыса «Дыялог» (Вільня, 1585). Другі панегірык «На герб пана Льва Сапегі» (1588) надрукаваны ва ўступе да славутага Статута 1588 г. Нарэшце, верш А. Рымшы «На герб яснавяльможнага пана Тэадора Скуміна» (1591), падпісаны «А. Р. Літвін», апублікаваны ў «Апостале» (Вільня, 1591).

Эмблематычныя вершы А. Рымшы аказалі ўплыў на фарміраванне паэтычных здольнасцей Лявона Мамоніча — сына вядомага кнігадрукара Кузьмы Мамоніча. Пад уздзеяннем рэнесанснай эстэтыкі ён напісаў два эмблематычныя вершы — «На герб Лукаша Іванавіча Мамоніча» (1593) і «На герб яго міласці пана Сімяона Войны» (1595). У канцы XVI ст. Стафан Зізаній стварыў «Эпіграму на герб Канстанціна Астрожскага» (1596).

Жанр «эпіграм», які пашыраўся ў беларускай паэзіі эпохі Адраджэння, мае даўнюю гісторыю. Першапачатковае развіццё ён атрымаў у антычнай літаратуры. Аўтарства некаторых «эпіграм» прыпісваюць нават Гамеру. Самыя старажытныя з іх — гэта, як правіла, надпісы-прысвячэнні на прадметах культу — статуях, алтарах, трыножніках, надмагільных помніках, напісаныя дактылічным гекзаметрам. У далейшым адбылася эвалюцыя жанру, узніклі «эпіграмы», якія мелі гістарычны пачатак. Змяніўся і іх вершаваны памер. Урэшце зарадзіліся «эпіграмы», якія ахоплівалі з'явы як інтымнага, гэтак і грамадскага жыцця. У беларускай літаратуры другой паловы XVI ст. «эпіграмы», зазнаўшы эвалюцыю, набылі функцыянальную разнастайнасць, сталі адным з кампанентаў герба, утвараючы разам з ім і надпісам эмблему.

Змест «эпіграм», як правіла, цалкам вызначаўся княскімі гербамі, якія мелі форму шчыта з выявамі знакаў годнасці іх уладальніка. Шчыт звычайна абрамляўся вянком, уверсе размяшчалася карона, па баках вялікімі літарамі пазначаліся ініцыялы магната. Часам герб адлюстроўваў сваяцкія сувязі дзвюх знатных сем'яў — у такім выпадку на адным шчыце адлюстроўваліся кляйноты абодвух родаў. Знакі змяшчаліся ў плоскасцях, утвораных лініямі, якія перакрыжоўваліся пад прамым вуглом і такім чынам утваралі крыж.

Сутнасць эпіграм на гербы ва ўсёй эмблеме пераважна зводзілася да таго, каб раскрыць сімвалічную ўзаемасувязь паміж знакамі герба і справамі прадстаўнікоў славутага роду. Аднак, нягледзячы на тое, што перад усімі складальнікамі эпіграм стаялі агульныя задачы, творчыя магчымасці паэтаў не абмяжоўваліся, хутчэй нават наадварот — гэта натхняла іх на пошукі непаўторных, каларытных і запамінальных вобразаў. Каб дасягнуць арыгінальнасці, выкарыстоўваліся самыя разнастайныя мастацкія сродкі: параўнанні, метафары, прыпадабненні, алегорыі, сімвалы і г.д. Асабліва часта ў эпіграмах апісваліся кантрастныя з'явы, чым дасягалася стварэнне па-мастацку выразных карцін і вобразаў.

Жанраўтваральны пачатак «эпіграмы» — матыў слаўлення, захаплення, здзіўлення веліччу і значнасцю з'явы, пра якую апавядалася. Галоўная каштоўнасць «эпіграмы» на фамільныя гербы ў тым, што ў іх знайшлі найбольш поўнае выражэнне пошукі новых літаратурна-мастацкіх сродкаў. Творча пераасэнсоўваючы традыцыйныя шляхі адлюстравання рэчаіснасці, беларускія паэты асноўную ўвагу надавалі не пошуку новых тэм і прадметаў, а стварэнню арыгінальных спалучэнняў з тымі, што ўжо існавалі, выкарыстоўваючы пры гэтым падкрэслена мудрагелістыя сродкі мастацкага абагульнення.

Арыгінальнасць «эпіграм» выявілася найперш у структурна-кампазіцыйнай будове. Яны складаліся з чатырох элементаў, што размяшчаліся, як правіла, у строгай паслядоўнасці. Спачатку ішоў уступ-зачын, затым — зварот да памяці продкаў, цэнтральнае месца займалі тлумачэнні знакаў, кляйнотаў герба і, нарэшце, завяршала «эпіграму» заключэнне-пажаданне. Кожны з элементаў выконваў пэўную ідэйна-мастацкую функцыю.

Ва ўступе-зачыне часцей за ўсё апісваліся нябесныя свяцілы, касмічная прастора або штосьці велічнае і незвычайнае. Для другога элемента «эпікграм» — зваротаў да памяці продкаў — характэрнае тлумачэнне прычын узнікнення герба, указанне часу і абставін, пры якіх адбылася знамянальная падзея. Абавязковы і найбольш істотны элемент «эпікграм» на гербы — вытлумачэнне сімвалічнага сэнсу знакаў, кляйнотаў. Вытлумачэнне ў «эпікграмах» сэнсу знакаў гербаў — якраз і ёсць раскрыццё іх сімвалічных значэнняў. У эмблематычных творах сімвалы герба пранікалі ў сферу мастацкай і паэтычнай свядомасці, станавіліся ўстойлівымі вершаванымі тропамі.

Галоўны мастацкі прынцып, якім кіраваліся паэты пры раскрыцці ў «эпікграмах» на гербы значэнняў геральдычных знакаў, — выяўленне сімвалічнай узаемасувязі паміж знакамі герба і яго ўладальнікам. Восем груп рэчаў і з'яў матэрыяльнага часцей за ўсё выступалі ў ролі гербавых знакаў свету, з'яўляліся аб'ектам увагі паэтаў-эпіграматыстаў. Галоўныя сярод іх: нябесныя свяцілы («сонца», «месяц», «Луна», «зоркі», «Венера») і вытворныя ад іх («прамяні», «зара»); прадметы культу і рэлігійнай сімволікі («крыж», «мітра», «тры кормчыя»); зброя і ваярскі рыштунак («меч», «лук», «стрэлы», «влочні» (дзіды), «гелм» (шлем), «намет» (палатка); расліны («ружа», «лелея»); жывёлы і птушкі («конь», «арол», «крэчат» (певень); крыніцы вады («мора», «рэкі», «хмары»); унутраныя органы чалавека і канечнасці («сэрца», «рука»); сімвалы дзяржавы («карона»).

Даволі часта некалькі знакаў падаваліся ў розных спалучэннях, несучы нейкі адзіны сімвалічны сэнс, напрыклад, «крыж і месяц», «меч і страла», «месяц, зоркі і стрэлы», «два сэрцы і меч», «котвіца» (якар) і «падкова» ды інш.

Большасць паэтаў імкнуліся, як правіла, правесці паралель паміж сонечным святлом, ззяннем месяца, бляскам зорак і дабрачыннасцю, якая нібы святло зыходзіла ад уладальніка герба.

Асноўная ўвага надавалася, аднак, не вынаходніцтву новых сімвалаў, а пошуку адметных асацыяцый, паралеляў, што ў значнай ступені абумовілася агульнай эстэтычнай канцэпцыяй мастацтва.

У паэзіі эпохі Адраджэння праявілася імкненне майстроў слова да панарамнасці, шырокага ахопу жыццёвых рэалій. А. Рымша ў сваім наватарскім творы «Которого ся месяца што за старых веков деело, короткое описаніе» (Храналогія) упершыню ў беларускай паэзіі здзейсніў апісанне найбуйнейшых падзей біблейскай гісторыі паводле 12 месяцаў года.

Рэнесанснай па змесце і форме з'яўляецца паэзія Лаўрэнція Зізанія. Яго паэтычная спадчына ўключае тры творы — «Эпікграму на Граматыку», «Верш да юнакоў» і «Зварот друкара да падлеткаў», якія былі апублікаваны ў «Граматыцы» (1596). Для вершаў Л. Зізанія характэрны гуманістычны пафас і асветніцкая скіраванасць. З дапамогай вершаванага слова паэт імкнецца далучыць моладзь да друкаванага слова, да кніг, якія адкрываюць шлях да пазнання таямніцы рэчаў і з'яў.

Гістарычныя падзеі на беларускіх землях у канцы XVI ст. з'явіліся непасрэднай прычынай узнікнення *палемічнай* плыні ў айчыннай паэзіі. Верш К. Філалета «Кніжка да мінаючых мовіць» (1597), якім адкрываўся яго знакаміты «Апокрысіс», арганічна спалучаў палемічныя, панегірычныя і дыдактычныя элементы.

Паэзія аказвала моцны ўплыў на духоўнае жыццё народа, была цесна звязана з дзяржаўна-палітычнай барацьбой у той перыяд, з тагачаснымі філасофскімі, сацыяльнымі, этычнымі праблемамі. Яе змест немагчыма зразумець у адрыве ад эпохі, ён уплецены ў жывую, супярэчлівую рэчаіснасць, непарыўна знітаваны з барацьбой розных сацыяльных станаў і груповак.

Паэты, безумоўна, усведамлялі ўсе вынікі ўсталяваных грамадскіх дачыненняў, бачылі жах і маральную пачварнасць многіх з'яў. Але яны не заклікалі чыніць «крывавыя бунты» і помсціць крыўдзіцелям, парушаючы ўсе законы. Наадварот, як сапраўдныя гуманісты, прапаведавалі неабходнасць паўсюднага маральнага ачышчэння, справядліва лічачы яго адным з найважнейшых шляхоў выхаду грамадства з духоўнага крызісу.

Не будучы носьбітамі застылых, мёртвых догмаў, яны былі актыўнымі ўдзельнікамі вострай сацыяльнай і ідэйна-філасофскай барацьбы свайго часу. Змест іх твораў і асаблівасці светапоглядных пазіцый — вынік уплыву на іх самога жыцця.

Свецкая скіраванасць многіх паэтычных твораў XVI ст. дасягнула новага ўзроўню. Творчая індывідуальнасць мастака, яго асабістае стаўленне да падзей пачынаюць дамінаваць у мастацкай тканцы, выцясняюць прынятыя стэрэатыпы. Замест традыцыйных прыніжэнняў развіваецца актыўны аўтарскі пачатак, пісьменніцкая праца ператвараецца ў самастойную прафесію, адбываецца самасцвярджэнне мастака. Паэтаў ужо не задавальняе толькі «служэнне Богу», яны прагнуць вечнай славы.

Узлёт беларускай кніжнай паэзіі, які пачаўся ў другой палове XVI ст., тлумачыцца тым, што заканамернасці ўнутранага развіцця літаратуры на дадзеным этапе супалі са станоўчымі знешнімі ўплывамі. Мастацкія і эстэтычныя прынцыпы, рэалізаваныя ў кніжнай паэзіі XVI ст., дазваляюць гаварыць пра тое, што заканамернасці развіцця прыгожага пісьменства ў дадзены перыяд на Беларусі супадалі з працэсамі ў заходнееўрапейскіх літаратурах.

У вершах аўтараў эпохі Адраджэння шырока ўжываліся разнастайныя паэтычныя сродкі — арыгінальныя эпітэты, алегорыі, метафары, параўнанні, гіпербалы, сімвалы, — часта складаныя і шматпланавыя. Яны мелі самастойную мастацкую каштоўнасць і адначасова служылі сродкам паглыблення і пашырэння зместу. Кніжная паэзія XVI ст. паводле фармальных прыкмет распадалася на дзве вялікія групы: няроўнаскладовыя вершы, якія паводле сваёй метрычнай будовы блізкія да твораў Скарыны, з’яўляліся дасілабічнымі, і вершы, напісаныя сілабічным памерам, які атрымаў у перспектыве шырокае развіццё.

Адчувальнымі заставаліся характэрныя для сярэднявечнай літаратуры дыдактычныя і панегірычныя элементы. Але ўсё большае месца займаюць ідэі, народжаныя Рэнесансам: адбывалася гуманізацыя грамадскай свядомасці, узмацніліся асветніцкія матывы, выразнейшай стала крытыка грамадскіх заган, усведамленне неабходнасці чалавечай свабоды, разняволення яго духу або «самаўладдзя душы». Чалавек паступова набываў самастойную каштоўнасць незалежна ад свайго сацыяльнага становішча і этнічнага паходжання, патрабаваннем часу станавілася развіццё адукацыі, удасканаленне ведаў.

У XVI ст. актыўнае развіццё атрымала нацыянальная *публіцыстычная* літаратура. Як спецыфічны від мастацкай творчасці, яна заняла адно з ключавых месц у пісьмовай культуры, што ў значнай ступені абумоўлена станам тагачаснага грамадства, абвастрэннем духоўна-інтэлектуальных пошукаў, сутыкненнем розных ідэалогій і рэлігійных дактрын. Значны ўплыў на развіццё публіцыстычнай літаратуры зрабіла Рэфармацыя і Контррэфармацыя, падзеі Люблінскай уніі 1569 г.

Публіцыстычная літаратура XVI ст. падзяляецца на дзве асноўныя плыні — свецкую і рэлігійную. Публіцыстыка стваралася як свецкімі асобамі — урадоўцамі, ваярамі, князямі, шляхтай, так і прадстаўнікамі духоўнага стану — святарамі, манахамі, найвышэйшымі іерархамі. У многіх творах дамінуюць грамадскія тэмы, рэалістычныя сюжэты і матывы, у іншых — рэлігійныя і містычныя.

Паводле канфесійнай прыналежнасці аўтараў і ідэйнай скіраванасці іх творчасці ўсе публіцыстычныя творы тыпалагічна распадаюцца на тры асноўныя групы і прадстаўлены пратэстанцкай, каталіцкай і праваслаўнай літаратурамі. Прызнаныя майстры — Сымон Будны, Мікалай Радзівіл Чорны, Пётра Гоняд, Андрэй Валян, Васіль Цяпінскі — стваральнікі багатай пратэстанцкай літаратуры. Ва ўлонні каталіцкай культуры сфарміраваліся і расквітнелі творчыя індывідуальнасці выдатных пісьменнікаў-публіцыстаў Аўгустына Ротундуса (Мялешкі) і Льва Сапегі. Праваслаўная плынь знітаваная з выбітнымі імёнамі — В. Суражскага-Малюшыцкага, Феадула («Сціслы адказ»), Крыштафа Русіна («Зачапка»). Істотнае месца займаюць таксама ананімныя творы: «Супраць жыдоў і лацінянаў»

(1580), «Асобнае мавенне», «Аб абразах і крыжы», «Супраць аповесці цяперашніх ерэтыкоў».

Мастацкая публіцыстыка (рэлігійная і свецкая), што развівалася ў поліэтнічным, шматканфесійным грамадстве, адметных сацыяльна-палітычных і духоўна-культурных умовах функцыянавання тагачаснага кніжна-пісьмовага слова, мела разгалінаваную, мнагастайную жанравую сістэму. Сярод галоўных жанраў: палемічныя трактаты («адказы», «аспрэчанні», «абароны», «апалогіі», «пярэчанні», «пасланні», «эпісталы» і «водпісы»); аналітычныя творы («навукі», «вучэнні», «фундаменты», «гутаркі», «размовы», «дыялогі», «разважанні», «філасофіі», «вызнанні», «сімвалы», «тэзісы» і «артыкулы»); экзэгетычныя творы («тлумачэнні», «прыпіскі», «надпісы» да раздзелаў біблейных кніг); урачыстыя словы і казанні; катэхізісы, дыдаскаліі і павучанні; казанні на пахаванні («на пагрэб»); адозвы, перасцярогі, звароты і заявы; пратэстацыі і суплікі; прамовы і словы на соймах, трыбуналах, саборах, дыпламатычных раўндах; прадмовы, пасляслоўі і прысвячэнні; сатырычныя лісты, псеўдаказанні, псеўдапрамовы і псеўдаграматы.

Пісьменнікі XVI ст. заклалі падмурак нацыянальнай публіцыстыкі, сфармавалі яе стандарты, вызначылі ключавыя складовыя гэтага тыпу дыскурсу і тэарэтычна абгрунтавалі ўнутраныя законы функцыянавання і логіку пабудовы публіцыстычных твораў.

Выразна дамінаваў інтэлектуальны кампанент, а не падзея, дзеянне, настрой або эмоцыя, як у іншых родах літаратуры. Публіцыстыка, як бачна, мела сваю адметную «мастацкую аснову», якую ўтваралі «ідэі» і «праблемы», што дазваляе лічыць яе асобным, надзвычай развітым відам старажытнай літаратуры Беларусі.

У літаратурных дыскусіях вакол пытанняў дзяржаўна-палітычных саюзаў Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай і Маскоўскім княствам адназначна перамагла думка на карысць захавання дзяржаўнай цэласнасці краіны (А. Ротундус), якая, аднак, не заўсёды паслядоўна рэалізоўвалася ў палітычнай практыцы.

Філалагічныя аспекты ў дыскусіях публіцыстаў спарадзілі ідэю грамадскай патрэбы ва ўнармаванай літаратурнай мове, якая б засноўвалася на народнай моўнай традыцыі, з яе лексіка-фразеалагічным і марфалагічна-сінтаксічным багаццем. Дыскусіі ў публіцыстычных творах вакол этычнай праблематыкі прывялі да ўдасканалення антрапацэнтрычнай тэорыі, удакладнення зместу чатырох асноўных этычных катэгорый — грэх, дабро, ліха, ідэал.

Менавіта ў публіцыстыцы выкрышталізавалася ідэя пабудовы прававой краіны (А. Ротундус, А. Валян, Л. Сапега), неабходнасці панавання на ўсіх абшарах гаспадарства пісанага права, адзінага закона. Пісьменнікі-публіцысты абгрунтавалі ідэі свабоды слова і свабоды думкі, рэлігійнай цярпімасці, сацыяльнага партнёрства, прапанавалі галоўныя прынцыпы грамадзянскай супольнасці, давялі першаступенную важнасць для агульнага дабра дасканалай судовай сістэмы, эфектыўных цэнтральнай і мясцовай улад, заявілі пра неабходнасць асветы і адукацыі «паспалітага» люду, усебакова абгрунтавалі глыбока гуманістычны і дэмакратычны прынцып усеагульнай адукацыі, увядзенне ў навучальныя ўстановы цыкла з сямі асноўных дысцыплін (вызваленых мастацтваў) — граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі.

Уздым і росквіт мастацкай публіцыстыкі адбываўся ў перыяд, калі яшчэ адсутнічалі строгі падзел і дыферэнцыяцыя гуманітарных і прыродазнаўчых навук. Менавіта яна ў значнай ступені ўзяла на сябе і дастаткова паспяхова выканала місію сінкрэтычнага мацерыка, прарадзімы сучасных гуманітарных навук. На ўзроўні зместу, тэматыкі і праблематыкі ўтрымлівала кампаненты, адмыслова дапаўняла, або, нават, цалкам замяняла асобныя навуковыя галіны і спецыяльныя дысцыпліны. Яна, з аднаго боку, узбагачала чалавека новымі ведамі, а з другога — спрыяла развіццю нацыянальнай філасофіі (гнасеялагічныя дактрыны, тэорыі пазнання і адлюстравання, заканамернасці мыслення); правазнаўства (вызначэнні сутнасці права, тэорыя дамінавання пісанага права ў рэгуляванні грамадскіх да-

чыненняў, канцэпцыі эфектыўных судовых сістэм і інстытуцый, тэорыі гарадскога самакіравання — «магдэбургскае права»); лінгвістыкі (праблема літаратурнай мовы, прынцыпы перакладу Святога Пісання); літаратуразнаўства (абгрунтаванні аўтарскіх творчых дамінантаў, задач майстроў слова, прынцыпаў адбору жыццёвага матэрыялу, вучэнні аб мнагастайнасці літаратурных форм і жанраў); багаслоўя і эклесіялогіі (трынітарныя сюжэты, вучэнні пра адзінага Бога, праўдзівую царкву), гісторыі царквы і грамадзянскай гісторыі (канцэпцыі сусветных сабораў, эвалюцыя ўніяцкай ідэі, месца і роля абрадаў, цэрымоній і звычаяў у Хрыстовай Царкве, канцэпцыі этапаў хрышчэння ўсходнеславянскіх земляў); паліталогіі і сацыялогіі (праблемы аптымальных форм праўлення, канцэпцыі паходжання вышэйшай улады, дыскусіі вакол дачыненняў паміж урадоўцамі і шараговымі грамадзянамі, прынцыпы рэгулявання дачыненняў паміж сацыяльнымі станамі, багатымі і беднымі, прафесійнымі і этна-рэлігійнымі кангламератамі); псіхалогіі (вучэнне аб уласцівасцях душы, матывацыі ўчынкаў, вытлумачэнні механізмаў сноў і трызненняў). Старабеларуская публіцыстыка XVI ст. сінтэзавала ў сабе найважнейшыя аспекты ведаў тагачаснага чалавека.

У эпоху Рэнесансу на Беларусі разгарнулася дзейнасць прафесійных тэатраў. На заходнееўрапейскі ўзор яны адкрываліся пры двары вялікага князя і ў палацах буйных магнатаў (Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў і інш.). Развіццё тэатральнага мастацтва натуральна суправаджалася ўтварэннем новых літаратурных гурткоў, з’яўленнем спецыфічных жанраў *драматургіі*, невядомых сярэднявечнай культуры Беларусі.

Рэнесанс прынёс істотныя змены ў сферу ўласна эстэтычнай думкі і *мастацкай свядомасці*. У літаратуры з’явіліся якасна новыя ідэалы і мастацкія вобразы. Абноўленыя творчыя арыенціры паўплывалі на зараджэнне і актыўнае выкарыстанне невядомых раней мастацкіх метадалогій і стратэгій, новых форм, комплексу адметных мастацка-выяўленчых сродкаў.

Перыяд Адраджэння характарызуецца *секулярызацыяй* мастацкай свядомасці. Шырэй і паўней пачалі адлюстроўвацца палітычныя падзеі і грамадскія з’явы. Філасофія богашукальніцтва паступова саступала месца ідэалогіі антрапацэнтрызму. У мастацкай творчасці на першае месца выходзілі асоба і індывідуальнасць. Літаратары часцей звярталіся да ўнутранага свету чалавека, раскрывалі яго духоўныя памкненні, радасці і пакуты, жаданні і перажыванні. Пісьменнікі распрацоўвалі новыя тэмы і сюжэты, засвойвалі філасофскія і літатарурныя здабыткі іншых народаў, знаёмілі чытача з мастацкімі рэаліямі іншых краін.

Шырокі кругагляд творцаў, іх адукаванасць і імкненне да ўсебаковага асэнсавання Сусвету сталі перадумоваю ўзнікнення ў кніжна-пісьмовай культуры *сінкрэтызму*. Шмат якія помнікі пісьменства нярэдка мелі дачыненне да самых розных галін ведаў — літаратуры, гісторыі, права, тэалогіі, астраноміі і геаграфіі.

Пісьменнікі на першае месца ставілі творчы *эксперымент*, асваенне новых тэм, уключэнне ў творы сістэмы вобразаў, сімвалаў і архетыпаў роднага краю. Прыкладам, М. Гусоўскі ўзяў у якасці галоўнага аб’екта мастацкага адлюстравання вобраз зубра — звера-асілка, валадара пушчаў і лясоў. Блізка да натуралістычнай падачы паводзін яго перамяжоўваецца ў «Песні пра зубра» з арыгінальнымі пейзажнымі замалёўкамі, апісаннямі бароў, рэк, пушчаў, сцэнамі палявання, дэталёвымі аповедамі пра падрыхтоўку пасткі, пра народныя звычаі і абрады. М. Гусоўскі на высокім мастацкім узроўні апеў прыгажосць Бацькаўшчыны, паказаў яе веліч, уславіў гераічнае мінулае свайго народа, мужных ваяроў і мудрых гаспадароў краіны. Адказваючы арыгінальнай мастацкай формай на эстэтычныя запатрабаванні часу, паэт-філосаф бліскуча выканаў уласную духоўную місію.

Адбывалася асэнсаванне *мінулага* Беларусі і грамадска-палітычных працэсаў таго часу. Пісьменнікі-інтэлектуалы выступілі з канцэпцыяй адукаванага манарха, які клапоціцца пра дзяржаву і народ. Яны стваралі мастацкія вобразы каларытных гістарычных персанажаў. Найбольшай пашанай карыстаўся магутны князь

Вітаўт, пры якім ВКЛ дасягнула асаблівага росквіту. Так, у абмалёўцы М. Гусоўскага выступае як прадбачлівы дзяржаўны дзеяч, мужны ваяр, які сваім прыкладам натхняе падначаленых, рыхтуе сапраўдных абаронцаў Айчыны. Князь шануе мужнасць, не любіць баязліўцаў. Ён пільна сочыць за выкананнем законаў («звычаёвага права»), строга судзіць злачынцаў, хабарнікаў, клятвaадступнікаў. Вітаўт, у інтэпрэтацыі М. Гусоўскага, — набожны хрысціянін, які ваяўніча руйнуе паганскія капішчы, узводзіць бажніцы і закладае манастыры. Дзяржава пры ім дасягае найвышэйшай магутнасці, што дало падставы паэту ўслед за сучаснікамі назваць эпоху яго княжання «залатой парою». Справядлівая захопленасць дзейнасцю Вітаўта суправаджаецца, аднак, аўтарскай зададзенасцю, запраграмаванасцю. Схематызм часам вядзе да спрашчэння, а ў асобных момантах да гістарычных скажэнняў, як, напрыклад, пры вырашэнні праблемы Вітаўтавага стаўлення да паганскай культуры, дзе ідэалагема паэта перамагае гістарычную праўду. Героіка-эпічныя ўхваленні Вітаўта мелі выразную грамадска-палітычную скіраванасць. Паэт стварaў узор, ідэал валадара, які ў любых абставінах бароніць Айчыну, народ і паэтаў. М. Гусоўскі гэткім чынам апеляваў да сэрца і розуму свайго сучасніка — караля і вялікага князя Жыгімонта І Старога, каб ён арганізаваў супраціў іншаземным захопнікам («Дакуль нам баяцца турка!»). У прысвячэнні Боне ён да таго ж адкрыта просіць, каб яна «нараіла свайму яснавяльможнаму мужу» заўжды, нават падчас войнаў і забурэнняў, дбаць пра таленты — вучоных, мастакоў, паэтаў, бо дзяржава «абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела».

Узмацніліся працэсы літаратурнага *сінтэзу*, неад’емнай рысай развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства стала *інтэртэкстуальнасць*. Рэнесансная літаратура — вынік глыбіннага і шматузроўневага спалучэння традыцыйных язычніцкіх міфалагічных каштоўнасцей з антычнымі (грэцкімі і рымскімі), стараяўрэйскімі і сярэднявечнымі хрысціянскімі духоўнымі набыткамі. Інтэнсіўныя ўзаемаўплывы і ўзаемадзеянні спрыялі імкліваму сталенню нацыянальнай літаратуры.

Акурат у XVI ст. адбылося сапраўднае адкрыццё беларусамі шматколернага, паліфанічнага свету антычнай літаратуры і культуры. З асобнымі помнікамі грэчаскай, рымскай і яўрэйскай літаратур яны пазнаёміліся ўжо ў часы ранняга Сярэднявечча праз «Хроніку» Іаана Малалы, «Ізборнік» Святаслава, «Хроніку» Георгія Амартолы, «Элінска-рымскі летапісец» XIII ст. Істотную ролю ў пашырэнні антычнай літаратуры адыгралі рукапісныя зборнікі «Пчала» і «Ізмарагд», у якіх змяшчаліся ўрыўкі або цытаты з Дэмакрыта, Платона, Арыстоцеля, Эпіктэта, Ксенафонта, Фукідыда, Герадота, Эўрыпіда, Эсхіла, Сафокла, Эпікура, Сакрата, Анаксагора, Геракліта, Парменіда. У эпоху Адраджэння ў ВКЛ пашыраліся свецкія перакладныя аповесці — «Троя» і «Александрыя», аўтарства якой прыпісваецца Каліcфену. «Александрыя» вядомая ў шасці беларускіх спісах. Ф. Скарына ў «Прадмове да ўсёй Бібліі» невыпадкова назваў «Трою» і «Александрыю» найлепшымі гістарычнымі творамі свайго часу, засведчыўшы тым самым іх важнае месца ў культуры Беларусі сярод іншых помнікаў старажытнага прыгожага пісьменства. У асяроддзі адукаваных людзей шанаваліся «Мудраслоўі» антычнага паэта і філосафа Менандра.

У кніжнай культуры Беларусі XVI ст. ганаровае месца займала імя Марка Тулія Цыцэрона (106 — 43 гг. да Н.Х.) — выдатнага рымскага прамоўцы, палітычнага дзеяча і філосафа. Яго твор «Пра абавязкі людзей усіх станаў» карыстаўся велізарным попытам. У перакладзе С. Кашуцкага ён тройчы выдаваўся ў ВКЛ па-польску пад тытулам. Выдатны папулярызатар антычнай філасофіі Беняш Будны таксама пераклаў на польскую мову шырокавядомы дыялог Цыцэрона «Пра старасць» і выпусціў яго ў 1603 г. у Віленскай друкарні Яна Карчана. Да гэтага выдання перакладчык напісаў паэтычны зварот «Да Сармацыі» і прысвячэнне фундатару пану Адаму Храптовічу, у якіх уславіў антычныя культуру, навукі і мастацтвы, заклікаў сучаснікаў спасцігаць багаты досвед Антычнасці.

Беняш Будны спрычыніўся да папулярызацыі ў ВКЛ і твораў Плутарха (46—127). У 1599 г. у Вільні (друкарня Я. Карчана) выйшаў яго пераклад «Ка-

роткіх аповесцей», якія па-грэцку завуцца «Апафегматы». Гэтыя літаратурныя апрацоўкі паводле Плутарха складаліся з чатырох кніг: у першай падаваліся жыццяпісы антычных знакамітасцей (42) — Сакрата, Платона, Арыстоцеля, Піфагора, Геракліта, Эмпедокла, Дэмакрыта і інш., іх сентэнцыі, у другой змешчаны розныя легенды і авантуры, трэцяя прысвячалася лакедэманянам, чацвёртая складалася з мудрых выказванняў знакамітых жанчын. Да гэтага выдання Б. Будны таксама напісаў паэтычнае прысвячэнне, гэтым разам пад назовам «Да Чытача», а ў тэксце змясціў вельмі цікавыя каментарыі (блізу 250), арыгінальныя гістарычна-філасофскія тлумачэнні, якія выразна сведчаць пра ягоную гуманістычную скіраванасць.

У другой палове XVI ст. шырокія колы чытачоў ВКЛ пазнаёміліся з раманам грэцкага пісьменніка Геліядора (III ст.) «Эфіопіка», які быў выпушчаны ў Вільні каля 1588 г., а ў 1606 г. перавыдадзены. Раман пераклаў Андрэй Захарэўскі паводле нямецкамоўнага выдання. У прадмове, напісанай 3 кастрычніка 1588 г. у Навагрудку, перакладчык выказаў сваё стаўленне да антычных хронік, высока ацаніў творчасць Геліядора ды іншых антычных аўтараў.

Дух антычнай культуры захоўваў зборнік «Тайна Тайных» («Secretum Secretorum»), створаны на Блізкім Усходзе ў VIII — IX стст. паводле старажытных крыніц і паданняў. Найдаўнейшы беларускі пераклад «Тайны Тайных» ажыццёўлены якраз у XVI ст. (цяпер зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы РБ). Ён змяшчае некалькі розных паводле сваёй накіраванасці апавяданняў. Пачынаецца ж «Прамовай Петрыкея збавіцеля», у якой ён падрабязна паведамляе пра абставіны, якія прымусілі Арыстоцеля павучаць Аляксандра Македонскага. Далей змешчана ўласна «Арыстоцелева брама» з васьмі раздзелаў, дзе таксама ідуць настаўленні цэзару, у прыватнасці, як ён павінен паводзіць сябе, каб зрабіць дзяржаву магутнай і ўмацаваць сваю ўладу. Асабліва цікавыя раздзелы фізіягномікі — старажытнай навукі, з дапамогай якой, як меркавалася, па вонкавым выглядзе чалавека вызначыць яго характар і духоўныя якасці. Нярэдка высновы фізіягномікі гучаць даволі гумарыстычна. Шмат месца ў творы займаюць лекарскія павучанні: падрабязна паведамляецца, пры якіх хваробах і якімі зёлкамі трэба карыстацца, рэкамендуецца ўстрымлівацца ад празмернага ўжывання ежы, даюцца парады, як ратавацца ад пераядання. Звяртаецца таксама ўвага на карысць або шкоду для здароўя розных камянёў ды іншых рэчываў. Звычайна ў розных варыянтах «Тайны Тайных», пасля паведамлення Македонскаму пра важнасць для ягонага жыцця гэтай кнігі, змяшчаўся апошні раздзел: «Сказ пра элінскага філосафа прамудрага Арыстоцеля». У беларускім спісе замест яго змешчана апавяданне «Аб сямі зорках вялікіх», дзе выкладзены надзвычай цікавыя астранамічныя ўяўленні таго часу.

З гістарычнай літаратуры найбольшае распаўсюджанне на беларускіх землях мела «Юдэйская вайна» Іосіфа Флавія — рымляніна, юдэя паводле веры. У 1595 г. Ян Карчан у сваёй віленскай друкарні выпусціў гэты твор пад тытулам: «Historia Jozefa syna Gorionowego». Тэкст падрыхтаваў Ян Казаковіч, напісаўшы прысвячэнне берасцейскаму ваяводу Крыштафу Зяновічу — фундатару выдання. Паводле яго неўзабаве быў зроблены беларускі пераклад, які па невядомых прычынах застаўся неапублікаваным.

У творах беларускіх пісьменнікаў XVI ст. утрымліваецца шмат цытат і спасылак на кнігі грэцкіх і рымскіх пісьменікаў і філосафаў, нават тых, якія не выдаваліся і не распаўсюджваліся ў рукапісах на землях ВКЛ. Найчасцей згадваюцца Арыстоцель, Платон, Арыстафан, Тэртуліян, Платына, Менандр, Плутарх, Піфагор, Геракліт, Плаўт, Цыцэрон, Гарацый, Вергілій, Авідзій, Сэнэка, Ювенал, Апулей, Дэмасфен, Сафокл.

Шматлікія факты сведчаць, што Беларусь у XVI ст. з'яўлялася актыўным спажыўцом кніжнай прадукцыі заходнееўрапейскіх друкарняў. З Нямеччыны, Італіі, Галандыі, Францыі завозілася шмат кніг, якія траплялі ў магнацкія і шляхецкія кнігазборы. Так, у бібліятэцы Аўрама Кульвы захоўвалася 79 кніг, сярод якіх творы Плінія, Арыстоцеля, Лівія, Цыцэрона, Платона, Гамера, Гесіода, Апулея,

Лактанцыя, Пталамея, Сафокла, Эўрыпіда, Тэакрыта. Якраз вывучэнне каталогаў старажытных бібліятэк, архіўных матэрыялаў, выказванняў розных дзеячаў таго часу і асабліва аналіз маргіналіяў, спасылак на крыніцы з паказаннем месца і года іх выдання непасрэдна ў творах айчынных пісьменнікаў дазваляюць зрабіць выснову, што ў Беларусі былі вядомыя шматлікія заходнееўрапейскія выданні антычных аўтараў пераважна на лаціне. Паўнавартаснае засваенне антычнай літаратуры адбывалася ў першую чаргу праз пасрэдніцтва Захаду, дзе з канца XV ст. і на працягу XVI ст. выйшлі тысячы выданняў антычных аўтараў. Гэтыя кнігі шырокай плынню цяклі ў ВКЛ, знаходзячы зацікаўленага чытача.

Уплыў антычнай літаратуры і культуры на духоўна-літаратурнае жыццё быў вельмі адчувальны. Ідэі яе пісьменнікаў і філосафаў уздзейнічалі на фармаванне гуманістычнага светапогляду беларускіх майстроў слова. Выдатныя пісьменнікі М. Гусоўскі, Я. Вісліцкі, С. Рысінскі, Я. Казаковіч выкарыстоўвалі ў сваіх творах антычныя сюжэты, звярталіся да вобразаў багоў і герояў грэцкай ды рымскай міфалогій. У многім пад уплывам антычнай літаратуры, у першую чаргу — Гамера, узнік гераічны эпас — паэмы Ф. Градоўскага «Апісанне маскоўскага паходу» (1582), Я. Радвана «Радзівіліяда» (1588), А. Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў Крыштофа Радзівіла» (1585). Антычная культура ўплывала на фармаванне паэтыкі беларускай літаратуры XVI ст., вызначала ўнутраны змест і знешнія формы розных відаў мастацтва, уздзейнічала на станаўленне айчыннай эстэтыкі.

На хвалі рэнесансавага зацікаўлення традыцыямі і гістарычнымі каранямі ў XVI ст. новае жыццё набылі старабеларускія помнікі пісьменства X — XV стст. У шматлікіх асяродках перапісваліся і друкаваліся высокамастацкія творы слыннага пісьменніка і прапаведніка XII ст. Кірылы Тураўскага (блізу 1130—1182). Вялікай папулярнасцю карысталіся ягоныя восем казанняў (слоў) велікоднага цыкла. Не страцілі актуальнасці малітвы (блізу 30) і каноны (два) Кірылы Тураўскага. Не змяншаўся попыт і на іншыя ягоныя творы — «Прыпавесць пра душу і цела», «Аповесць пра беларызца і манаства», «Сказанне пра касту чарнарызцаў». Да нашага часу захаваліся некалькі беларускіх рукапісаў XVI ст. з творамі Кірылы Тураўскага, якія аказвалі вялікае эмацыйнае ўздзеянне не толькі на сучаснікаў, але і на людзей наступных пакаленняў. Чытача вабіла ў іх глыбіня думак, уражвала вытанчанасць літаратурных форм, багатая палітра мастацкіх фарб.

Агіяграфічныя зборнікі, складзеныя на беларускіх землях у XVI ст., як правіла, уключалі выдатныя помнікі нацыянальнай даўніны. Асаблівай папулярнасцю карысталася «Жыціе Ефрасінні Полацкай», вядомае ў больш чым 130 спісах, сярод якіх і ўласна беларускія. Шырока распаўсюджвалася «Жыціе Аўрама Смаленскага», створанае манахам Яфрэмам. Жыхары Вялікага Княства выяўлялі цікавасць да «Жыція Барыса і Глеба», пра што красамоўна сведчыць наяўнасць яго шматлікіх спісаў у складзе рукапісных кніг. Захаваліся таксама беларускія спісы «Хаджэння» ігумена Данііла.

У эпоху Адраджэння не страцілі сваёй актуальнасці творы Рыгора Цамблака (каля 1365—1419), кіеўскага мітрапаліта з 1414 г., паплечніка Вітаўта Вялікага. Яны па-ранейшаму выкарыстоўваліся ў палеміцы з праявамі паганства («эпікурамі»), абразаборцамі, «старазаконнікамі», юдэямі і антытрынітарыямі. У ВКЛ распаўсюджваліся творы, напісаныя ім не толькі ў часе знаходжання на пасадзе мітрапаліта (каля 10 слоў), але і ранейшыя, створаныя ў малдаўска-сербскі перыяд ягонага жыцця. Шэраг іх захаваліся да нашых дзён у складзе старажытных беларускіх рукапісаў. У двух Святочніках, што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, таксама ёсць некалькі твораў Цамблака: «Слова на нараджэнне Багародзіцы», «Слова на пераўтварэнне Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста», «Слова на ўспенне Багародзіцы», «Слова на ўсячэнне галавы Іаана Прадцечы», «Слова на ўзнясенне Ісуса Хрыста». Такім чынам, творы сярэднявечнай беларускай культуры ў часы Адраджэння зусім не зніклі, наадварот, яны трансфармаваліся, набылі новыя формы і працягвалі аказваць велізарнае дабратворнае ўздзеянне на духоўнае жыццё народа.

З ажыўленнем інтэлектуальных пошукаў у Княстве з'явілася новая хваля цікавасці да сярэднявечнай *грэка-візантыйскай* літаратурнай спадчыны і багатай рымска-каталіцкай патрыстыкі, што выявілася ў шматлікіх перакладах, перавыданнях, перапісванні, частых цытаваннях і грунтоўных каментарах да твораў хрысціянскіх пісьменнікаў папярэдніх часоў. Павучальныя, тэалагічныя і касмалагічныя творы (празаічныя і вершаваныя) змяшчаліся ў разнастайных зборніках-кодэксах, якіх шмат захавалася да нашага часу ў рукапісным або друкаваным выглядзе. Сярод іх: Службоўнікі, Трэбнікі, Акафісты і каноны, Мінеі, Малітоўнікі, Часоўнікі і Часасловы, Трыёды, Трыфалагіёны, Златавусны і Златаструі, Зборнікі павучанняў, Зборнікі жыццяў святых, Святочнікі, Трыпесеннікі, Анфалагіёны, Пралогі, Евангеллі павучальныя, Палеі.

З пісьмовай спадчыны айцоў Царквы найбольшай папулярнасцю ў ВКЛ карысталіся творы Яна Златавуснага (Хрызастома) (блізу 350—407) — канстанцінопальскага патрыярха, аўтара шматлікіх вершаваных твораў, панегірыкаў, слоў, казанняў і інш. Пашыраліся перадусім экзэгетычныя творы Яна Златавуснага: «Гутаркі пра Псальмы», «Гутаркі пра Евангелле паводле Мацвея», «Гутаркі пра Евангелле паводле Яна», «Выклад на малітву «Ойча наш», «Гутаркі пра Пасланне Паўла да Рымлянаў», «Гутаркі пра Першае Пасланне Паўла да Карынцянаў», «Гутаркі пра Дзеянні Апосталаў». Твор Златавуснага «Літургія» — сапраўдная перліна паэтычнай культуры Сярэднявечча — з'яўляўся стрыжнем абраднасці Усходняй Царквы. «Літургія» неаднаразова перапісвалася і перадрукоўвалася ў складзе беларускіх (праваслаўных) богаслужэбных кніг. Шырокую чытацкую аўдыторыю мелі тэалагічныя трактаты Златавуснага «Слова пра Дабравешчанне», а таксама дыдактычныя і гістарычныя словы «Пра ганарыстасць», «Пра Іова», «Як не ленавацца чытаць кнігі», «Пра валхвоў», «Пра гульбы і скокі», «Пра зайздрасць», «Пра стрыманасць».

У эпоху Адраджэння, асабліва з узмацненнем тэалагічных дыскусій, узрасла цікавасць да творчай спадчыны Яна Дамаскіна (каля 673—780) — выдатнага царкоўнага пісьменніка, багаслова і гімнографа Сярэднявечча. У Вялікім Княстве Літоўскім шырокім попытам карысталіся ягоныя кнігі «Дакладны выклад праваслаўнай веры», «Крыніца ведаў», «Гісторыя пра Варлаама і Іясафа», а таксама «Ірмалогій», або «Актоіх».

Знаходжанне Беларусі ў агульнаеўрапейскай культурнай прасторы стварала спрыяльныя ўмовы для бесперашкоднага ўздзеяння на беларускае прыгожае пісьменства *заходняй рэнесансавай і гуманістычнай літаратуры*. Сярод галоўных праяваў гэтых уплываў — выпуск твораў заходніх пісьменнікаў у друкарнях Вільні, Любчы, Лоска і Нясвіжа. З перакладзеных або выдадзеных на мове арыгінала варта назваць творы Ёгана Спангенберга («От другие Диалектики Иона Спанинъбергера о силогизме вытолковано». Вильня: др. Мамонічаў, каля 1586), Эразма Ратэрдамскага («Хрысціянскае рыцарства і духоўнае жыццё»,1585), Генрыха Булінгера («Казанне аб праўдзівым прыняцці цела і крыві Пана нашага Ісуса Хрыста»,1559), Якуба Палеолага («Абарона правільнага погляду на ўладу,1580), Эрнеста Варамунда Фрыза («Пра фурыяў, або Пра французскае шаленства»,1576). З творчасцю заходнееўрапейскіх пісьменнікаў эпохі Рэнесансу беларускія чытачы знаёміліся не толькі праз мясцовыя выданні, але і праз кнігі заходніх друкарняў, якія ў вялікай колькасці распаўсюджваліся на абшарах беларускай дзяржавы.

Далейшае развіццё атрымала *біблейская* традыцыя. Былі створаны першыя біблейныя зводы кананічных кніг. Найбольш ранні — Біблія Мацвея Дзясятага, падрыхтаваная ў Вільні ў 1502—1507 гг. Побач з новазапаветнымі тэкстамі яна змяшчала і шэраг старазапаветных, што, вядома ж, было новай з'яваю. Да першай паловы XVI ст. належаць два рукапісныя зборнікі твораў Прарокаў, Пяцікніжжа Майсеева і няпоўны зборнік Варшаўскай Нацыянальнай бібліятэкі, які ўключае кнігу Ісуса Навіна, Суддзі, Руф, чатыры кнігі Царстваў і Эсфір. У пачатку XVI ст. у Беларусі з'явілася поўная лацінская Біблія — Вульгата. Прыкладна тады ж

пачалі пашырацца і першыя апакрыфічныя творы. У XVI ст. не знікла сярэднявечная традыцыя перапісвання асобных новазапаветных кніг, што пацвярджаецца шматлікімі рукапісамі Евангелляў, Апосталаў і Псалтыроў з дадаткамі.

З'яўленне Скарынавага перакладу Святога Пісьма на зразумелай для паспалітага чалавека мове — гэта відавочная праява агульнаеўрапейскіх тэндэнцый у нашай культуры. Скарына раскрыў прызначэнне кожнай з выдадзеных ім біблейных кніг. Сярод галоўных мэт ім, як правіла, называліся «засваенне добрых нораваў», «спасціжэнне сапраўднай мудрасці, навукі і міласэрнасці». Гуманіст падаў новыя для ўсходнеславянскага чытача звесткі пра аўтараў біблейных кніг, паведаміў пра час і абставіны, у якіх яны ствараліся.

Васіль Цяпінскі гэтаксама выступіў з патрабаваннем пашырэння Слова Божага на жывой народнай мове, спасылаючыся на дасягненні ў гэтай справе іншых еўрапейскіх народаў. У «Прадмове» да свайго ж выдання Евангелляў, Цяпінскі абгрунтаваў неабходнасць перакладу Бібліі на беларускую мову. Асветнік апублікаваў евангелічныя тэксты на старабеларускай і паралельна на царкоўнаславянскай мовах. Параўноўваючы гэтыя варыянты, відаць, што перакладчык у якасці галоўнага прынцыпу абраў шырокую замену царкоўнаславянізмаў на народныя або набліжаныя да іх формы, прычым ува ўсіх моўных сферах — лексіцы, марфалогіі, сінтаксісе і фразеалогіі.

Як сведчаць гістарычна-літаратурныя факты, ідэю перакладу Святога Пісьма ды богаслужэбных кніг на «простую мову» падтрымліваў і вядомы беларускі мецэнат Рыгор Хадкевіч — фундатар заблудаўскага «Евангелля вучыцельнага» 1569 г. Кніга, як вядома, выйшла на царкоўнаславянскай мове, але Хадкевіч ва ўласнай «Прадмове» ўсё ж акрэсліў сваё асветніцкае крэда, жаданне даць шырокім колам богаслужэбныя тэксты на роднай мове. Несумненна, перспектыўную ідэю перакладу Святога Пісьма і богаслужэбных кніг на беларускую мову віталі далёка не ўсе. У ВКЛ было даволі яе праціўнікаў. З гэтым, напрыклад, катэгарычна не пагаджаліся дарадцы Хадкевіча, эмігранты з Маскоўскай Русі — манах Арцёмій і Андрэй Курбскі, а таксама аўтар «Спісання супраць лютараў».

Этапнай з'явай у беларускай біблеістыцы стала выданне Берасцейскай Бібліі 1563 г., у падрыхтоўцы якой удзельнічалі блізу 20 еўрапейскіх тэолагаў, сярод якіх Ф. Станкар, Дж. Б'яндрата, І. Ласкі ды інш. Вучоных згуртаваў у Нясвіжы вядомы мецэнат князь Мікалай Радзівіл Чорны. Менавіта ў адпаведнасці з яго задумай пераклад зроблены паводле грэцкіх і яўрэйскіх арыгіналаў. Кніга выйшла з «Прадмовай» Чорнага, што пацвярджае непасрэдны ўдзел Мікалая Радзівіла ў працы над перакладам. Гістарычна-культурнае значэнне Берасцейскай Бібліі 1563 г. у тым, што з яе фактычна пачалося развіццё рэфармацыйнай біблеістыкі і рэфармацыйнай экзэгетыкі ў Беларусі.

У XVI ст. на ніве біблеістыкі плённа працавалі і іншыя рэфармацыйныя тэолагі ВКЛ — Сымон Зак, Марцін Чаховіц, Ян Ліцыній Намыслоўскі, Тамаш Фальконіус. Апошні, дарэчы, апублікаваў у Берасці дзве кнігі каментароў да новазапаветных твораў, якія зрабілі велізарны ўплыў на ўсю беларускую экзэгетычную традыцыю.

Эпахальнае дасягненне праваслаўнай біблеістыкі — славутая Астрожская Біблія 1580 г. — вынік супольнай шматгадовай працы некалькіх усходнеславянскіх тэолагаў, перакладчыкаў і кнігадрукароў — І. Федаровіча, М. Сматрыцкага, М. Гарабурды і В. Гарабурды, В. Суражскага-Малюшыцкага, К. Астрожскага ды інш. У аснову Астрожскай Бібліі пакладзены адзін са спісаў Генадзіеўскай Бібліі, складзенай у Ноўгарадзе ў 1499 г., прывезены з Маскоўскай Русі беларускім дыпламатам і пісьменнікам М. Гарабурдам. Пры падрыхтоўцы з яго былі ўзяты пераклады Святых Кніг (Параліпаменан, Ездра, Неемія, Тавіт, Юдзіф, Прамудрасці Саламона, Макавеяў, частка Ераміі і Езекііля), зробленыя ў свой час беларусам манахам-дамініканцам Веніямінам, які працаваў у складзе гуртка Генадзія. Амаль усе тэксты Астрожскай Бібліі вывяраліся паводле стараяўрэйскіх і грэцкіх арыгі-

налаў, параўноўваліся з ранейшымі перакладамі на іншыя мовы. Сярод асноўных крыніц, якімі карысталіся сябры Астрожскага гуртка, былі і вядомая Берасцейская Біблія на польскай мове, выданні Сымона Буднага і Пятра Мсціслаўца (Евангелле, 1575; Псалтыр, 1576).

Істотны ўклад у беларускую праваслаўную біблеістыку ўнёс пісьменнік і выдавец Лявон Мамоніч, аўтар шэрагу прадмоў і прысвячэнняў, у якіх ён закранаў праблемы біблейнай герменеўтыкі. Асабліва значная ў гэтым сэнсе «Прадмова» да выдадзенага ім Псалтыра, у якой Мамоніч не толькі падаў характарыстыкі яго айцамі Царквы, але і сфармуляваў уласны погляд на гэты твор. У заключнай частцы апублікаваў невялікі, але надзвычай каштоўны тлумачальны слоўнік спецыфічных тэрмінаў, што сведчыць пра яго глыбокае зацікаўленне праблемамі біблейнай філалогіі.

Праваслаўную біблейную традыцыю развівалі тэолагі і экзэгеты, што належалі да Віленскага Свята-Духаўскага брацтва. У канцы XVI ст. яны падрыхтавалі і выпусцілі некалькі выданняў Новага Запавету з Псалтырамі. Як бачна, у духоўнай культуры беларусаў эпохі Адраджэння біблейныя кнігі, мяркуючы нават паводле агульнай колькасці іх спісаў і выданняў (некалькі тысяч), па-ранейшаму займалі адно з галоўных месцаў. Біблія лічылася вяршыняй мудрасці, дадзенай людзям Усявышнім, шанавалася як найбольш аўтарытэтная крыніца ведаў і каштоўны помнік сусветнай літаратуры.

Такім чынам, беларуская рэнесансная літаратура ўяўляе сабой арганічны сінтэз народнай мудрасці, антычных і сярэдневяковых (заходніх і ўсходніх) інтэлектуальных здабыткаў. Яна мела выразную гуманістычную скіраванасць, утрымлівала жыццясцвярджальны, аптымістычны пачатак. У выніку напружаных інтэлектуальных і духоўных пошукаў, пісьменнікі эпохі Рэнесансу прыйшлі да высновы, што найвышэйшай каштоўнасцю на зямлі з’яўляецца чалавечае жыццё. Ідэал Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Буднага — дзейсная, усебакова развітая і гарманічная асоба, што імкнецца да самапазнання і спасціжэння акаляючага свету «дзеля чысціні цялеснай і духоўнай». З’яўляючыся паслядоўнымі гуманістамі, яны заклікалі «навучацца мудрасці, з тым, каб добра жыць на свеце», а не марнаваць час на празмернае назапашванне багаццяў.

Пісьменнікі эпохі Рэнесансу, як правіла, з’яўляліся асветнікамі, яны паслядоўна адстойвалі неабходнасць засваення ў навучальных установах сямі вольных мастацтваў — філалогіі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі. Выступалі за пашырэнне мудрасці, ведаў, розуму і навук сярод усіх народаў свету. Беларускія літаратары-інтэлектуалы XVI ст. сфармулявалі і прапагандавалі ідэю прававой дзяржавы. Яны выступалі за рэгуляванне грамадскіх адносін пісаным правам, справядлівымі законамі, накіраванымі на ўсталяванне агульнага дабра. Прапанавалі кодэкс паводзін для гаспадароў і падданых, валадароў і шараговых грамадзян краіны.

Знаходзячыся ля вытокаў фармавання *нацыянальнай свядомасці* беларускага народа, пісьменнікі-гуманісты заклікалі вывучаць родную мову і мовы іншых народаў, выступалі за адкрыты дыялог інтэлектуалаў, адстойвалі права на свабодны абмен духоўнымі каштоўнасцямі паміж народамі свету, віталі супрацоўніцтва дзяржаў, марылі пра такі грамадскі парадак, дзе будуць панаваць вечны мір, справядлівасць, розум, усталявана роўнасць для ўсіх людзей.

У гэты перыяд зарадзілася нацыянальная *філалагічная* думка, з’явіліся першыя літаратуразнаўчыя, герменеўтычныя і лінгвістычныя працы. Выключную вядомасць у славянскім свеце атрымалі «Азбука» (1596), «Лексіс» (1596) і «Граматыка» (1596) Л. Зізанія, што знайшлі шырокае выкарыстанне ў адукацыйных і літаратурных асяродках старажытнай Беларусі, а таксама ва Украіне і ў суседнім Маскоўскім княстве. Яна сталі падмуркам развіцця нацыянальнай філалагічнай адукацыі, паслужылі істотным фактарам прафесіяналізацыі літаратурнай дзейнасці.

## ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

# ШТО АДДАЕШ ЛЮДЗЯМ — У ВЕЧНАСЦІ ТВАЁ

Газета «Натхненне» аднойчы Барыса Стральцова назвала «легендай беларускай журналістыкі». Прачытаўшы гэты радок ён, доктар філалагічных навук, як прызнаецца сам, толькі шчыра пасмяяўся, бо ніякай пахвалы і залішніх азначэнняў у свой адрас не прымаў. Тут, відавочна, спрацоўваў практычны вопыт старога газетчыка, ды не дзе-небудзь, а ў самой «Звяздзе» набыты! Няхай шаноўны мэтр гаварыў пра сябе мала, або замоўчваў зусім свае заслугі ў развіцці аналітычных жанраў публіцыстыкі — таго ж нарыса, артыкула, фельетона, рэцэнзіі, урэшце, аднак настаўнікам беларускіх журналістаў ён быў выдатным. Няма ў Беларусі ні вялікай, ні малой газеты, дзе б ні працавалі выпускнікі журфака, і сярод іх наўрад ці сустрэнеш рыцара пяра, хто б дахітрыўся нейкім чынам «праскочыць» паўз кафедру тэорыі і практыкі журналістыкі, якою загадваў спрактыкаваны і дужа дасведчаны ў газетным рамястве журналіст і пісьменнік Барыс Стральцоў. Шчаслівы той настаўнік, хто мог бы пры неабходнасці склікаць пад сваё крыло адначасова сотні ўдзячных вучняў, і гэта толькі ў Беларусі, бо на журфаку БДУ вучыліся юнакі і дзяўчаты з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, ужо не кажучы пра афрыканскіх студэнтаў.

Жыццёвы і творчы шлях Барыса Стральцова даволі сцісла і лаканічна пазначаны ў даведачным выданні «Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта». Нагадаем толькі тыя даты і падзеі, што тычацца непасрэдна літаратурнай і навуковай творчасці. Вучыўся на філалагічным факультэце ўніверсітэта, сумяшчаючы вучобу з працай у рэдакцыях газет — «Чырвонай змены», «Звязды», яшчэ раней — у бабруйскай абласной газеце «Савецкая Радзіма». З верасня 1969 года — на факультэце журналістыкі БДУ. Апублікаваў сотні публіцыстычных і мастацка-публіцыстычных твораў, шмат навуковых артыкулаў і брашур. Аўтар чатырох сцэнарыяў дакументальных фільмаў і пяці мастацка-публіцыстычных альбомаў, прысвечаных Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры рэспублікі, лаўрэат прэміі Міжнароднай канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў, а таксама лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў намінацыі «Журналістыка».

Колькі іх было, творчых узлётаў і азарэнняў, бяссоных начэй, роздуму, пакутлівых перажыванняў, і не толькі за свае справы — ён хваляваўся і перажываў за кожнага журналіста, за кожнага свайго студэнта, які падаваў добрыя надзеі. Як бы там ні было, жыхары Быхаўскага раёна ганарацца сваім славутым земляком, аддаючы належнае яго таленту і простай чалавечай натуры. Тут, у вёсцы Хутар, зусім блізка каля Быхава, ён нарадзіўся 1 сакавіка 1926 года ў сялянскай сям'і. Бацькі працавалі ў калгасе. Час быў трывожны, перадваенны. У 1941 годзе юнак паспеў закончыць толькі восем класаў Чавускай сярэдняй школы, потым ажно шэсць гадоў, лепшы свой узрост, правёў каля артылерыйскага лафета, прычым у далёкім замежжы. Дзясяты клас вячэрняй школы заканчваў у Бабруйску, пасля дэмабілізацыі. Аднак родныя мясціны ніколі не забываў, хаця ў свой час уздоўж і ўпоперак скалясіў усю пасляваенную Еўропу.

Невыпадкова на пытанне газеты «Советская Беларусь», ці добра помніць сваю радаслоўную, Барыс Васільевіч адказаў шчыра, з павагай да землякоў: «Карані па бацькоўскай лініі ў Быхаўскім раёне, па матчынай — у Слаўгарадскім. Помню дзеда Азара, дзеда Паўла і бабулю Вольгу. Не дваране, не шляхта, а моцныя сяляне. Дзед Азар раптоўна памёр на ворыўным полі — у баразне. Ад яго перадалася мне ўстойлівасць, павага да зямлі».

У тым жа інтэрв'ю, дадзеным напярэдадні свайго 80-годдзя, Барыс Васільевіч з прафесарскай годнасцю і пачуццём выкананага абавязку прызнаў неабвержны факт, што сярод прафесійных журналістаў Беларусі шмат яго вучняў, і ён іх помніць, не забывае, у сваю чаргу прафесійныя газетчыкі свайго загадчыка кафедры тэорыі і практыкі журналістыкі ведаюць як аблупленага. У гэтым выпадку, можна лічыць, мне пашанцавала больш чым каму, таму што з шаноўным Барысам Васільевічам, дзякуючы выпадковасці, я пазнаёміўся, калі ён яшчэ загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва газеты «Звязда», а стасункі з навукай былі толькі тыя, што на яго пісьмовым стале, акрамя рукапісаў апавяданняў і нарысаў, ляжала ўсяго некалькі старонак пачатай употай кандыдацкай дысертацыі на тэму «Газета і мараль».

Наша шчаслівае знаёмства адбылося напрадлецці 1965 года у г. Ляхавічы, дзе пасля заканчэння сярэдняй школы я ўжо некалькі месяцаў працаваў карэспандэнтам раённай газеты і, трэба сказаць, з дзяцінства меў звычку чытаць усё захап, што патрапіцца пад руку — у газетах, часопісах, кнігах. Таму і знакамітых імёнаў памятаў шмат. Увогуле на той час сярод маладых і таленавітых беларускіх творцаў маёй увагай завалодалі два Стральцовы — Міхась і Барыс. Рэгулярна чытаючы іх творы, зазвычай апавяданні, а то і нарысы, для сябе я, каб не блытаць іх аўтараў, прыдумаў адрозненне: надрукаваўся Стральцоў з «Маладосці» — гэта Міхась, выступіў у друку Стральцоў са «Звязды» — гэта Барыс.

Не магу сказаць, ці ведалі пісьменнікі адзін аднаго, але на пачатку творчага шляху таленавітых цёзак, несумненна, блыталі многія чытачы. Фотаздымкі ўсё ж не даюць поўнага ўяўлення пра чалавека. А тут — нечуваная ўдача! Сяджу за сталом, перапісваю нейкі свой нарысок пра верасок, не забываю раз-пораз кідаць позірк на гарадскі пляц, дзе табунамі гойсаюць дзяўчаты з веттэхнікума. На пляцы перад вокнамі рэдакцыі спыняецца запыленая «Волга», з яе выходзіць чорнавалосы, высокі мужчына ў шэрым касцюме, белай кашулі і пад гальштукам. О Божа, няўжо сам Барыс Стральцоў са «Звязды» завітаў? Акурат такім — інтэлігентным і прыгожым — я запомніў яго па фотаздымках у друку. Але тут, у прадаўгаватым, як абора, адміністрацыйным будынку, розных устаноў безліч: рэдакцыя, райкам, гарсавет, камсамол — куды Стральцоў пойдзе? Праз нейкую хвіліну пасыльны Ісак Бяркові ч запрашае мяне і майго сябра, таксама маладога газетчыка, Аляксея Петуха, у кабінет рэдактара. Заходзім. Наш шаноўны госць тут — сядзіць на рыжай скураной канапе. Шчыра, лагодна ўсміхаецца нам, як старым знаёмым, падае кожнаму руку і, назваўшы сябе, зноў садзіцца, відаць, чакае нейкага рашэння.

— Барыс Васільевіч са «Звязды» едзе па справах у тваё Падлессе,— наш рэдактар Віцэнцій Шталь, павярнуўшыся тварам да Аляксея, тлумачыць, што яму трэба рабіць.— Садзіся ў машыну — будзеш паказваць дарогу.— У гэты момант старэйшы «раёншчык» Ісак Бяркові ч загаварыў шаноўнага госця, і ўжо цішэй, каб Стральцоў не чуў, Вікенцій Шталь дадаў Аляксею Петуху і сваю рэдактарскую мараль: — Правядзеш «звяздоўцаў» да калгаснай фермы, ды не ўцякай дахаты адразу — пастой, паглядзі, павучыся, як трэба ў людзей браць інтэрв'ю, а то апошнім часам выдаеш «на-гара» сена — боб — салому.

Справа даўняя, аднак я добра памятаю, як мне хацелася сесці ў «Волгу» замест сябра Аляксея і паказваць Барысу Стральцову дарогу на Вялікае Падлессе, увогуле знакамітую, песенную вёску. Праўда, я і сам яшчэ кепска ведаў, дзе

тое славутае Падлессе — усяго ж некалькі месяцаў працую ў рэдакцыі. Вядома, шкада, што не мяне выбралі ў якасці праваднікa, бо, мяркую, у дарозе была б добрая нагода распытаць у паважанага журналіста пра многія грані літаратурнага майстэрства, якое мяне тады дужа цікавіла. Незадоўга ж перад тым, здаецца, акурат у дзясятым класе мне патрапіла ў рукі кніга мастацкіх нарысаў Барыса Стральцова «Дружная рунь» (у суаўтарстве з Э. Чэчкам), я яе прачытаў узахлёб і быў рады, што ёсць у каго павучыцца. Дарэчы, большасць нарысаў з гэтага зборніка яшчэ раней друкавалася ў газетах «Чырвоная змена», «Звязда», «Калгасная праўда», часопісах «Беларусь», «Маладосць», «Полымя». Так што, сабраныя пад адной зелянцовай вокладкай, я іх пазней толькі перачытваў. Час быў шумны, хрушчоўскі, але па-свойму гераічны і мужны: краіна залечвала раны вайны, апраналася ў рыштаванні, хоць без памылак і перагібаў не абыходзілася. Тэмы публіцыстыкі вядучага журналіста «Звязды» вельмі надзённыя і актуальныя — у адпаведнасці з эпохай і патрабаваннямі таго суровага часу. Да прыкладу, у кнізе «Дружная рунь» ёсць творы пра знакамітую кукурузу, пра пачатак меліярацыі на Палессі, пра вогненнае юнацтва нашых бацькоў. Не лішнім будзе заўважыць такую дэталь. Усе нарысы Барыса Стральцова лёгка запамінаюцца, бо напісаны цудоўнай беларускай мовай, маюць стройную кампазіцыю, і героі ў іх — жывыя, не хадульныя.

На той момант, калі я пазнаёміўся з таленавітым творцам, Барыс Васільевіч меў яшчэ адну празаічную кнігу, на гэты раз зборнік апавяданняў «Наследнік». Забылася, якім чынам кніга трапіла да мяне — ці то прыйшла ў клуб па бібкалектары, ці купіў на пошце, але добра памятаю, што, зачараваны гучаннем роднага слова, чытаў яе гарачым летнім днём, схаваўшыся пад плотам у цень ад куста бэзу, і не думаў, што міне ўсяго два гады, і я вось так, зусім блізка, буду бачыць і чуць аўтара цудоўных апавяданняў. Навуковец Любоў Гарэлік пазней пра гэтую і іншыя кнігі творцы напіша дакладна і ёмка: «Зямля і людзі калгаснай вёскі, іх паўсядзённы клопат, справы нашай моладзі, яе ўдзел у грамадскім жыцці краіны, пошукі сваіх жыццёвых шляхоў, складаныя ўзаемаадносіны маладых людзей, будні вясковай інтэлігенцыі, гераічныя старонкі народнай памяці — такі галоўны змест мастацкай прозы Б. Стральцова, які ўмее аб усім расказаць шчыра, проста, натуральна».

У той самы дзень, калі на белай «Волзе» паехаць у Падлессе з Барысам Васільевічам мне не выпала, я сядзеў за рэдакцыйным сталом без настрою, зажураны, што ўпусціў жывога класіка, нарысок пра верасок у мяне чамусьці не атрымліваўся, і я, па свежай памяці згадваючы стральцоўскую прозу, суцяшаўся спадзяваннем на будучыя сустрэчы з пісьменнікам, якога шчыра паважаў і шмат у чым браў сабе ў прыклад. Ён і праўда, гадоў праз пяць, цяпер ужо ў якасці выкладчыка ўніверсітэта, разоў колькі наведваўся і ў Ляхавічы, і ў Ганцавічы, і ў многія іншыя бліжэйшыя райцэнтры,— інспектаваў студэнтаў журфака, якія звычайна праходзілі вытворчую практыку ў лепшых раённых газетах. Добра ведаю, што Барыс Васільевіч шчыра, па-чалавечы сябраваў з маім другім рэдактарам, выдатным нарысістам Васілём Праскуравым. Яны былі аднагодкамі, разам пайшлі ў армію, аднак на фронт не патрапілі, потым не менш як па шэсць гадоў служылі ў вызваленай ад фашызму Еўропе, там жа, бадай, адначасова ўпадабалі і журналісцкую працу. Абодва пачыналі з нарысаў і эсэ. Мяркую, што пры сустрэчы калегам-равеснікам было пра што паразмаўляць. Дарэчы, у час, калі разгортваліся гэтыя, здаецца, малазначныя падзеі, мы з Васілём Фёдаравічам працавалі ў Ляхавічах і я даволі свежа помню, што Стральцоў дужа засмуціўся, не заставўшы сябра ў рэдакцыі. Хутчэй за ўсё белую «Волгу» ў Падлессе павёў бы сам Праскураў, а не Аляксей Пятух. «Хаця Аляксею таксама патрэбна,— думаў я, перажываючы сваю няўдачу.— Ён студэнт чацвёртага ці пятага курса журфака, дык няхай і паглядзіць, як сапраўдныя журналісты

бяруць інтэрв'ю». На здзіўленне, карэнны жыхар Падлесся, навігатар паняволі, назаўтра з'явіўся ў рэдакцыі як быццам вінаваты, незадаволены, і калі Вікенцій Шталь папытаў, ці дастаткова добра ён выканаў яго, рэдактарскае, даручэнне, Аляксей збянтэжана патлумачыў:

— А як жа — выканаў! Завёў у Падлессе, паказаў ферму. Але «звяздоўцы» з машыны нават не вылезлі. Нешта пагаварылі паміж сабой, памеркавалі і паехалі сваёй дарогай. А ніякага інтэрв'ю ў жывёлаводаў і не думалі браць.

Пройдзе многа гадоў, Барыс Васільевіч, не пакідаючы творчага супрацоўніцтва з газетай «Звязда», а да гэтага ён загадваў аддзелам і ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», зусім нечакана нават для сяброў, абараніў званне кандыдата гістарычных навук і пачаў працаваць старшым выкладчыкам журфака БДУ. Аднаго разу, а было гэта ўжо ў хваласпеўныя сямідзясятыя, я патрапіў на кафедру тэорыі і практыкі журналістыкі, зрабіў там свае тэрміновыя справы і, убачыўшы, што Барыс Стральцоў сядзіць за сталом у выдатным настроі, нагадаў яму пра тую, першую, сустрэчу ў Ляхавічах, напомніў пра паездку «звяздоўцаў» у Падлессе і прыгоду з Аляксеем Петухом, увогуле вельмі здольным газетчыкам, якому так і не ўдалося павучыцца ў мэтраў журналістыкі браць паўнакроўнае інтэрв'ю. Барыс Васільевіч адразу ўспомніў гэты вясёлы выпадак, шчыра пасмяяўся і патлумачыў, чаму «звяздоўцы» тады не затрымаліся ў Падлессі:

— Дык мы з калегам ехалі ў Салігорск, пісаць пра беларускіх шахцёраў — модная была тэма, а ў «Звяздзе» ўжо ляжаў падрыхтаваны да друку матэрыял з Падлесся, і нам толькі адным вокам трэба было зірнуць на дыхтоўныя калгасныя фермы, так сказаць, для антуражу.

Многія журналісты, у тым ліку і я, хто добра ведаў Барыса Стральцова і вучыўся на яго злабадзённай публіцыстыцы, усё ж шкадавалі, што наш газетны кумір і настаўнік пакінуў «Звязду» і перайшоў на выкладчыцкую працу. Але і на ніве навукі ён заявіў сябе ўпэўнена, творча і за кароткі час стаў вядучым тэарэтыкам журналісцкай справы ў краіне. Як іншыя, не перабягаў з пасады на пасаду, па макулінцы, па зярнятку стварыў сваю школу выкладання. З верасня 1969 года — старшы выкладчык, з лістапада — загадчык кафедры тэорыі і практыкі журналістыкі, адначасова намеснік рэдактара часопіса «Веснік БДУ» (серыя «Філасофія. Журналістыка»). Пасля кандыдацкай дысертацыі неўзабаве абараніў і доктарскую — «Праблемы мадыфікацыі функцый і прадмета публіцыстыкі ў газетных жанрах». Ён аўтар манаграфій: «Публіцыстычнасць інфармацыйных жанраў», «Аналітычныя жанры», «Публіцыстыка. Жанры. Майстэрства», «Дзесятая пяцігодка ў беларускім нарысе», «Фельетон: тэорыя і практыка жанру», «Теория и практика периодической печати», «Асновы літаратурна-мастацкай творчасці», «Асноўныя творчыя метады ў журналістыцы», «Метад і жанр»; прац у суаўтарстве: «За газетным радком», «Друк і праблемы навукова-тэхнічнага прагрэсу», «Праблематыка газетных выступленняў» (дзве часткі), «Эфектыўнасць партыйнай публіцыстыкі», «У сугуччы з часам». Усе яны, акрамя апошняй, выходзілі пад рэдакцыяй Б. Стральцова.

Даследуючы жанры сучаснай публіцыстыкі, прафесар-практык сам напісаў сотні нарысаў, фельетонаў, рэпартажаў, дзясяткі навуковых артыкулаў. Адным словам, у Беларусі была створана своеасаблівая школа журналістыкі, адрозная ад іншых, навуковыя працы Барыса Стральцова выкарыстоўваліся на адпаведных факультэтах Маскоўскага, Кіеўскага, Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэтаў, былі шырока вядомыя за мяжой. Дарэчы, яго манаграфія «Беларусь» выдадзена ЮНЕСКА на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай мовах.

Як бачна, адзін толькі пералік вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў, што выйшлі з-пад вострага пяра Барыса Васільевіча, выклікае захапленне, ды і не ўсё

яшчэ, напісанае доктарам філалагічных навук, увайшло ў гэты адметны шэраг. На ўласным вопыце, з улікам практычных дасягненняў лепшых журналістаў рэспублікі ён распрацаваў тэорыю інфармацыйных і аналітычных жанраў, абгрунтаваў асноўныя творчыя метады ў беларускай журналістыцы. Вучоным усебакова разгледжаны магчымасці газетнага артыкула, фельетона, рэцэнзіі, асаблівую ўвагу ён надаваў распрацоўцы тэорыі ўсіх разнавіднасцей нарыса, можа, нават і таму, што і сам, асабліва ў маладыя гады, быў выдатным нарысістам. У час вучобы на факультэце журналістыкі мы, студэнты-завочнікі, здаецца, добра ведалі цікавыя і карысныя навуковыя працы Барыса Васільевіча, у першую чаргу тыя, што тычацца тэорыі газетных жанраў, але асабіста для сябе я вылучаў і вылучаю цяпер надзвычай актуальную і доказную манаграфію вучонага «Публіцыстыка. Жанры. Майстэрства».

Пад яе ўплывам я браў сабе творчую дыпломную: пісаў серыю партрэтных нарысаў і рыхтаваў патрэбныя тэарэтычныя выкладкі, гэтую таленавітую кнігу раз-пораз вымаю са сховаў і сягоння, калі трэба нешта пераправерыць ці параіцца з аўтарытэтнай думкай шаноўнага Барыса Васільевіча. Урэшце, ён быў цудоўным выкладчыкам, і студэнты яго любілі. Кожнага ён ведаў у твар, на лекцыях і семінарскіх занятках шмат увагі ўдзяляў кампазіцыі, стылю, мове. «Хіба ж так гавораць калгаснікі? “З вясны пачалі змагацца за добры ўраджай збожжа?”», — злаваўся прафесар, аналізуючы той ці іншы газетны матэрыял. Ён мог дараваць студэнту слабое веданне зместу і сэнсу вызначальнага тады артыкула «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура», калі студэнт напіша талковую карэспандэнцыю ці замалёўку. Ужо з першых абзацаў прафесар бачыў іскрынкі таленту і ўсяляк заахвочваў такіх пачаткоўцаў. Праз кафедру тэорыі і практыкі журналістыкі, як ужо гаварылася, прайшлі сотні газетчыкаў, і, безумоўна, у кожнага з іх вымалёўваўся свой вобраз любімага выкладчыка, пры неабходнасці кожны яго былы вучань назаве свае прыклады, цытаты, дэталі, якія толькі найлепшым чынам характарызуюць доктара філалагічных навук Стральцова. Да месца нагадаць, што ён шмат гадоў з’яўляўся старшынёй камісіі Саюза журналістаў па прафесійнай этыцы, прысуджэнні прэмій «Залатое пяро». Лаўрэатамі станавіліся, як правіла, аўтары цікавых і змястоўных, надзённых і праблемных публікацый. Халтура не праходзіла, хто б яе ні рэкамендаваў. Сумленнасць — была яго галоўная рыса.

Лагічна абгрунтоўваючы тэарэтычныя прадумовы публіцыстычных жанраў, Барыс Стральцоў як тонкі і ўдумлівы даследчык не паўтарае збітае выказванне, што, напрыклад, нарыс нібыта з’яўляецца ніжэйшай формай ці ўвогуле нейкай разнавіднасцю мастацкага апавядання — нарысу даследчык адводзіць яго адметнае і законнае месца ў іерархіі жанраў. Каштоўная думка пра асноўную тэндэнцыю ў сельскай нарысавай літаратуры — імкненне да паслядоўнага раскрыцця канцэпцыі чалавека, стварэння сацыяльнага партрэта жыхара сучаснай вёскі. Сярод нарысістаў вясковай тэмы адным з першых Барыс Васільевіч справядліва лічыў Васіля Праскурава, слыннага пісьменніка і журналіста з Ганцавіч. Паводле меркавання вучонага, гэта нарысіст уласнай, жыццём абумоўленай і жыццём падказанай тэмы. Кожны яго нарыс — нібыта асобны інструмент аднаго аркестра. У кожнага інструмента свой голас, свой тэмбр, а разам яны зліваюцца ў адну задуменную сімфонію народнага жыцця.

Разглядаючы здабыткі нарысавага жанру за апошні час, так пісаў доктар філалогіі ў артыкуле «Палескі вітраж», надрукаваным у зборніку «Сучаснік-80». І далей — змястоўна і ёміста: «… сацыяльная скіраванасць такіх нарысаў, як «Хата пад вольхамі», «Дзве сястры», «Сярод людзей сваіх», «Сонца ў вокнах», «У нічыйным лесе», дапаўняецца выразнымі этнаграфічнымі фарбамі. Перад намі — сённяшні паляшук ва ўвесь рост. Калектывіст, патрыёт, актыўны будаўнік новага жыцця, ён у поўнай меры захаваў свае самабытныя рысы, мане-

ру паводзін, маўлення, своеасаблівы этыкет. Усё гэта зафіксавана нарысістам вельмі тонка, тактоўна, свежа, эмацыянальна. Чытаеш — і перад табой разгортваецца панарама сучаснага Палесся з яго цудоўнымі людзьмі і выдатнымі пераўтварэннямі. І ты разам з аўтарам пранікаешся любоўю да гэтага кутка беларускай зямлі».

Да творчасці Васіля Праскурава тэарэтык беларускай журналістыкі Барыс Стральцоў, трэба сказаць, звяртаўся не адзін раз. Так, у прадмове, уключанай у кнігу з выразнай назвай «Чорны хлеб», высока цэнячы майстэрства пісьменніка, даследчык слушна заўважае, што яго новыя нарысы працягваюць тую лінію, якая намецілася ў раней апублікаваных творах «Хата пад вольхамі», «Незабыты выпадак». На асаблівым рахунку ў аўтара прадмовы — нарысы «Рута-мята» і «Бярозавы сок». Гэта новы ўзровень нарысіста, іншым разам цяжка бывае размежаваць творцу і чалавека, пра якога ён піша, — вось гэта, памножанае на спакойную, не стракатую палітру выяўленчых сродкаў, і абуджае ў чытача пачуццё даверлівасці, зацікаўленага суперажывання. Зноў жа, публіцыстычныя творы пісьменніка-дакументаліста прываблівают вострым жыццёвым матэрыялам і прадуманай мастацка-публіцыстычнай формай яго падачы.

«Героі нарыса «Рута-мята» ў пераважнай большасці таксама сумленныя працаўнікі. А як жа: працай жыве чалавек, адносінамі да працы ў грамадзе найперш і вымяраецца годнасць асобы. Але рознымі бываюць матывы гэтых адносін: адным кіруе ўласнае сумленне і адказнасць перад людзьмі, другім — нявыкрутка, складанасць жыццёвых абставін, трэцім — прага нажывы, сквапнасць. Што ні чалавек — то і свой характар. От В. Праскураў і імкнецца спазнаваць чалавечыя характары, паказвае людзей у сутыкненнях, у адвечнай спрэчцы паміж дабром і злом — малым і вялікім, на перакрыжаваннях маральнага выбару. Светлыя радасці, душэўныя зрухі, пякучыя крыўды і цяжкія пакуты, абуджаныя і выкліканыя каханнем, таксама не абыходзіць аўтар «Руты-мяты». А можа нават і больш таго: пераважна ў перыпетыях маладога кахання знаходзіць вытокі і ўчынкаў, і ўвогуле характараў,— піша прафесар Стральцоў, глыбока пранікаючы ў тэкст, і хоць на некалькі імгненняў запрашае чытача ў творчую лабараторыю нарысіста.— В. Праскураў, сустрэўшы нечым адметнага чалавека, не адразу кладзе на свой рабочы стол аркуш чыстай паперы. Не, ён паходзіць вакол героя свайго будучага нарыса калі год, калі два, а іншым разам і куды даўжэй. Прымерыцца з усіх бакоў і ў розных абставінах. Аж пакуль не раскрыецца перад ім душэўная прыгажосць чалавека. Вельмі выразна гэта відно ў нарысе «Бярозавы сок».

Акурат у прадмове «Палескія далягляды» да зборніка нарысаў «Чорны хлеб», што пабачыў свет у 1984 годзе, Барыс Стральцоў даў разгорнуты і глыбокі аналіз усёй творчасці вядомага нарысіста, шчыра радуючыся ўдачам аўтара, а ўжо літаральна праз два гады чарговая кніга Васіля Праскурава «Пакланіся зямлі-карміцельцы», ды заадно і ўся яго шматгадовая творчая праца была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя П. Лепяшынскага. Можна смела сцвярджаць, што рэцэнзіі і аналітычныя артыкулы доктара філалогіі, калі-небудзь напісаныя ім, з іх бліскучымі функцыянальнымі тэарэтычнымі вывадамі і выкладкамі былі сапраўдным узорам крытычнай думкі. Невыпадкова яшчэ па газетах «Звязда», «Чырвоная змена» і іншых выданнях мне помняцца рэцэнзіі і разгорнутыя водгукі Барыса Стральцова на кнігі выдатных беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў, у прыватнасці, І. Навуменкі, П. Ткачова, А. Кудраўца, П. Місько, М. Цікоцкага, В. Віткі, але гэта якраз той выпадак, калі рэцэнзіям аднаго даследчыка няма ліку, і, несумненна, іменна яны падсілкоўвалі яго навуковыя працы.

У той жа час ён не забываў пісаць і арыгінальную прозу. Першае апавяданне «Імянны матацыкл» надрукавана ў часопісе «Полымя». Затым самабытнаму

празаіку адкрылі свае старонкі, лічы, усе беларускія выданні, як часопісы, так і вядучыя газеты. Выдаў зборнікі апавяданняў «Наследнік» (1963), «Сыходзяцца бальшакі і прасёлкі» (1969), «Чарадзейны туман» (2000), аповесці «Вячэрняя планета» (1975), «Метраном памяці» (1985), раман «Між крутых берагоў» (1980). Пісаць празаічныя творы Барыс Стральцоў пачынаў у так званую «хрушчоўскую» адлігу, і, безумоўна, гэтая акалічнасць зрабіла свой уплыў на фарміраванне вольналюбівага светапогляду аўтара, рашучае непрыманне ім усялякай хлусні, хімераў жыцця. Ёсць у Барыса Стральцова знакавая аповесць «Метраном памяці» — увогуле пра той цяжкі час, пра сяброў, якія загінулі, пра героіку і жахі першых дзён вайны. Асобным выданнем аповесць выйшла ў 1985 годзе, але, на жаль, у скалечаным выглядзе, з купюрамі. Аўтара прымусілі зняць з кнігі самыя трагічныя моманты, і аднойчы пры сустрэчы ён, прафесар, доктар філалагічных навук і ў цэлым вельмі светлы чалавек, паскардзіўся мне і на выдавецтва, і на занадта прыдзірлівага рэдактара.

Вучоны з вядомам у Еўропе імем, выказваючы сваё абурэнне, канечне, суцяшэння не прасіў, сам усё разумеў — быў скрутны час, нелады ў кіруючых вярхах, тым больш, і ў навуцы, і ў газетнай справе, і, уласна, у прозе Стральцоў меў добры плён і багаты набытак. Сферы свайго прафесійнага інтарэсу ён, здаецца, дакладна раздзяляў, таму што на пытанне «Советской Беларуси», ці ёсць у яго любімы занятак, акрамя журналістыкі, упэўнена адказаў: «Пішу апавяданні, навелы. Зацяты грыбнік». Барыс Васільевіч наогул лічыў, што ў ім патух талент лесавода, бо да самазабыцця любіў лес. Родная прырода для яго была сапраўднай казкай: птушыны шчэбет, залацістыя світанкі, чароўны туман над лугам, пеўні ў суседняй вёсцы, конскае ржанне. У грыбах і на рыбалцы з нашым любімым выкладчыкам разоў колькі бываў мой сябра і таксама вучань Барыса Стральцова, цяпер вядомы журналіст Уладзімір Бацкалевіч — у шасцідзясятыя гады мы разам пачыналі ў ляхавіцкай раённай газеце, ён, дарэчы, і родам з лясной палескай вёскі Залужжа.

— Па абавязку загадчыка кафедры Барыса Стральцова дужа рупіла, чаму вучаць і як вучаць у раённых газетах студэнтаў-практыкантаў журфака,— апавядае Уладзімір Іванавіч.— Улетку 1974 года ён ехаў з Пінска, цераз Ганцавічы, і патрапіў у Ляхавічы. Знарок агаваруся, што Барыс Васільевіч асабліва заахвочваў выпускнікоў пісаць творчыя дыпломныя, ды яшчэ лепш, калі гэта партрэтны нарыс. У мяне акурат і выспявала такая дыпломная, а наш шаноўны выкладчык, сам выдатны нарысіст, згадзіўся быць яе кіраўніком. Перачытаў усё, што я напісаў, даў практычныя парады. Якраз у тыя дні ў даволі заможным калгасе «Кастрычнік» адкрываўся зарыблены вадаём, вось мы і паехалі ў вёску Федзюкі, дарэчы, у гэтай вёсцы нарадзіўся вядомы рэжысёр Міхаіл Пташук. Быў пагодлівы, без ветру дзень, але рыба не лавілася. Барыс Васільевіч толькі і паспяваў сцягваць з кручка маленькіх карасікаў і кідаць назад у азерца. Мы пасмяяліся, што супраціўляецца ўлову ягоны знак Задыяка, сузор'е Рыбы. Але выйшла ўсё прасцей. Даведаўшыся, што на рыбалку прыедзе паважаны госць, мясцовы вартаўнік вырашыў падсабіць: усю ноч вазіў на лодцы і сыпаў у ваду камбікармы. Зразумела, сытыя, перакормленыя шчупакі і язі з пагардай глядзелі на нашых чарвякоў. А вось грыбнікам Барыс Стральцоў сапраўды быў удачлівым і не меў сабе роўні. Па лясных нетрах мог цэлы дзень хадзіць без стомы і, здаецца, адборныя баравікі і чырвонагаловікі самі скакалі ў яго кош.

У маладым узросце Барыс Васільевіч, як аднойчы прызнаўся сам, не супраць быў паехаць на поўдзень, а ў сталыя гады перавагу аддаваў роднай прыродзе. Лес ён лічыў Боскім храмам, які стымулюе да творчага азарэння, прыносіць супакаенне душы і дае натхненне. У час вандровак на «ціхім паляванні» знаходзіў не толькі процьму грыбоў, але і назіраў вострым зрокам рэдкія з'явы прыроды, жыццё

раслін і звяркоў, матылькоў і мурашак. Потым, седзячы ў адзіноце, пісаў кароткія навелы, або «абразкі» ці «эцюды», як ён называў жанры малой прозы. Шмат пра што могуць сказаць хоць бы назвы гэтых навел, напрыклад, «Бярозчыны агледзіны», «Ласіная аптэка», «Позняя сунічка», «Арэх пры дарозе». Названыя прыклады ўзяты з яго ранняй творчасці, а ў сталасці, усё больш становячыся самотнікам, Барыс Васільевіч абразкі і эцюды аб прыродзе друкаваў пераважна ў «Беларускай ніве». Быў ён аўтарам шматлікіх праблемных і хлёсткіх артыкулаў у абарону роднай прыроды ў газетах «Чырвоная змена», «Звязда», «Советская Беларусь» і некаторых іншых выданнях. Кожнаю вольнай часінай пісьменнік выбіраўся за горад. Неяк мы зусім нечакана сустрэліся на праспекце Пераможцаў, каля аўтобуснага прыпынку. Было бачна — прафесар зноў наважыўся ў вандроўку, бо апрануты ў цяплейшае паходнае адзенне, за плячыма — рукзак.

— Вось еду ў Крыжоўку,— узрадаваўся Барыс Васільевіч са сваёй нязменнай чароўнай усмешкай непапраўнага аптыміста — гэтак, дарэчы, ён радаваўся сустрэчы з кожным сваім вучнем.— Там за чатыры вярсты ад станцыі ў мяне ёсць утульны летні домік, растуць яблынькі. Маёй Надзеі Цімафееўны даўно няма, дык жыву адзін. Буду варыць сабе супчыкі і нешта пісаць патроху.

Яна і сягоння стаіць уваччу, гэтая мая апошняя сустрэча з выдатным настаўнікам, які сумеў паяднаць у сваіх падручніках тэорыю і практыку газетнага рамяства. Для самога ж Барыса Васільевіча журналістыка была не толькі прафесіяй, але і ладам, вобразам жыцця. Ці не дзіва: амаль шэсцьдзясят гадоў працы на прафесійнай аснове. На факультэце дамінуючая роля адводзілася навукова-даследчай лабараторыі, пад кіраўніцтвам прафесара Б. Стральцова яна даследавала тэарэтычныя і прыкладныя праблемы дзейнасці СМІ ў сучасных умовах і прынцыпы фарміравання інфармацыйнай прасторы нацыянальнага тыпу.

Пасля доўгіх гадоў вандраванняў журфак, нарэшце, пасяліўся ў спецыяльна ўзведзеным будынку, дзе і ўзрадзіўся ў новай якасці як Інстытут журналістыкі БДУ. Тут шануюць памяць ветэранаў, а заняткі праводзяцца ў імянных аўдыторыях — Б. Стральцова, Е. Бондаравай, Р. Булацкага. Толькі адзін гэты пералік выдатных імёнаў сведчыць: нацыянальная школа журналістыкі стваралася не на пустым месцы. Што ж тычыцца непасрэдна Барыса Васільевіча Стральцова, то на непахісны аўтарытэт вучонага, безумоўна, працуе ягонае жыццёвае крэда: «Што сягоння аддаеш людзям — у вечнасці будзе тваім».

# СА СПАДЧЫНЫ ІВАНА БАРЫЧЭЎСКАГА

## Сын барысаўскай зямлі

*У 2010 годзе споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка, археографа, этнографа і фалькларыста Івана Барычэўскага (Тарнавы-Барычэўскага). Што ведае пра гэтага чалавека сучасны беларус? Бадай, нічога. Кароткія звесткі аб ім ёсць у дарэвалюцыйным «Рускім біяграфічным слоўніку» і «Крытыка-біяграфічным слоўніку» С. А. Вянгерава і энцыклапедыі Бракгаўза і Ефрона. Гэтыя ж звесткі без усялякіх змяненняў і ўдакладненняў потым перадрукоўвалі савецкія і беларускія энцыклапедычныя выданні. Горш за тое, у апошніх расійскіх энцыклапедыях Барычэўскага пачалі называць «рускім гісторыкам». Дык хто ж ён такі — Іван Пятровіч Барычэўскі? Чаму мы не ведаем ні даты, ні месяца яго нараджэння? Чаму пасля смерці ніводны(!) ягоны твор не выдаваўся?*

*Прозвішча Барычэўскага сустрэлася мне некалькі гадоў назад, калі я даследаваў матэрыялы, звязаныя з беларусамі, якія ў 40-я гады XIX стагоддзя гуртаваліся вакол санкт-пецярбургскага часопіса «Маяк». Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што менавіта Барычэўскі быў галоўным ідэолагам і арганізатарам санкт-пецярбургскага гуртка беларусаў — аматараў літаратуры і фальклору, якія, у адрозненне ад тых сваіх землякоў, якія групаваліся вакол «Незабудкі» Баршчэўскага і пісалі на польскай мове, карысталіся кірыліцай. Вось іх імёны: Іван Грыгаровіч, Фёдар Шымкевіч, Павел Шпілеўскі, Д. Ф. Пацукевіч. Сувязуючым ланцугом паміж «Незабудкай» і «Маяком» быў няўрымслівы Рамуальд Падбярэскі.*

*Генадзь Кісялёў, у якога я кансультаваўся па найбольш важных для сябе пытаннях гістарычнага літаратуразнаўства, параіў: «Займіся асобай Барычэўскага — будзеш першаадкрывальнікам». Я паслухаўся нашага выдатнага даследчыка. Пачалася праца ў бібліятэках і ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Архіўныя фонды Мінскай духоўнай праваслаўнай кансісторыі захаваліся добра, таму ўжо напачатку працы ў справе «О соборных и крестовых протоиреях» за 1820 год (ф. 136, воп. 1, спр. 5636) я знайшоў звесткі пра бацьку Івана Пятровіча: «Минского кафедрального духовного Петропавловского собора протоиерей Петр Тарнава-Боричевский, 42 года, из дворян, присоединенного от Польши к России края, сын священника, обучался в Киевской Академии латинскому и польскому языку, богословию. Рукоположен в священники 16 октября 1806 года. 13 августа 1808 года произведен в протопопы, способен». Патлумачу сучаснаму чытачу, што пратапоп або старэйшы поп — гэта протаіерэй, наступная пасля простага святара прыступка ў духоўнай кар’еры. Вядома, што да Мінска Пётр Барычэўскі працаваў у Барысаўскай Саборнай Уваскрэсенскай царкве, і ў яго ёсць пэўныя заслугі перад горадам Барысавам, бо 25 жніўня 1816 года ён напісаў прашэнне ў кансісторыю аб выдзяленні грошай на будаўніцтва новага храма, бо старая саборная царква была разбурана войскамі Напалеона. Было выдзелена 10 тысяч асігнацыямі (ф. 156, воп. 1,спр. 4059), на якія царква была адбудавана.*

*Але звесткі пра дзяцей Пятра Барычэўскага не трапляліся. У фондзе 136 за 1818 год (воп. 1, спр. 4517) ёсць справа, што ўтрымлівае ліставанне паміж*

*Мінскім дваранскім дэпутацкім сходам і Слуцкім духоўным праўленнем аб прадстаўленні ў дэпутацкі сход выпісак з метрычных кніг аб паходжанні прозвішча Барычэўскіх. Пэўна, яны хацелі пацвердзіць сваё дваранскае паходжанне. 21 лютага 1818 года сведчанні з метрычных кніг аб прозвішчы Барычэўскіх, сярод якіх і Іван Пятровіч Барычэўскі, былі адасланы са Слуцка ў Мінскае дваранскае сабранне.*

*Добра, я таксама пагляджу метрычную кнігу аб народжаных па горадзе Слуцку за 1810 год. Але мяне чакала расчараванне: метрычныя кнігі за гэты перыяд не захаваліся. Паспрабаваў звярнуцца да архіваў Мінскага дэпутацкага сходу, дзе ў справах за 1818 год павінны захавацца выпіскі з метрычных кніг аб прозвішчы Барычэўскіх, дасланых туды са Слуцка. Зноў няўдача — кніга пратаколаў за 1818 год не збераглася. Другі том «Гербоўніка беларускай шляхты» (Мінск, НАРБ, 2007) на літару «Б» таксама не ўтрымлівае звестак пра Івана Пятровіча Барычэўскага 1810 года нараджэння.*

*Здавалася б, усё, амаль год пошукаў зайшоў у тупік. Заставалася кволая надзея на горад Барысаў. І, нарэшце, мне пашчасціла! Вось што я знайшоў у метрычнай кнізе аб народжаных па Барысаўскай Сабornай Уваскрэсенскай царкве за 1810 год (ф. 136, воп. 13, спр. 63, л. 6):*

| Номер | Число рождения | У кого кто родился | Число крещения | Восприемники |
|---|---|---|---|---|
| 30 | Октября 19 | Борисовской Соборной Воскресенской церкви протоиерея Петра Боричевского и его первобрачной жены Синклитикии Лазоревны родился сын Иван, который обмолитвован и крещен Лошницким благочинным священником Михаилом Самборским. При отправлении сей требы был диакон Стефан Лисовский. | | Борисовский Г. Городничий Андрей Кирилов Шаталов — коллежский асесор Поветового стряпчего титулярного советника Сильвестра Насовича жена Марья Павловна. Православного исповедания |

*Але, вядома, тады каляндар быў юліянскі, таму, каб трапіць у сучасны грыгарыянскі трэба прыбавіць 13 дзён. Атрымліваецца, што беларускі пісьменнік, гісторык і этнограф Іван Пятровіч Барычэўскі нарадзіўся 1 лістапада 1810 года ў горадзе Барысаве. Закрыта яшчэ адна белая пляма нашай культурнай гісторыі.*

*Колькі слоў аб родзе Барычэўскіх. Дарэчы, тое, што хросным бацькам будучага гісторыка быў галоўны барысаўскі гараднічы Андрэй Кірылавіч Шаталаў, сведчыць, што протаіерэй Пётр Барычэўскі з'яўляўся адметнай асобай у барысаўскім грамадстве. Барычэўскія, Тарнава-Барычэўскія паходзілі з Пінскага павета, валодалі маёнткам Барычэвічы, ужывалі гербавы прыдомак Тарнава. Першае калена вядома з сярэдзіны XVI стагоддзя. Барычэўскія былі прызнаны ў дваранстве пастановай Дэпутацкага Дваранскага сходу ад 22.11. 1802 года (6-я частка), але ўказам сената не зацверджаны (23.01.1838).*

*Як жа складваўся лёс Івана Пятровіча? Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі, пасля заканчэння якой у ліку лепшых выпускнікоў паступіў у Кіеўскую духоўную акадэміі. У спісе выпускнікоў яе за 1833 год першым сярод старэйшых кандыдатаў багаслоўя стаіць прозвішча студэнта VI курса Івана Барычэўскага. З 1833 па 1835 гады ён працаваў выкладчыкам славеснасці ў Арлоўскай семінарыі; потым, пакінуўшы духоўную кар'еру, служыў у дэпартаменце шляхоў зносін і публічных будынкаў, у дэпартаменце дзяржаўных маёмасцей і ў інспектарскім дэпартаменце ваеннага міністэрства.*

*У 1841 годзе Барычэўскі зноў паступіў у галоўнае ўпраўленне шляхоў зносін і займаў там пасады чыноўніка асобых даручэнняў, дырэктара канцылярыі Міністэрства шляхоў зносін і ў 1870-х гадах — члена рады таго ж міністэрства. Пагадзіцеся, службовая кар'ера дастойная павагі, бо ў «Табели о рангах» ён займаў вельмі высокую трэцюю прыступку — чын тайнага саветніка, што адпавядае званню генерал-лейтэнанта або віцэ-адмірала.*

*Але кар'ера кар'ерай, а душа — душой. Для яе сілкавання патрабуецца творчасць. Таму ў 1837 годзе пачынаецца навукова-літаратурная дзейнасць Барычэўскага. Яго артыкулы друкаваліся ў «Часопісе Міністэрства Народнай Асветы» і былі прыязна сустрэтыя навукоўцамі. Сярод публікацый вылучаліся наступныя: «Паданні Адольфа Лізека аб пасольстве імператара рымскага Леапольда да вялікага цара Маскоўскага Аляксея Міхайлавіча ў 1675 годзе» (1837), «Аб рускім летапісе ў Літве, які завецца Хронікаю Быхаўца» (1838), «Першае падарожжа англічан у Расію ў 1553 годзе» (1838), «Вытрымкі з паданняў Я. Рэйтэнфельса аб стане Расіі пры цары Аляксею Міхайлавічу» (1839), «Мекленбургскія старажытнасці» (1839). Пераклад Барычэўскім з польскай мовы артыкула Тэадора Нарбута аб «Хроніцы Быхаўца» сведчыць аб тым, што даследчыка вельмі цікавіла гісторыя роднага краю.*

*Добрае веданне польскай, нямецкай і лацінскай моў дазваляла Барычэўскаму выкарыстоўваць у сваіх публікацыях цытаты з прац Тэадора Нарбута, Іпаліта Клімашэўскага, Мацея Стрыйкоўскага, Ксаверыя Богуша, Гарткноха, Каяловіча і іншых. Наогул, многія яго артыкулы — гэта пераклады на рускую мову ўрыўкаў з кніг беларуска-польскіх гісторыкаў з уласнымі каментарыямі і своеасаблівая папулярызацыя гісторыі і вуснай народнай творчасці роднага краю сярод расійскіх чытачоў.*

*Першая вялікая праца Барычэўскага «Аповесці і паданні народаў славянскага племя» ў двух тамах выйшла ў 1840—1841 гадах у Санкт-Пецярбургу і з'явілася сапраўднай навіной для расійскіх чытачоў. Гэта былі апрацаваныя пісьменнікам польскія, галіцкія, мазавецкія, сербскія, украінскія міфы, казкі і паданні. Ужо адны іх назвы паказваюць, што Барычэўскі звярнуўся да міфалагічнай даўніны. У прадмове ён піша: «Жаданне звярнуць увагу суайчыннікаў на славянскую народнасць было адзінай прычынай, якая прымусіла мяне ўзяцца за гэтую працу». Каштоўнасць працы не толькі ў тым, што Барычэўскі адшукаў агульныя рысы сярод міфаў і паданняў розных славянскіх народаў, але і ў тым, што ён адным з першых параўноўваў славянскую і скандынаўскую міфалогіі і знаходзіў у іх шмат агульнага. Ці не варта адзначыць прагрэсіўнасць паглядаў Івана Пятровіча, бо да думкі аб агульных індаеўрапейскіх каранях міфалогій многіх еўрапейскіх народаў заставаўся адзін крок?..*

*Дзве маленькія, у чвэрць ліста, кніжачкі «Аповесцей і паданняў народаў славянскага племя» выклікалі вялікую цікавасць сярод расійскіх чытачоў, і ў 1844 годзе пісьменнік выпусціў працяг яе «Народныя славянскія аповеды». У гэтай кнізе ўпершыню з'явіліся і беларускія легенды, паданні, казкі і жартаўлівыя аповеды, прычым Барычэўскі раздзяляе іх па месцы паходжання: з Белай і з Чорнай Русі. У жанры анекдота (у першапачатковым значэнні гэтага тэрміна — кароткага апавядання жартоўнага зместу пра незвычайную сітуацыю, падзею або выпадак з жыцця гістарычнай асобы) аўтар намаляваў вобразы адметных асоб польскай і беларускай гісторыі — пана Твардоўскага, Пане-Каханку, графа Патоцкага, Яна Сабескага, ваяводы Канеўскага. Звяртаюць на сябе ўвагу «Беларускія павер'і», бо пад гэтай назвай змешчаны 170 прыкмет беларускага народа, якія ўтрымліваюць у сабе векавую мудрасць і назіральнасць і захавалі сляды гаспадарчай і земляробчай магіі нашых далёкіх продкаў. Гэтыя прыкметы былі сабраны і перададзены Івану Пятровічу вялікім аматарам і знаўцам беларускай народнасці Міхасём Загароўскім (на жаль, звестак аб гэтым чалавеку я пакуль не знайшоў).*

*Амаль у той жа час Барычэўскі адным з першых звярнуўся да вывучэння гісторыі і старажытнасцей літоўска-рускага краю і напісаў тры вялікія працы: «Звесткі аб старажытных літоўцах» (1844), «Даследаванне аб паходжанні, назве і мове літоўскага народа» (1847), «Праваслаўе і руская народнасць у Літве» (1851), невялікі «Урывак з літоўска-рускай гісторыі» (1845) і іншыя артыкулы.*

*Сярод іх вылучаюцца «Звесткі аб старажытных літоўцах», надрукаваныя ў «Часопісе Міністэрства Народнай Асветы» (1844, ч. XLII, ад. II, с. 1—53). Да старажытнай Літвы Барычэўскі адносіў невялікую тэрыторыю, якую ў яго часы займалі некаторыя паветы Віленскай і Ковенскай губерняў і дзе некалі жылі старажытныя прусы. Мова, пісьменнасць, язычніцкія багі і боствы, кіраванне і рэлігія, законы, святы і абрады плямёнаў, якія некалі засялялі гэтую тэрыторыю былі прадметам яго даследаванняў. Вялікі фактычны матэрыял, што абапіраўся на малавядомыя гістарычныя крыніцы, робіць гэтую працу цікавай і для сучаснага чытача.*

*У 1851 годзе ў Санк-Пецярбургу выходзіць кніга Барычэўскага «Праваслаўе і руская народнасць у Літве». У ёй разглядаюцца выпадкі прыцяснення праваслаўных з боку каталіцкай царквы. Гэта сумныя старонкі нашай гісторыі. Тое, што на працягу стагоддзяў тэрыторыя Беларусі была мяжой супрацьстаяння каталіцкай і праваслаўнай канфесій і арэнай спусташальных войнаў — адна з галоўных прычын запаволенага гістарычнага развіцця і стаўлення беларускага этнасу. Але ўрокі гісторыі таму і называюцца ўрокамі, каб на іх прыкладах не рабіць былых памылак. Толькі ў адзінстве хрысціянства і братэрстве славянскіх народаў мне бачыцца будучыня ўсяго славянскага свету.*

*З 1860 года, калі Барычэўскага прызначылі дырэктарам канцылярыі Міністэрства шляхоў зносін, яго ранейшая кіпучая навукова-літаратурная дзейнасць як бы перарываецца з-за недахопу часу, і за ўвесь наступны час з'явіліся толькі тры працы: «Весткі аб старажытных помніках, якія адносяцца да ведамства галоўнага кіравання шляхоў зносін і публічных будынкаў» (у «Вестках Імператарскага Археалагічнага таварыства» за 1861 г.), «Кіеўскія пячоры» (Спб., 1872) і «Пакуцце ў археалагічных адносінах. Даследаванне А. Г. Кіркора» (Pocutie pod wzgledem archeologicznym. Krakow, 1876)» Спб., 1876 г. Акрамя таго Барычэўскаму належаць: «Паданне польскага гісторыка Кабержыцкага аб паходах Жыгімонта III і Уладзіслава IV у Расію» (у «Сыне Отечества», 1842 г.), «Прапановы прыватных асоб аб будаўніцтве чыгунак, якія паступілі ў галоўнае кіраванне шляхоў зносін і публічных будынкаў» (у «Часопісе Галоўнага Кіравання Шляхоў Зносін», 1863 г.). Апошні грунтоўны агляд меў вялікі грамадскі рэзананс і выклікаў цэлы шэраг меркаванняў. Акрамя таго, пяру Барычэўскага належыць мноства дробных артыкулаў і рэцэнзій, што друкаваліся ў «Паўночным Аглядзе», «Ваенна-Энцыклапедычным Слоўніку», «Маяку», «Санкт-Пецярбургскіх Ведамасцях», «Хрысціянскім Чытанні» і іншых выданнях.*

*Іван Пятровіч быў адным з галоўных супрацоўнікаў і выдаўцоў санкт-пецярбургскага часопіса «Маяк» («Часопіс сучаснай асветы, мастацтва і адукаванасці ў духу народнасці рускай»). Гэты часопіс, які ў сваіх публікацыях крытыкаваў Пушкіна, Лермантава і іншых прагрэсіўных прадстаўнікоў рускай думкі, многія даследчыкі называюць органам ваяўнічага цемрашальства і абскурантызму. У цэлым гэта справядліва. Але ўжо адно тое, што ў «Маяку» друкаваліся дзекабрыст Штэйнгель, Тарас Шаўчэнка, Павел Шпілеўскі, былі змешчаны два выпускі «Помнікаў беларускага пісьменства» дазваляе ставіцца да яго з пэўнай доляй удзячнасці. Менавіта ў «Маяку» пад псеўданімам «В. Васильев» Барычэўскі надрукаваў «Беларускія прымаўкі». Яны як адна з першых спроб запісу беларускага фальклору. Хоць спроба няўдалая: каб зрабіць прымаўкі зразумелымі рускаму чытачу, Барычэўскі пераклаў іх на рускую мову, тым самым страціўшы многія адметнасці і сакавітасць роднай мовы.*

*Самымі каштоўнымі для беларускай культуры сталі публікацыі ў «Маяку» двух «Помнікаў беларускага пісьменства». У прадмове да «Энеіды навыварат», прысвечанай Л. Кавеліным Барычэўскаму, выдавец часопіса піша: «Усе адука-*

*ваныя рускія даўно ўжо зразумелі неабходнасць вывучэння беларускай даўніны і пісьменнасці. Але дагэтуль яна застаецца краем некранутым, у той час як і яна багатая не меней іншых. Што ж утрымлівала асвечаных крывічоў? Ілжывы сорам за сваю радзіму: «Куды ёй да іншых!» Дай Бог, каб з лёгкай рукі сп. Цытовіча гэты артыкул паслужыў добрым пачынам будучых поспехаў паэзіі, гісторыі і пісьменнасці Белай Русі, без якой паэзія, гісторыя і пісьменнасць усея Русі ёсць і будзе аднабаковай і не поўнай». (Маяк, 1843 г., т. 9, кн. XVII, Смесь, стар. 37).*

*Але на гэтыя прыгожыя словы Іван Пятровіч адказвае абзацам, з якога відаць, што ён лічыць беларускую мову больш адсталай за рускую і прыдатную, у асноўным, для развіцця апошняй: «Не трэба грэбаваць і тым, чым многія грэбуюць, бо многія могуць і памыляцца або не з таго боку глядзець на прадмет. Прыклад. Калі беларуская гаворка далёка адстала ў вымаўленні ад маскоўскай, то яна, быццам, ужо зусім нікуды не прыдатная, непісьменная. Ні ў якім разе: у ёй, як і ва ўсякай іншай гаворцы, ёсць свае адметнасці, якія па сваіх правільных адрозненнях будуць вельмі прыдатныя мове рускай пры яе апрацоўцы і ўдасканаленні. Тое ж самае трэба аднесці і да ўсякага дыялекту мовы рускай, рэгіянальнай і ні ў якім разе не грэбаваць тым, а імкнуцца пазбаўляцца ад правінцыялізмаў і правільна ўжываць іх у асноўнай гаворцы». (Маяк, 1843 г., т. 9, кн. XVII, Смесь, стар. 37, пад псеўд. В. А. Васильев.).*

*Тады ж у «Маяку» было змешчана цікавае пісьмо настаўніка з Гародні В. Ігнатовіча да Барычэўскага, прысвечанае стану школьнай і бібліятэчнай справы на Беларусі і вывучэнню гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Іван Пятровіч падтрымліваў сяброў-землякоў з роднай Беларусі, і ў тым, што першыя публікацыі Паўла Шпілеўскага (пад псеўданімам «Эгилевский») з'явіліся ў «Маяку», мне бачыцца апякунства і добрая пратэкцыя Барычэўскага. На смерць свайго сябра Фёдара Шымкевіча, які быў шчырым рупліўцам на глебе складання слоўнікаў або каранясловаў, як іх называлі ў тыя часы, Барычэўскі адазваўся артыкулам у «Санкт-пецярбургскіх ведамасцях».*

*Памёр Іван Барычэўскі 24 чэрвеня 1887 года ў Выбаргу. Яго архіў не захаваўся, партрэт не знойдзены, і ніводны артыкул пасля смерці не быў надрукаваны. Мне здаецца, што выданне кнігі твораў Барычэўскага будзе лепшай данінай памяці чалавеку, які вывучаў і даследаваў гісторыю і фальклор роднага краю і папулярызаваў іх сярод расійскіх чытачоў.*

*А зараз, шаноўныя сябры, прачытаем некалькі апавяданняў і казак Івана Пятровіча ў маім перакладзе з рускай мовы.*

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

# ІВАН БАРЫЧЭЎСКІ

## ЛІТОЎСКІ ВУЖ[1)]

### Аповед чарнарускі

Хрысціўся ў святую веру ліцвін, але пакінуў пры сабе свае забабоны[1].

Быў у Літве бог Акапірмас[2)] і родны брат[3)] яго Жалчыун-Каралюс[2], вялікі вуж, вужыны кароль[4)]. Выгінаецца ён слімаком і ходзіць на хвасце стаўма, нібы чалавек. Няма яму роўнага паміж вужоў: тыя яго дзеці і падданыя. На галаве ў яго карона бліскучая, а свішча ён такім волатаўскім посвістам, што чуваць у ва ўсёй Літве.

Любіць вужа ліцвін па старой памяці: дае яму ў хаце пад печкай прытулак, корміць хлебам і малаком нароўні з дзецьмі, а калі захоча пачаставаць на славу, накарміць да адвалу, то дае вужу гладыш казінага малака[3].

Мірна жыве з ліцвінам вуж: не джаліць нікога, поўзае па хаце, як сем'янін, і калі дзеці возьмуцца за лыжкі, адразу падпаўзае да іх і працягвае пысу да міскі. Здараецца, што, дзіцё трэсне вужа лыжкаю па лбе, — нічога: вуж сыкне, адпаўзе на хвіліну, з'явіцца з другога боку, і зноў саўгане пысу ў міску.

У той хаце, дзе жыве вуж, наканаваны дастатак і шчасце.

Калі *скончается уж*[4], ліцвін дужа тужыць па ім, як па старым сем'яніне і сябру і ўзбройваецца ім супраць усякай бяды: здзірае скурку, вытоплівае тлушч, з тлушча робіць свечку і беражэ яе на чорны дзень. Ці наляціць на ліцвіна нягода, ці стане прыціскаць багаты сусед або ліхі чалавек, — тады ліцвін бярэцца за сваю свечку: запаліць яе, хаця б і днём, — і яе святло разліецца па ўсёй Літве, дасягне ўсіх самых цёмных месцаў, абудзіць усіх да аднаго вужоў, і яны спяшаюцца на дапамогу. Цэлы статак пярэстых вужоў паўзе на агонь свечкі, а наперадзе ўсіх выступае вужыны кароль. Калі пакрыўдзіў ліцвіна сусед — адно слова, і ўсе вужы паўзуць да злыдня помсціць за крыўду. Ці патрэбны грошы або што іншае, — вужы абшукаюць увесь падземны свет і прынясуць што трэба.

Так вялося ў старыя гады, у гэта верыць ліцвін і зараз.

[1] Бабіны аповяды і павер'і.

[2] Яго ідал стаяў у капішчы ў Ромнаве.

[3] Самы лепшы ласунак для вужа

[4]Ліцвін пра вужа гаворыць: *скончался або умер* і ніколі не адважыцца сказаць *издох*, таму што вуж за непавагу да яго памяці абавязкова адпомсціць.

[1)] Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским. — СПб., Типография Морского Корпуса, 1844. — С. 121—124.

[2)] Акапірмас, *Оккапирмас* або *Оккас* і *Орас* — прадвечны; бог, які распараджаўся часам і атмасферай. У час свята ў яго гонар, прыблізна 25 снежня, што супадае з зімовым сонцастаяннем, ачышчаліся ад грахоў і даведваліся аб будучым лёсе. (І. П. Барычэўскі. Звесткі аб старажытных літоўцах).

У прускай міфалогіі Акапірмас быў вышэйшым богам і меў тую ж функцыю, што і Дзіевас-Дзіеўс. У лацінскіх і нямецкіх крыніцах з 1530 па 1615 гады ён заўсёды стаіць на першым месцы ў спісах прускіх багоў. Хутчэй за ўсё, з часам Акапірмас пачаў уяўляць з сябе абстрактнае боства і характарызавацца малой актуальнасцю, адсутнасцю канкрэтных дзеянняў і міфалагічных матываў. У той жа час тэрмін свята ў яго гонар, які, прыблізна, прыпадае на дзень зімовага сонцастаяння, паказвае яго дачыненне да верхняй сферы вертыкальнай структуры свету («бог неба і зорак») і важнасць гэтага персанажа для старажытных прусаў.

[3)] Называючы Жалчыуна-Каралюса родным братам вышэйшага боства прускага пантэона Акапірмаса, Барычэўскі суадносіць яго з богам ніжняга свету Велнясам.

[4)] Культ вужа ў беларускай міфалогіі з'яўляецца, хутчэй за ўсё, вынікам субстрактнага балцкага ўплыву. Ян Длугаш у «Гісторыі Польшчы» піша пра тое, як кароль Уладзіслаў Ягайла ў 1387 годзе хрысціў Літву: «На працягу многіх дзён Уладзіслаў, кароль польскі, пры садзейнічанні каталіцкіх князёў, якія прыехалі з ім, прыклаў шмат намаганняў для таго, каб рыцары і простыя людзі, адрынуўшы ілжывых багоў, якім яны, ашуканыя марнасцю паганскіх памылак, датуль пакланяліся, пагадзіліся шанаваць адзінага праўдзівага Бога і пакланяцца яму і спавядаць хрысціянскую веру.

Варвары, аднак, аказвалі супраціў гэтаму і заяўлялі, што з іх боку было б несумленна і дзёрзка, насуперак запаветаў продкаў, здрадзіць сабе, пакінуць і адрынуць сваіх багоў, галоўнымі з якіх былі наступныя: агонь, яго яны лічылі вечным, ён падтрымліваўся жрацамі, якія падкладалі дровы днём і ўначы; свяшчэнныя лясы; вужы і змеі, у якіх, па вераванні язычнікаў, нябачна знаходзяцца багі». Культ агню, лясоў і змей існаваў і ў старажытнай Індыі і Грэцыі. Захаваўся ў Літве да XV стагоддзя.

У старажытных літоўцаў вуж быў хатняй жывёлай. Ён абараняў жытло чалавека ад гадзюк, лавіў жаб і мышэй, любіў ноччу запаўзаць у цёплы ложак да чалавека, а потым, калі для абагрэву жылля пачала выкарыстоўвацца печ, жыў у падпечку. Адсюль, бадай, пайшоў і *вуж-дамавік.* У палях і лясах жыў яго родны брат *вуж-палявік,* і калі нехта забіваў палявога вужа, то *вуж-дамавік* помсціў, і забойцу чакала немінучая смерць. Дарэчы, укус вужа лічыўся ў некалькі разоў больш небяспечным, чым у гадзюкі, і не кожны знахар браўся вылечыць уджаленага.

***Каментарыі аўтара пазначаны арабскімі лічбамі, а каментарыі перакладчыка — арабскімі лічбамі з дужкай.***
***Словы, выдзеленыя курсівам, даюцца ў аўтарскім напісанні.***

## МУЖЫК НЕ ДУРАНЬ[1)]

### Аповесць чарнаруская[2)]

Пан круціць вусы; ганарыцца, што ён шляхціц і ўпэўнены, што шляхта зышла з неба.

Мужык здымае перад панам шапку, кланяецца нізка, абдымае яму калені, але ўпэўнены, што шляхта не зышла з неба, і калі прыйдзе выпадак смела паказвае, што і ён не дурань.

У аднаго мужыка быў такі нос, што хоць скарыстоўвай замест качаргі! Хто першы раз бачыў яго, той абавязкова спыняўся падзівіцца доўгаму носу, а мужык ведаючы, хто вінен, аддаць павінен, таксама спыняўся і смяяўся з кароткіх насоў, каб не быць у накладзе.

Аднойчы мужык наваліў воз дроў, узлез наверх і паехаў дахаты па самай сярэдзіне вузенькай дарожкі. Але вось насустрач яму едзе пан.

А пан той быў вялікі жартаўнік і не прапускаў выпадку паджартаваць. Доўгі нос кінуўся яму ў вочы.

— Гэй, мужык! — крычыць пан, — завярні набок нос.

Мужык зняў рукавіцу, прыціснуў нос на правы бок і сказаў адважна:

— Нос даў пану дарогу! — а каняку трымае па самай сярэдзіне дарогі, так што праезду няма.

— Завярні ж у дадатак да носа і сваю клячу, каб можна было праехаць.

— Дык ужо не нос, а кляча перашкаджае пану! Добра, завярну і клячу! — і звярнуў з сярэдзіны дарогі.

Пан убачыў, што мужык паджартаваў над яго жартам і не хацеў быць у пройгрышы.

— Здарова, чалавеча добры! — працягваў пан.

— На здароўе пану! — адказаў мужык.

— А што гэта вязеш?

— Грыбы, пан!

— Гэта ж не грыбы.

— А што ж такое, калі не грыбы?

— Гэта ж дровы!

— Ну, так, дровы! На што ж пан пытае, што вязу, калі сам бачыць?

— А адкуль едзеш, чалавеча?

— З хаты па дровы.

— Вось то ж брэшаш! Едзеш з лесу.

— Ну, але, брашу, калі пан сам бачыць, што еду з лесу і пытае, адкуль еду.

Бачыць пан, што над доўгім носам паджартаваць нялёгка. Падумаў трошкі і спытаў:

— А што, чалавеча, бывае ў вас Вялікдзень?

— Чаму ж не бывае і не адзін раз на год!

— Чорт яго ведае, што мужык гаворыць, быццам бы Вялікдзень бывае некалькі разоў у год, — думае пан і зноў пытае:

— А калі ж у вас бывае Вялікдзень?

— Тады, пан, як выедзеш араць без хлеба. Арэш, арэш, а дзень усё не канчаецца. Такі вялікі, што бяда!

— Трэба пастрашыць мужыка панам, — думае пан, — але перш трэба дазнацца, хто ў іх пан.

— А хто, чалавеча, у вашым сяле найстарэйшы?

— Старэй усіх Пракопова маці.

— Не аб тым я пытаю.

— А аб чым жа пан пытае?

— Каго вы ўсе ў сяле баіцеся?

— А больш за ўсё, паночку, баімся Апанасавай сучкі. Кожны аглядваецца, каб не схапіла за нагу.

— Не, усё не тое, чалавеча! Каго вы ўсе слухаеце?

— Усе да аднаго, пане, найлепш слухаем сляпога Піліпа. Як зайграе на скрыпцы, дык усё сяло бяжыць слухаць.

Пан плюнуў і паехаў далей. Мужык засмяяўся і паехаў сваёю дарогай.

---

1) Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским. — СПб., Типография Морского Корпуса, 1844. — С. 117—121.

2) Чорнай Руссю называлі паўднёва-заходнюю частку Беларусі, якая ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII стагоддзя, на пачатковым этапе яго фарміравання. Галоўнымі цэнтрамі Чорнай Русі былі Наваградак, Гродна, Ваўкавыск, Слонім.

## ПАНЕ-КАХАНКУ[1]

### Польскі аповед[1)]

Уцешна і весела жыў шыкоўны магнат Пане-Каханку[2)]. Кожны дзень даваў балі; вугорскае віно прывозілі да стала ў срэбных бочках. Калі чакаў гасцей, то на ганку іх сустракалі мядзведзі. У пярэдняй плашчы з гасцей здымалі таксама мядзведзі, часам яны ж і за сталом змянялі талеркі. Не раз ён і сам прыязджаў на мядзведзях у сенат і ў госці. Меў Пане-Каханку 12 апосталаў у чалавечы рост з чыстага золата. Адпраўляючыся ў чужыя краі, вазіў з сабой чырвонец, які сваёй велічынёй займаў цэлую павозку[2]. Грошы сыпаў без ліку, толькі не любіў караля, і на соймах вёў з ім вайну.

Адзін бедны шляхціц пачаў з Панам-Каханку працэс за жмуток зямлі, і прайграўшы яго, з'явіўся да магната.

— А, кланям, пане-каханку! Што чуваць новага? — сказаў магнат.

— Нічога новага, яснавельможны пане! Толькі ўсё кажуць, што няма на свеце большых дурняў, як я і яснавельможны пан.

— Што такое? — з гневам ускрыкнуў магнат.

— Я самы вялікі на свеце дурань, — спакойна працягваў шляхціц, — за тое, што вяду з яснавельможным панам працэс, а яснавельможны пан за тое, што вядзе з каралём вайну.

Пане-Каханку ад чыстага сэрца рассмяяўся смеламу тлумачэнню шляхціца, і шчодра ўзнагародзіў яго за ўсе страты па працэсе.

* * *

Забаўляльны палац Пане-Каханку Альба, бліз Нясвіжа[3], каштаваў мільёны. Магнат быў такі шчодры, што не ведаў ніякай меры ў падарунках, і езуіты, уцёршыся да яго ў давер, усімі сіламі імкнуліся выпрасіць сабе Альбу.

Аднойчы Пане-Каханку сказаў, што заўтра аддасць ім Альбу. На наступны дзень усе езуіты з'явіліся да магната па пышны падарунк. Па загадзе Пане-Каханку ім вынеслі на срэбным блюдзе Альбу, зробленую з атла́су [4].

* * *

Пане-Каханку любіў вясёлую гутарку і заўсёды неміласэрна ілгаў. У такіх выпадках пры ім неадлучна знаходзіўся любімы шляхціц Бароўскі, у абавязкі якога ўваходзіла падтакваць магнату і выводзіць яго з цяжкага становішча, калі ён ілгаў.

Аднойчы Пане-Каханку забег з Бароўскім на баль да аднога магната, і закрычаў:

— Ну, дзякуй богу, я толькі што ўратаваўся ад смерці!

— Што такое, што здарылася? — пачаліся распыты.

— Толькі цяпер адбіў аблогу свайго замка. Уявіце сабе: прыязджаю дадому і бачу, што, чорт ведае, які дзіўны народ аблажыў мой замак. Вой, як слаўна біліся мае панцырнікі! Але праклятыя дзікуны так напіралі, што проста бяда. Бачу, што справа кепская. Хапаю стрэльбы, і пачынаю страляць. Што ні стрэл, то сотню кладу лоскам! Ужо перастраляў было ўсіх, як адзін забіты шэльма ўскочыў, стрэліў і забіў мяне самога.

— Як жа такое можа быць, — ускрыкнулі госці, — калі яснавельможны пане і зараз жывы?

— Тое, што я зараз жывы — гэта справа іншая. Але тое, што адзін шэльма забіў мяне, несумнеўна. Праўда, Бароўскі?

— Не ведаю, яснавельможны пан, таму што ў гэты час я і сам быў забіты.

* * *

— Аднойчы, — распавядаў Пане-Каханку — я паляваў на аленяў. Расстраляў усе зарады. Стаю сабе на ўзлеску лесу і ем вішні, як з лесу выскоквае алень. Было яшчэ ў мяне на зарад пораху, апускаю яго ў ствол, а за недахопам кулі, зараджаю вішнёвымі костачкамі. Прыцэліўся і патрапіў у самы лоб аленю. Але ён уцёк, — воўк яго зарэж!

Праз тры гады я паляваў у тым жа лесе. І бачу, насупраць мяне стралою ляціць алень, якога я яшчэ ніколі не бачыў: на лбе вырасла вішнёвае дрэва, усё пакрытае самымі спелымі вішнямі. Гэта значыць, Пане-Каханку, што тая самая костачка, якую я тры гады назад уляпіў проста ў лоб аленю, разраслася ўжо ў дрэва і прынесла ягады. Пашкадаваў я аленя і не захацеў у яго страляць[3)].

* * *

— Я выдумаў адмысловы спосаб лавіць мядзведзяў, — распавядаў Пане-Каханку. — Загадваю зрабіць калёсы, канец дышля зрабіць вострым і абкаваць яго жалезам, вывезці ў лес і вымазаць дышаль мёдам. Мядзведзь прыйдзе да калёс, пачне лізаць мёд з вострага дышля і, рухаючыся далей і далей да калёс, сам наніжацца на дышаль. Гайдукі, якія, схаваўшыся, сядзяць у калёсах, выскокваюць, закручваюць на канец дышля гайку, каб мядзведзь не сарваўся, запрагаюць коней і прывозяць на дышлі мядзведзя.

Узімку, калі было мала мёду, я такім чынам злавіў дзве тысячы мядзведзяў, нагрузіў шкуры на барку і паехаў прадаваць іх за мяжу. На моры паднялася бура і доўга насіла мяне. Нарэшце, убачыўшы, што судна разаб'ецца аб падводныя камяні, я саскочыў у мора, абхапіў двума рукамі барку, адапхнуўся ад камянёў, і плыў, падтрымліваючы барку плячамі, пакуль не прывёў яе да прыстані.

* * *

— Не менш цікаўнае здарэнне адбылося са мной на паляванні. Бачу: бяжыць дзікая каза. Я прыцэліўся, патрапіў у правае вуха, а куля выйшла з капытца задняй нагі.

— Але як жа гэта магло быць? — спыталі слухачы.

— Калі было, то і магло быць! — адказаў Пане-Каханку, — Спытайце ў Бароўскага.

— А было так! — падхапіў Бароўскі. — Калі яснавельможны пан стрэліў, каза заднім капытом чухала сабе вуха, і куля выйшла праз капыт.

Калі пасля аповеду Пане-Каханку падышоў да акна, Бароўскі сказаў яму на вуха:

— *Нех* яснавельможны пане надалей так не ілжэ, бо я на сілу задні капыт прыцягнуў да вуха!

---

[1] Князь Карл Радзівіл усіх, з кім размаўляў, і нават караля называў *Пане-Коханку*, і адсюль пайшла яго мянушка.

[2] Гэта гістарычны факт, без усякага перабольшвання.

[3] У Мінскай губерні.

[4] *Альбой* называлі таксама адзенне ксяндза, якое ён апранаў у касцёле.

[1)] Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским. — СПб., Типография Морского Корпуса, 1844. — С. 101—108.

[2)] Караль Станіслаў Радзівіл «Пане-Каханку» (27. 02. 1734, Нясвіж — 21.11 1790, Бяла-Падляска). Нарадзіўся ў сям’і гетмана Міхала «Рыбанькі» і Францішкі Уршулі Вішнявецкай. Вядомы пад прозвішчам «Пане-Каханку», як яго называлі паводле любімага выслоўя, з якім ён звяртаўся да ўсіх, не выключаючы і пагарджанага караля — «худапахолка», а таксама дзеля адрознення ад канцлера Караля Станіслава Радзівіла (1669 — 1719). З 1752 — мечнік вялікі літоўскі Вялікага Княства Літоўскага, у 1762 стаў ваяводам віленскім. Выступаў супраць партыі Чартарыйскіх. На чале сваіх надворных войскаў уступіў у бітву з рускімі пад Слонімам, але пацярпеў паражэнне і вымушаны быў ратавацца на Валошчыне. Падчас знаходжання ў Дрэздэне да яго прыйшла вестка пра адабранне ў яго чыну ваяводы і сэквестравання яго маёнткаў. Дзякуючы намаганням расійскага пасла Мікалая Рапніна вярнуўся ў краіну і стаў у 1767 генеральным маршалкам Радамскай канфедэрацыі. Выказаўшы прысягу на вернасць каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, атрымаў назад усе страчаныя ўладанні. У 1768 выступіў праціўнікам гарантыйнага трактата, паводле якога Рэч Паспалітая станавілася расійскім пратэктаратам, і стаў генеральным маршалкам Барскай канфедэрацыі. Калі расійскія войскі з баямі ўзялі Нясвіж і Слуцк, Радзівіл быў вымушаны з’ехаць у Прусію. Да 1777 г. ён знаходзіўся на эміграцыі ў Венгрыі, Турцыі, Чэхіі, Францыі, Венецыі. Падчас Чатырохгадовага Сойма быў адным з выразнейшых праціўнікаў рэформ, караля і партыі Чартарыйскіх. 3 жніўня 1757 г. узнагароджаны ордэнам Белага Арла. Быў жанаты з Марыяй Каралінай Любамірскай, пасля з Тарэзай Каралінай Ржэўскай. Караль Станіслаў Радзівіл — найзаможнейшы магнат Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII стагоддзя і адзін з найбагацейшых прадстаўнікоў арыстакратыі ў Еўропе. Ягоны маёнтак ахопліваў 16 гарадоў і 683 вёскі, а вакол ягонай асобы вілося шмат легенд. З аднаго боку, Караль Станіслаў быў прадстаўлены як адзін з найбольшых п’яніц і гулякаў той эпохі, а з другога — быў прыкладам шляхетнасці, самарытанства і патрыятызму. Невымерна багаты і ўплывовы, здабыў сябе сярод шляхты агромністую папулярнасць дзякуючы шчодрасці, сармацкім звычаям, схільнасці да бясед і жартаў, з іншага боку, быў вядомы дзікімі выбрыкамі і раздражняльнасцю.

[3)] Гэтая гісторыя змешчана ў кнізе Рудольфа Эрыха Распе «Дзівосныя падарожжы на сушы і на моры, ваенныя паходы і вясёлыя прыгоды Барона фон Мюнхаўзена, якія ён звычайна распавядае за бутэлькай сярод сваіх сяброў». Першае выданне гэтых аповядаў з’явілася ў 1781 годзе на старонках часопіса «Даведнік для вясёлых людзей», які выдаваўся ў Берліне. Барон Мюнхаўзен (1720—1797), «кароль ілгуноў» — фігура гістарычная. Ён паходзіў са старажытнага нямецкага роду і шмат гадоў правёў у Расіі, куды яшчэ ў юнацтве трапіў у якасці пажа пры герцагу Браўншвейгскім. Ён застаўся на вайсковай службе ў Расіі, і ў 1750 годзе атрымаў званне ротмістра. Барон Мюнхаўзен бываў у Польшчы і Літве. І менавіта ў Літве, у шыкоўным маёнтку графа Пржабоўскага (прозвішча, хутчэй за ўсё, выдуманае), Мюнхаўзен набыў цудоўнага каня. Ці мог ён пачуць гісторыю пра аленя з вішнёвым дрэвам на лбе з вуснаў Пане-Каханку? Тэарэтычна, мог. Дык каго можна назваць «каралём ілгуноў»: барона Мюнхаўзена або Пане-Каханку?

# СОЖ І ДНЕПР[1)]

## Аповед беларускі

Быў стары Дзвіна[2)]. Ён меў двух сыноў: старэйшага Сожа і малодшага Дняпра[1]. Сож любіў жыццё няўрымслівае і разгульнае: цягаўся па лясах, па гарах, па палях і рэдка сядзеў дома. Днепр сядзеў дома, быў ціхі, рахманы і служыў асляпламу бацьку[3)]. Размаўлялі яны абодва так падобна, што па гаворцы нельга было адрозніць Сожа ад Дняпра. Але першы быў увесь пакрыты поўсцю, другі меў гладкае і далікатнае цела. Маці больш любіла Дняпра.

Калі Дзвіна набліжаўся да скону, маці зарэзала ягня, абгарнула Дняпру рукі скураю і навучыла ісці да бацькі прасіць блаславення, калі Сожа не было дома. Сляпы Дзвіна, не падазраючы зману, паклаў рукі на галаву Дняпра і сказаў:

— Разліся, мой сын, ракою шырокаю, ракою глыбокаю! Ціха працякай, мой сын, гарады. Абмывай, мой сын, сёлы без ліку да самога мора. Твой брат ды будзе служкаю табе. Вялікае мноства рэк ды паслужаць табе, а ты — багатыя ладдзі, дарагія судны разнось на сабе. Ты хадзі, мой сын, ціхаю хадой, багаты і паўнаводны, да канца стагоддзяў!

Атрымаўшы блаславенне, Днепр разліўся ракой, пацёк па багатых лугах, па дрымучых лясах; а Сож толькі на трэці дзень вярнуўся дадому. Пазнаўшы, што бацька пры апошніх хвілінах, ён пайшоў прасіць блаславення. І Дзвіна, і Сож пазналі, што Днепр апярэдзіў блаславенне. Плакаў і жаліўся Сож на зман, але Дзвіна не адважыўся ўжо даць тое блаславенне, якое атрымаў Днепр.

— Калі хочаш, мой сын, камандаваць братам, — сказаў Дзвіна, — бяжы хутчэй крывымі дарогамі, утоенымі шляхамі, непраходнымі месцамі, цёмнымі лясамі, цячы па кустоўі, па закустоўі і, калі абгоніш брата, ён будзе служкаю табе, калі не абгоніш, сам паслужыш яму.

Сож пусціўся ў пагоню за Дняпром па месцах непраходных, размываў балоты гразкія, прарэзваў яры глыбокія, дзёр карані дубоў векавых і ніколі не выцякаў на адкрытыя палі, каб не ўбачыць Дняпра. Але ястраб сказаў Дняпру, што за ім гоніцца Сож, і Днепр дадаў хуткасці, прарэзваючы горы высокія, каб не згортваць убок, узрываў пяскі сыпкія, залліваў лугі нізкія.

Сож убачыў, што яму не дагнаць брата і падгаварыў крумкача ляцець, каркаючы, проста да Дняпра і, калі абгоніць яго хоць на адзін крок, каркнуть тры разы, а самому схавацца пад зямлю, каб Днепр не заўважыў яго. Па карканні крумкача Сож думаў гнацца за Дняпром, а калі абгоніць яго, то па трохразовым крыку крумкача, выскачыць з-пад зямлі, апярэдзіць брата і вярнуць сабе старшынства.

Ястраб, стаіўшыся на суку, чуў дамаўленне Сожа з крумкачом, за добрую плату ўзяўся служыць Дняпру і, калі Сож наблізіўся да яго, напаў на крумкача. Той закаркаў. Сож, думаючы, што апярэдзіў Днепр, выскачыў з-пад зямлі, са ўсяго размаху ўпаў у Днепр і навекі страціў старшынства[4)].

---

[1] Пачатак аповеду запазычаны з гісторыі Ісава і Якава.

[1)] Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским. — СПб., Типография Морского Корпуса, 1844. — С. 183—186.

[2)] Дзвіна або Рыдван — ад сярэднявечнай назвы Дзвіны — Эрыдан.

[3)] У гэтых двух сказах Сож і Днепр пераблытаны месцамі. Вобраз Дняпра (Непра) займае вялікае месца ў беларускай і ўсходнеславянскай міфалогіі і фальклоры. Этымалогія звязана з агульнаіндаеўрапейскай назвай для азначэння вады.

[4)] У гэтага падання несумнеўныя біблейскія карані (гісторыя пра тое, як Якаў падманам забраў правы першародства ў свайго брата Ісава).

## УЛІШЫЦА[1)]

### Беларускае павер'е

Калі народ не знаў хрысціянскай веры, шанаваў Купалу і ў гонар яго, прыйшоўшы да ракі, дзве саламяныя лялькі ўтыкаў на палкі, вакол іх запальваў вогнішчы, пасля чаго тыя лялькі купалі і мылі ў рацэ і, нарэшце, запальвалі.

Калі лялька падала, гэта было знакам блізкага няшчасця. Яе паднімалі палкамі, накідвалі на шыю пятлю і кідалі ў ваду з вяроўкаю датуль, пакуль вяроўка, намокнуўшы, не патоне разам з лялькай.

Калі такая лялька бывала выкінута хвалямі на бераг і праляжала не патопленаю столькі месяцаў, колькі на свяце было людзей, то з яе нараджалася Улішыца[2)] або Вуйма — жанчына, уся аброслая каровінымі валасамі.

Яна заўсёды хадзіла ў белай адзежы, мела шырокі пляскаты нос, чырвоныя вочы, шырокі, ледзь не да вушэй рот і невялікі хвост. У самы кароткі час яна магла змяняць свой выгляд: то паднімалася ледзь не да вяршалінаў лесу, то памяншалася ледзь не да памераў травы. Уяўлялася і белаю, і чорнаю, і якой толькі ёй хацелася. Часам уяўлялася са свіною галавой і шасцю нагамі. Звычайна Улішыца жыла ў лясах і на могілках, а часам пасялялася ў старых млынах. Па лясах яна хадзіла толькі днём.

Улішыца любіла палохаць людзей, а часам і рабіла зло. За гадзіну перад поўначчу яна, звычайна, выходзіла са свайго сховішча, адпраўляючыся палохаць людзей. Расхаджваючы па дрэвах, яна енчыла страшным голасам.

А калі знаходзілася ў сваім сховішчы, то імкнулася прывабіць туды людзей. Убачыўшы прахожага, то крычала падобна дзіцяці, то енчыла падобна хвораму, то віскатала падобна сабаку, які страціў гаспадара. Калі хто даваўся ў зман і заходзіў да Улішыцы, то яна, узяўшы прахожага за абедзве рукі, бегала з ім, каб змарыць, а калі той падаў ад знямогі, пачынала то казытаць яго, то перакатваць з месца на месца, то скакала праз яго з піскам і рогатам, і замучвала да смерці.

Калі чалавек быў адзін далёка ад паселішча, Улішыца, падкраўшыся ззаду, раптам кідалася да яго, вешалася на шыю, сціскала рукі і, упіраючыся нагамі ў зямлю, імкнулася збіць чалавека з дарогі, заманіць у пустэчу і там замучыць. У такім выпадку трэба было спяшацца да агарода, выхапіць вострую тыніну і ёй біць Улішыцу. Калі ўдар прыйдзецца па хрыбце, Улішыца завішчыць і ўцячэ.

Не раз бачылі, што ўначы Улішыца падыходзіла да могільніка са стогнам і плачам. З магілы выходзіў мярцвяк. Яны садзіліся разам над долам і плакалі, а пры першым прамяні ранішняга світанку мярцвяк апускаўся ў магілу, а Улішыца ўцякала.

Хто быў мярцвяк, пра што Улішыца плакала з ім — ніхто не ведае.

Была ведзьма, якую звалі Чортава нага. Адна Улішыца заказытала яе сына, а тая наклала заклён, каб ні адна з Улішыц не магла хадзіць па белым свеце. З той пары яны пасяліліся ў падзямеллях блізу рэк і ўжо не выходзяць на зямлю.

---

[1)] Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским. — СПб., Типография Морского Корпуса, 1844. — С. 213—216.

[2)] Улішыца (магчымы варыянт — Вулішыца) належыць да культу Купалы, мае агульныя рысы з русалкай і сляды балцкага паходжання, звязанага з рэкамі (літоўскае ohla, ohlis — дробны камень, галька).

## ЧАРАДЗЕЙ[1)].

У беднага шаўца было шмат дзяцей, адзін менш другога. Дапамогі не дачакацца, а хлебам кармі, хоць плач.

Маці ўзяла старэйшага сына за руку і павяла ў горад, каб аддаць каму-небудзь з тых добрых людзей, хто злітуецца над яе беднатой.

На дарозе ёй сустрэўся кравец, на словах такі ласкавы, што ў душу лезе, але, насамрэч, ён толькі ўлазіў у адно вуха, каб вылезці праз другое. То быў люты чарадзей, які лавіў маленькіх дзетак, адводзіў у сваю пячору ў дрымучым лесе і там разам з імі чараваў на ўвесь свет.

Маці расплакалася ад радасці, калі кравец сказаў, што возьме яе сына, праз тры гады навучыць свайму майстэрству і аддасць маці, каб той карміў яе хлебам. Ён узяў малога за руку і пайшоў у сваю пячору.

Хлопчык быў на здзіўленне кемлівы, праз тры гады так засвоіў чарадзейскую навуку, што самога чарадзея мог заткнуць за пояс.

Шмат бацькоў прыходзілі да чарадзея за сваімі дзецьмі, але ён усіх іх адпраўляў ні з чым. Кемлівы хлопчык за тыдзень да таго, як за ім павінна была прыйсці маці, выйшаў на дарогу, сустрэўся з маці і расказаў ёй, што яго гаспадар не кравец, а самы люты чарадзей, які бярэ ў навуку дзяцей і не аддае іх бацькам.

— Калі прыйдзеш па мяне, — казаў сын маці, — чарадзей скажа, каб ты пазнала свайго сына паміж тысячы галубоў. Галубы будуць дзяўбці корм, а тым голубам, які не будзе есці, а толькі падскокваць і махаць крылцамі, буду я.

Узрадаваная маці пацалавала сына, падзякавала і пайшла сваім шляхам-дарогаю.

Калі прыйшоў тэрмін, маці з’явілася да чарадзея па сына. Ён зняў са сцяны медную трубу і затрубіў на чатыры вятры. Як чорная хмара, з’явілася чарада галубоў. Чарадзей сыпануў ім гароху.

— Паміж гэтымі галубамі твой сын, — сказаў ён маці, — пазнай яго і вазьмі, а не пазнаеш — не ўгневайся.

Маці заўважыла шызага галубка, які не дзёўб гароху, а толькі махаў крылцамі. Яна ўзяла яго ў рукі, а чарадзей ледзь не лопнуў ад злосці.

Калі яны прыйшлі дадому, сын убачыў, што галеча і бедната даўно жывуць у іх хаціне.

— Я магу ператварыцца ў таго, у каго ты пажадаеш: у карову, быка альбо барана,— сказаў ён бацьку. Смела вядзі мяне на кірмаш, прадавай і бяры грошы, толькі здымай вяроўку, на якой мяне павядзеш. Але ніколі не жадай, каб я стаў канём, інакш і грошы не пойдуць на карысць і са мной здарыцца бяда…

Бацька захацеў, каб у яго быў бык — і бык тоўсты, крутарогі ўжо стаіць пад акном. Ледзь прывёў шавец быка ў горад, як першы сустрэчны адсыпаў яму грошай, колькі той запытаў. На другі дзень прадаў карову, на трэці — барана, і зажыў шавец, кінуў *шилье-копылье*, забыўся на ранейшую бяду.

Але сквапнасць закралася ў яго душу.

Ляжыць сабе шавец, удосталь напіўшыся гарэлкі, пад’еўшы кашы з салам і размаўляе сам з сабою: «Ну, навучыўся мой сын добрай навуцы, толькі паспявай хадзіць у горад ды забірай грошыкі, але, здаецца, ён трошкі абхітрыў мяне, старога дурня. Калі я, прадаўшы карову, вяртаюся дадому і застаю там сына, якога вадзіў на гандаль кароваю, то чаму б яму не быць і канём? Конь такая ж жывёліна, як і карова. Калі з каровы ён становіцца маім сынам, то і з каня здолее ізноў быць Васілём. І што такое карова? Чорт ведае што! Вядзеш яе на гандаль паўдня, стомішся ў дарозе, а атрымаеш пяць-шэсць талераў. Ці то справа? Затое як прывяду каня, які будзе штохвілінна біць капытом, храпці, станавіцца на дыбкі — вось ухаплю капейку! А аброць зніму, каб Васілю не здарылася бяды. Вось так і зраблю! Мала што скажа сын… Ён яшчэ малады дзяцюк, не ведае кошту грашам, думае, што за карову і за каня адна і тая ж плата».

Шавец і хацеў абярнуць сына ў каня і адкладаў свой намер, але чарадзей, змовіўшыся з чортам, падахвоціў бацьку на ліхую справу. Узяўся ён за *баклажку* з гарэлкай, і жлукціў да тае пары, пакуль не захацеў весці на продаж каня.

А конь ужо на двары: вараны, вачэй не адвесці: шыя кольцам, хвост трубой, поўсць ільсніцца, з вачэй ледзь не сыплюцца іскры, з ноздраў ледзь не палае полымя.

Толькі з’явіўся шавец у горадзе з канём, як адразу знайшоўся і купец, шчодра адсыпаў грошай і зазваў у карчму піць барыш. Пайшла чарка за чаркай, і закусь хвацкая — таран такі, што з’ясі ды аблізнешся. Шавец налізаўся так, што забыўся і аброць зняць з каня.

Купцом быў той самы чарадзей, у якога вучыўся Васіль. Прывёўшы ў сваю пячору, ён кожны дзень мучыў каня цяжкай працаю, карміў гнілой саломай, паіў салёнай вадой і біў жалезнымі дубцамі.

Аднойчы прыслужніца чарадзея праходзіла каля Васіля, а ён стаў плакаць крывавымі слязьмі і жаліцца на сваю долю. Злітаваўшыся, яна адвязала каня. Ён адразу ператварыўся ў прыгожага хлопца, падзякаваў, як умеў, перакінуўся ў верабейку, узвіўся высока і зачырыкаў радасную песню.

Тая песня даляцела да чарадзея. Ён ператварыўся ў варону і пусціўся ў пагоню. Бедны верабей з усіх сіл уцякаў ад свайго ворага, вымахаў усе крылы, а на яго ўжо вее холадам ад размаху крылаў драпежнай вароны.

Убачыўшы, што ратавання няма, верабей каменем рынуўся ў каралеўскі сад і ператварыўся ў ластаўку, каб абдурыць праклятага чарадзея, а той тут як тут: перакінуўся вераб’ём і стаў ганяцца за ластаўкай.

У гэты час па садзе гуляла каралеўна. Ластаўка ператварылася ў пярсцёнак і схавалася на пальцы каралевы. Верабей ізноў перакінуўся ў чорную варону, якая з карканнем вылецела з саду.

Вярнуўшыся ў пакоі, каралеўна заўважыла ў сябе на пальцы дарагі пярсцёнак і не магла прыдумаць, адкуль ён узяўся. А пярсцёнак скок далоў — і перад каралеўнай апынуўся такі прыгажун, якога яна ад роду не бачыла. Распавёўшы ўсё, што з ім здарылася, ён прасіў не паказваць пярсцёнка чарадзею, які заўтра пад выглядам каралевіча прыйдзе ў сваты, а калі стане моцна дамагацца, то пярсцёнак трэба кінуць на зямлю.

На другі дзень у сваты да каралеўны прыехаў невядомы каралевіч з заморскага царства. Доўга прасіў ён у каралеўны дазволу пацалаваць ручку, і калі ўжо нельга было ад яго адвязацца, каралеўна кінула пярсцёнак на зямлю. З таго пярсцёнка ў пакоі стала поўна гароху. Каралевіч выхапіў з-за пазухі медную трубу, затрубіў на чатыры бакі — і адразу зляцелася чарада галубоў, якая стала дзяўбці гарох. Адна гарошынка апынулася ў руках каралеўны. Яна кінула яе на падлогу. З той гарошынкі ў пакоі стала поўна маку. Галубы ператварыліся ў вераб’ёў і пранялія дзяўбці мак. Але адно зярнятка ператварылася ў варону, якая задзяўбла чарадзея, што перакінуўся вераб’ём.

Тады Васіль зноў з’явіўся прыгажуном, разарваў на часткі закляванага вераб’я і раскідаў іх на ўсё чатыры бакі, каб труп праклятага чарадзея не зросся, і чорт не ажывіў яго.

Каралеўна выйшла замуж за Васіля-прыгажуна. На вяселлі я быў, мёд-віно піў, па вусах цякло — у рот не патрапіла.

---

[1)] Повести и предания народов славянского племени, изданные И. Боричевским. Часть вторая. — СПб., Типография Императорской Академии Наук, 1841. — С. 188—192.

***Уступны артыкул, пераклад з рускай, каментарыі і публікацыя Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЗАЎВАЖАНЫ МАКСІМАМ ГАРЭЦКІМ

«Па натуральнасці, цікавасці і жывасці апавядання Сымон Хурсік у маладнякоўскай прозе займае першае месца», — так пісаў Максім Гарэцкі ў сваёй даследчыцкай працы «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928», разглядаючы творчасць аўтараў, якія ўваходзілі ў гэтае літаратурнае згуртаванне, і на той час дабіліся значных мастакоўскіх поспехаў. Адзнака высокая, ведаючы строгасць у ацэнках і патрабаваннях М. Гарэцкага. Істотна і тое, што ў раздзеле «Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў», дзе гаворыцца пра С. Хурсіка, не абыдзены ўвагай і такія празаікі, як Платон Галавач, Васіль Каваль, Міхась Лынькоў, Рыгор Мурашка, а без іх, як вядома, сёння немагчыма ўявіць сабе гісторыю беларускай літаратуры. У гэтай кагорце, як бачым, С. Хурсік не проста згаданы, а як апавядальнік нават пастаўлены на першае месца.

Тым больш прыкра, што ў дачыненні да гэтага самабытнага пісьменніка назіраецца несправядлівасць. Калі кнігі тых, хто ўваходзіў у літаратуру разам з ім, перавыдаюцца, дык ягоныя творы можна прачытаць толькі ў перыёдыцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя, а яшчэ ў двух ягоных прыжыццёвых зборніках. Да ўсяго апавяданне «Янка з Падлесся» апублікавана ў двухтомнай «Анталогіі беларускага апавядання» (1957). Трапіла яно ў гэтае аўтарытэтнае выданне дзякуючы таму, што адным са складальнікаў «Анталогіі…» быў сябра юнацтва С. Хурсіка Ян Скрыган.

Ён сабраў і найбольш пэўныя звесткі пра С. Хурсіка, у лісце да якога ў свой час папрасіў падрабязна расказаць пра сябе, паколькі творам у «Анталогіі…» папярэднічаюць даведкі пра аўтараў. А пасля выхаду двухтомніка Я. Скрыган напісаў арыгінальны матэрыял «Біяграфія», у якім да асобных эпізодаў з аўтабіяграфіі С. Хурсіка даў разгорнутыя тлумачэнні, успамінаючы тое, што звязвала іх абодвух у час маладосці, прыгадваюцца і пазнейшыя жыццёвыя варункі, калі іх шляхі-дарогі нечакана-негадана разышліся. «Біяграфія» напісана ў 1969 годзе, пазней Я. Скрыган дапрацаваў яе і цяпер яна перадрукоўваецца з двума датамі ўнізе: «1969—1977». Апошні раз гэты матэрыял змешчаны ў кнізе Я. Скрыгана «Некалькі хвілін чужога жыцця» (выданне другое, дапоўненае, 1990).

Сымон Хурсік — родам з вёскі Снуснік колішняга Ігуменскага павета, а цяперашняга Пухавіцкага раёна. Нарадзіўся 31 студзеня 1902 года. Гэта па старым стылі, а па новым атрымліваецца 13 лютага. Так званы чортаў тузін. Вядома, якое стаўленне ў многіх з нас да гэтай «магічнай» лічбы. У сувязі з гэтым не адбылося без насцярожанасці да яе і ў С. Хурсіка. Я. Скрыган успамінае ў «Біяграфіі»: «Я ведаў адну датклівую рысу яго характару: насцярожанасць да лёсу. Думалася, што нездарма ўпамянуты новы стыль (калі Хурсік паведамляў пра дату свайго нараджэння — **А. М.**), што зараз праўдамі і няпраўдамі, за ўсю доўгую непрыветнасць свайго жыцця ён пачне наракаць на гэтую лічбу трынаццаць. Але ён сябе перасіліў».

Тады дык перасіліў, а ў іншых выпадках, з іншай нагоды? Асабліва, калі гнялі, быццам абцугамі «ціснулі» думкі аб тым, што многае ў яго жыцці так і не здзейнілася, а ягоны літаратурны лёс быў зламаны. На душы станавілася пакутліва-балюча, а на сэрцы — нясцерпна-горка. У гэтыя цяжкія моманты верылася, што і на самай справе прычына ў лічбе трынаццаць, якая і наканавала яму ўсе беды. Праўда, праходзіў некаторы час, пакрысе супакойваўся і разам з гэтым упэўніваўся, што ніякай магічнасці ў дачыненні да яго няма. Хіба адзін ён такі нешчаслівы? Колькі тых, з кім разам уваходзіў у літаратуру, вучыўся, даўно расстраляны ці памерлі, не вытрымаўшы знясільваючай працы ў лагерах! І зусім не трынаццатага чысла яны нарадзіліся. Самому яшчэ хоць крыху пашанцавала…

У 1925 годзе С. Хурсік скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. Настаўнічаў у мястэчку Валынцы, у Полацку. Потым працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына». Полацк на той час, як вядома, быў адным з гарадоў Беларусі, дзе віравала літаратурнае жыццё. Таленты падтрымлівала і рэдакцыя «Чырвонай Полаччыны», тым больш, што ў ёй неўзабаве пачалі працаваць маладыя на той час літаратары Янка Скрыган і Пятрусь Броўка, які стаў адказным сакратаром, а перад гэтым загадваў аддзелам Полацкага акруговага камітэта камсамола.

Сярод творчай моладзі С. Хурсік карыстаўся аўтарытэтам. Я. Скрыган сведчыць: «Ён ужо быў далёка вядомы: меў кніжку, выдадзеную ў «Маладняку» з аўтаравым партрэтам на белай, дубовымі галінкамі аздобленай вокладцы — «Першы паўстанак». Тую кніжку я чытаў, лежачы на верхнім палку ў вагоне па дарозе з Слуцка ў Расоны, пры агарку свечкі, што ўсю ноч канала ў закураным ліхтары. І, памятаю, увесь час дзівіўся ваяўнічай абачлівасці натуры Адама Залеса, якому ніяк не ўдавалася прымерацць сябе да рэвалюцыі. І вось ён, аўтар таго Адама Залеса, сядзеў і гаварыў з намі».

Адам Залес — герой аднайменнага апавядання С. Хурсіка, дарэчы, яго першага апублікаванага твора. Апавяданне надрукавала газета «Савецкая Беларусь» у 1924 годзе (нумары за 12, 13, 15, 16 і 19 красавіка), а праз год у «Кніжцы «Маладняка» пад нумарам восем з'явіўся і згаданы Я. Скрыганом зборнік С. Хурсіка «Першы паўстанак», у якім акрамя «Адама Залеса» змешчана і апавяданне «Вырвалася».

Хоць у 20—30-я гады выдавецкія работнікі працавалі куды больш аператыўна і таленавітыя творцы даволі лёгка пачыналі свой шлях у літаратуры, тым не менш выпадак рэдкі, каб першае надрукаванае апавяданне мала каму вядомага аўтара адразу ж трапіла ў кніжку. Было чаго ганарыцца. Бадай, гэтая «хвароба» не мінула і С. Хурсіка: «… ён не любіў асабліва мірнай гаворкі, не прызнаючы за намі роўнага права разбірацца ў з'явах літаратуры». Тым больш, як піша Я. Скрыган далей, аўтарытэт яго ў «Чырвонай Полаччыне» цанілі: «…мы прызнавалі за ім бясспрэчную зверхнасць старэйшага. Адзнакаю яго старэйшасці быў яго роўны, ціхі настойлівы голас, сухі строгі твар з пільнымі цёмна-сінімі вачыма, гладка зачэсаныя на правы бок валасы, пад якімі ўжо тады, здавалася, прасвечвалася лысіна».

Сымон Хурсік пісаў не толькі прозу, а і вершы, а ў прозе не задавальняўся жанрам апавядання. У 1926 годзе ў альманаху Полацкай філіі «Маладняка» — «Надзвінне» — была апублікавана яго невялікая аповесць «Францішак Скарына», у якой, канечне ж, закранецца гістарычная праблематыка. Калі пачаў вучыцца на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (у 1927 годзе паступіў адразу на другі курс, скончыў універсітэт у 1930-м), друкаваўся ў часопісе «Маладняк». І з апавяданнямі выступаў, апублікаваў нарыс… Аповесць жа «Чорны млын» заняла чатыры нумары: 1929, 11 — 12; 1930, 1—2. У 1930 годзе выйшаў ягоны другі зборнік апавяданняў «Шляхам навальніц».

Крыж на спакойным, упэўненым жыцці С. Хурсіка быў пастаўлены 18 ліпеня 1930 года, а 10 красавіка 1931-га яго асудзілі на пяць гадоў высылкі ў г. Йашкар-

Ала. Калі тэрмін скончыўся, вярнуўся ў Мінск, але доўга ў сталіцы Беларусі не затрымаўся: загадалі ў дваццаць чатыры гадзіны пакінуць радзіму. Прыезд быў да таго нечаканы, а ад'езд такім хуткім, што нават блізкія сябры С. Хурсіка пра гэта нічога не ведалі. А сам ён страшэнна перажываў. І за ранейшую несправядлівасць, калі мусіў адпраўляцца ў высылку, але і не ў меншай ступені за новую. На лепшае спадзявацца не даводзілася, а значыць, трэба было забываць пра літаратуру — для каго пісаць, калі няма магчымасці друкавацца.

Шукаў спагады і не знаходзіў яе. Не атрымалася паразумення і з блізкімі сябрамі, набалелым з якімі паспрабаваў падзяліцца ў лістах. Не зразумеў яго і Я. Скрыган, які, як чалавек сумленны, у «Біяграфіі» шчыра прызнаўся: «Недзе ў тым жа 1936 годзе я атрымаў ад яго ліст. Невясёлы, поўны адчаю і душэўнага болю. У тым лісце ён скардзіўся на адзіноту і забытасць, параўноўваючы гэта з заўчасным скананнем, бо наўрад ці ўдасца ўжо акрыяць, каб да прывычнай работы вярнуліся рукі. Я мала што разумеў у далёкіх і складаных тады акалічнасцях яго лёсу, не ведаў пра тыя дваццаць чатыры гадзіны і адказаў з бестурботнаю зухаватасцю: ты, бач, заўсёды любіў згушчаць фарбы, быў лёгкі на крыўды, а трэба ўмець падняцца на вышыню часу і пакорна панесці нават ахвяры, калі яны патрэбны вялікім ідэалам і справам».

Дарэчы, у канцы 1936 года і сам Я. Скрыган быў арыштаваны. А С. Хурсіку давялося прызвычаіцца да лёсу. Настаўнічаў у школах Марыйскай і Чувашскай АССР, а ў 1937 годзе пераехаў у г. Петрапаўлаўск Казахскай ССР. Дапамагло веданне нямецкай мовы, якую і пачаў выкладаць у школах і тэхнікумах. Настаўнікі перад вайной мелі браню, таму яго не прызвалі ў армію, а паколькі Казахстан знаходзіўся ў глыбокім тыле, браня спачатку дзейнічала і ў вайну. Аднак 6 мая 1942-га С. Хурсік атрымаў мабілізацыйную позву. На фронце быў наводчыкам мінамёта, пісарам. Двойчы кантузіла, з баямі дайшоў да Германіі, дзе не мінула яго чарговае выпрабаванне лёсу. Як прызнаваўся ў лісце Я. Скрыгану, «фарсіравалі рэчку Нараў, занялі плацдарм… Наскочылі на нас «тыгры». Папаў у палон».

З палону ўцёк толькі 29 красавіка 1945 года пад Берлінам, а ў сярэдзіне жніўня быў дэмабілізаваны. Вярнуўся ў Петрапаўлаўск, працягваў педагагічную дзейнасць. Не без іроніі пісаў Я. Скрыгану: «…а 18 ліпеня 1947-га дазнаўся, што «няправільна» ўцёк з палону…» Колькі нерваў пільныя службоўцы папсавалі, здароўя забралі! Толькі ў «1956-м усё як след высветлена. Зноў пайшоў працаваць настаўнікам у сярэдніх школах». За даваенныя ж «грахі» С. Хурсіка рэабілітавалі 13 кастрычніка 1958 года. А старасць няўмольна насоўвалася, «пачаў хварэць на гіпертанію і стэнакардыю…» Патрабавалася рэгулярная медыцынская дапамога, таму ў 1964 годзе вырашыў з сям'ёй перабрацца ў Караганду. Праз год, калі здароўе пагоршылася, пайшоў на пенсію.

Не стала С. Хурсіка 31 сакавіка 1972 года.

У высылцы дый пасля вайны доўгі час нічога не пісаў. Падштурхнуў С. Хурсіка зноў узяцца за пяро Я. Скрыган. Пачаў аповесць, чарнавік якой неўзабаве даслаў у «Полымя», але, улічыўшы заўвагі, да ладу рукапіс давесці не паспеў. Аднак тое, што пабачыла свет, дае падставы гаварыць пра С. Хурсіка, як пра пісьменніка, які, нягледзячы на тагачасны свой малады ўзрост, у літаратуру ўваходзіў упэўнена, і высокая ацэнка, дадзеная яму М. Гарэцкім, ніяк не аванс.

Што С. Хурсік добра валодаў пяром, відаць і з яго першага апавядання. Адам Залес, як адзначаў М. Гарэцкі ў той жа працы «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928», «сын селяніна, але жыў пры дзядзьку ў горадзе, вучыўся ў гімназіі і зрабіўся панам, змагаўся супраць рабочых і сялян. Потым ён пераходзіць да бальшавікоў, але тут ён ужо чужы, «лішні чалавек». Нават бацька глядзіць на яго як на «лішняга чалавека» і адпраўляе ад сябе, з вёскі ў горад. Так і цягаецца Залес, жыве, як «гніль»…

Нешта падобнае сказаў пра галоўнага героя гэтага апавядання і нехта, хто схаваўся за крыптанімам «М. Я.», прадстаўляючы кнігу «Першы паўстанак» у альманаху «Надзвінне»: «Залесы ў наш час — гэта трэскі, якія не могуць прыбіцца ні да аднаго берага і носяцца на грэбнях гэтых хваляў. Яны маюцца ў нас і цяпер. Гэта — пошасць нашай савецкай грамадскасці, ад якой мы паступова вызваляемся. Заслуга аўтара ў тым, што ён у даволі яскравых фарбах перадаў нам прадстаўніка адміраючых людзей».

І шаноўны М. Гарэцкі, і загадкавы «М. Я.», даючы ацэнку апавяданню, ставіліся да вобраза галоўнага героя, адштурхоўваючыся ад рэалій свайго часу. Несумненна, Адам Залес — «лішні чалавек». Але ён лішні, калі падыходзіць да яго з пазіцыі класавасці і ўжо, адштурхоўваючыся ад гэтага, рабіць высновы — патрэбен ён грамадству ці не. Тады і стане зразумелым, што такія людзі не ўпісваюцца ў жыццё. І не таму, што яны благія, а з-за адметнасці ўласных паводзін, пазіцыі, якія так непадобны на паводзіны, пазіцыю іншых людзей.

Сумнення ў тым, што герой С. Хурсіка ўсё ж індывідуальнасць, не можа быць. Пісьменнік і імкнуўся як мага глыбей і лепш спасцігнуць тое, што было ў Залеса на душы. Між іншым, гэта не магла не заўважыць і тагачасная крытыка. Значна пазней, рэцэнзуючы другую кнігу С. Хурсіка «Шляхам навальніц» Хвядос Шынклер («Маладняк», 1930, № 5) прыгадаў і «Першы паўстанак»: «У першай кніжцы Хурсіка зварочвала на сябе ўвагу апавяданне «Адам Залес» — апавяданне, якое ставіць праблему «лішняга чалавека», пры чым аўтар залішне аперыраваў псіхалагічным аналізам».

Дзіўна, аднак, што Хв. Шынклер папракае С. Хурсіка там, дзе, па логіцы, яго трэба хваліць. На самай справе, хіба калі-небудзь у творы можа быць псіхалагічны аналіз залішнім? Яго чым больш, тым лепш. І гэта, здаецца, ні ў кога сумнення не павінна выклікаць. Ды як глядзець! Літаратуры 20—30-х гадоў героі, падобныя Адаму Залесу, былі непатрэбныя. Яе найчасцей цікавілі людзі, якія, не задумваючыся, віталі новае жыццё, хутка «ўпісваліся» ў яго. А значыць, прыносілі карысць грамадству.

«Вечны бяздомны вандроўнік, вечна галодны, абарваны, пакрыўджаны, нікім не прытулены, не прыгорнуты», — гаворыць сам пра сябе Адам Залес, скардзячыся на жыццёвую неўладкаванасць. Твор з традыцыйным сюжэтам, адбываецца выпадковая сустрэча дагэтуль незнаёмых людзей і той, у каго на душы набалела, спяшаецца паскардзіцца чужому чалавеку, не баючыся раскрыцца да канца, бо разумее, што гэтая сустрэча хутчэй за ўсё стане і апошняй, а значыць, няма патрэбы баяцца, што цябе, магчыма, не так зразумеюць, альбо пасля пойдзе непатрэбная пагалоска пра тваё жыццё.

Сымон Хурсік здолеў некалькімі дакладнымі штрыхамі пераканаўча намаляваць партрэт свайго героя: «Перада мною сядзеў аграмадзіна хлапец, гадоў дваццаці шасці. Крыху згорбленая фігура яго гаварыла аб фізічнай сіле, але чыста вымытыя, незапрацаваныя рукі і нямы, некалькі меланхалічны твар, сведчылі аб тым, што гэта асоба не зусім з «простых». Буйныя рысы яго твару, мяккі выгляд шэрых вачэй і выдатная лысіна з адкінутымі назад белакурымі валасамі — рабілі ўражанне нездавальнення, патаемнай пакуты і хворага неспакою. Досыць паношаная, але акуратная і яшчэ цэлая чырвонаармейская вопратка дапаўнялі ўсё папярэдняе».

Як відаць, Адам Залес — адзін з тых, чый ужо знешні выгляд сведчыць, што на душы ў чалавека разлад… Ды Залес і не хавае гэтага, паступова і разам з тым неяк спантанна (а як жа інакш, калі пра ўсё хочацца расказаць спадарожніку, а так шмат набалела, што і не ведаеш, за што спачатку ўзяцца), дзеліцца перажытым, раз-пораз адыходзячы ад звыклай плыні аповеду, і тады чарговы раз выплывае тое роспачнае, што не дазваляе яму супакоіцца: «Эт … проста без мэты… Сум… Жыцця… Няма»; «Кашмар… Прабаваў дома жыць — нічога судзьба, бадай,

такая. Гэта не судзьба, а нейкая гадзюка чорная, што абвілася ўкруг сэрца і ссе!»; «Эх!.. Як дурна, бяссэнсна і бяссумленна ўсё на свеце робіцца!»; «Судзьба ёсць, — толькі яна не ўсім даецца ў рукі; і вось я сам з такіх, каму яна не далася. Няпраўда, я сам яе не ўзяў. Я не хачу яе… чорт з ёю!»; «Цяпер я хворы духам, са мною гэтак часта бывае: сум і расчараванне ў жыцці не даюць спакою. Хварэць я ўжо даўно пачаў…»

А расчараванне ў Адама Залеса з’явілася ад таго, што жыццё яго «закруціла», і ў гэтай віхурнасці ён ператварыўся ў маленькую пясчынку, якую вятры нясуць, куды хочуць. І супраціўляцца марна, бо гэта наўрад ці нешта дасць. Аднак страшней, што ў віхурах, якія веюць наўкола, шмат прыцягальнасці, таму і самому хочацца хоць на якое імгненне адчуць іх бурапеннае дыханне. Затое, як і многія, Залес кідаўся ў крайнасці. Спачатку прымкнуў да партыі кадэтаў, затым перайшоў да правых эсэраў, трапіў на фронт. Паваяваў нядоўга: «увосень бальшавікі чуць галавы не знялі замест пагонаў». Трэба было неякі ратавацца: «Захапілі мяне крыху і новыя, камуністычныя ідэі, але яны мне ўсё ж-такі задавальнення не далі: яны былі для мяне чужымі. Душу агарнуў нейкі невыразны смутак і сум».

Залес хінуўся да адных і нечакана пераходзіў да другіх. Зноў звязаўся з эсэрамі. Якраз імі рыхтавалася паўстанне, але ў апошні момант кіраўнікі кудысьці зніклі, радавыя ўдзельнікі вымушаны былі ратавацца ад чырвоных латышскіх стралкоў…

Блуканне Адама Залеса па пакутах — шлях вельмі цяжкі, пакручасты. У падобных варунках любы разгубіўся б. Нават з моцным, валявым характарам. Што ўжо казаць пра таго, хто такімі якасцямі ніколі не вызначаўся. У раннім узросце адарваны ад вёскі («Я — сын селяніна Менскае губ. Мой дзядзька пры царскім урадзе быў афіцэрам. Васьмі гадкоў ён забраў мяне да сябе ў Петраград, каб «вывесці ў людзі», бо мой бацька быў занадта бедны нават для таго, каб карміць мяне добра»), Залес так і не стаў сваім чалавекам у горадзе, бо дзядзька задачу «вывесці ў людзі» яго разумеў па-свойму. Пры тым аднабакова, нікольк і не рупячыся аб духоўным развіцці пляменніка, галоўным лічыў толькі больш-менш трывала паставіць яго на ногі. А што ў Адама на душы і за душой, дзядзьку не хвалявала дый хваляваць не магло, бо ён, хутчэй за ўсё, належаў да тых людзей, якіх не цікавяць уласныя вытокі. Як не цікавілі яны ў далейшым і Залеса. Праўда, пра ўласныя карані ён успомніў, калі закахаўся: «Зусім выпадкова дазнаўся ад сваіх сяброў, што Ганя ведае беларускую мову і мае беларускія кнігі. Я і ўхапіўся за гэтую штуку».

Каханне не атрымалася… Не атрымалася абуджэння ў душы і нацыянальных парасткаў. Як быў Адам Залес свайго роду касмапалітам, так і застаўся ім. Не знайшоў уратавання і ў роднай вёсцы, дзе паспрабаваў шукаць яго. «Адарваўся … ад неба і зямлі не дастаў» — лепш пра стан галоўнага героя апавядання, чым ён сам пра сябе, і не скажаш.

Аднак не аднаго Залеса віна ў тым, што ён стаў чужым для грамадства, а значыць, і лішнім? Сам С. Хурсік прамогa адказу наконт гэтага не дае. Падобныя развагі, асэнсаванні, падагульненні знаходзяцца па-за творам. Кожны, хто знаёміцца з ім, мае права на свае асабістыя высновы. Але ўсе мы, хто судакранаецца з лёсам героя праз столькі гадоў пасля напісання апавядання, безумоўна, да ўсяго ставімся крыху інакш, чым сучаснікі пісьменніка. Таму адразу відочна, што Адамы Залесы ўзніклі не самі па сабе. Яны —дзеці вялікіх сацыяльных зрухаў у жыцці.

Грамадству, што апынулася ў віхуры рэвалюцыі, было не да канкрэтных людзей. Над усім брала верх ілюзорная мара — «ашчаслівіць» чалавецтва і пры гэтым, як вядома, свядома забывалася, што шчасце грамады пачынаецца са шчасця асобных яе індывідуумаў. А шчасце — рэч такая, якая аднекуль па ўказцы не прыходзіць. Адам Залес і стаў ахвярай рэвалюцыі, хоць фізічна ад яе не пацярпеў. Дакладней: пакуль не пацярпеў, бо, як няцяжка здагадацца, пазней, калі пачнуць шукаць ворагаў народа, яму прыпомняць і кадэцтва, і эсэрства.

Для пачатку творчага шляху С. Хурсіка гэтае апавяданне стала добрай заяўкай. Тым не менш багатым матэрыялам аўтар твора яшчэ цалкам не валодаў. Найперш гэта відаць па тым, што апавядальнік, слухаючы споведзь галоўнага героя, часцей выглядае маўклівым сузіральнікам, а гэта запавольвае дынамізм, няхай і ўнутраны. Твор выйграў бы, калі б у споведзі Адама Залеса ўзмацніліся найбольш значныя моманты з яго жыцця. Хоць бы тады, калі персанаж хістаўся з партыі ў партыю, а гэта, вядома, не адбывалася без вялікіх унутраных перажыванняў. Аднак, магчыма, С. Хурсік і свядома стрымліваўся, бо меркаваў у далейшым вярнуцца да людзей, падобных Адаму Залесу.

Дарэчы, апавяданне «Змітрок» («Маладняк», 1928, № 1, пасля ўвайшло ў кнігу «Шляхам навальніц»), хоць яго галоўны герой па сутнасці супрацьстаіць Адаму Залесу, па сваёй праблематыцы блізкае папярэдняму твору. Як і ў «Адаме Залесе», С. Хурсіка таксама цікавіць чалавек, які апынуўся ў віхуры рэвалюцыйных падзей. Іншая справа, што Змітрок, у адрозненне ад Залеса, куды больш упэўнены ў выбары свайго шляху: «Мне здаецца, што я ў Чырвонай Арміі і радзіўся… Чырвоная Армія для мяне лепш за родную сям'ю». Але, як і Адам Залес, Змітрок з цяжкасцю знаходзіць паразуменне з блізкімі яму людзьмі. А характар мае ваяўнічы, калі чаго дамогся, ад свайго не адступіцца. Так, калі Залес абмяжоўваўся «тэарэтычнымі» развагамі: «Прыду, бывала, раніцою дамоў: бацька з меншым маім братам капаюцца ў гнаі, працуюць, а я стаю збоку, разгаварываю з імі, спрачаюся часам, грамлю іх за некультурнасць…», дык Змітрок поўны рашучасці прывучыць сямейнікаў жыць па-новаму.

Але і бацька ягоны з характарам. Так адбылося і тады, калі Змітрок вырашыў павесіць на сцяну партрэт нейкага рэвалюцыянера. У сына з бацькам даўно нелады былі. «Гэта не чалавек, а кат, жандар якісьці, падлізнік папоўскі», «мы пакутавалі, а бацька з грашыма насіўся, як кошка з кацянятамі». А тут бацьку як узарвала:

«— Ах ты, — кажа, — сукін сын, і каму ж ты вочы прымазваеш?.. Які ж гэта, сукін сын, апостал?!

— Апостал! — стараюся ўтрымаць я сваю пазіцыю.

— Ці ж гэта апостал быў лысы?

— Вось пэўна, кажу, што ўсе апосталы былі лысыя!

— Сукін ты сын, а ці ж апосталы ў хрэнчах такіх хадзілі, з такімі акулярамі…

— Вось іменна!

— Змоўкні! — раўнуў бацька, сарваў са сцяны здымак вобземлю».

Праўдзівасць, непасрэднасць аповеду надае тое, што ў гэтым творы, як і ў «Адаме Залесе», гаворка вядзецца ад першай асобы. Сам аўтар толькі слухае свайго «нядаўняга… знаёмага — нізкаранслага, шыракаплечага Змітрака». Але калі ў споведзі Залеса, пра што і гаварылася, няма дынамізму, дык Змітрака, які ў стане ўзбуджэння, да ўсяго на дзіва эмацыянальны, слухаць адно задавальненне. Асабліва ў такія моманты. Як кажуць, найшла каса на камень. Абодва з характарам… І бацька, і сын: «На мяне як бы вару хто ўзліў: у адно імгненне вока я ўскочыў на лаўку, схапіў з кутка «святога Міколу» і з усяго размаху шпурнуў яго туды ж, дзе і рэвалюцыянер мой ляжаў». Ды не тут было! Бацька кінуўся на сына з сякерай, ледзь той ўратаваўся.

І згаданы эпізод, і твор у цэлым выклікалі заслужанае захапленне М. Гарэцкага: «У гэтым апавяданні — сакавітая народная вобразнасць і мова. Дасканалыя параўнанні і прыказкі. Мастацкі дыялог, у якім нічога лішняга і кожнае слова падмацоўвае ўражанне. Веданне народнага жыцця вельмі добрае. Калі бацька сарваў са сценкі Змітракова правадыра і Змітрок за гэта бразнуў на падлогу абраз з бацькавым богам, як аўтар ведае і маляўніча паказвае, што «на падлозе, хто куды, у розныя бакі, прусы кінуліся наўцёкі». Шмат тут і псіхалагізму. Змітраковы пера-

жыванні перадаюцца вельмі тонка. У гэтым апавяданні Хурсік выявіў сябе значным майстрам малюнкаў з яскравымі, свежымі і моцна пакладзенымі фарбамі».

А яшчэ М. Гарэцкі адзначаў: «Псіхалагічны момант — няўдалае каханне (галоўнага героя. — **А. М.**). Настулю аддаюць за нейкага аліментшчыка, яна ідзе, Змітрок у роспачы страляў па ёй. Ён цяпер працуе на млыне. Чырвоная Армія была яму роднаю сям'ёй».

Праўда, у М. Гарэцкага не абышлося і без заўваг, але яны не істотныя: «Аўтар дае тут і прыгожыя апісанні прыроды, але яны лішнія і задоўгія ў пачатку апавядання».

Ёсць у гэтым творы псіхалагізм і іншага кшталту. Гэта калі Змітрок хваліцца, як ён змагаўся з ворагамі: «Адзін раз я аднаму … тоўстаму такому … як парнуў штыком у пуза, дык ён толькі — аў! А вочы аж павылазілі наверх, крывёю напаліваліся, страшныя такія… Тузануўся разоў колькі ён і захроп… Вось усё адно, як пацука на шыла ўсадзіў…» Сёння такая адкрытасць героя, ягоная шчырасць даюць падставы лішні раз упэўніцца, наколькі класавая нянавісць пазбаўляла чалавека чалавечнасці, як паступова ператвараўся ён у звычайны механізм, што дзейнічаў, быццам заведзены ў адпаведным кірунку. І Адама Залеса, і Змітрака фарміраваў скрушны час. Але Залес для новых сацыяльных адносін у многім аказаўся чужым. Змітрок жа стаў для іх сваім. Дзякуючы таму, што ён з людзей, якія менш сумняваюцца, а больш бяруць на веру. Такім прасцей…

Спадабалася М. Гарэцкаму і невялікая аповесць С. Хурсіка «Францішак Скарына», якую ён назваў «даўгім апавяданнем»: «Яно вызначаецца ўжо тым, што гістарычнае, бо гістарычных твораў у беларускай літаратуры вельмі мала. Апісваецца 1530 год у Вільні. Сюжэт у ім вельмі цікавы, тыпы выразныя, гістарычны фон даволі вытрыманы». Палічыў М. Гарэцкі патрэбным сказаць і наступнае: «Недахопы: грубы натуралізм і вульгарнасць некаторых месцаў, залішняя шаржыроўка ў апісанні жыцця манахаў і некаторая, не зусім мастацкая, тэндэнцыйнасць у аўтарскім падыходзе наогул».

З ацэнкамі М. Гарэцкага нельга не пагадзіцца, але, думаецца, да месца ўдакладніць, што С. Хурсік у аповесці, як і ў апавяданнях, свядома надае вялікае месца пейзажу. Магчыма, часам ён гэтым і злоўжываў, але ў дадзеным выпадку разгорнутыя малюнкі як нельга да месца. Праз прыроду, яе дыханне лепш узнаўляюцца падзеі, бачацца людскія памкненні і клопаты, а пачатак і завяршэнне твора знітаваны між сабой.

Напачатку малюнак вельмі каларытны: «Тысяча пяцьсот трыццаты год быў суровым, сумным і страшным для ўсёй Беларусі і асабліва для гораду Вільні. Памятка аб ім надоўга заставалася ў памяці людзей якойсьці чорнаю, непазбытнаю ды ззяючаю плямай-ранаю.

Вясна ў гэтым годзе прышла ранняя, захапліва-радасная, пышная».

Людзі, зразумела, жадалі багатага ўраджаю, і ў гэтым сваім чаканні не заўважылі, як у прыродзе пачалі адбывацца змены:

«А сонца прыпальвала ўсё мацней і мацней.

Гэтак адсмяяліся, адцвілі цэлыя тыдні, а на небе не паказалася ніводнага воблачка.

Пачаўся сухмень.

Занепакоілася, захвалявалася беднота вясковая, замшавелыя вёскі нямы жах абхапіў.

А багатая Вільня, тым часам, жыла спакойна, весела, бестурботна. Спякота дзён змянілася вечарамі, пахучымі ды мяккімі чарнявымі начамі. У гэтыя ночы ў небе зоры іскрамі пырскалі, часам падалі кудысьці ўніз, як буйныя слёзы з воч, зара з зарою цалавалася.

Багатыя вільчане жылі весела і бестурботна…»

Толькі не ва ўсіх была такая бестурботнасць. Сярод апошніх і слаўны сын

Полацка Скарына, які ў Вільні жыў сваімі друкарскімі справамі і нялёгка знаходзіў паразуменне з тымі, ад каго залежала падтрымка, але хто, на жаль, не разумеў значэння кніг дзеля асветы народа, дый, прызнацца, не вельмі пра гэтую адукацыю турбаваўся.

Як і ў самым пачатку аповесці, тут С. Хурсік надае вялікае значэнне свайго роду экспазіцыі, што настройвае на адпаведны лад:

«Ліпнёвы дзень сканаў, захліпнуўся. Яшчэ пырскаў захад смолам ліловым, але ў гэтым яго смеху ўжо чулася штосьці адпетае, аджыўшае, пaканаўшае без надрываў, — такое, што не можа вярнуцца назад, а бывае ў жыцці толькі аднойчы.

Дзень сканаў, захліпнуўся. Ён утапіўся ў растопленым золаце вечару…

Вільня заснула, залаташылася, аддалася вясёласці. Вуліцы заліліся святлом.

Гул вуліц і музыка начы зліліся ў адзіную нявымоўную мелодыю, у адзіны гімн жыццю…

Але нічога гэтага сёння не чуў і не бачыў слаўны вучоны палаччанін Францішак Лукіч Скарына. Ужо больш як паўгадзіны ён узрушана хадзіў па сваім невялічкім, цёмным і суровым пакоіку».

Вячэрні, нават начны час Скарына выкарыстоўваў для паскарэння ажыццяўлення таго, што даўно жыло ў ягоных марах. Ён жадаў аднаго: найхутчэй выдаць у Вільні кнігу. І цяпер «расшпіліў на сабе сваю доўгую чорную мантыю і прысеў за стол. Порстка адгарнуў убок кавалачак дрэва, на якім ён выразаў узоры, каб пасля аддрукаваць іх у кніжцы, узяў невялічкую дошчачку з недаканчаным узорам і пачаў яго асцярожна дамалёўваць…»

Ды не толькі ў друкарскіх турботах знакаміты асветнік. Хвалюе яго і лёс Бацькаўшчыны, любай сэрцу Беларусі: «З аднаго боку маскоўцы паляць нашы сёлы і гарады, а з другога боку — і палякі кожную часіну гатовы рынуцца гэта ж чыніць… Пятля на шыю накінута ды зацягваецца павольна… Палякі гэта бачаць ды выкарыстоўваюць, насядаюць з уніяй». І за народ непакоіцца Скарына: «Люду, мой люду!.. Як цябе ратаваць?... Адкуль сілы ўзяць?!»

Зразумелыя гэтыя ягоныя турботы, бо ў паветры зноў запахла порахам, «маскоўскі цар сабірае вялікае войска». І ўсё ж кнігадрукаванне — на першым плане. Таму і кіруецца Скарына ў Троіцкі кляштар. Каб заручыцца падтрымкай манахаў. Яго гаворка з айцом Анісімам праходзіць не проста. Насцярожвае манахаў тое, што Скарына іншай веры, чым яны. Не праваслаўны, а каталік. І адначасова быццам супраць яе не выступае: «Айцец ігумен, ведайце, што зразумелая для простага люду кніжка надзвычай лёгка паб’е і ерэсі, і каталікоў. І каго хочаце. А кніжку я ўжо выдам добрую. Цяпер нават і немцы не могуць выдаваць такіх прыгожых кніжак, як я, ды, апрача таго, я здолею надрукаваць кніжку, зразумелую для кожнага».

У аповесці паказаны як канкрэтныя гістарычныя асобы — Скарына, бургамістр горада Бабіч, так і літаратурныя персанажы — «адзін з найлепшых супрацоўнікаў Скарыны ў яго друкарні» 25-гадовы Даніла, служанка Алеська, друкар Цімох… Праўда, яны эпізадычныя персанажы. Галоўная ўвага аўтара скіравана на Скарыну. З аднаго боку, гэта добра, бо дазваляе больш праўдзіва паказаць першадрукара. Аднак тым самым звужаюцца сюжэтныя рамкі твора, аповесць і сапраўды набліжаецца да апавядання, у аснову якога пакладзены адзіны факт: намаганні Скарыны па выпуску ў Вільні кніг. Але, паколькі С. Хурсік — адзін з першапраходцаў у асваенні ў беларускай літаратуры гістарычнай тэматыкі, пэўныя выдаткі не могуць у цэлым сапсаваць агульнае ўражанне ад твора. Абмежаваўшы рамкі аповесці толькі 1530 годам, пісьменнік здолеў паказаць, наколькі гэты год у лёсе Скарыны быў і звычайным, і разам з тым вызначальным. Яшчэ бар’еры на друкарскім шляху не зніклі, ды гэта ўжо не магло спыніць Скарыну.

Пажар у Вільні — пажар і ў душы: «Бедны мой люд… Сам сябе ты губіш, у няволю прадаеш!!!» Не толькі была знішчана друкарня. Не стала і большай часткі горада:

«Тысяча пяцьсот трыццаты год для ўсёй Беларусі і, асабліва для горада Вільні, быў суровым і страшным…»

Калі б былі больш спрыяльныя ўмовы, С. Хурсік у далейшым, магчыма, прадоўжыў бы асэнсаванне гістарычных падзей. А так у асноўным пісаў аб блізкай яму сучаснасці, аб чым засведчыла і апавяданне «Барвяныя бляскі». Як адзначаў М. Гарэцкі, «Хурсік дае малюнак рэвалюцыі на вёсцы, як паны думалі застацца на Беларусі, прыводзячы на абарону польскіх легіянераў, і як сяляне разбівалі панскія двары. Абразок моцны, але часам ёсць лішні натуралізм. Добра змалёваны тыпы паноў. Добрыя кароткія апісанні прыроды».

А праз прыроду перадаецца і стан душы чалавека. Паводле аўтарскай задумы, душы пана Заворскага, якому тужліва-самотліва ад таго, што падзеі пайшлі ў такім накірунку. Калі яму няма асаблівых падстаў спадзявацца на вяртанне мінулага. Аднак Заворскі хоча застацца тым, кім быў. У канцы апавядання ён і паказаны ў роздуме:

«Сыплецца з дрэў пажоўклае лісце. Шалясціста, звонка.

Сіняй наміткай трымціць у полі асенняя смуга.

На пажоўклыя прасцягі лягла задума цяжкая.

Сумна.

Над высокай ліпавай алеяй панскага дзядзінцу бесперастанку крычаць-б’юцца неспакойныя вароны. Часам яны ўзрываюцца ўгару, налятаюць адна на адну, а то збіраюцца вялікай кучай ды хутка ляцяць цераз голае поле да алешніку, што на балоце.

Пану Заворскаму сумна. Было весела, а зрабілася сумна.

Сум падкраўся непрыкметна, разам з восенню, разам з тым, як з нямецкага фронту пайшлі кудысьці на Расію рускія дывізіі, як пайшлі чуткі, што Керанскі праваліўся, а ўладу захапілі бальшавікі. Адбіраюць фабрыкі, заводы, панскія двары».

Сяляне даўно не баяцца Заворскага. І цяпер натоўп, якім кіраваў найбольш ініцыятыўны Зміцер, дэмабілізаваны з арміі, адчувае сябе гаспадаром: «… яны выломлівалі ў хлявах замкнёныя дзверы, выганялі на двор усю жывёлу, якая толькі там была». Адно спадзяванне ў Заворскага, каб своечасова падаспеў «камандзір польскага легіёну, пан Левардоўскі…»

У апавяданні чарговы раз праўдзіва паказана, наколькі разбуральная рэвалюцыйная стыхія, як азлабляе яна чалавека. А там, дзе злосць, там і насілле. Над цвярозымі развагамі бярэ верх лютасць, жорсткасць. Шкада толькі, што ў перадачы яе С. Хурсік не здолеў пазбегнуць натуралізму, за які слушна папракаў яго М. Гарэцкі: «Акрываўленае цела ў пана Заворскага дрыжэла як асінавы ліст. На падлозе стаяла чорная лужына крыві. Са здаўленых грудзей … як у кабана, калі ён здыхае, вырываліся толькі цяжкія, хліпяслівыя хрыпы».

Спыніцца б сялянам, ды дзе там: лютасць працягвае правіць баль:

«— Хто яшчэ, хлопцы, хоча?... біце! — спытаўся, урэшце, ледзь зводзячы дыханне, Зміцер, — я ўжо не магу…»

Толькі пасля гэтага пачулася:

«— Дый што яго біць: усё роўна ён нічога не чуе!»

Па логіцы «ўхапіцца» б С. Хурсіку за гэтыя, такія нечаканыя сярод агульнай раз’юшанасці, словы, прыгледзецца да таго, хто прамовіў іх, паспрабаваць разабрацца ў яго душы. Ды зрабіць гэта С. Хурсік не мог, таму што не ў сілах быў абагнаць свой час. А спрыяльныя ўмовы патрабавалі менавіта такога стаўлення да прыгнятальнікаў, а не іншага. На людской крыві квітнелі кветкі рэвалюцыі. На ёй палымнелі чырвоныя гваздзікі. На крыві, што, быццам вада, лілася з аднаго і з другога боку.

Сымон Хурсік не забываў аб гэтым, аб чым, у прыватнасці, сведчыць яго апавяданне «З Першым мая!». Калі ў «Барвяных блясках» лютуе натоўп, адчуўшы свабоду і беспакаранасць, дык тут польскія акупанты помсцяць за забойства вахмістра, падносячы вяскоўцам своеасаблівы «падарунак» да Першага мая:

«А полымя шугала з хаты на хату, растрасала стрэхі саламяныя, гуло. Залівалася ўтрапёным смехам, дзікім:

— Віншуем з Першым мая! — злосна кпіў звар'яцелы эскадронны. — Ні з месца!..

А сярод вуліцы ў гразі ляжалі памлелыя кабеты… Другія ірвалі на сабе вопраткі, валасы, лезлі ў адчаі на плот, але іх зноў сцягвалі і дзіка, як драпежную жывёлу, штурхалі ў кучу…

А вёска кіпела, як вар у гаршку…

Віншуем з Першым мая».

Адно з лепшых апавяданняў С. Хурсіка «Янка з Палесся». Для перадруку ў «Анталогіі беларускага апавядання» яно было аўтарам у нечым папраўлена, скарэкціравана. Галоўны герой твора вяртаецца ў перажытае: «… Я ўвесь час з маленства парабкаваў! Бацька загінуў на фронце, ну а маці, што яна, адна жанчына… У дзевятнаццатым годзе, як бальшавікі наступалі, пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную армію. Усюды давялося пабываць».

Янка, трапіўшы ў Сібір, змагаўся з Калчаком, быў памочнікам камандзіра ўзвода. Сярод узятых у палон убачыў сына свайго суседа, заможнага шляхціца Дашэўскага. Пашкадаваў яго, уратаваў ад немінучай пагібелі. Сам Дашэўскі, калі пра гэта даведаўся, застаўся вельмі ўдзячны, называў Янку найлепшым сябрам. Магчыма, так і працягвалася б, калі б не далейшыя падзеі. Вырашыў Янка гаспадаркай абзавесціся. У сельсавеце, куды звярнуўся па дапамогу, яму прапанавалі ў «Дашэўскага дзесяцінак гэтак з дзесятачак адрэзаць…» Не сказаць, каб узрадаваўся ён такой прапанове: «А мяне дык аж у пот кінула, як ён (старшыня сельсавета. — **А. М.**) гэта сказаў. Чалавек, які за вярсту са мной вітаецца, бо я ж сына яго выратаваў тады, на фронце, дый сын вярнуўся таксама жывы, здаровы… І вось цяпер трэба стацца нібы ворагам да іх…»

Сітуацыя — неардынарная. Ёсць над чым паразважаць. Зразумела, калі не абмежавацца звычайнай канстатацыяй факта. А зрабіць гэта не так і проста, бо расказвае не сам аўтар, а яго герой. Значыць, належнага эфекту можна дасягнуць праз інтанацыю, выверанасць маналогу і дыялогі, калі апавядальніка падтрымаюць субяседнікі. Нарэшце, не абысціся без пэўнай маральнай высновы, што прагучыць як падагульненне ўсяго сказанага. С. Хурсіку ўдалося. З аповеду Янкі вынікае, што Дашэўскі-старэйшы пра абяцанне застацца сябрам не забыў. Таму пагадзіўся, каб адрэзалі зямлі з яго надзелу. Але, калі ўбачыў, што сусед пачаў забудоўвацца, верх узяла зайздрасць. А тут яшчэ Янку выбралі старшынёй камітэта беднаты. Не ўтрымаўся Дашэўскі. Калі жонка Янкі жаночы сход праводзіла, уварваўся з хаўруснікам, разагнаў усіх, за што атрымаў «па два тыдні прымусовых работ». Пасля гэтага адпомсціў жорстка: запалала Янкава хата.

У варыянце, што ўвайшоў у кнігу «Шляхам навальніц», С. Хурсік у ацэнцы паводзін Дашэўскага дазваляў самому чытачу паразважаць над тым, што і да чаго:

«— Гэта, значыцца, за паратунак сына адплаціў?

— Выходзіць — так… А калі сынка я перавязаў, дык ён кляўся: «Пакуль я жыў буду — ты будзеш мой найлепшы сябра… Як выздаравею — чым толькі змагу, адплачу!» і вось — адплаціў!..

Сціх Янка і ў задуменні апусціў галаў на рукі».

Пры дапрацоўцы заключны эпізод атрымаўся разгорнуты, але ці стаў ён ад гэтага больш псіхалагічна пераканаўчым? Як сказаць.

«— Значыцца, адплацілі за паратунак сына?

— Выходзіць — так. Але, я думаю, не ў гэтым справа: мы там, на фронце, былі ворагамі. Мы імі і тут засталіся… Галоўнае тут — зямля, прыватная ўласнасць на зямлю! Вось што!..

— Аб гэтым і галоскі быць не можа, — пацвердзіў мужчына ў шэрым фрэнчыку.

— Не, — разважаў далей Янка. — Рэвалюцыя яшчэ не даведзена да канца. Разбілі Калчака, Дзянікіна. Урангеля… Але давядзецца, бадай, яшчэ і з гэтымі крывасмокамі схапіцца…

— Вось гэта факт! — горача згадзіўся з Янкам яго субяседнік, мужчына ў шэрым фрэнчыку. — Справіліся на франтах, а тут і рабіць няма чаго…»

Адчуванне такое, што новы варыянт пісаўся ў 20-я гады, а першы сёння. Парадокс? Сапраўды. А калі лепш разабрацца…

Але ж акурат тады такая літаратура настойліва і паслядоўна праводзіла думку, што барацьба з ворагамі на франтах не спынілася, а працягваецца ў мірны час. Цяпер не выклікае сумнення, што псіхіка — пастаянная загадка, паводзіны чалавека могуць быць непрадказальнымі. Зыходзячы з гэтага, і трэба падыходзіць да першага варыянта з яго, здавалася б, недагаворанасцю. І ён, як ні дзіўна, лепшы за новы.

Маральна-этычную праблематыку С. Хурсік закрануў у аповесці «Чорны мост». Шкада, але поспеху не дасягнуў. Не ў апошнюю чаргу таму, што факта, пакладзенага ў аснову твора, дастаткова для псіхалагічна заглыбленага апавядання. І не больш… Наймічка Арына зацяжарыла ад сына гаспадыні Стася, якога моцна кахае, нарадзіла дзіця. Той дамагаецца, каб яна дала згоду немаўля забіць, а сам заляцаецца да іншай. У рэшце рэшт дабро перамагае: Стась трапляе за краты, а Арына знаходзіць шчасце ў камуне.

Аўтар на баку пакрыўджанай і няшчаснай Арыны, не жадаючы зразумець, што тым самым маральная аснова ў творы хісткая. Як бы там ні было, але ж Арына, няхай і праз угаворы, пагадзілася, каб дзіця было забіта. Аповед жа пра лёс яе, перажыванні расцягнутыя, псіхалагічна ўзважаных эпізодаў няшмат. Адзін з іх звязаны з нараджэннем дзіцяці. Хоць і не любіў бацька Стася Арыну, як ні папракаў сына за тое, што звязаўся з ёю, а штосьці чалавечае дало знаць:

«Карэцкі замёр.

— У-а, у-а, у-аа! — моцна і раздражнёна закрычаў дзіцячы галасок.

Па пахмураным і разам з тым зляканым твары Карэцкага слізганула ўсмешка.

Каб Арына магла ў гэты момант падняць галаву ды паглядзець на свайго гаспадара, яна прабачыла б яму за гэтую ўсмешку ўсё — і недаспаныя ночы, і голад, і сцюжныя завірухі ў лесе, куды яе пасылаў ён за дрывамі, і, наогул, усе здзекі, учыненыя над ёю, як над наймічкаю і як над чалавекам. Бо ў гэты момант у яе гаспадару чалавек перамог звера. Чалавек зрабіўся на момант чалавекам».

А ў астатнім? Нельга ж усур'ёз успрымаць такія «перажыванні» Стася: «Я — кулак. Я — вораг… Я забіў сваё ўласнае дзіця… Пакрыўдзіў і знішчыў дзяўчыну! (Ён хацеў забіць Арыну, але гэта не ўдалося. — **А. М.**) За што? Мне хацелася ўцехі… Я не ведаў, што рабіў. Не, я звер, я — вырадак… Можа пры камунізме гэтага не будзе. Не будзе ні шляхты, ні батракоў. Будуць толькі людзі. Тады, можа, і злачынцаў гэткіх не будзе? Так. Але тады са мною поплеч будзе сядзець мужык. Будзе гаварыць са мною, як з сваёю раўнёю. Просты мужык са мною, шляхціцам! Не, ніколі гэтаму не быць!.. Я, спрадвечны шляхціц, павінен зрабіцца мужыком, быць роўным з мужыком?!»

І наогул, у аповесці, асабліва, калі расказваецца пра тое, як Арына трапіла ў камуну, пасля таго, калі яе без прытомнасці падабралі каля Чорнага моста, дзе яна, уцякаючы ад Карэцкіх, страціла прытомнасць, С. Хурсіку не ўдалося пазбавіцца рытарычнасці. І гэта назіраецца як у ацэнцы падзей, так і ў перадачы

пачуццяў персанажаў. Тым самым пісьменнік не пазбавіўся таго, чаго не магла пазбавіцца ўся тагачасная літаратура.

У сваіх перакананнях адзін з камунараў Міхась вельмі ж падобны на аналагічныя хадульныя персанажы з твораў іншых пісьменнікаў: «Нічога. Хутка злыбеда мінуе. Яшчэ адна-дзве патугі — і не будзе ні шляхтаў, ні батракоў. Будуць усе роўнымі, больш-менш аднолькава шчаслівымі. А покуль што паміж намі і імі, багатымі, Чорны мост, барыкада. Як толькі мы пераможам канчаткова, паміж людзьмі не будзе такой злагады, як цяпер».

Хоць удакладненне «больш-менш аднолькава шчаслівымі», думаецца, істотнае і сведчыць аб пазіцыі аўтара наконт «усеагульнага шчасця». Відаць, С. Хурсік унутрана ўсё ж сумняваўся ў магчымасці яго, таму і ўклаў у вусны Міхася менавіта такія словы. Але, тым не менш, завяршэнне аповесці атрымалася фальшывым: «А навокала малым дзіцем смяялася вясёлая далячынь. Спявала маладымі жытамі. Пярэсціла гожымі, мяккімі, ласкавымі травамі сенажацяй». Яшчэ можна было з нацяжкай успрыняць параўнанне «вясёлай далячыні» са смехам дзіцяці. Успрыняць, калі б не ведаць, што дзіця загінула.

Наконт вершаў С. Хурсіка можна сказаць, што яны — даніна свайму часу, ці напісаны на традыцыйныя матывы: «Стой пралетары пільней на пасту», «Вясна ідзе», «Над зялёным борам заквітнелі зоры…», «Беларусь тыя мая сінякрылая…», «Звіні, струна»… Значных адкрыццяў няма, але і не адмовіш аўтару ў шчырасці.

Як і многія іншыя пісьменнікі, С. Хурсік не цураўся і перакладчыцкай працы. Узнавіў па-беларуску аповесць А. Серафімовіча «Горад у стэпе», апавяданне А. Гараўскага «Алёнка» і іншыя творы.

Свае нататкі пра С. Хурсіка М. Гарэцкі завяршыў словамі: «Творчасць яго — вельмі блізкая рабоча-сялянскім беларускім масам». Магла б яна быць блізкай і сённяшняму чытачу, калі б мы былі больш удзячнымі тым, хто стаяў ля вытокаў літаратуры 20-х гадоў мінулага стагоддзя.

**Леанід ЯЎМЕНАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі,**
**галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі НАН Беларусі**

# КАНЦЭПТУАЛЬНЫЯ АСНОВЫ ПАЛІТЫЧНАЙ ФІЛАСОФІІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ ЕЎРОПЫ

*Яшчэ нядаўна, вызначаючы, што такое Еўрапейскі саюз, мы характарызавалі яго як «ужо не арганізацыя, яшчэ не дзяржава». На вачах сучаснікаў ён як арганізацыя пераўтвараецца ў дзяржаву. Пра гэта сведчыць адзіны гуманітарна-прававы дакумент — Хартыя асноўных правоў Еўрапейскага саюза; адзіная канцэпцыя бяспекі і абароны. Доказы таму — наяўнасць адзінай сістэмы кіравання данай арганізацыяй, сістэмы, якая мае дакладна акрэсленыя характарыстыкі заканадаўчай і выканаўчай дзяржаўнай улады [1, с. 16—18]. Пра гэта зафіксавана ў адзіным акце, што ўдакладняе асноўныя пазіцыі тых, хто засноўваў згаданую супольнасць, у Лісабонскім дагаворы. Тут у п. 1 арт. 9 гаворыцца: «Саюз мае інстытуцыйнае вымярэнне, якое прадугледжвае рэалізацыю сваіх каштоўнасцей, ажыццяўленне сваіх мэт, ён служыць сваім інтарэсам; каштоўнасцям, мэтам, інтарэсам сваіх грамадзян, сваіх дзяржаў-членаў, а таксама забяспечвае сувязь, дзейснасць і паслядоўнасць сваёй палітыкі і дзейнасці» [3, с. 306]. Інстытутамі Саюза з'яўляюцца Еўрапейскі парламент, Еўрапейскі савет, Савет, Еўрапейская камісія (з наступным перайменаваннем «Камісія»), Суд справядлівасці Еўрапейскага саюза, Цэнтральны еўрапейскі банк. І нарэшце, пра гэта сведчыць стварэнне інстытута прэзідэнцтва і абранне Прэзідэнта, ператварэнне ЕС у суб'ект міжнароднага права.*

## 1. Еўрапейскі саюз як этап пазітыўнай глабалізацыі свету

Для таго каб належным чынам зразумець каштоўнасці, якіх ён прытрымліваецца, пастаўленыя мэты і прынцыпы, неабходна ўдакладніць, ва ўмовах якога аб'ектыўнага сусветнага працэсу ўзнікла новае ўтварэнне. Адказ можа быць адзін: ва ўмовах працэсу глабалізацыі свету — глабалізацыі, галоўнай асаблівасцю якой з'яўляюцца ўсё нарастаючыя супярэчнасці, усё больш акцэнтаваная барацьба пазітыўных і негатыўных яе аспектаў.

Глабалізацыя — з аднаго боку, імкненне асобных дзяржаў (ЗША, Кітай, Расія) шляхам эканамічнай і палітычнай экспансіі ўзяць пад кантроль геапалітычную сусветную прастору і кіраваць ёй у імя рэалізацыі сваіх нацыянальных інтарэсаў. З другога — намаганні іншых народаў, дзяржаў і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пабудаваць на планеце Зямля АГУЛЬНЫ ДОМ, у якім камфортна адчувалі б сябе ўсе палітычна роўныя народы і дзяржавы, малыя і вялікія, тыя, якія толькі сталі на шлях развіцця, і высока эканамічна і культурна развітыя.

З аднаго боку, спробы старых і новых алігархічных груповак адрадзіць транснацыянальную эканамічную манаполію на вытворчасць, гандаль, размерка-

ванне даброт, аднавіць каланізацыю краін і народаў. З другога — пазіцыя народаў і дзяржаў, што сталі на шлях развіцця і адчайна ім супраціўляюцца (Украіна, Беларусь, Малдова, краіны Лацінскай Амерыкі і інш.), нацыянальнага сярэдняга і малога бізнесу, руху антыглабалізму.

Гэта, з аднаго боку, з'явы рабства (у тым ліку і сексуальнага), якія паўсталі з сівой даўніны, гандлю людзьмі, наркабізнесу, гвалтоўнай прапажы людзей, карупцыі, тэрарызму, «гуманітарнай» інтэрвенцыі, генацыду, што ініцыююцца асобнымі сацыяльнымі групамі і дзяржавамі. З другога — актыўнае супраціўленне ўсяму гэтаму з боку большасці сацыяльных груп чалавецтва, большасці цывілізаваных дзяржаў і народаў.

Усе пералічаныя вышэй з'явы негатыўнай глабалізацыі свету з'яўляюцца, як вызначыў бы іх прыроду аўтар цікавейшага даследавання амаль стогадовай даўнасці «Імперыялізм як вышэйшая стадыя капіталізму», параджэннем эканамічнага, палітычнага і ваенна-палітычнага імперыялізму.

Яны ж, гэтыя негатыўныя аспекты, — як прынята сягоння іх называць, глабальныя выклікі сучаснасці — выклікі пазітыўнай глабалізацыі свету, з дапамогай якіх адрахлелы стары свет, спараджаючы з'явы духоўнага, маральнага, палітычнага крызісу і сённяшні глабальны фінансава-эканамічны крызіс, дае апошнія бітвы сучаснаму чалавечаму грамадству.

Разважаючы над гэтымі праблемамі, нязменна прыходзіш да вываду, што ні асобны сацыяльны клас, ні яго рэвалюцыя, ні яго дыктатура не могуць быць сёння зброяй супрацьдзеяння негатыўным аспектам сучаснага грамадскага развіцця, не могуць быць галоўнай зброяй барацьбы з глабальнымі выклікамі сучаснасці, не могуць быць галоўнай зброяй для вырашэння праблем, спараджаемых імі.

Такой зброяй можа быць толькі дзяржава. Дзяржава, якая не з'яўляецца ні апаратам улады дыктатуры пралетарыяту, ні апаратам улады дыктатуры капіталістаў. Дзяржава, што аб'ектыўна змяніла сваю сацыяльную сутнасць. Дзяржава як апарат яднання інтарэсаў сацыяльных класаў грамадства. Менавіта гэта асаблівасць сучаснага свету дае права сцвярджаць, што ЕС, каштоўнасці, якія ім рэалізуюцца, мэты, прынцыпы з'яўляюцца цяпер сацыяльна-эканамічнай і духоўнай асновай яго пазітыўнай глабалізацыі.

## 2. Каштоўнасці, мэты, прынцыпы

Думаецца, што прызнанне ЕС дзяржавай, устанаўленне яе назвы павінна быць звязана з больш дакладным вызначэннем, удакладненнем каштоўнасцей, мэт, прынцыпаў яе адносін і дзейнасці. Гэтыя вызначэнні і ўдакладненні, калі яны будуць прыняты, могуць быць уведзены ў дзейнасць новай дзяржавы шляхам дадаткаў, пратаколаў да ўжо існуючых прававых актаў Еўрасаюза (скажам, да Лісабонскага дагавора) так, як гэта было зроблена Саветам Еўропы з Канвенцыяй аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, што ў сваім першапачатковым варыянце не прадастаўляла грамадзянам Еўропы права на ўласнасць, на працу, на адукацыю і шэраг іншых фундаментальных правоў, а потым на працягу амаль чвэрці стагоддзя дапаўнялася серыяй пратаколаў і хартый, якія кадыфікавалі гэтыя правы [2, с. 761—835].

*Базавыя каштоўнасці*. Пра іх гаворыцца ў першых радках асноватворных дакументаў Еўрасаюза, асабліва ў Канстытуцыі ЕС і Лісабонскім дагаворы. Але што такое каштоўнасць, каштоўнасці? Калі паспрабаваць даць хоць бы самае агульнае, г.зн. філасофскае азначэнне гэтага паняцця, неабходна, відаць, сказаць, што гэта такія элементы сістэмы (няхай гэта будзе чалавек, грамадзянін, сацыяльная група, супольнасць, дзяржава і г. д.), без якіх яна не можа існаваць.

Як канкрэтызуюцца каштоўнасці Еўрапейскага саюза ў яго асноватворных дакументах? У Канстытуцыі ЕС і Лісабонскім дагаворы гаворыцца: «Саюз заснаваны на каштоўнасцях павагі чалавечай годнасці, свабоды, дэмакратыі, роўнасці, прававой дзяржавы, а таксама павагі правоў чалавека, уключаючы правы людзей, якія належаць да меншасцей. Гэтыя каштоўнасці з'яўляюцца агульнымі для дзяржаў-членаў у грамадстве, якому ўласцівы плюралізм, адсутнасць дыскрымінацыі і цярпімасць, салідарнасць і роўнасць паміж жанчынамі і мужчынамі» [3, с. 306].

Такім чынам, чалавечая годнасць, свабода, дэмакратыя, роўнасць, прававая дзяржава, правы чалавека, у тым ліку і таго, які належыць да меншасцей, палітычны плюралізм, з'явы недыскрымінацыі, цярпімасць, салідарнасць і роўнасць жанчын і мужчын, па перакананні заснавальнікаў Еўрапейскага саюза, — тыя каштоўнасці, без якіх гэтае ўтварэнне немагчыма.

З такой пазіцыяй нельга не пагадзіцца. Аднак паўстае пытанне: чаму размовы ў такім разе вядуцца толькі пра гуманітарныя, палітычныя, прававыя каштоўнасці? Чаму побач з імі ў артыкулах, прысвечаных каштоўнасцям Саюза як новай дзяржаўнай з'явы, адсутнічаюць эканамічныя каштоўнасці, без якіх гэты новы грамадскі парадак наогул не можа існаваць? Невыпадкова ў Міжнародных пактах аб правах чалавека ААН робіць настолькі моцны акцэнт на *праблеме непадзельнасці эканамічных, сацыяльных і культурных правоў* з правамі грамадзянскімі і палітычнымі, высоўваючы, па сутнасці, побач з універсальнасцю, неадчужальнасцю і роўнасцю, непадзельнасць іх у якасці прынцыпу правоў чалавека наогул.

Ставячы перад ідэалагічным штабам Еўрасаюза праблему эканамічных каштоўнасцей, думаецца, неабходна ўводзіць у іх структуру такія паняцці і з'явы, як уласнасць, права ўласнасці (прыватнай, дзяржаўнай, змешанай, калектыўнай); роўныя і гарантаваныя дзяржавай умовы развіцця малога, сярэдняга, буйнога бізнесу; прагрэсіўнае абагульненне прысваення (спажывання шляхам дэмакратычнага дзяржаўнага падаткаабкладання); «плануемы» капіталізм і «рыначны» сацыялізм; канвергенцыя капіталістычных эканамічных пачаткаў і эканамічных пачаткаў сацыялізму.

Апроч таго, напрошваецца думка аб неабходнасці структурызацыі каштоўнасцей, хоць бы такіх, напрыклад, як гуманітарныя, палітычныя, эканамічныя і прававыя. Спрабуючы напоўніць структурныя часткі канкрэтнымі элементамі, мы разам з тым заўважаем у сістэме ўжо прапанаваных каштоўнасцей адсутнасць важнейшых з іх. Так, для структурнага выдзялення палітычных вартасцей у прапанаваных вышэй варыянтах няма міру і мірнага суіснавання, самавызначэння народаў, плюралістычнай дэмакратыі. Поўнасцю ігнаруецца структура эканамічных каштоўнасцей. Лепш прадстаўлены гуманітарныя, аднак і тут узнікае пытанне, чаму адсутнічаюць у прапанаваных актамі ЕС такія варыянты, як, скажам, правы дзіцяці і інш.? Акрамя паняцця «прававая дзяржава», размова не ідзе пра такія, напрыклад, прававыя каштоўнасці, як вяршэнства закона, недатыкальнасць годнасці чалавечай асобы як прававы прынцып, годнасць чалавечай асобы як найвышэйшы крытэрый законнасці, справядлівасці, гуманізму і інш.

*Стратэгічныя мэты.* Як можна вызначыць, што такое мэты? Якія з іх неабходна аднесці да стратэгічных? Думаецца, мэты — гэта элементы сістэмы каштоўнасцей у стане прагрэсіўнага руху і развіцця, у стане рэалізацыі. Стратэгічныя мэты прадугледжваюць рэалізацыю базавых каштоўнасцей.

Апошні дакумент, які, па сутнасці, замяніў не прынятую Францыяй і Галандыяй Канстытуцыю ЕС, Лісабонскі дагавор, у шасці пунктах арт. 2 дае наступную трактоўку мэт Саюза:

«1. Саюз мае на мэце павышэнне ўвагі да праблем свету, каштоўнасцей і дабрабыту сваіх народаў.

Саюз прадастаўляе сваім грамадзянам прастору свабоды, бяспекі і справядлівасці без унутраных межаў, у якой забяспечана свабоднае перамяшчэнне асоб і разам з тым ажыццёўлены кантроль знешніх межаў, прадастаўленне прыстанішча, іміграцыі, а таксама папярэджання злачыннасці і барацьба з гэтай з'явай.

Саюз устанаўлівае ўнутраны рынак. Ён працуе ў імя ўстойлівага развіцця Еўропы, заснаванага на збалансаваным эканамічным росце і стабільнасці цэн, на сацыяльнай эканоміцы рынку высокай канкурэнцыі, якая вядзе да поўнай занятасці і сацыяльнага прагрэсу, высокага ўзроўню абароны і паляпшэння якасці акаляючага асяроддзя. Ён забяспечвае навуковы і тэхнічны прагрэс. Ён змагаецца з сацыяльнай няроўнасцю і адрозненнямі, ён забяспечвае справядлівасць і сацыяльную, тэрытарыяльную згуртаванасць і салідарнасць дзяржаў-членаў.

Ён паважае багацце сваёй культурнай і лінгвістычнай разнастайнасці і клапоціцца пра захаванне і развіццё еўрапейскай культурнай спадчыны.

Саюз засноўвае эканамічны і валютны саюз, грашовай адзінкай якога з'яўляецца еўра.

У адносінах з астатнім светам Саюз сцвярджае і забяспечвае свае каштоўнасці, абараняе сваіх грамадзян. Ён спрыяе міру, бяспецы, доўгачасовасці развіцця планеты, салідарнасці і ўзаемапавазе народаў, свабоднаму і справядліваму гандлю, абмежаванню беднасці і абароне правоў чалавека, асабліва правоў дзіцяці, а таксама строгай павазе і развіццю міжнароднага права, асабліва прынцыпаў Статута Аб'яднаных Нацый.

Саюз рэалізуе свае мэты ў залежнасці ад кампетэнцый, прадастаўленых яму дагаворамі» [3, с. 306].

Нельга сцвярджаць, што ўсё сказанае вышэй не можа быць аднесена да мэт новага дзяржаўнага ўтварэння. Але нам здаецца, што той, хто чытае гэтыя выказванні пра мэты, па-першае, павінен зразумець філасофію адносін каштоўнасцей і мэт. Мэты ў гэтых адносінах умацоўваюць, развіваюць, рэалізуюць вартасці, робячы іх, гаворачы філасофскай мовай, адчувальнай аб'ектыўнай рэальнасцю. Гэтую асаблівасць мэт (як элементаў сістэмы каштоўнасцей, што знаходзяцца ў стане рэалізацыі) адлюстроўвае тэкст Лісабонскага дагавора. Размова ідзе аб *павышэнні ўвагі* да праблем свету; *прадастаўленні* грамадзянам прасторы свабоды і бяспекі; *папярэджанні* злачыннасці; *устанаўленні* свабоднага і справядлівага гандлю; рабоце ў імя ўстойлівага развіцця збалансаванага эканамічнага рынку высокай канкурэнцыі, поўнай занятасці і сацыяльнага прагрэсу; *забеспячэнні* эканамічнай згуртаванасці дзяржаў; *барацьбе* з сацыяльнай няроўнасцю і адрозненнямі; *павазе* культурнай і лінгвістычнай разнастайнасці; *абмежаванні* беднасці; *абароне* правоў чалавека і дзіцяці; сцвярджэнні і забеспячэнні сваіх уласных каштоўнасцей і інтарэсаў; *павазе* і развіцці міжнароднага права. Па-другое, нам уяўляецца, што калі гаварыць пра стратэгічныя мэты, то яны павінны строга зыходзіць з базавых каштоўнасцей, аб'яўленых у тэкстах дакументаў. Але аб'яўленае ў артыкуле пра каштоўнасці не стыкуецца з выкладзеным у артыкуле пра *мэты*: у артыкуле пра каштоўнасці зусім адсутнічаюць эканамічныя каштоўнасці, слаба прадстаўлены палітычныя каштоўнасці, амаль адсутнічаюць прававыя. Па-трэцяе, *мэты*, так як і *каштоўнасці,* павінны быць дакладна структураваны, у крайнім выпадку, паўторым гэта, як гуманітарныя, палітычныя, эканамічныя, прававыя мэты. У цэлым добра прадстаўленыя ў Лісабонскім дагаворы стратэгічныя мэты Еўрапейскага саюза перамешаны — у іх адсутнічае наладжаная структура. Гаворачы пра мэты, цікава адзначыць, што ў апошнім дакуменце Еўрапейскага саюза — «Сумеснай Дэкларацыі па праграме «Усходняе партнёрства», дапаўняючы, удакладняючы, развіваючы пытанне пра мэты папярэдніх актаў, ЕС сцвярджае, што «*стварэнне неабходных умоў для паскарэння палітычнага яднання і далейшай эканамічнай інтэграцыі*» з'яўляецца *галоўнай мэтай* Усходняга партнёрства (*выдзелена аўт.)*» [4, с. 306].

Канечне, можна меркаваць, што ЕС і УП — гэта ў нейкай меры розныя ўтварэнні, аднак цалкам дапушчальна і сцвярджэнне пра тое, што палітычнае яднанне і эканамічная інтэграцыя маюць адносіны і да многіх з тых 27 дзяржаў, якія ўваходзяць сёння ў Еўрапейскі саюз. Не выклікае сур'ёзнага пярэчання і думка пра тое, што для такіх членаў ЕС, як Іспанія, Партугалія, Грэцыя, не гаворачы ўжо пра Літву, Латвію, Эстонію і некаторыя іншыя, галоўнай мэтай, стратэгічнай мэтай выступаюць і палітычнае яднанне (збліжэнне), і эканамічная інтэграцыя асабліва.

У гэтым плане паўстае пытанне пра тое, ці не варта кіраўніцтву Еўрапейскага саюза прыняць неабходныя меры не толькі для развіцця Усходняга партнёрства як падрыхтоўчага класа для пераходу да новага, больш высокага эканамічнага, палітычнага, гуманітарнага, прававога парадку былых савецкіх рэспублік, але і для заснавання Заходняга партнёрства з мэтай стварэння ўмоў паскарэння палітыка-эканамічнага развіцця слабаразвітых краін Заходняй Еўропы і пераводу шэрагу гэтых краін (пачынаючы з Грэцыі, напрыклад) у рамкі Заходняга партнёрства?

*Ключавыя прынцыпы.* Высветлім напачатку, што можа азначаць паняцце прынцыпы. Прынцыпы — гэта, па ўсёй сутнасці, галоўныя нормы, галоўныя правілы адносін і дзейнасці пэўнай сістэмы або сістэм. У даным выпадку сістэмы Еўрапейскага саюза, якая склалася.

Як гэтыя прынцыпы разглядаюцца ў дакументах ЕС? У якасці ключавых у Лісабонскім дагаворы называюцца два прынцыпы: *прынцып дадатковасці* (le principe de subsidiarite) і *прынцып прапарцыянальнасці* (le principe proportionnalite). Як «кіруюць рэалізацыяй кампетэнцый» Саюза і дзяржаў-членаў [3, с. 306].

У Лісабонскім дагаворы ўводзіцца таксама і паняцце le principe d'artibution, прынцып прысваення, прысуджэння правоў. Калі паводле прынцыпу «прысваення, прысуджэння правоў» Саюз дзейнічае толькі ў рамках кампетэнцый, якія яму даюцца дзяржавамі-членамі (гэта сфера дзейнасці прынцыпу d'artibution як прынцыпу размежавання кампетэнцый), то тыя кампетэнцыі, якія паводле дагавора не выдзелены Саюзу, застаюцца за дзяржавамі-членамі — менавіта ў гэтым сэнсе прынцыпу дадатковасці. Адпаведна ім Саюз выступае тады, калі мэты яго дзеянняў не могуць быць выкананы належным чынам дзяржавамі-членамі, але гэта можа ажыццявіць Саюз. Паводле прынцыпу прапарцыянальнасці змест і форма дзейнасці Саюза не перавышае таго, што неабходна для дасягнення мэт, вызначаных дагаворамі, а «Саюз і дзяржавы-члены паважаюць адзін аднаго і ўзаемадзейнічаюць у працэсе выканання місій, ускладзеных на іх дагаворамі». «Дзяржавы-члены аблягчаюць Саюзу выкананне яго місіі і ўстрымліваюцца ад дзеянняў, здольных паставіць пад пагрозу рэалізацыю мэт Саюза» [3, с. 306]. Гэтыя часткі Лісабонскага дагавора даюць агульную характарыстыку прынцыпаў дадатковасці і прапарцыянальнасці, што рэгулююць унутраныя адносіны ў Еўрапейскім саюзе.

Думаецца, неабходна распрацоўка нормаў, правілаў адносін структурных складнікаў дзейнасці Еўрасаюза: гуманітарныя, палітычныя, эканамічныя і прававыя каштоўнасці і мэты. Наяўнасць або адсутнасць дадатковасці і прапарцыянальнасці ў іх адносінах аб'ектыўна маюць месца. Хіба могуць развівацца, быць рэалізаваны такія каштоўнасці гуманітарнай сферы, як годнасць чалавечай асобы, правы чалавека, сацыяльнай групы, правы народаў на развіццё, правы дзіцяці, калі не рэалізаваны каштоўнасці палітычнага, эканамічнага і прававога блокаў іх структуры? Або яны знаходзяцца ў стане крызісу, распадаецца іх дадатковасць, іх прапарцыянальнасць? Калі *неад'емнасць* усіх структурных частак, якія ўтвараюць базавыя каштоўнасці і стратэгічныя мэты, становіцца неабавязковай. Менавіта гэта прадэманстравала Еўрасаюзу і ўсяму свету сённяшняя Грэцыя. Распад эканамічнага блоку каштоўнасцей Еўрасаюза ў гэтай краіне прывёў да распаду ў

ёй грамадзянскага міру, дэмакратычнага парадку, страты гуманітарных каштоўнасцей правоў чалавека і грамадзяніна. Грэцыя яўна прадэманстравала прыклад магчымага крызісу прынцыпаў дадатковасці і прапарцыянальнасці ў дзейнасці і адносінах ЕС.

У гэтай сувязі некалькі слоў пра Усходняе партнёрства. Дзяржавы, якія ўвайшлі ў яго, гатовы супрацоўнічаць з ЕС як з донарам эканамічных даброт і выгад: яны ідуць на сур'ёзную эканамічную інтэграцыю, на гарманізацыю сваіх эканамічных парадкаў з эканамічным укладам ЕС, пакідаючы часам у баку гуманітарны, прававы і палітычны сектары. Але прынцыпы дадатковасці і прапарцыянальнасці патрабуюць, каб кіраўніцтва ЕС ставіла пытанне аб *непадзельнасці еўрапейскіх каштоўнасцей, аб іх неад'емнасці* ў якасці ключавых прынцыпаў, аб неабходнасці гарманізацыі з Еўрапейскім саюзам па ўсім структурным цыкле яго базавых каштоўнасцей і стратэгічных мэт. Бо ўсе сённяшнія краіны-партнёры падпісалі «Сумесную дэкларацыю», дзе выразна, недвухсэнсоўна гаворыцца, што галоўнай мэтай Усходняга партнёрства з'яўляецца «стварэнне неабходных умоў для *надання паскарэння палітычнаму яднанню і далейшай эканамічнай інтэграцыі* паміж Еўрапейскім саюзам і зацікаўленымі краінамі-партнёрамі» *(выдзелена аўт.)* [4, p. 6]. У гэтым плане занепакоенасць Еўрасаюза з прычыны несупадзення яго гуманітарных і палітычных каштоўнасцей і мэт з палітычнымі акцыямі асобных дзяржаў цалкам апраўдана [5, p. 1—4].

Дэкларацыя аб праграме «Усходняе партнёрства» ўводзіць у паняційны апарат Еўрасаюза яшчэ дзве катэгорыі: *прынцып дыферэнцыраванасці* і *прынцып абумоўленасці* [4, p. 5].

Калі прынцыпы дадатковасці і прапарцыянальнасці рэгулююць унутраныя адносіны ў структуры Саюза, адлюстроўваючы ўнутраныя дэмакратычныя патрабаванні да іх, то прынцыпы дыферэнцыраванасці і абумоўленасці павінны адлюстроўваць дэмакратычныя патрабаванні да знешніх адносін дзяржаў-членаў ЕС, самога ЕС і краін-партнёраў.

**Малюнак 1. Схема дзеяння прынцыпаў дыферэнцыраванасці і абумоўленасці**



У трэцяй частцы першага пункта Дэкларацыі па праграме «Усходняе партнёрства» пішацца: «Усходняе партнёрства будуецца на ўжо існуючых дагаварных адносінах і дапаўняе іх (маецца на ўвазе, напрыклад, адносіны Рэспублікі Беларусь і Кітая, Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Беларусь і Венесуэлы, Рэспублікі Беларусь і Ірана і г.д. — *аўт.).* Яно будзе развівацца незалежна ад імкненняў асобных краін і краін-партнёраў развіваць свае далейшыя ўзаемаадносіны з Еўрапейскім саюзам (у выпадку, скажам, калі Рэспубліка Беларусь пойдзе па шляху апераджальнага развіцця адносін з ЕС — *аўт.).* Кіраванне будзе ажыццяўляцца ў адпаведнасці з прынцыпамі дыферэнцыраванасці і абумоўленасці (г. зн. дыферэнцыраванасці міжнародных адносін краін-партнёраў з іншымі дзяржаўнымі сістэмамі: Кітай, Расія, Венесуэла, Іран і г.д. — *аўт.).* Усходняе партнёрства будзе развівацца побач з двухбаковым супрацоўніцтвам паміж ЕС і трэцімі краінамі (ЗША, Канадай, напрыклад — *аўт.*)» [4, p. 5].

Калі адлюстраваць у схеме адносіны ЕС у адпаведнасці з прынцыпамі дыферэнцыраванасці і абумоўленасці, то яны могуць быць прадстаўлены наступным чынам. (Мал. 1.)

Прыведзены вышэй урывак з «Сумеснай Дэкларацыі па праграме «Усходняе партнёрства» аб прынцыпах дыферэнцыраванасці і абумоўленасці, а таксама прапанаваная схема адназначна сцвярджаюць свабоду і шматвектарнасць міжнародных адносін як для членаў Усходняга партнёрства, так і для ЕС і дзяржаў, якія ўваходзяць у яго. Яны недвухсэнсоўна ўводзяцца як *прынцыпы палітыкі разумнага прагматычнага рэалізму* [6, с. 314—322].

## 3. Канвергенцыя — галоўная катэгорыя палітычнай філасофіі Еўрапейскага саюза

У працэсе ЯДНАННЯ ўкладаў і парадкаў гісторыя робіць чарговы КРОК у выбары далейшага шляху развіцця: яна матэрыялізуе ідэю стварэння АБ'ЯДНАНАЙ Еўропы, якая больш за стагоддзе хвалявала думкі еўрапейцаў. І гэта ўжо не «містыка супранацыянальнай Еўропы» [7, p. 246]. Лісабонскі дагавор (2007 г.), што ўнёс змены ў асноватворны дагавор, можна лічыць завяршальным юрыдычным актам аб Адзінай Еўропе, аб аб'ектывізацыі ідэі яе стварэння.

Больш за паўстагоддзя спатрэбілася, каб вядучыя краіны Заходняй Еўропы «саспелі» да кадыфікацыі асноў свайго палітыка-эканамічнага ЯДНАННЯ. Якія ж яго канцэптуальныя ідэі? На наш погляд, у якасці галоўнай у канцэптуальнай сістэме Еўрапейскага саюза выступае катэгорыя КАНВЕРГЕНЦЫІ. Яна адлюстроўвае неабходнасць СЫХОДЖАННЯ, ЯДНАННЯ, ІДЭНТЫЧНАСЦІ розных эканомік, палітык, культур, якія ўваходзяць у рамкі ЕС. Яна «... павінна кіраваць Саюзам у яго рашэннях аб спыненні парушэнняў дзяржавамі-членамі [3, p. 306/25].

Невыпадкова ў мадыфікацыях, прапанаваных у Лісабонскім дагаворы, робіцца акцэнт «на ідэнтыфікацыі пытанняў, якія ўяўляюць агульную цікавасць, і на РЭАЛІЗАЦЫІ ЎСЁЎЗРАСТАЮЧАЙ СТУПЕНІ КАНВЕРГЕНЦЫІ ДЗЕЯННЯЎ ДЗЯРЖАЎ-ЧЛЕНАЎ» (выдзелена мною — *Л. Я.)* [3, p. 306/25].

Зразумела, сёння (як і раней) будуць мець месца эканамічныя і сацыяльныя, палітычныя і культурныя адрозненні ў жыцці Германіі і Грэцыі, Вялікабрытаніі і Літвы, Францыі і Латвіі і інш. Але таксама павінна быць зразумела і тое, што паспяховай рэалізацыі стратэгічных мэт Саюза (абароны міру, стварэння для грамадзян прасторы свабоды, бяспекі і справядлівасці без унутраных межаў, забеспячэння ім свабоды перамяшчэння, стварэння ўнутранага рынку, умоў для ўстойлівага развіцця і збалансаванага экамнамічнага росту, стабільнасці цэн, стварэння сацыяльнай эканомікі рынку высокаразвітой канкурэнцыі, які вядзе да поўнай занятасці і сацыяльнага прагрэсу, забеспячэння высокага ўзроўню

абароны і паляпшэння якасці акаляючага асяроддзя, навуковага і тэхнічнага праграсу, барацьбы з сацыяльнай няроўнасцю і дыскрымінацыяй, актыўнай абароны правоў чалавека, павагі разнастайнасці культурнага і лінгвістычнага багацця, развіцця еўрапейскай культурнай спадчыны і інш.) [3, p. 306/11] неабходны працэс сыходжання, збліжэння, яднання эканомік, палітычных падыходаў і рашэнняў, узаемасувязь культур.

Безумоўна, краіны, запрошаныя ў Праграму «Усходняе партнёрства», сур'ёзна адстаюць ад Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, Швецыі і інш. не толькі ў эканамічным развіцці і дабрабыце сваіх грамадзян, але і ў рэалізацыі праблем «ЧАЛАВЕЧАГА ВЫМЯРЭННЯ».

Акрамя таго, гэтыя краіны, якія яшчэ нядаўна «хваліліся» поспехамі ў пабудове «развітога сацыялізму», сур'ёзна адстаюць ад высокаразвітых краін сучаснай Еўропы якраз у рэалізацыі асноўных пазіцый КЛАСІЧНАГА, ЦЫВІЛІЗАВАНАГА САЦЫЯЛІЗМУ. Да іх адносяцца высокаразвітая эфектыўная эканоміка, абагульненне прысваення, годнасць чалавечай асобы, правы чалавека і грамадзяніна, вяршэнства закона, плюралістычная дэмакратыя [8, с. 42—43]. Невыпадкова ж Міхаіл Гарбачоў высоўваў у якасці асноўнай задачы перабудовы савецкага сацыялізму праблему «БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ».

Зразумела і тое, што калі любая краіна мае намеры збліжэння з Еўрапейскім саюзам, то ёю павінны быць рэалізаваны хоць бы тыя абавязацельствы, якія вынікаюць з факта яе згоды быць удзельніцай Усходняга партнёрства. Гэта азначае, што імкненне выкарыстоўваць толькі яго эканамічныя праграмы, не ўдзяляючы належнай увагі ЧАЛАВЕЧАМУ ВЫМЯРЭННЮ, г. зн. спектру палітыка-прававых праблем, — з'ява, якая выклікае абгрунтаваныя сумненні.

Рашэнне праблем эканамічнай інтэграцыі ў Еўропу, інтэграцыі ў сусветную эканоміку павінна быць цесна звязана з рэальнай палітычнай, правачалавечай і прававой лібералізацыяй і мадэрнізацыяй шляхам адыходу ад татальна-аўтарытарных метадаў кіравання справамі грамадства і дзяржавы (г. зн. шляхам рэфармавання *«неналежнага кіравання»)* і збліжэння, сыходжання, яднання з дэмакратычнымі формамі кіравання (г. зн. шляхам засваення і рэалізацыі правілаў *«належнага кіравання»*. І не толькі ў галіне фінансаў, энергетычных рэсурсаў, эканомікі ў цэлым; ва ўсіх галінах. Неабходна зразумець, што яны непадзельныя.

Пры гэтым неабходна заўважыць, што ва ўсіх без выключэння прававых актах праблему ПАЛІТЫЧНАГА СЫХОДЖАННЯ, ЗБЛІЖЭННЯ, ЯДНАННЯ ЕС ставіць у якасці ПЕРШАЙ, а гэта значыць, АСНОЎНАЙ ПРАБЛЕМЫ. Так, у агульнай дэкларацыі аб «Усходнім партнёрстве», куды запрошаны шэсць былых савецкіх рэспублік, якія адстаюць ад палітычных, правачалавечых і прававых СТАНДАРТАЎ развітых краін Еўрасаюза, сцвярджаецца: «Усходняе партнёрства прадугледжвае галоўным чынам стварэнне ўмоў, неабходных для таго, каб паскорыць устанаўленне ПАЛІТЫЧНАГА ЯДНАННЯ і паглыбленне эканамічнай інтэграцыі паміж

Еўрапейскім саюзам і зацікаўленымі краінамі-партнёрамі» [4, p. 6].

З гэтай мэтай Усходняе партнёрства мяркуе падтрымаць «ПАЛІТЫЧНЫЯ І САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ РЭФОРМЫ КРАІН-ПАРТНЁРАЎ, каб АБЛЯГЧЫЦЬ ЗБЛІЖЭННЕ з Еўрапейскім саюзам» [4, p. 6] (выдзелена мною. — *Л. Е.).*

Такім чынам, відавочны вывад, што для станаўлення і прагрэсіўнага развіцця Еўрасаюза жыццёва неабходны з'явы СЫХОДЖАННЯ, ЗБЛІЖЭННЯ, ЯДНАННЯ адрозненняў дзяржаў, якія ўвайшлі ў яго або рыхтуюцца ўвайсці (рознага роду «ПАРТНЁРСТВЫ»). Як відавочна і тое, што РАЗЫХОДЖАННЕ, АДДАЛЕННЕ, РАЗ'ЯДНАННЕ, якія вядуць да стану супрацьпастаўлення адрозненняў, — шлях да крызіснага нікуды.

Выкладзенае дае падставы для вываду: ГАЛОЎНАЙ КАТЭГОРЫЯЙ КАНЦЭПТУАЛЬНАЙ СІСТЭМЫ палітычнай філасофіі Еўрапейскага саюза з'яўляец-

ца КАНВЕРГЕНЦЫЯ. Менавіта таму ўзнікаюць пярэчанні супраць удакладнення, што робіць Лісабонскі дагавор, які замяняе фразу «...у імя забеспячэння таго, каб уплыў Саюза ажыццяўляўся ў найбольшай ступені КАНВЕРГЕНЦЫЯЙ (выдзелена мною. — *Л. Я.)* іх *(*дзяржаў. — *Л. Я.)* дзеянняў» фразай «... у імя вызначэння агульных падыходаў (набліжэння, збліжэння)» [3, р. 306/25].




Канвергенцыя, у сваю чаргу, базіруецца на цэлым радзе паняццяў, якія раскрываюць разнастайныя аспекты яе зместу і сведчаць пра працэс яе рэалізацыі. Уяўляецца магчымым падзяліць гэтыя паняцці на тры групы:

1. дадатковасць і прапарцыянальнасць (паняцці прынцыпу ўнутранай жыццядзейнасці ЕС); сыходжанне, асацыяцыя або яднанне (у перакладзе з французскай мовы), збліжэнне; супрацоўніцтва (узмоцненае або ярка выражанае, сістэматычнае, усебаковае, усебаковае ўзмоцненае, прывілеяванае); добрасуседства, партнёрства, салідарнасць;

2. інтэграцыя, гарманізацыя, мадэрнізацыя, лібералізацыя, рэфармаванне, каардынацыя, ідэнтыфікацыя (інтарэсаў), належнае кіраванне;

3. агульныя інтарэсы, агульнае збліжэнне, агульная бяспека, агульная абарона, агульная іміграцыйная палітыка, ідэнтычнасць.

Вывад: катэгорыя КАНВЕРГЕНЦЫІ І ПАНЯЦЦЯ, якія раскрываюць і адлюстроўваюць працэс яе рэалізацыі, уяўляюць сабой КАНЦЭПТУАЛЬНУЮ АСНОВУ палітычнай філасофіі Еўрапейскага саюза.

## 4. Канкрэтныя прапановы для Еўрапейскага саюза і Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з нестыковак у агульнай тэорыі будаўніцтва ЕС і недахопаў яе практычнай рэалізацыі

1. Распрацаваць ПРАТАКОЛЫ да Лісабонскага дагавора;

а) аб Канвергенцыі (сыходжанні, збліжэнні, яднанні) блока каштоўнасцей і блока мэт;

б) аб магчымасці і неабходнасці пераводу краін з дзяржаў-членаў Саюза ў дзяржавы-партнёры і пераходу з партнёрства ў Саюз;

в) аб магчымасці і неабходнасці заснавання новых ПАРТНЁРСТВАЎ, у прыватнасці «ЗАХОДНЯГА ПАРТНЁРСТВА» для падцягвання шэрагу адстаючых краін Захаду (Грэцыя, Партугалія, Іспанія і інш.) да ўзроўню, які дазваляе іх уступленне ў Еўрасаюз;

г) аб праве і неабходнасці тых, хто ўваходзіць у Саюз або Партнёрства, на агаворкі па пытанні аб ступені, парадку, паэтапнасці рашэння палітыка-прававых праблем у дзяржавах пераходнага перыяду;

д) аб удакладненні дзеяння прынцыпу дадатковасці і прапарцыянальнасці не толькі ва ўмовах Саюза, але і ва ўмовах Партнёрства. Дзяржавы, што ўвайшлі ў іх, павінны імкнуцца да канвергенцыі (сыходжання, збліжэння, яднання) у галіне эканомікі, не толькі гарманізуючы свае эканамічныя парадкі з эканамічнымі каштоўнасцямі і мэтамі ЕС, але і з яго палітычнымі, прававымі і гуманітарнымі каштоўнасцямі і мэтамі. Прынцып дадатковасці і прапарцыянальнасці патрабуе непадзельнасці і неад'емнасці гэтых дзвюх частак узаемнай інтэграцыі;

е) аб прынцыпе абумоўленасці і дыферэнцыраванасці, які дае дзяржаве права на шырокую шматвектарнасць у міжнародных адносінах, права на палітыку разумнага прагматычнага рэалізму.

ІНСТРУМЕНТАРЫЙ РАШЭННЯ ПРАБЛЕМ ЕС.

а) Усякая створаная структура (міжнародная ў тым ліку), уключаючы «Усходняе партнёрства», павінна мець свой ОРГАН САМАКІРАВАННЯ, у якасці якога мы прапануем заснаваць КАНСУЛЬТАТЫЎНУЮ НАРАДУ. Як бы ён ні называўся, неабходна пачаць гэту работу са стварэння яго СТАТУТА. Мяркуючы па дакументах ЕС, такога органа і такога дакумента не існуе.

б) У якасці дэмакратычнага інтэлектуальнага цэнтра, які забяспечвае ідэямі і прапановамі па праблемах УП КАНСУЛЬТАТЫЎНУЮ НАРАДУ і КІРАЎНІЦТВА ЕС, мы прапануем падтрымаць ідэю аб'яўленага ў Агульнай Дэкларацыі аб заснаванні пастаянна дзеючага ва УП «Форуму грамадзянскай супольнасці» і гатовы распрацаваць механізм заснавання і функцыянавання дадзенага форуму.

в) Улічваючы, што праблемы правоў чалавека і грамадзяніна, сацыяльных груп і меншасцей будуць адным з галоўных пытанняў у дзейнасці ПАРТНЁРСТВА, улічваючы, што Хартыя асноўных правоў ЕС не толькі не адрозніваецца ад ужо даўно існуючых дакументаў у гэтай галіне (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Канвенцыя аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, Міжнародныя пакты), але і значна адстае па ўзроўні іх распрацоўкі, мы прапануем на аснове гэтых дакументаў, улічваючы напрацоўкі Сусветнай Канферэнцыі (Вена, 1993), стварыць ЕЎРАПЕЙСКІ КОДЭКС ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА І ГРАМАДЗЯНІНА, САЦЫЯЛЬНЫХ ГРУП І МЕНШАСЦЕЙ.

г) Улічваючы вельмі слаба распрацаваную ў асноўных дакументах ЕС праблему права народаў на самавызначэнне і наяўнасць хоць і вяла цякучага працэсу барацьбы народаў за сваё самавызначэнне (баскі, каталонцы, фламандцы, македонцы, кіпрыёты, нявырашаныя пытанні ў адносінах да косаўскіх албанцаў і сербаў і інш.), мы прапануем стварыць праект АДЗІНАГА ЕЎРАПЕЙСКАГА

ДАКУМЕНТА на ўзроўні «ЕЎРАПЕЙСКАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ АБ ПРАВАХ НАРОДАЎ НА РЭАЛІЗАЦЫЮ САМАВЫЗНАЧЭННЯ».

д) Сёння на заходне-еўрапейскай прасторы працуе тры парламенты: Еўрапейскі парламет (ЕС), Парламенцкая Асамблея (Савет Еўропы), Парламенцкая Асамблея (АБСЕ); тры Еўрапейскіх Саветы: Савет Еўропы (як самастойны орган), плюс Еўрапейскі савет і проста Савет Еўрасаюза; два суды: Суд справядлівасці ЕС, плюс Еўрапейскі суд па правах чалавека (Савет Еўропы); бяспекай Еўропы займаюцца тры розныя інстытуты: Еўрасаюз, АБСЕ, НАТА... Вывад: «НАЛЕЖНАЕ КІРАВАННЕ» працэсамі ў такіх умовах немагчыма.

е)Уяўляецца неабходнай распрацоўка спецыяльных дакументаў:

1) АКТА АБ КААРДЫНАЦЫІ ДЗЕЙНАСЦІ І РАЗДЗЯЛЕННІ АДКАЗНАСЦІ паміж Саветам Еўропы, АБСЕ, НАТА і Еўрапейскім саюзам, і

2) КОДЭКСА ПРЫНЦЫПАЎ ЕЎРАПЕЙСКАЙ БЯСПЕКІ.

Выніковая прадукцыя:

1. Прыкладны статут Кансультатыўнай нарады Усходняга партнёрства.
2. Механізм заснавання і функцыянавання Форуму грамадзянскай супольнасці.
3. Еўрапейскі кодэкс правоў чалавека і грамадзяніна, сацыяльных груп і меншасцей.
4. Еўрапейская дэкларацыя аб праве народаў на рэалізацыю самавызначэння.
5. Акт аб каардынацыі функцыянавання і раздзялення адказнасці Савета Еўропы, АБСЕ, НАТА і Еўрапейскага саюза.
6. Кодэкс прынцыпаў еўрапейскай бяспекі.

Інстытут філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі гатовы прыняць актыўны ўдзел у стварэнні прапанаваных пратаколаў, інструментарыя і выніковай прадукцыі.

## 5. Вопыт Еўропы ў фарміраванні еўразійскай інтэграцыйнай прасторы

Лічым мэтазгодым закончыць артыкул разважаннямі пра тое, што трэба было б пераняць заснавальнікам Еўрапейскага саюза з вопыту будаўніцтва ЕС.

1. Неабходна скапіраваць шэраг асноўных арганізацыйных рашэнняў і ідэйных прынцыпаў Еўрапейскага саюза, абгрунтоўваючы «капіраванне» тым, што: Еўразійскі саюз будзе ствараецца не «супраць некага», а для развіцця і ўдасканалення ЭКАНАМІЧНЫХ, САЦЫЯЛЬНА-ГУМАНІТАРНЫХ і ПАЛІТЫЧНЫХ асноў ПАРТНЁРСТВА І СУПРАЦОЎНІЦТВА ва ўмовах пазітыўнай глабалізацыі свету.

Таму што «*інтэграцыя Беларусі, Расіі, Казахстана — не супраць некага...*

*У стварэнні Еўразійскага саюза не варта бачыць спробу нейкага раздзелу Еўропы...*

*Такая інтэграцыя... хутчэй прывядзе да больш цесных і раўнапраўных адносін з Еўрасаюзам і пабудове Вялікай Еўропы...*

*Еўразійскі саюз «павінен стаць... моцным партнёрам Еўрасаюза»* (А. Лукашэнка [9]).

2. Капіруючы некаторыя арганізацыйныя структуры і ідэйныя прынцыпы створанага Еўрасаюза, неабходна ісці, зразумела, сваім шляхам. Па-першае, загадзя вызначыўшы вядучыя краіны Еўразійскага саюза, якія складуць яго ядро, Еўразійскі саюз як такі: Расія, Беларусь, Казахстан, Украіна, Азербайджан, Турцыя, прапрацаваўшы на дзяржаўным, дыпламатычным узроўні іх згоду (Украіна, Азербайджан асабліва).

3. Узнавіць ідэю стварэння «падрыхтоўчых класаў», г. зн. ідэю стварэння ПАРТНЁРСТВАЎ, якія рыхтуюць краіны для сыходжання, збліжэння, яднання — КАНВЕРГЕНЦЫІ, для ўваходжання ў Еўразійскі Саюз, маючы на ўвазе адрозненні эканомік і вялікі роскід у палітычнай, сацыяльнай і гуманітарна-прававой галінах запрошаных у партнёрствы.

4. У першым набліжэнні зараз праглядаюцца наступныя магчымыя

ПАРТНЁРСТВЫ: а) краін Каўказскага рэгіёна; б) краін Сярэдняй Азіі; в) краін Цэнтральнай і Паўднёвай Азіі.

5. Было б зусім правільна прадугледзець увядзенне ва ўсе юрыдычныя акты, якія засноўваюць Еўразійскі саюз і Партнёрствы, прынцыпу ДВАЙНОГА (і нават болей) УДЗЕЛУ краін Еўразійскага саюза і яго Партнёрстваў, г.зн. УДЗЕЛУ ў Еўрапейскім саюзе і яго Партнёрствах АДНАЧАСОВА.

6. Гэта дазволіла б Беларусі і Украіне быць у перспектыве сувязнымі звёнамі абодвух Саюзаў; Малдове і Грузіі — некалькіх структур партнёрства, што на справе, а не толькі ў дэкларацыях пацвярджала б, што САЮЗЫ І ПАРТНЁРСТВЫ «не супраць некага», а за цесныя іх адносіны ў імя рэальнай інтэграцыі «ад Лісабона да Уладзівастока».

7. Што на справе рэалізоўвала б прынцып міжнародных адносін, заяўлены ЕС у Дэкларацыі аб Усходнім партнёрстве, як прынцып «АБУМОЎЛЕНАСЦІ І ДЫФЕРЭНЦЫРАВАНАСЦІ», які, кажучы мовай палітычнай навукі, ёсць прынцып палітыкі РАЗУМНАГА ПРАГМАТЫЧНАГА РЭАЛІЗМУ І САПРАЎДНАЙ, РАЗГОРНУТАЙ, АБ'ЁМНАЙ ШМАТВЕКТАРНАСЦІ.

8. Прынцып ДВАЙНОГА (І БОЛЬШ) УДЗЕЛУ, акрамя таго, працуе на ідэю права нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння народаў. Таму яна, гэта ідэя, павінна быць сур'ёзна прадстаўлена і распрацавана ва ўсіх устаноўчых дакументах Еўразійскага саюза і яго Партнёрстваў. У актах ЕС аб ёй гаворыцца коратка, мімаходзь.

9. Зыходзячы са сказанага, Беларускае кіраўніцтва мае поўнае права ідэю, сфармуляваную як ПРЫНЦЫП ДВАЙНОГА (І БОЛЬШ) УДЗЕЛУ Ў САЮЗАХ І ПАРТНЁРСТВАХ, прызнаць сваёй уласнай інавацыяй у міжнародным праве.

10. Для стварэння Еўразійскага саюза неабходна прыняцце асобага прававога акта. Тыпу Канстытуцыі. Працуючы над ім неабходна зразумець, чаму не была прынята Канстытуцыя ЕС (супраць яе выступілі Галандыя і Францыя). Гэта велізарны ўчастак работы. Яе неабходна пачынаць ужо цяпер, стварыўшы спецыяльны орган па складанні такога акта.

11. Для фарміравання інстытута партнёрстваў патрэбен асобы дакумент. Тыпу Дэкларацыі аб «Усходнім партнёрстве». Аднак праблема стварэння такога дакумента яшчэ больш складаная, чым напісанне агульнага акта аб Саюзе, улічваючы адрозненні краін у эканамічным, палітычным, сацыяльным, гуманітарным, прававым развіцці.

12. У абодвух выпадках неабходна дакладна, празрыста, канкрэтна гаварыць пра наступныя рэчы:

а) пра эканамічныя прэферэнцыі для тых, хто ўваходзіць у Саюз і Партнёрства,

б) пра сацыяльныя даброты для насельніцтва краін,

в) пра асаблівасці КАНВЕРГЕНЦЫІ (сыходжання, збліжэння, яднання) з краінамі ядра Еўразійскага саюза,

г) пра ўмовы пераходу з ПАРТНЁРСТВА ў САЮЗ і пераводу (у асобных выпадках) з Саюза ў Парнёрства,

д) аб праве дзяржаў пры падпісанні юрыдычнага акта аб уваходжанні ў Саюз або Партнёрства на АГАВОРКІ (са спецыяльнай працэдурай работы з імі),

е) права на іх асаблівыя ўмовы (паэтапнае рашэнне) задач «першай карзіны» такога ўваходжання, г.зн. аб станаўленні і развіцці агульнадэмакратычных нормаў, стандартаў правоў чалавека, гарманізацыі заканадаўстваў,

ж) і абавязкова — аб неабходнасці РАТЫФІКАЦЫІ на нацыянальна-дзяржаўным узроўні падпісанага дакумента для ўваходжання яго ў сілу.

13. Нічога гэтага няма ў Дэкларацыі аб Усходнім партнёрстве, апроч сентэнцыі аб тым, што галоўнай задачай тых, хто ўваходзіць у партнёрства, з'яўляецца ПАЛІТЫЧНАЕ ЯДНАННЕ і ЭКАНАМІЧНАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ з ЕС. Менавіта ў гэтым галоўная прычына канфліктаў ЕС і РБ: Беларусь, ігнаруючы ПАДПІСАННЕ Дэкларацыі, настойвае на другой палове пастаўленай ЕС задачы, ЕС — на першай, ігнаруючы праз санкцыі другую яе палову.

14. Не трэба капіраваць «Усходняе парнёрства» ЕС і ў арганізацыі ўнутранага жыцця УП. Цэнтр стратэгічных еўрапейскіх даследаванняў Інстытута філасофіі НАН Беларусі прапаноўваў пасольству ЕС у Беларусі ідэю заснавання Кансультатыўнай Нарады з прадстаўнікоў дзяржаў, якія ўваходзяць ва УП., як органа самакіравання справамі і праблемамі ЕС ва УП., прапаноўваў напісаць статут, які вызначаў бы яго правы і абавязкі. Але нават ветлівага, у рамках заходняга этыкету, адказу не было. Мы прапануем унесці ідэю заснавання Кансультатыўнай Нарады партнёрстваў як і штогодняга Форуму партнёрстваў, які падводзіць вынікі напрацаванага і вызначае задачы, у планы ўсіх партнёрстваў і фарміравання Еўразійскага саюза.

15. Такім чынам, Еўразійскі саюз ЯК ТАКІ можа быць прадстаўлены краінамі-заснавальніцамі: Расіяй, Беларуссю, Казахстанам, Украінай, Азербайджанам, Турцыяй, як геаграфічна «Еўрапейска-Азіяцкай» краінай. Партнёрствы: краінамі Каўказскага рэгіёна — Абхазіяй, Арменіяй, Грузіяй, Паўднёвай Асеціяй, Чачнёй, Інгушэціяй, Дагестанам і інш.; краінамі Сярэдняй Азіі — Кіргізіяй, Таджыкістанам, Туркменіяй, Узбекістанам; краінамі Цэнтральнай і Паўднёвай Азіі — В'етнамам, Манголіяй, магчыма, і Афганістанам пры ўмове ліквідацыі дзвюх з'яў: яго залежнасці ад наркабізнесу і ісламскага фундаменталізму. Мы, дакладней кажучы, прапануем больш шырокую інтэграцыю, інтэграцыю «ад Лісабона да Ханоя». Інфармацыйную і дыпламатычную работу па запрашэнні краін, па падрыхтоўцы дакументаў — працэдур уваходжання ў Саюз і Партнёрствы НЕАБХОДНА ПЛАНАВАЦЬ І ПАЧЫНАЦЬ УЖО ЦЯПЕР.

16. Вельмі важна ва ўсіх асноватворных дакументах Еўразійскага саюза і яго Партнёрстваў акцэнтаваць ідэю ПРАВА НАРОДАЎ НА САМАВЫЗНАЧЭННЕ, у даным выпадку іх АБСАЛЮТНАЕ ПРАВА на пастаноўку пытання аб УВАХОДЖАННІ ў Саюз і Партнёрствы, і на ВЫХАД з Саюза і Партнёрстваў.

*«...Краевугольны камень усяго таго, што мы збіраемся пабудаваць суверэнітэт нашых дзяржаў, які не адмяняе нават самая цесная інтэграцыя», бо «народы ўручылі нам... абавязак захаваць іх права САМІМ РАСПАРАДЖАЦЦА СВАІМІ ЛЁСАМІ* (выдзелена аўтарам)» (А. Лукашэнка [9]).

Пры гэтым захоўваць абавязак і права органаў кіравання Саюзам ставіць пытанне аб ВЫВАДЗЕ якой-небудзь краіны з Саюза або Партнёрства. Не дазваляючы асобным краінам парушаць прынцып ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (галоўны прынцып унутранай жыццядзейнасці Еўрапейскага саюза, які неабходна было б запазычыць у яго), дэстабілізуючы падаткова-бюджэтны парадак, расходуючы непамерна больш (бюджэт), чым набываючы (падаткі). Не ратоўваючы іх ва ўмовах фінансавага крызісу велізарнымі валютнымі ўліваннямі (Грэцыя, вопыт ЕС) і не ставячы пад пагрозу распаду створаную сістэму Саюза ў цэлым.

17. У Міжнародных пактах аб правах чалавека, ратыфікаваных Беларуссю, у трэцім пункце іх прэамбул сцвярджаецца НЕАД'ЕМНАСЦЬ эканамічных, сацыяльных, культурных правоў і грамадзянскіх, палітычных правоў чалавека. З гэтага часу НЕАД'ЕМНАСЦЬ гэтых груп правоў разглядаецца як ЗАКОН усёй правачалавечай сістэмы. Гэта значыць, што не можа быць ні лібералізацыі, ні мадэрнізацыі эканамічнай і сацыяльнай жыццядзейнасці краіны, калі

гэтыя працэсы адсутнічаюць у палітычным жыцці, у грамадзянскай супольнасці. Гэта значыць, што калі няма плюралістычнай дэмакратыі, якая рэальна развіваецца, калі ў загоне правы чалавека, калі краінай ад імя закона кіруе беззаконне.

Думаецца, што ідэі ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНАСЦІ І НЕАД'ЕМНАСЦІ правоў чалавека, як іх ЗАКОНЫ павінны быць уведзены ў дакументы, якія ўстанаўліваюць Еўразійскі саюз.

«*Еўразійскі саюз будзе будавацца на ўніверсальных інтэграцыйных прынцыпах як неад'емная частка Вялікай Еўропы, аб'яднанай каштоўнасцямі СВАБОДЫ, ДЭМАКРАТЫІ РЫНАЧНЫХ ЗАКОНАЎ (выдзелена аўтарам)*» (У. Пуцін [10]).

18. Апроч таго, РОЎНАСЦЬ ПРАВОЎ І РОЎНАСЦЬ АБАВЯЗКАЎ краін і народаў неабходна разглядаць як вышэйшы прынцып фарміравання і дзейнасці Еўразійскага саюза.

«...*Толькі роўнасць партнёраў, у тым ліку роўнасць умоў гаспадарання з роўным доступам да адзінай энергетычнай сістэмы, дазволіць стварыць надзейную аснову для нашага Саюза*» (А. Лукашэнка [9]).

19. Якой можа быць сістэма кіравання Еўразійскага саюза? Што можна запазычыць з вопыту Еўрапейскага саюза?

На вачах сучаснікаў Еўрапейскі саюз як арганізацыя пераўтвараецца ў дзяржаву. Пра гэта сведчаць адзіны гуманітарна-прававы дакумент — Хартыя асноўных правоў Еўрапейскага саюза; адзіная Канстытуцыя, прынятая ўсімі краінамі за выключэннем Францыі і Галандыі; адзіная канцэпцыя бяспекі і абароны. Доказамі таму служыць наяўнасць адзінай сістэмы кіравання гэтым утварэннем, сістэмы, якая мае дакладна выражаныя характарыстыкі заканадаўчай і выканаўчай дзяржаўнай улады. Пра гэта гаворыць адзіны акт, Лісабонскі дагавор, што ўдакладняе асноўныя пазіцыі тых, хто гэту супольнасць заснаваў. Тут у п. 1 арт. 9 гаворыцца: «Саюз мае інстытуцыйнае вымярэнне, якое прадугледжвае рэалізацыю сваіх каштоўнасцей, ажыццяўленне сваіх мэт, ён служыць сваім інтарэсам; каштоўнасцям, мэтам, інтарэсам сваіх грамадзян, сваіх краін-членаў, а таксама забяспечвае сувязь, дзейснасць і паслядоўнасць сваёй палітыкі і дзейнасці. Інстытутамі Саюза з'яўляюцца Еўрапейскі парламент; Еўрапейскі Савет, Савет, Еўрапейская Камісія (з наступным перайменаваннем «Камісія»), Суд справядлівасці Еўрапейскага саюза, Цэнтральны еўрапейскі банк». І, нарэшце, пра гэта сведчаць стварэнне інстытута прэзідэнцтва і абранне Прэзідэнта, ператварэнне ЕС у суб'ект міжнароднага права.

20. Што тычыцца Еўразійскага саюза, многае, канечне, пакуль застаецца незразумелым.

Аднак зусім зразумела, што «*калі мы рэалізуем мэты, намечаныя ЕЭП, то зможам перайсці да стварэння Еўразійскага саюза. Беларусь прыме ў яго фарміраванні самы актыўны ўдзел*» (А. Лукашэнка [9]). Значыць, стварэнне моцнага эфектыўнага ЕЭП — гэта эканамічная аснова МАГЧЫМАСЦІ фарміравання Еўразійскага саюза.

21. Ствараючы моцную ЕЭП, неабходна вырашаць пытанні пра іншыя розныя віды забеспячэння Саюза, пра юрыдычнае забеспячэнне фарміравання і дзейнасці Саюза.

а) стварэнне дакументаў тыпу Канстытуцыі і Хартыі асноўных правоў чалавека (улічваючы іх недастатковасць у аўтарстве ЕС); заснаванне судовых інстанцый тыпу Канстытуцыйнага Суда, Агульнага суда, Суда па правах чалавека;

б) аб ваенна-палітычным забеспячэнні тыпу АДКБ;

в) аб фінансавым забеспячэнні тыпу Цэнтральнага Еўрапейскага банка ЕС і стварэння Фонду дапамогі эканамічнаму і палітычнаму развіццю;

г) аб заканадаўчым забеспячэнні тыпу Парламенцкай Асамблеі ЕС;

д) аб забеспячэнні (у адрозненне ад ЕС) моцнай прэзідэнцкай улады, але з абавязковай умовай: МАГЧЫМАСЦЮ ЯЕ ШТОГАДОВАГА АБНАЎЛЕННЯ Ў ПЕРЫЯД ЗАЦВЕРДЖАНАГА ТЭРМІНУ КІРАВАННЯ.

Місія рашэння гэтага пытання можа быць ускладзена на Канстытуцыйны Суд.

22. Вельмі важнай з'яўляецца праблема культурнага і лінгвістычнага забеспячэння жыццядзейнасці Еўразійскага саюза. Рускай мове (і англійскай, як мове міжнароднай дыпламатыі і навукова-тэхнічных камунікацый) у ім, зразумела, будзе аддадзена перавага ва ўсіх яго справах. Але пры АБСАЛЮТНЫМ ПРАВЕ АБ'ЯДНАНЫХ НАРОДАЎ на развіццё, «адзяржаўленне» нацыянальных культур і тытульных моў. «Лінгвістычнае багацце і разнастайнасць» (тэрмін Лісабонскага дагавора ЕС) павінна захоўвацца як аснова агульначалавечай культуры і граматнага вырашэння спраў.

## Літаратура і крыніцы

1. Беларусь и современная Европа: политика, экономика, культура. — Минск, 2010.

2. Конвенция о защите прав человека и основных свобод. Права человека. Сб. межд. Правовых документов. — Минск: «Белфранс», 1999.

3. Traiteéde Lisbonne // Journale official de l'Union europinne. — 2009.

4. Declaration Commune adoptée lors du sommes de partneriat oriental. — Prague, 2009.

5. European Parliament resolution of 10 March 2010 on the situation of civil society and national minorities in Belarus.

6. Евменов, Л. Ф. Тотальный кризис и права человека. Сочинения: в 5 т. — Минск, 2010. — Т. 3.

7. Les dictionnaires du savoire modern. La Philosophie | Centre dietude et de Promotion de la Lecture. — Paris, 1969.

8. Евменов, Л. Ф. Объединенные нации Европы — политико-экономическое основание позитивной глобализации мира // Сацыяльна-эканамічныя і прававыя даследаванні. — 2010. — № 1.

9. Лукашенко, А. Г. О судьбах нашей интеграции // Известия. — 2011. — 17 октября.

10. Путин, В. В. Новый интеграционный проект для Евразии — будущее, которое рождается сегодня // Известия. — 2011. — 4 октября.

**Арцём КАВАЛЬЧЫК**

# МУДРАЕ СЛОВА ДЗЕДА ГАНАДА

***Ганад ЧАРКАЗЯН. Талисман. Сказки.*** *Для детей среднего школьного возраста. Перевод на русский язык Ивана Бурсова и Валерия Липневича. Мн.: Издательский дом «Звязда», 2013.*

Ганад Чарказян, паспяхова выступаючы ў розных жанрах, і ў дзіцячай літаратуры не навічок. Хлопчыкам і дзяўчынкам адрасаваны ягоныя кнігі «Казкі дзеда Ганада» і «Пумпур у калясцы». З творамі для маленькіх ён рэгулярна выступае і ў перыядычным друку. Адметнасць мастакоўскага почырку гэтага знакамітага пісьменніка ў тым, што ён, добра ведаючы псіхалогію тых, для каго піша, стараецца размаўляць з дзецьмі як з дарослымі, а гэта значыць, што ніколі не апускаецца да голага маралізатарства, не дазваляе сабе ў размове з імі сюсюкання, але, разам з тым, умее ў сваіх казках (а гэта любімы жанр Г. Чарказяна-дзіцячага пісьменніка), узнімаць важныя праблемы. Пры тым ён глядзіць на акаляючы свет, на насельнікаў яго вачыма тых, каму і адрасуе свае творы.

Істотны яшчэ і такі момант. Тычыцца ён, аднак, не толькі казак Г. Чарказяна, а і ўсёй ягонай творчасці, у тым ліку і паэтычнай. Усё лепшае з напісанага ім, напоўнена той каўказскай мудрасцю, якую ўвабраў ён у сябе з маленства, жывучы ў Арменіі. З малаком маці напоўніўся ёю. Дый з легендамі і паданнямі курдскага народа. Іх расказвалі яму старыя горцы, якіх у тамашніх мясцінах так паважаюць, шануюць і да голасу якіх прыслухоўваюцца. Але каўказская мудрасць у творах Г. Чарказяна адначасова па сутнасці дапаўняецца і разважнасцю, талерантнасцю беларускага народа — таго народа, які для яго гэтаксама дарагі, блізкі, родны, як і народ курдскі.

У казках Г. Чарказяна, хай такое сцвярджэнне нікога не здзівіць, усё вельмі жыццёва і праўдзіва. Дый іначай і быць не можа. Мудры казачнік дзед Ганад ідзе ад самаго жыцця, якое добра ведае і якое любіць, як можа любіць яго чалавек, прасякнуты ўсведамленнем, што адведзены табе Усявышнім час, ты не проста павінен пражыць, а мусіш пражыць годна, сумленна — так, каб не сорамна было глядзець людзям у вочы, дый каб пра цябе ў людскіх сэрцах заставалася добрая і ўдзячная памяць.

Што да праўдзівасці казак Г. Чарказяна, то да іх патрапляе тое, што дакладна сказана ў завяршальных радках казкі «Элин Гриб», якой і канчаецца кніга «Талисман»: «Бабушка хорошо знала, что быль и не быль — сказка и то, что есть на самом деле, — живут совсем-совсем рядышком. Просто не каждый это может увидеть…» Убачыць гэта можа, удакладню выказаную думку, толькі той, хто добра назіральны, а яшчэ валодае такой выдатнай якасцю, як уменне здзіўляцца і ў, здавалася б, звычайным бачыць, успрымаць незвычайнае.

Такімі якасцямі акурат і валодае Г. Чарказян. Мудрасцю напоўнена і новая ягоная кніга, у якую ўвайшло дзевяць казак. Гэта як творы шмат у чым традыцыйныя, калі мець на ўвазе іх персанажаў, але разам з тым з самастойнымі сюжэтамі, найчасцей на дзіва арыгінальнымі, так і казкі, у якіх прысутнічае прытчавасць. Яны таксама да месца, бо кніга «Талисман» у пер-

шую чаргу адрасавана дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Ім будзе цікава разам з аўтарам казак задумацца і над хуткаплыннасцю жыцця, дый і над тым, як гэта важна мець тое апірышча, дзякуючы якому і можна адчуваць сябе ўпэўнена, надзейна, быць сапраўдным чалавекам сярод людзей.

На такія думкі наводзяць казкі «Бессмертие» і «Талисман». Першая з іх адкрывае кнігу, другая стаіць амаль у канцы яе. Тым самым атрымліваецца так, што гэтыя два творы як бы абрамляюць зборнік, цэментуючы важкасць аўтарскай задумы і адначасова сведчачы пра тое, наколькі значнасць яе здатная вывесці гаворку на важнейшыя праблемы жыцця.

Герой казкі «Бессмертие» стары Карахан любіць зямлю, на якой нарадзіўся і з якой звязаў свой лёс. Тое, што акружае яго, раз і назаўсёды ўвайшло ў ягоную душу. Гэта і пчолы, якіх ён так ашчадна даглядае. Усяго адзін вулей у Карахана, «но сделал он его своими руками. Поэтому каждую царапинку на нем воспринимал как личную обиду. Улей получился удачным, хотя и был его первым опытом в этом ремесле. Да и все, за что после долгого раздумья брался Карахан, получалось добротным и красивым. Иначе он просто не умел». Аднак нядоўга радаваўся Карахан. Аднойчы на яго вулей напалі чужыя пчолы, чорныя, у якіх даўжэйшае жала, чым у звычайных: «Его пчелы стали жертвами пчелиной войны. Маленькие серенькие герои сражались до последнего… Все как у людей». На шчасце, матка засталася жывой. Значыць, вулей ажыве, жыццё пераможа смерць.

Любоў галоўнага героя казкі да пчол — частка любові Карахана да ўсяго жывога на зямлі. Перад усім — да людзей. Такі не толькі сам ён, гэткім з’яўляецца ўвесь ягоны род: «…. Вспомнились ему и предки, которые во все времена отличались миролюбием. Возможно, потому что семьи были всегда многочисленными, все постоянно чувствовали поддержку друг друга… Они побеждали добром. Возможно, именно поэтому род Караханов всегда процветал…. Иногда Карахан думал с улыбкой, что когда-нибудь вокруг будет столько Караханов, что наступит совсем другая, достойная человека жизнь. Люди не будут завидовать, не будут воровать, не будут губить и убивать друг друга. Конечно, он понимал, что все люди не могут быть Караханами. Но для самих Караханов наступила бы эра добра и мира…»

Гэта як бы запеўка да таго, што адбудзецца далей. Дзеянне ў творы пачынае набіраць сваю прытчавую скіраванасць пасля таго, як перад Караханам неяк з’явіўся сівабароды стары і запытаўся ў яго, ці задаволены ён сваім жыццём, на што Карахан адказаў: «Доволен!? Это не то слово! Мы, Караханы, из старинного рода. Наше богатство — это наше понимание мира. Если человек даже мысленно допускает, что сильный может угнетать слабого, это человек уже ущербный. Бог дал Караханам силу воли, понимание, что каждый человек способен на многое…»

Выслухаў стары Карахана, а на развітанне сказаў яму: «Богом даруется тебе, а также любому Карахану из твоего рода бессмертие. Отныне — ты око Вселенной. Пусть не ускользнет от тебя ни одна трещина в человеческой душе. Пусть станет больше Караханов. Много, много, много…» Паабяцаў стары Карахану вярнуцца, каб атрымаць на гэта ягоную згоду. Застаўся Карахан у няпростым роздуме. З аднаго боку, неўміручасць — гэта цудоўна, а з другога — «Как же он сможет жить, если рядом не будут биться сердца его родственников, детей, его дорогой жены, верных друзей… И как можно быть счастливым, если пережил своих детей, внуков и правнуков… Нет, все правильно в этом мире, нарушить этот порядок никому не дано». Карахан прыходзіць да высновы, якая ў яго проста не магла не з’явіцца: «Нет, не надо ему никакого бессмертия!»

Мудрая выснова. На першы погляд, такая простая, але як шмат нясе яна ў сабе. У ёй і разуменне свайго месца на зямлі. Аднак у ёй і ўсведамленне таго, што ніхто не павінен парушаць той парадак існавання, які вызначаны самім Усявышнім. Іначай гэта можа

каштаваць вельмі дорага. Карахан гэта добра разумее. Толькі не ўсе могуць быць Караханамі. Многія не ў стане ўзняцца да такога ўсведамлення, што і відаць з казкі «Талисман».

У творы сітуацыя ў чымсьці блізкая да той, што адбылася з Караханам. Толькі перад ім нечакана з'явіўся сівабароды стары, а тут «вызвал к себе Бог очередного новоявленного человека, чтобы снабдить самыми необходимыми наставлениями», а на развітанне сказаў яму: «Я дарю тебе жизнь, надежду, но возьми также в дар и эту маленькую ракушку. Каким ты вырастешь и о чем будешь думать — это твои проблемы. Только никогда не забывай, что у тебя есть ракушка-талисман. Где бы ты ни был, не забывай о талисмане. Запомни — это мое последнее наставление — никогда не открывай ракушку, никогда! Это говорю тебе Я, Бог, верховный Создатель и Повелитель». Дасягнуў гэты чалавек усяго: сілы, славы, багацця. Праўда, не заўсёды дамагаўся гэтага праведным шляхам, толькі ніколі над гэтым не задумваўся. Дайшло да таго, што пачаў сумнявацца, а ці месца яго сярод простых смяротных, ён жа на большае здатны. Тады і ўспомніў чалавек пра талісман і асмеліўся адкрыць ракавіну:

«Оттуда появилась красавица-улитка и сказала:

— На Земле и во Вселенной может быть только один Бог. Его воля — закон для всех: для бедных и богатых, для слабых и сильных, для глупых и умных. Ты нарушил волю Бога…

Человек хотел что-то сказать в свое оправдание, но не успел.

Улитка прыгнула к нему в рот, и через мгновение человек рассыпался в прах.

И стало понятно, что сила и богатство никому на Земле не дают права считать себя Богом. Потому что двух Богов не может быть. И все дети Бога имеют одинаковые права на все блага Земли».

Поруч з гэтымі творамі, якія з цікавасцю прачытае і чытач дарослы, у кнізе нямала і казак, што прыйдуцца даспадобы не толькі дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, а і малодшым школьнікам, а таксама дашкольнікам. Хоць, у рэшце рэшт, асалоду ад іх атрымае любы. Вельмі ж шмат у гэтых творах займальнасці, дасціпнасці, сонечнасці, але, разам з тым, прысутнічае і павучальнасць. Праўда, гэта, чым і адметныя казкі Г. Чарказяна, не голы дыдактызм. Думка пра тое, як неабходна быць добрым, справядлівым, са спагадай ставіцца да іншых праводзіцца не навязліва, а тактоўна, яна вынікае з самога сюжэта таго ці іншага твора.

Асабліва ўдалася Г. Чарказяну казка «Воробышек Тик-Тилик и Кот Мурлыка», напісаная на дзіва цёпла, з замілаваннем да тых, пра каго ў ёй расказваецца. Хоць і іншыя казкі — «Ёжик-художник», «Заячье «спасибо», «Метла и Пуговка», «Ослик», «Почему Ерошка лает, когда в лесу бывает», «Элин Гриб» — гэта тое, што можа нарадзіцца толькі тады, калі мала мець талент. Апроч усяго яшчэ трэба па-сапраўднаму любіць дзяцей, пісаць для іх з упэўненасцю, што так, як напішу я, ніхто іншы напісаць не можа. Што гэта на самай справе так і даказаў сваёй кнігай «Талисман» Ганад Чарказян.